КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

# Бліскавіцы

*Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду*

Мінск, «Кнігазбор», 2017

## «І НЕ ДБАЙ АБ ЦІХІМ ШЧАСЦІ…»:
*беларуская жаночая паэзія міжваеннага перыяду*

«Беларуская паэзія мае і жаночае аблічча…»[1], — напісаў А. Бельскі ў пачатку адпаведнага раздзела сваёй кнігі, прысвечанай беларускай літаратуры ХХ ст. Што ж, сапраўды, пэўныя з'явы цяжка зусім не прымаць у разлік, аднак творчасць беларускіх аўтарак першай паловы мінулага стагоддзя для многіх застаецца terra incognita, а яе маштабы і значэнне — недаацэненымі. Планавая работа па выяўленні і вяртанні шматлікіх незаслужана забытых творцаў калі і праводзіцца, то відавочна ў недастатковай ступені. Гэта асабліва заўважна ў дачыненні да аўтараў 1920–1930-х гадоў, а найбольш да творчасці жанчын (да прыкладу, у 2-м томе «Гісторыі беларускай літаратуры», дзе прадстаўлены разгляданы перыяд, няма ніводнага персанальнага артыкула пра паэтак (артыкул Яна Чыквіна пра Наталлю Арсенневу патрапіў у другую кнігу чацвёртага тома ў раздзел «Літаратура беларускага замежжа»[2]). Таму патрэба ў нейкім абагульняльным выданні, якое б адлюстравала разнастайнасць аўтарак і твораў, паказала б жаночую паэзію не толькі і не столькі ў вертыкальным, колькі ў гарызантальным зрэзе, стаіць даволі востра. Спадзяемся, такім выданнем і стане нашая анталогія.

З другога боку, у канцы ХХ ст. беларуская гуманітарная навука нарэшце звярнула ўвагу на паняцце гендара і следам за сацыялогіяй, гісторыяй, культуралогіяй актывізаваліся даследаванні гендарнай праблематыкі ў літаратуразнаўстве, убачылі свет артыкулы і навуковыя

---

[1] Бельскі А. Беларуская літаратура ХХ стагоддзя: гісторыя і сучаснасць / А. І. Бельскі. — Мінск: Аверсэв, 2005. — С. 107.

[2] Чыквін Я. А. Наталля Арсеннева // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 4, кн. 2. 1986–2000. — Мінск: Бел. навука, 2003. — С. 772–787.

працы С. Калядкі, Т. Фіцнер[1] і іншых даследчыц, у якіх разглядаўся гендарны аспект беларускай літаратуры. Аб'ектам даследавання пераважнай большасці гэтых прац станавілася творчасць беларускіх жанчын да 1917 года (часткова XIX ст. і перыяду, які звычайна вызначаецца як «нашаніўскі») і паэзія, напісаная пасля Другой сусветнай вайны. Але за рэдкім выключэннем (Л. Геніюш, Н. Арсеннева) заставаўся па-за ўвагай надзвычай цікавы і трагічны перыяд 20–30-х гадоў XX стагоддзя. Прычына палягала не ў адсутнасці тэкстаў для даследавання, а ў іх няўведзенасці ў шырокі навуковы і чытацкі ўжытак (хоць, па праўдзе кажучы, гэта датычыцца вялікай колькасці тэкстаў, створаных у тыя гады, безадносна да гендарнай прыналежнасці іх аўтараў). У варунках грамадска-палітычнай сітуацыі другой паловы трыццатых гадоў многія беларускія пісьменнікі калі не былі знішчаны фізічна, дык былі вымушаны спыніць сваю літаратурную дзейнасць. Жанчыны, якіх і так было меней у працэнтных суадносінах, апынуліся, напэўна, у найгоршым стане. З гэтага пункту гледжання заслугоўвае ўвагі спроба стварэння «Анталогіі жаночай паэзіі», здзейсненая на пачатку двухтысячных Ю. Пацюпам на старонках гарадзенскай газеты для жанчын «Саламея» (тыраж якой, аднак, быў абмежаваны 299 асобнікамі), дзе жаночая паэзія 1920–1930-х гг. займала годнае месца (у 2-х нумарах) і выдзялялася ў асобныя раздзелы па прынцыпе

---

[1] Фіцнер Т. А. Гендэрныя праблемы ў беларускай літаратуры XX стагоддзя: аўтарэферат дысертацыі. — Мінск: Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, 2003; Фіцнер Т. А. Эвалюцыя беларускай жаночай паэзіі XX стагоддзя з пазіцыі гендэрнага прачытання // Гендер и проблемы коммуникативного поведения: сборник материалов Третьей международной научной конференции. — Полоцк: ПГУ, 2007; Калядка С. У. Беларуская сучасная *жаночая* паэзія: Мастацкія канцэпцыі «*жаночага шчасця*». — Мінск, 2010 і інш.

«Першыя паэткі Савецкай Беларусі» і «Паэткі Заходняй Беларусі». Згадаем і выданне Алесем Аркушам паэтычнай спадчыны Ганны Брэскай — кнігу «Настурцыі» (2000), а таксама нядаўнюю кнігу Зоські Верас «Выбранае» (2015), укладзеную Г. В. Запартыка, і кнігу Вольгі і Сяргея Сахаравых «Выбраныя творы» (2015), укладзеную М. Казлоўскім і С. Панізьнікам. Вялікая праца па вяртанні паэтычнай спадчыны 1920–1930-х гг. рабілася і робіцца В. Жыбулем, Л. Мараковым, М. Скоблам, С. Чыгрынам, Л. Юрэвічам і іншымі даследчыкамі і пісьменнікамі, а таксама БДАМЛМам і БІНіМам. Нельга не згадаць і выдатную працу агульнатэарэтычнага характару, прысвечаную ў тым ліку і гэтаму перыяду, — кнігу І. Багдановіч «Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага Адраджэння» (2001).

У сучасным беларускім літаратуразнаўстве амаль не выкарыстоўваецца тэрмін «міжваенны», які ўжо атрымаў шырокае распаўсюджанне ў мастацтве, архітэктуры і іншых галінах гуманітарных навук. Пры гэтым існуюць розныя варыянты перыядызацыі беларускай літаратуры, напрыклад, некаторыя даследчыкі выдзяляюць перыяд нацыянальнага адраджэння (1900–1930) і перыяд пачатку 30-х — першай паловы 50-х. І калі ў дачыненні да Усходняй Беларусі з такой перыядызацыяй яшчэ можна было б пагадзіцца, то для Заходняй Беларусі яна не мае асаблівага сэнсу, бо, нават не зважаючы на разгром Грамады, працэс самаўсведамлення працягваўся. Дык ці мэтазгодна разрываць 20-я і 30-я гады? У нашым выпадку думаецца, што не, прынамсі, разгляд 20–30-х гадоў як перыяду паміж дзвюма сусветнымі войнамі можа быць вельмі прадуктыўным з пункту гледжання асэнсавання гендарнай эвалюцыі і яе адлюстравання ў беларускай літаратуры. Падобны падыход (што пацвярджае яго правамоцнасць) выкарыстала Алена Гапава ў артыкуле «Паміж войнамі: жаночае пытанне ў нацыянальных праектах у Савецкай

Беларусі і Заходняй Беларусі», даследуючы ў першую чаргу сацыяльнае вырашэнне «жаночага пытання». Яна зазначае, што «міжваенная беларуская (і ўкраінская) гісторыя дае ўнікальную магчымасць назіраць разгортванне гендарных ідэалогій у адным выпадку ва ўмовах узнаўлення, а ў другім — карэнных зменаў гендарнага парадку»[1].

Літаратуразнаўцаў цікавіць у першую чаргу літаратурны працэс, хоць для яго разумення, безумоўна, неабходна трымаць пад увагай умовы, у якіх ён адбываўся. Ці правамоцны ўвогуле падзел літаратуры, у прыватнасці паэзіі, па гендарным прынцыпе? Наш адказ — так, прынамсі на дадзенай стадыі вывучэння міжваеннага перыяду. Ён неабходны хаця б дзеля таго, каб жаночая паэзія стала аб'ектам даследавання літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, сацыёлагаў і іншых прадстаўнікоў гуманітарных навук, бо калі паэзія, напісаная мужчынамі, больш-менш вывучаная і вывучаецца (хоць, прагледзеўшы вялікую колькасць матэрыялаў гэтага перыяду, можам смела сцвярджаць, што і тут у даследчыкаў застаецца вялікае поле дзейнасці), то жанчыны працягваюць заставацца ў цені. Сёння, аднак, ужо ніхто не задае пытання, ці вартая аналізу жаночая паэзія сама па сабе — здаецца, гэта ўжо высветлены факт і адпраўная кропка для таго, каб зрабіць яшчэ адзін крок наперад — даследаваць створанае жанчынамі, вызначыць галоўныя тэндэнцыі паэзіі, напісанай жанчынамі, яе трансфармацыі ў канкрэтныя гістарычныя перыяды і, магчыма, вызначыць далейшыя перспектывы развіцця, а таксама пазбавіцца ад стэрэатыпаў, звязаных з ужываннем слова «жаночая». Акрамя таго, цэлы пласт беларускай лі-

[1] Гапова Е. Между войнами: женский вопрос в национальных проектах в Советской Белоруссии и Западной Беларуси [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://academia.edu/855314/Между_войнами_женский_вопрос_и_национальные_проекты-_в_Советской_Белоруссии_и_Западной_Беларуси. — Дата доступа: 30.11.2015.

таратуры пакуль застаецца незапатрабаваным, і хацелася б спадзявацца, што гэтая лакуна будзе запоўнена.

У якасці сведчання таго «энтузіязму», з якім многія мужчыны сустракалі паэзію жанчын, працытуем Осіпа Мандэльштама, які пісаў у 1923 г.: «Горшае ў літаратурнай Маскве — гэта жаночая паэзія. Вопыт апошніх гадоў паказаў, што адзіная жанчына, што ўступіла ў кола паэзіі на правах новай музы, гэта руская навука аб паэзіі… На долю жанчын у паэзіі выпала агромністая колькасць пародый, у самым сур'ёзным і фармальным сэнсе гэтага слова. Жаночая паэзія з'яўляецца несвядомай пародыяй як паэтычных вынаходніцтваў, так і ўспамінаў»[1]. І гэтак далей. Сярод «горшага» Мандэльштам называў і вершы Марыны Цвятаевай…

Жаночы рух першапачаткова ўзнік з мэтай дамагчыся выбарчага права для жанчын, і самай прагрэсіўнай краінай у гэтым плане можна лічыць Новую Зеландыю, якая першай у свеце ў 1893 г. адкрыла для іх выбарчыя ўчасткі. У 20-я гг. мінулага стагоддзя ў Еўропе і ЗША феміністычны рух першай хвалі, дасягнуўшы разам з выбарчым правам законаў, якія дазвалялі вышэйшую адукацыю і працу па-за межамі дома, палічыў свае задачы выкананымі і актыўнасць жаночых арганізацый стала слабнуць.

Несумненна, на гендарную палітыку савецкай дзяржавы не маглі не ўплываць падзеі, якія адбываліся ў гэтай сферы ў іншых краінах, а найперш — у Расійскай імперыі. І. Юкіна адзначае, што хоць амаль ва ўсіх працах на тэму жаночага пытання падкрэсліваецца передавая роля заканадаўства бальшавікоў, якое забяспечыла жанчын выбарчым правам пасля 1917 г., аднак яшчэ ў верасні

[1] Мандельштам О. Литературная Москва / Сочинения: в 2 т. Т. 2. Проза / сост. и подгот. С. Аверинцева и П. Нерлига. — М.: Худож. лит., 1990. — С. 275.

1917 г. Часовы ўрад надзяліў жанчын правам абірацца ва Устаноўчы сход, такім чынам, бальшавікі зусім не былі першапраходцамі і да атрымання жанчынамі палітычных правоў ні савецкі ўрад, ні партыя бальшавікоў не мелі ніякага дачынення. Пры гэтым адбылася пэўная лінгвістычная маніпуляцыя, замацаваная на працягу наступных дзесяцігоддзяў: «дасягнутае» было заменена на «дадзенае», што карэнным чынам мяняла суб'ектна-аб'ектныя стасункі.

Праўда, аднак, і тое, што многія пытанні яшчэ заставаліся нявырашанымі і першыя заканадаўчыя акты саветаў былі накіраваныя на іх вырашэнне, напрыклад, першая Канстытуцыя, прынятая ў чэрвені 1918 г., замацавала роўныя палітычныя і грамадзянскія правы жанчын. Можна сказаць, што савецкае заканадаўства значна апярэджвала свой час, але, тым не менш, даволі хутка «законы аб раўнапраўі сталі разглядацца не ў логіцы правоў жанчын, а ў логіцы яе павіннасці. Ад ідэалогіі свабоднай асобы, якая мае права выбару і адказвае за сябе, адбыўся пераход да ідэалогіі асобы, мабілізаванай на пабудову камунізму, інакш кажучы, якая права выбару не мае»[1]. Пры гэтым даследчыкі, наколькі можна бачыць, разыходзяцца ў меркаваннях наконт таго, ці магчыма, гаворачы пра першыя дзесяцігоддзі савецкай улады, весці гаворку пра фемінізм (І. Жарэбкіна, напрыклад, лічыць, што першая хваля фемінізму ў Савецкім Саюзе прыпадае на 80-я гг. XX ст. і звязана з дзейнасцю часопіса «Марыя» ў Санкт-Пецярбургу[2], у той час як І. Юкіна выдзяляе наступныя перыяды развіцця фемінізму ў Расійскай імперыі / Савецкім Саюзе: жаночы рух (1858–1905), феміністкі рух

---

[1] Юкина И. Русский феминизм как вызов современности / под ред. Т. А. Мелешко. — СПб.: Алетейя, 2007. — С. 443.

[2] Жеребкина И. Это сладкое слово… Гендерные 60-е и далее. — СПб.: Алетейя, 2012. — С. 172.

(1905–1918), савецкі фемінізм — ці прынамсі яго першая хваля (1918–1930), завяршэнне якога аўтар звязвае з закрыццём жанаддзелаў у 1929 г.; другая хваля савецкага фемінізму — 1980-я гг.). І. Юкіна таксама выкарыстоўвае такі тэрмін, як «дзяржаўны фемінізм першых гадоў савецкай улады», і гэты тэрмін нам падаецца найбольш удалым.

Актуальнасць выдзялення міжваеннага перыяду заключаецца яшчэ і ў тым, што беларускіх жанчын, якія пісалі і друкаваліся ў пачатку ХХ ст. (да Першай сусветнай вайны), можна было налічыць з дзясятак. Прычым калі аўтаркі XIX ст., здаралася, бралі сабе мужчынскія псеўданімы (найбольш яскравы і вядомы прыклад: Адам М-скі — Зоф'я Манькоўская-Тшашчкоўская), то цяпер, наадварот, яны імкнуліся падкрэсліць сваю полавую прыналежнасць. У 1920-я гады колькасць паэтак значна ўзрасла, даходзячы да некалькіх дзясяткаў (у наш час гаворку можна весці пра сотні). Такім чынам, жаночую паэзію альбо паэзію жанчын немагчыма не выдзеліць у асобную катэгорыю, паколькі яна вымагае ўважлівага даследавання з розных пунктаў гледжання, у тым ліку і сацыяльна-палітычнага. Колькасны рост творчых жанчын быў звязаны і з сацыяльнымі працэсамі: як справядліва зазначае А. Гапава, «у міжваенны перыяд на беларускіх землях рэалізуюцца дзве версіі нацыянальнага будаўніцтва: у Савецкай Беларусі адбываецца пабудова сацыялістычнай і «сацыяльнай» дзяржавы, у Заходняй Беларусі — фарміраванне буржуазнай нацыі. Адпаведна, рашэнне жаночага пытання ў першым выпадку прадугледжвае «абуджэнне жаночых мас для новага жыцця», а ў другім звязана з актывізмам асобных (і ў пэўным сэнсе дастаткова прывілеяваных) жанчын, у той час як масы жанчын «застаюцца ў цемры». Гэтыя дзве версіі здаюцца вельмі рознымі, што звязана з роляю дзяржавы ў гэтых працэсах, аднак паміж імі маецца і агульнае. У абодвух выпадках жанчыны разглядаліся як частка некаторай

больш вялікай супольнасці: класа — у першым выпадку, нацыі — у другім, хоць у абодвух выпадках гаворка ідзе хутчэй пра паняцце «клас-нацыя». У абодвух выпадках як самі жанчыны, так і грамадства, у якім яны жылі, меркавалі, што надзяленне правамі ўсяго грамадства дазволіць вызваліць жанчын. І ў абодвух выпадках гэта сапраўды было так… але толькі да некаторай ступені»[1].

З Першай сусветнай вайной завяршыўся «нашанiўскі» перыяд, а Беларусь выйшла з вайны са шматлікімі чалавечымі і матэрыяльнымі стратамі, аднак абазначыла сваю прысутнасць на мапе свету і гэты факт ужо не мог ігнаравацца нікім. Калі мы падыдзем да працэсаў 1920–1930-х гг. з пункту гледжання нацыянальнага адраджэння, то неабходна адзначыць непарарыўнасць гэтага працэсу ў варунках барацьбы розных палітычных сіл, што адбывалася на беларускіх тэрыторыях. У выніку ў пачатку 1920-х пасля Рыжскай дамовы сфарміраваліся тры беларускія асяродкі з рознымі палітычнымі статусамі і гістарычнай перспектывай: Усходняя Беларусь (БССР як адна з рэспублік Савецкага Саюза), Заходняя Беларусь у межах Другой Рэчы Паспалітай і Латгалія (тры правінцыі з пераважна беларускім насельніцтвам) у межах Латвійскай Рэспублікі. Кожны з гэтых асяродкаў зрабіў свой унёсак у развіццё беларускай культуры і літаратуры, у тым ліку і паэзіі.

Нацыянальнае адраджэнне працягвалася як у межах сацыялістычнага будаўніцтва (да пэўнага моманту), так і па другі бок заходняй мяжы. Пры гэтым у Савецкай Беларусі адбывалася дэканструкцыя традыцыйных гендарных стасункаў, прынамсі, іх знешніх формаў. А. Гапава звяртае ўвагу, што «дзяржава, якую ўзялася будаваць пасля

[1] Гапова Е. Между войнами: женский вопрос и национальные проекты в Советской Белоруссии и Западной Беларуси // Гендерные истории Восточной Европы. — Мінск: ЕГУ, 2002. — С. 122.

рэвалюцыі і грамадзянскай вайны савецкая ўлада, акрамя іншага, займалася рашэннем дзвюх задач: з аднаго боку, стварыць сацыялістычныя нацыі на месцы некалькіх этнічных і лінгвістычных арэалаў, а з другога — вырашыць "жаночае пытанне". Гэтыя глабальныя мэты ў некаторым сэнсе супярэчаць адна адной»[1]. Тым не менш адначасовасць гэтых працэсаў ва Усходняй Беларусі прывяла да таго, што савецкая ўлада была вымушана вывесці жанчыну ў публічную прастору і сацыялізацыя творчай жанчыны адбывалася ў рэчышчы беларускага нацыянальнага адраджэння, хай сабе ў гэтым разе кіраванага «зверху».

Між тым дзяржава ставіла перад сабой задачы актывізацыі жаночага насельніцтва для ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізму і эканамічнай мадэрнізацыі краіны. З гэтай мэтай пры мясцовых партыйных камітэтах з 1918 г. былі створаныя жанкамісіі, у верасні 1919 г. — жанаддзел пры ЦК РКП(б), следам за ім — жанаддзелы ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках. Спробы стварэння беларускай жаночай арганізацыі мелі месца і ў адсутнасць бальшавікоў — увесну 1920 г. адна з паэтак — Вера Матэйчук-Маслоўская стварыла ў Мінску Цэнтральны саюз беларусак, які праіснаваў да восені 1920 г. Жывое захапленне ў стваральніцы новай арганізацыі выклікала Палута Бадунова, адна з міністраў першага ўраду БНР, якая таксама мела літаратурныя здольнасці (вядома па меншай меры аб яе вершах на рускай мове і публіцыстыцы).

І. Гаўракоў адзначае: «Адным з важных дыскурсаў у першыя гады савецкай улады было так званае "жаночае пытанне" — сукупнасць розных аспектаў становішча жанчыны ў новым грамадстве, яе сацыяльных роляў і правоў, жыццёвых сцэнарыяў і каштоўнасцяў, што адпавядалі

---

[1] Гапова Е. Может ли комсомолка отказать комсомольцу? [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://magazines.russ.ru/nz/2008/4/ga28-pr.html. — Дата доступа: 30.11.2015.

запытам часу і грамадства. "Эмансіпацыя зверху", якую праводзілі бальшавікі, сутыкнулася з мноствам праблем. Адна з галоўных — якімі спосабамі данесці да аўдыторыі перадавыя ідэі аб жаночым раўнапраўі і паскорыць уключэнне жанчын у будаўніцтва новага грамадства. Такім універсальным сродкам пераканання стала публіцыстыка»[1].

Напрыклад, артыкул адной з кіраўніц Жанаддзела пры ЦК РКП(б) (1920–1921) Аляксандры Калантай (якую І. Юкіна лічыць прадстаўніцай марксісцкага фемінізму) «Дарогу крылатаму эрасу (Ліст да працоўнай моладзі)», надрукаваны ў 1923 г. у часопісе «Маладая гвардыя» (№ 3 (10)), выклікаў вялікі рэзананс, а выраз «крылаты эрас» увайшоў у шырокі ўжытак у тым ліку і ў беларускіх пісьменнікаў. Артыкул складаўся з трох частак: «Каханне як сацыяльна-псіхічны фактар»; «Гістарычная даведка»; «Каханне-таварыства». Яго аўтарка пісала: «Разам з перамогай камуністычных прынцыпаў і ідэалаў у галіне палітыкі і эканомікі непазбежна павінна адбыцца і рэвалюцыя ў светаўспрыманні, у пачуццях, у будове душы працоўнага чалавецтва. Ужо цяпер адзначаецца новае стаўленне да жыцця, да грамадства, да працы, да мастацтва, да "правілаў жыцця" (г. зн. да маралі). У правілы жыцця як складнік уваходзяць стасункі паміж паламі. Рэвалюцыя на духоўным фронце завяршае вялікі зрух у мысленні чалавецтва, выкліканы пяцігадовым існаваннем працоўнай рэспублікі»[2].

Напрыканцы Калантай прыходзіла да высновы, што «пакуль мы знаходзімся яшчэ на зломе дзвюх культур.

---

[1] Говряков И. Ю. Марксистский феминизм в Советской России: Трансформация традиционных женских ценностей в публицистике Александры Михайловны Коллонтай // Материалы 19-й Международной молодежной научной конференции студентов, аспирантов и молодых ученых «Ломоносов», секция «Журналистика». — Москва, 2012.

[2] Коллонтай А. Дорогу крылатому эросу! [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://marxists.org/russkij/kollontai/winged_eros.htm. — Дата доступа: 23.11.2015.

І ў гэты пераломны момант, звязаны з гарачымі схваткамі двух светаў на ўсіх франтах, уключна з фронтам ідэалагічным, пралетарыят зацікаўлены ў тым, каб усімі мерамі палегчыць хутчэйшае назапашванне багажу "сімпатычных пачуванняў". У гэты перыяд перад маральным ідэалам, што вызначае кантактаванне палоў, з'яўляецца не аголены інстынкт полу, а шматгранныя любоўна-таварыскія перажыванні як мужчыны, так і жанчыны. Гэтыя перажыванні, каб адпавядаць патрабаванням новай пралетарскай маралі… павінны абапірацца на тры асноўныя палажэнні: 1) роўнасці ва ўзаемных стасунках (без мужчынскай самадастатковасці і рабскага расчынення сваёй асобы ў каханні з боку жанчыны), 2) узаемнага прызнання правоў другога без прэтэнзіі валодаць непадзельна сэрцам і душой іншага (пачуццё ўласнасці, узгадаванае буржуазнай культурай), 3) таварыская чуласць, уменне прыслухацца і зразумець работу душы блізкага і любімага чалавека (буржуазная культура патрабавала гэтую чуласць у каханні толькі з боку жанчыны)»[1].

Беларускі жаночы рух развіваўся ў межах агульнага жаночага руху Расійскай імперыі. Вядома, што Алаіза Пашкевіч (Цётка) брала ўдзел у жаночым з'ездзе ў Маскве (май 1905 г.) як «дэлегатка ад беларускіх жанчын». І надалей «дзяржаўны фемінізм» у БССР развіваўся ў рэчышчы агульнасавецкага. Услед за расійскай з'явілася і беларуская жаночая прэса. 5 сакавіка 1924 г. у Мінску ў дзяржаўным тэатры адкрыўся І Усебеларускі з'езд работніц і сялянак, на якім і была ўзнятая праблема стварэння друкаванага органа беларускіх жанчын. Праз паўгода, у канцы лістапада 1924 г. быў створаны часопіс «Беларуская работніца і сялянка», яго першым рэдактарам стала тагачасная загадчыца жанаддзела ЦК КП(б)Б Марыя Му-

---

[1] Коллонтай А. Дорогу крылатому эросу!

ратава (1922–1927)[1]. Гэты часопіс публікаваў артыкулы і агітацыйныя матэрыялы (у тым ліку ў мастацкай форме), якія сцвярджалі ідэю «новай жанчыны», распаўсюджаную яшчэ ў дарэвалюцыйнай Расіі, але ўзбагачаную новымі канатацыямі. Дарэчы, у рэдакцыі працавалі не толькі жанчыны, напрыклад, пэўны час абавязкі стыльрэдактара часопіса выконваў паэт Сяргей Дарожны, гэтаксама як і сярод аўтараў была вялікая колькасць мужчын.

Агітацыйную функцыю выконвалі і выданні кшталту «8 сакавіка» (1926), якое пачыналася з артыкула Леніна «Міжнародны дзень» (дзе між іншым сцвярджалася: «…уцягнуць у палітыку масы немагчыма без таго, каб не ўцягнуць у палітыку жанчын. Бо жаночая палавіна роду чалавецтва пры капіталізме ўціснута падвойна…»[2]). Сярод аўтараў — і «сялянка з в. Сапожкава, Кармянскага раёну Магілёўскай акругі К. Драбышэўская», якая пісала:

Цяпер сабе сама я пані:
Хаджу ў чытальню, ў клюб хаджу.
Ламацца нада мной ня стане
Ніхто, — я грамаце вучусь[3].

Адзначыліся ў аўтарах І. Чабарык (Ігнат Шпак) з вершам «Голас кабеты», паэт Андрэй Александровіч (адзін з актыўных аўтараў часопіса «Беларуская работніца і сялянка») з вершам «Свята жанчын», З. Бандарына з вершам «8 сакавіка», Марыля (Самуіл Плаўнік / Змітрок Бядуля) з вершам «Вясковай кабеце», у якім таксама чуваць водгукі тагачасных рэалій:

---

[1] Больш падрабязна гл.: Дарашчонак П. Першае выданне для беларускіх жанчын: часопіс «Алеся» ў 1924–1930 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. — 2014. — № 12.

[2] 8 сакавіка: зборнік. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. — С. 3.

[3] Драбышэўская К. Давай дарогу бабе вольнай. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. — С. 5.

Дзяўчына маладая, сталая матка,
На З’ездах Саветаў і ты дэлегаткай!
Будуй сваё шчасце адважна і поўна —
Пад сцягам Чырвоным з усімі ты роўна![1]

У канцы кніжачкі друкаваўся «Інтэрнацыянал» і сцэнка А. Гарачага «Жаночая праўда». Як бачым, асноўную частку аўтараў склалі мужчыны, хай сабе і «замаскіраваныя».

Можна сказаць, што мы маем справу з праявамі так званай «масавай літаратуры» як спосабу даць голас працоўным масам. Да яе належаць аўтары непрафесійныя, самадзейныя, часта без адпаведнай філалагічнай і ўвогуле закончанай вышэйшай ці сярэдняй адукацыі, якія дзякуючы працэсам барацьбы з усеагульнай непісьменнасцю атрымалі магчымасць выказацца. Сярод іх былі як мужчыны, так і жанчыны, у тым ліку і прадстаўленыя ў анталогіі.

А. Гапава звяртае ўвагу, што па меры таго, як жаночае пытанне рабілася аб’ектам дзяржаўнай палітыкі ў Савецкай Беларусі, друкаваныя выданні Заходняй таксама пачыналі публікаваць артыкулы на гэтую тэму, у прыватнасці, прысвечаныя святу 8 сакавіка, асабліва ў пракамуністычнай газеце «Чырвоны сцяг», дзе выходзілі публікацыі, падобныя па сваім гучанні на тэксты з-за ўсходняй межы. Даследчыца адзначае, што «жаночае пытанне ў камуністычным дыскурсе Заходняй Беларусі набывае палітычную значнасць у якасці аргумента на карысць уз’яднання з усходнімі землямі ў складзе СССР»[2]. Актывісткай камуністычнага руху на заходнебеларускіх землях была Вера Харужая, вядомая, прынамсі, сваёй публіцыстыкай.

---

[1] Марыля. Вясковай кабеце. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. — С. 14.

[2] Гапова Е. Между войнами: женский вопрос и национальные проекты в Советской Белоруссии и Западной Беларуси // Гендерные истории Восточной Европы. — Минск: ЕГУ, 2002. — С. 116.

Так ці інакш, палітыка сацыялізацыі жанчын ва Усходняй Беларусі вылілася ў іх прыцягненне да літаратурнай дзейнасці і разам з першай хваляй беларусізацыі мела станоўчыя наступствы. Выхад жанчын з прыватнай сферы ў публічную, усеагульная ліквідацыя непісьменнасці, магчымасць не абмяжоўвацца чатырма класамі царкоўнапрыходскай школы ў Савецкай Беларусі (у Заходняй Беларусі магчымасць атрымаць далейшую адукацыю мелі далёка не ўсе часцей па прычынах матэрыяльнага характару) прывялі да таго, што прыход маладых жанчын у літаратуру стаў масавым. І хоць на пачатку дваццатых яшчэ працягвае сваю творчую дзейнасць паэтка «нашаніўскага прызыву» Канстанцыя Буйло (хоць і не вельмі актыўна), а таксама друкуецца Хмарка (Наталля Панамарова), чыя лірыка таксама вызначаецца рысамі «нашаніўскай» эстэтыкі і паэтыкі, самае галоўнае — у літаратуру прыходзяць новыя маладыя сілы, звязаныя з творчым аб’яднаннем «Маладняк», якое ўзнікла ўвосень 1923 г. Ганна Брэская, Акіліна Мялешкіна, Іда Чырвань, Арына Глінская, Наля Маркава, Наталля Вішнеўская, Зінаіда Бандарына, Яўгенія Пфляўмбаўм, Ганна Арахоўская-Базыленка і многія іншыя прыйшлі ў літаратуру праз рэгіянальныя аддзяленні «Маладняка». Іх уваход быў поўны энтузіязму, які вылiваўся ў творчасці, як у вершы Іды Чырвань «Маладняку» (1925), яшчэ поўным мастацкіх недахопаў:

Старое зруйнуйце —
Яму з шляху йсці.
Мы сваё будуем,
Мы паперадзе.

Маладняцкі крокі
К сонцу ўраз, — ды прытка!
Наш размах шырокі,
Ў сэрцы — хвалі рэчкі.

У сваіх «сацыяльных» выказваннях некаторыя аўтаркі заставаліся абсалютна шчырымі, прынамсі ў першай палове 1920-х, як Н. Вішнеўская ў вершы «Да дня жанчыны» (1925), дзе славіла вызваленне жанчыны з кола спрадвечных абавязкаў:

Гэй, ляці, мая першая песня,
У кужэльную, шэрую вёску.
Гэй, туды, дзе у хаце курнай
Тчэ жанчына схіліўшыся кросны!..

Ўжо ад хатніх турбот векавечных,
Ад жніва, ад калыскі дзіцяці
Яе клічуць к сабе усяўладна, —
Яе кліча вялікая праца…

Далёка не ўсе гісторыкі адназначна ацэньваюць імкненне вызваліць жанчыну «ад калыскі дзіцяці», многія лічаць, што ў гэты перыяд былі закладзены механізмы разбурэння не толькі традыцыйна-патрыярхатнай, але і сям’і ўвогуле, якія леглі ў аснову працэсаў, што сталі набіраць шырокі размах пачынаючы з 1930 г. пад уплывам рэпрэсій.

Тэма супрацьпастаўлення вёскі і горада, распаўсюджаная ў творах маладнякоўцаў, адлюстроўвала больш шырокую тэму супрацьстаяння цывілізацыі і культуры, інакш кажучы, індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі. Адным з прыкладаў увасаблення гэтай тэмы можна лічыць верш Акіліны Мялешкінай «Вясна» (1926):

Сэрца бадзёрыць юнацкі мой май
І вабіць п’яняючай ласкай.
Колькі ня смейся, о, поле! выбачай —
Больш горад заве сваёй казкай.

Паэзія «маладняковак» мела характэрныя для ўсёй маладнякоўскай паэзіі рысы, але пры гэтым адрознівалася сваёй асаблівай танальнасцю. І калі ўжо казаць пра

мужчынскае і жаночае ў творчасці, то рэцэпцыя творчасці Ясеніна адбывалася незалежна ад полу (узяць хоць бы вершы Налі Маркавай), як і рэцэпцыя творчасці Маякоўскага ў больш позні гады (напрыклад, у З. Бандарынай, часткова ў Я. Пфляўмбаўм). «Расейская школа вершавання — і то школа 20-х гадоў — у творчасці маладняковак зглeджваецца няўзброеным вокам. Асабліва прыкметны пралеткультаўскі ўплыў з яго машынамі, сцягамі, культам будучыні. А праз гэтую вонкавую атрыбутыку яскрава прабіваюцца характэрныя ясенінскія інтанацыі»[1], — зазначае Ю. Пацюпа. І. Багдановіч звяртае ўвагу, што падабенства ў паэзіі розных аўтараў аб'яднання «ахоплівае сферу ідэалогіі — адбіццё ў мастацкіх вобразах грамадскай тэорыі "класавасці"; паэтыку — вытрымліванне стылёвага прыёму супастаўлення "старога" і "новага", "учарашняга і сённяшняга", "мінулага і будучага"; топасы — топасы "завірухі", "віхуры", "рання", "радасці" і інш.»[2].

Аднак можна сказаць, што ў паэзіі жанчын (у асноўнай сваёй масе маладых дзяўчат) амаль не назіраецца «бурапеннасці», уласцівай хлопцам, у той жа час пэўная ўвага надаецца жаночай праблематыцы і многія вершы адлюстроўваюць працэсы сацыялізацыі жанчын, што адбываліся ў тагачасным грамадстве, прыцягненне жанчын да сацыялістычнага будаўніцтва, а дзеяслоў «завіхурыць», «завіхрыць» [«Завіхурыла спевам машына» (З. Бандарына, «Завіхурыла спевам машына»), «Завіхрылі, завіхрылі / Віхры ў полі, ў чыстым полі, / Завіхрылі ў чыстым полі, / На разложыстым прыволлі…» (Н. Вішнеўская, «Завіхрылі»)] ураўнаважваецца больш мяккім дзеясловам «завівацца»

---

[1] Пацюпа Ю. Першыя паэткі Савецкае Беларусі // Саламея. — 2001. — № 11. — Ліпень–жнівень. — С. I.

[2] Багдановіч І. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. — Мінск: Бел. навука, 2001. — С. 316.

[напр., «…завіліся смуткам» (Н. Маркава, «Сінь васільковая…»), «Завіліся словы ў сіні туманы» (З. Бандарына, «Завіліся словы») і інш.].

Многія паэткі і паэты былі аднакурснікамі, напрыклад, З. Бандарына вучылася ў Мінскім педагагічным тэхнікуме на адным курсе з паэтамі М. Лужаніным, Н. Вішнеўскай, П. Глебкам, С. Дарожным, В. Казлоўскім, з якімі і пасля заканчэння вучобы падтрымлівала сяброўскія стасункі. Абвешчаная роўнасць палоў і агульнасць пастаўленых мэтаў увасобіліся ў вершах, адрасат якіх — мужчына, і гэты мужчына — не каханы. Гэтая тэндэнцыя заўважаецца ў многіх аўтарак, незалежна ад прыналежнасці да літаратурных аб'яднанняў (Я. Бяганская, «Кавалю»; Я. Пфляўмбаўм, «Брату» і інш.). Дарэчы, і ў паэзіі Заходняй Беларусі таксама мела месца падобная форма (напр., у вершы «Дай руку, брат» Лясной Кветкі, «Змагару-адраджэнцу» В. Сахаравай), дзе мужчына — паплечнік у барацьбе за нацыянальныя правы беларусаў.

Адзін з распаўсюджаных матываў жаночай паэзіі — матыў кратаў і духоўнага вызвалення, як у вершы «Ты ўзбудзіў» Хмаркі, прысвечаны У. Дубоўку:

Ты залезныя краты турмы паламаў,
Растапіў крыгу лёду цяжкую.
Сваёй песняй душу мне да дна ўсхваляваў —
І забыці яе не магу я.

Гэтая тэма непасрэдна звязана з адной з найбольш моцных у творчасці жанчын — тэмай паэта і паэзіі, асэнсаваннем сябе як паэткі і сваёй паэтычнай творчасці:

Пі суздром
Жыцця праменні,
Перашкоды зруйнаваўшы,
Беражы свой творчы геній
І не дбай аб ціхім шчасці.

*(З. Бандарына, «Залатыя верацёны»)*

Знаходзяць адлюстраванне і традыцыйныя для народнай паэзіі матывы, такія як атаясамліванне ўласнага лёсу з птушкай — зязюля (К. Буйло), сава (Г. Брэская), сава і зязюля (Н. Маркава). Увогуле, фальклорны элемент даволі моцна прысутнічаў у жаночай паэзіі 20–30-х гг. (і гэта можна лічыць агульнай характарыстыкай усёй беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду), што выяўлялася і ў выкарыстанні словаў з памяншальнымі суфіксамі ў вершах-стылізацыях, як у вершах Алесі Новік, ці ў характэрным пачатку верша з «Ой…», напр., у вершы Зосі Палын: «Ой, да ты, каліна, / золата-маліна» («Ой, да ты, каліна…») ці ў вершы З. Бандарынай: «Ой у полі з ветрамі, ой у полі з буйнымі…» («Песні недапетыя»). Другая тэма, якая можа стаць падставай для асобнага даследавання, — фларыстычная (толькі ў адной Я. Пфляўмбаўм — лілеі, мімозы, мацэола…).

Часта гераіні твораў плачуць, што зноў жа абсалютна ў рэчышчы народнай традыцыі: або дзяўчына плача па сваім каханым, або маці па сыне [«Плач, дзяўчынка…» («Хмарка, «Да яе»), «Плакала дзяўчына… Сыпаліся слёзы…» (Н. Вішнеўская) і інш.], ці скардзяцца на свой лёс і цяжкую жаночую працу, што характэрна і для Усходняй, і для Заходняй Беларусі, з той розніцай, што ў Савецкай Беларусі ў вершах выкарыстоўваўся часцей мінулы час, у Заходняй — цяперашні (Г. Базыленка, «Радзілася я ў вёсцы ўбогай»; Г. Новік, «Жаноцкая доля»; Н. Тарас, «Пры кудзелі»), а таксама фарміруюць пэўны вобраз сучасніцы:

Шэрыя вочкі, платочак чырвоны,
Заўжды прыгожы, здаволены твар,
З песняю звонкай лятай, быццам птушка,
З сэрцам адважным, гарачым, як жар!

*(Эстэр Зялёнка, «Камсамолка»)*

Аддалі паэткі даніну і літаратурнай традыцыі, прынамсі, М. Багдановічу і яго васількам (Г. Брэская, З. Бан-

дарына і іншыя). Прагучала ў беларускай жаночай паэзіі асобная і зноў жа мала даследаваная тэма — Сібір і беларусы (З. Бандарына, Я. Бяганская).

Паэзія беларускіх жанчын 1920–1930-х гадоў (асабліва 20-х) вельмі цікавая з пункту гледжання лексікі. Дзеяслоў «любіць» амаль зусім не выкарыстоўваецца, затое дзеяслоў «кахаць» выкарыстоўваецца ва ўсіх сэнсах, пры гэтым назіраецца вольнае абыходжанне са словам «закахацца», якое перадае агульны ўздым:

Закахалася бурай, грымотай,
што бліскоча і б'е перуном.
Закахалася сонцам, асокай,
працай вольнай, яе песняром.

*(Іда Чырвань)*

Натуральным чынам, у вершах прысутнічаюць і выразныя прыкметы часу, як «сэрца ў размаху матора» у Н. Маркавай (дарэчы, вядомы «Авіямарш» быў напісаны ў 1923 г.), якая ўвогуле вызначалася разнастайнасцю паэтычных сродкаў і страфікі.

Ну і немагчыма не адзначыць «чорныя» вершы (А. Глінская, Э. Агняцвет), творы, для якіх характэрна наватарскае выкарыстанне натуралістычных падрабязнасцяў.

Пляцовак, дзе маладыя аўтаркі маглі публікаваць свае творы, было таксама дастаткова. Галоўнымі і найбольш чытанымі з іх сталі часопісы «Маладняк», «Полымя», «Беларуская работніца і сялянка», газеты «Савецкая Беларусь» і «Чырвоная змена». Акрамя таго, філіялы «Маладняка» выпускалі ў рэгіёнах свае альманахі і часопісы: «Маладняк Калінінशчыны» (1924–1926 гг.), «Маладняк Барысаўшчыны» (1926 г.), «Аршанскі маладняк» (1925–1927 гг.), «Уздым» (Бабруйск, 1926, 1928 гг.), «Наддзвінне» (Полацк, 1926 г.) і інш. Гэтыя рэгіянальныя выданні рэцэнзаваліся ў цэнтральным выданні арганіза-

цыі — часопісе «Маладняк». Як ні дзіўна, часопіс «Узвышша», на нашую думку, самы высокамастацкі, паэзіі, напісанай жанчынамі, не друкаваў, і ўвогуле, здаецца, не друкаваў аўтарак-жанчын, прынамсі беларускіх аўтарак арыгінальных твораў.

Мэтанакіраваная праца з жаночым кантынгентам дала і першы гендарны плён у літаратуры: у 1926 г. накладам 2000 асобнікаў у серыі «Кніжніца Маладняка» выйшла сумесная кніга **З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм «Вершы»**. Рэдактарам кнігі выступіў У. Дубоўка. Кожная аўтарка была прадстаўлена сям'ю вершамі, а таксама фотаздымкам. Гэтыя вершы былі яшчэ не зусім майстэрскія, але галасы іх аўтарак ужо гучалі на поўную сілу (дарэчы, практыка сумесных выданняў была ў той час даволі распаўсюджанай і сярод хлопцаў).

У невялікай рэцэнзіі на кнігу, надрукаваную у часопісе «Маладняк», М. Байкоў пісаў: «Зборнічак вершаў паэтак-маладняковак зварачае на сябе ўвагу, што гэта *першы* за час рэвалюцыі зборнік жаночае творчасці. Вядома, што нашыя кабеты сарамяжныя і іх трэба парадкам раскачаць, каб яны пачалі выяўляць сябе ўраўне з мужчынамі. Праўда, некаторае выяўленне ў беларускай літаратуры жаночая творчасць знайшла сабе яшчэ да рэвалюцыі. Да гэтай катэгорыі належаць зборнік Канст. Буйло і вершы Цёткі, аднак, калі не лічыць вельмі скромнай па сваіх размахах Хмаркі, чамусь у час рэвалюцыі нашыя кабеты маўчалі ды маўчалі…»[1]. Крытык адзначае і характэрныя рысы творчасці кожнай з аўтарак: «Зборнічак вершаў Бандарынай і К-° відавочна паказвае, што беларуская камсамолка выходзіць

---

[1] Байкоў М. З. Бандарына, Н. Вішнеўская, Я. Пфляўмбаўм: вершы. Выданьне ЦБ Маладняка. Менск, 1926. 46 с. // Маладняк. — 1926. — № 3. — С. 149.

на шлях шырокай грамадзянскай дзейнасці. Грамадзянскія матывы асабліва выразна чуваць у вершах Бандарынай. У яе ж "гул фабрычны прывітанне спявае"… Вершы Вішнеўскай і Пфляўмбаўм больш *лірычны* па свайму зместу, прычым у першай мае перавагу, я б так казаў, лірызм *суб'ектыўны*, а ў другой — аб'ектыўны, — замілаванне да роднай краіны»[1]. У цэлым М. Байкоў даволі высока ацэньвае творчасць маладняковак: «Большасць вершаў можа вытрымаць крытыку. Беларускія паэткі паказалі, што яны могуць пісаць не горш, а часам, калі мова датыча жаночых інтарэсаў, жаночае долі-нядолі, лепш за іх таварышаў-хлопцаў. Праўда, як першыя спробы маладога пярка, вершы маюць і бракі». Сярод недахопаў М. Байкоў адзначаў шаблоннасць пабудовы вершаў і рыфмаў, але падсумоўваў, што зборнічак пакідае прыемнае ўражанне і з'яўляецца гарантыяй поспехаў паэтак у будучым.

Кніга была прыязна сустрэтая і ў Заходняй Беларусі. Напрыклад, Антон Луцкевіч апублікаваў у «Беларускім календары» за 1929 г. артыкул «З усходніх загонаў (Літаратурны агляд)», дзе пісаў: «…адзначым адну вельмі прыемную праяву, якой з'яўляецца зборнічак вершаў трох маладых песнярак: З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм. Наша паэзія мае надта мала жаноцкіх найменняў. Апрача Цёткі ды Буйлянкі — бадай нікога больш з жанок не бачылі мы на нашым адраджэнскім Парнасе. Дык тым прыемней адзначыць уваход на Парнас беларускі гэтых трох паэтак. Праўда ад ацэнкі іхняе творчасці (ведама, у маладнякоўскім духу) мы мусім сяння ўстрымацца, бо лішне мала маем матэрыялу дзеля гэтага. Але спадзяемся, што яны і самыя пойдуць яшчэ наперад

---

[1] Байкоў М. З. Бандарына, Н. Вішнеўская, Я. Пфляўмбаўм: вершы. Выданьне ЦБ Маладняка. Менск, 1926. 46 с. — С. 150

у сваім мастацкім развіцці, і павядуць за сабой цэлы рад новых пяснярак»[1].

Тут мы падыходзім да вельмі важнага пытання ўзаемадзеяння паміж аўтарамі Усходняй і Заходняй Беларусі, а тое, што сувязь паміж імі была вельмі моцная, асабліва ў 1920-я гады, відаць па публікацыях як водгукаў і рэцэнзій, так і артыкулаў і літаратурных твораў. Тэма Заходняй Беларусі неаднаразова гучала ў паэтак Усходняй, дастаткова згадаць вершы «Закутаму» Хмаркі (1923) і «Свабоднаму беларусу» К. Буйло (1924):

Там няшчадна іх панская душыць пята,
Гэта ў муках засценкаў яны так стагнаюць —
Беларуска-сялянская то бедната,
Там расправу над ёй учыняюць…

— пісала ў 1924 г. К. Буйло («Свабоднаму беларусу»). З. Бандарына, якая нарадзілася ў Гродне, увогуле прысвяціла шмат вершаў гэтай тэме («Бацькаўшчыне (Зах. Беларусі)», «Да прысуду грамады», «На новым мейсцы» і інш.).

Калі ж гаварыць пра тэндэнцыі заходнебеларускай жаночай паэзіі, то часткова пагодзімся з Ю. Пацюпам, які зазначае: «Паэзія Заходняе Беларусі была працягам таго абуджэння, таго гоману, які распачала газета “Наша ніва”. Пад польскаю акупацыяй не адбылося гэткага злому традыцыі, які мы назіралі ў Савецкіх абсягах. Не рэвалюцыйны, а эвалюцыйны шлях развіцця тут абрала літаратура. Па-ранейшаму нацыя заставалася сялянскаю, па-ранейшаму былі зраўнаважаныя польскі і расейскі ўплывы. На Захадзе мацней як за Саветамі бракавала

---

[1] Луцкевіч А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — С. 235.

дзяржаўнага бытавання, але, затое, не блукалі ад дому да дому жахлівыя здані таталітарызму»[1].

І калі ў паэтак Усходняй Беларусі (Савецкай) на першы план выходзяць рысы футурыстычнага стылю, уплыў Ясеніна і Маякоўскага, то ў паэтак Заходняй Беларусі сапраўды больш выяўлена эстэтыка «Нашай нівы», але было б дзіўна, калі б яна заставалася ў статычным стане і ніяк не развівалася, бо непасрэдныя кантакты з польскай да з іншымі еўрапейскімі літаратурамі, магчымасць (пры наяўнасці грашовых сродкаў) свабодна перамяшчацца не маглі не ўплываць на з'яўленне новых формаў: вельмі моцных вершаў у прозе, такіх як «У выгнанні» П. Мядзёлкі, або хрысціянскіх твораў «Прыйдзі да нас, Хрысце», «Шкада» Зоські Верас, якая прымала актыўны ўдзел у літаратурным і грамадскім жыцці Заходняй Беларусі, і інш. Такім чынам, можна казаць і пра ўплыў мадэрнісцкіх плыняў пачатку XX ст.

Калі ў Савецкай Беларусі ўдзел жанчын у сацыялістычным будаўніцтве (літаратурным працэсе) заахвочваўся ўладай, вертыкальна, то ў Заходняй Беларусі іх выхад у публічную сферу натхняўся беларускай ідэяй, то бок у большай ступені гарызантальна: «Беларуская ідэя ў гэты перыяд прапагандавалася ў рамках дзвюх адрозных палітычных і культурных канцэпцый. З аднаго боку, яна звязвалася з сацыялістычным ідэалам, што абавязкова прадугледжвала аб'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі ў межах СССР. З другога боку, яе адстойвалі групы, якія настойвалі на стварэнні ўласнай незалежнай дзяржавы»[2]. Але так ці інакш беларуская справа мела патрэбу ў жаночым удзеле. І такі ўдзел, прычым даволі актыўны, быў:

---

[1] Пацюпа Ю. Паэткі Заходняе Беларусі // Саламея. — 2001. — № 12. — С. I.

[2] Гапова Е. Между войнами: женский вопрос и национальные проекты в Советской Белоруссии и Западной Беларуси // Гендерные истории Восточной Европы. — Минск: ЕГУ, 2002. — С. 114.

згаданыя Палута Бадунова і Вера Харужая, а таксама Надзея Шнаркевіч, Алёна Сакалова-Лекант, Вера Дзегцяранка, Людвіка Войцік (Зоська Верас), Ізабэла Тумаш і іншыя ў Вільні, Вольга Сахарава (Палачанка) і Паўліна Мядзёлка ў Латгаліі… Пры гэтым многія актывісткі беларускага руху пісалі вершы, хоць і не заўсёды па-беларуску. У якасці прыкладу патрыятычнай паэзіі можна прывесці «Песню змагання» (1921) Паўліны Мядзёлкі, прысвечаную Тамашу Грыбу:

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут, ў бяседзе такой,
успомнім мы, брацця, аб долі няроўнай —
усіх тых, што церпяць за край родны свой.

і верш юнай Валянціны Казлоўскай (Лясной Кветкі) «Разведчыку» (1925):

За шчасце згвалчанай Айчызны,
Свой посах сціснуўшы ў далонь,
У думках і у сэрцу чысты,
Гатовым будзь пайсці ў агонь!

Гэтую высокую патрыятычную ноту падтрымліваюць у заходнебеларускай паэзіі на працягу ўсяго міжваеннага перыяду новыя і новыя маладыя сілы, напрыклад Раса (Ніна Абрамчык), якая пачала друкавацца ў другой палове 30-х:

Мы арлы маладое сям’і —
Нашы душы агнямі заліты;
Бурай хваляй наперад ідзём,
Рассяваем укруг агняцветы.

*(«Гімн», 1937)*

У Заходняй Беларусі не стварылася такога масавага літаратурнага аб’яднання, як «Маладняк», але літаратурная творчасць натхнялася на ўзроўні школ і гімназій.

Таму пісалі многа, асабліва ў 1920-я гады і ў Польшчы, і ў Латвіі; пісалі, як і ў Савецкай Беларусі, пераважна маладыя хлопцы і дзяўчаты. З другога боку, перыядычных выданняў таксама не бракавала і яны, у сваю чаргу, клапаціліся пра тое, каб сярод іх аўтараў былі жанчыны. Паказальным у гэтым плане можна лічыць часопіс «Шлях моладзі», у чацвёртым нумары якога за 1929 г. была апублікавана нататка М. Пецюкевіча «Дзяўчына ў жыцці грамадства»: «Нашыя беларускія жанчыны яшчэ не прыступілі да грамадскай працы. Разумеецца — ёсць выняткі, але мы іх можам на пальцах палічыць… Мужчынскае грамадзянства трактуе жанчыну, як матку, як гаспадыню ў хаце, а ў грамадскую працу не прывыкла іх уводзіць. А трэба ведаць, што жанчына можа ў грамадскай рабоце вельмі важную ролю адыгрываць. Яна можа адыграць такую ролю ў грамадскім жыцці, як і ў сям'і. Жанчына ў працы вытрывалая, рупная, акуратная і г. д.»[1]. Далей аўтар тлумачыў карысць ад удзелу дзяўчат у грамадскіх арганізацыях тым, што іх прысутнасць «на сяброўскіх сходах, паседжаннях, экскурсіях і інш. паўстрымлівае хлапцоў ад немаральных гутарак, п'янства, боек і інш.»[2], а таксама тым, што дзяўчаты — будучыя маці, якія выхаваюць нацыянальна свядомых дзяцей.

Тэма атрымала працяг у першым нумары за 1930 г. у артыкуле «Дзяўчаткі, адгукнецеся!», падпісаным Ч. Х. Аўтар згадвае нататку М. Пецюкевіча, «скіраваную перадусім да хлапцоў», і заклікае дзяўчат актыўна выказвацца на старонках часопіса: «Жанчына беларуская мусіць неадкладна заявіць аб сваіх правох і арганізавацца на ўзор жанчын іншых братніх народаў — (Саюз Украінак) у свае жаноцкія саюзы, каторыя ў меру развіцця ства-

---

[1] Пецюкевіч М. Дзяўчына ў жыцці грамадства // Шлях моладзі. — 1929. — № 4. — С. 6.

[2] Тамсама. — С. 6.

рылі б друкаваныя органы свае думкі… Першае ж і самае галоўнае — узяць самім голас у сваіх справах на бачынах "Шляху моладзі". Хай гэты артыкул будзе апошнім хлапцоўскім заклікам, хай прамовіць дзявоцкая амбіцыя і яны самі загавораць аб сабе. Чакаючы гэтага, клічу яшчэ раз: Беларускія Дзяўчаткі, адгукнецеся!»[1] Уласна кажучы, падобныя заклікі нагадвалі Усходнюю Беларусь з яе рухам селькорак і рабкорак, дзякуючы якому многія жанчыны пакінулі свае імёны для гісторыі на старонках той жа «Беларускай работніцы і сялянкі».

Адказ на заклік адгукнуцца быў апублікаваны ў шостым нумары часопіса «Шлях моладзі» за 1930 год, ім стаў артыкул «Заданні дзяўчат у беларускім адраджэнскім руху. Абудзілася — абудзіцеся!», падпісаным *Пралеска* (член рэдакцыйнай калегіі Ізабэла Тумаш?). У раздзеле пад назвай «Што могуць і павінны зрабіць дзеля адраджэння бацькаўшчыны дзяўчаты?» пісалася: «Паспяшым жа і мы ўсе да гэтай вялікай працы — хто чым і як можа: адна пяром, другая словам, а ўсе добрым прыкладам, бо як кажа старадаўні філосаф — словы толькі павучаюць, а чыны пацягіваюць. Аб чым жа мы маем сваіх сястрыц усведамляць? — А вось аб чым: што мы, Беларусы, не горшыя ад другіх народаў; што мы маем такое самае права да развіцця, як і іншыя народы, а калі мы, як кажуць многія, бедныя, то ў гэтым не саўсім наша віна; калі мы не маем яшчэ гісторыі, літаратуры, як іншыя, то і яны ж калісь ня мелі, а з часам і мы будзем мець»[2].

Заклік Ч. Х. наконт стварэння жаночай арганізацыі таксама быў пачуты, і ў 1930 г. паўстала Аб'яднанне беларускіх жанчын імя А. Пашкевіч (Цёткі), заснаванае Антанінай Астроўскай, Надзеяй Шнаркевіч, Алёнай

---

[1] Ч. Х. Дзяўчаткі, адгукнецеся! // Шлях моладзі. — 1930. — № 1. — С. 5.

[2] Заданні дзяўчат у беларускім адраджэнскім руху // Шлях моладзі. — 1930. — № 6.

Лекант, са сваім статутам і органам друку — часопісам «Жаноцкая справа» пад рэдакцыяй Надзеі Шнаркевіч. Мэтай аб'яднання, згодна са статутам, было «імкненне да адраджэння нашага Народу праз: 1. Пашырэнне і паглыбленне беларускай народнай ідэі, 2. Запэўненне жанчынам беспасярэдняга ўплыву на культурна-асветнае і грамадскае жыццё»[1]. У часопісе прымала актыўны ўдзел Зоська Верас (Л. Войцікава і інш.), якая ўвогуле шмат пісала для заходнебеларускай перыёдыкі. «Жаноцкая справа» выходзіла ў сакавіку–лістападзе 1931 г., аднак паспела апублікаваць на сваіх старонках вершы трох аўтарак з Усходняй Беларусі — З. Бандарынай, Я. Пфляўмбаўм і Н. Вішнеўскай («Жаноцкая справа», 1931, № 2, 3, 4) з невялікай прадмовай, дзе пісалася пра вядомых беларускіх паэтак XIX — пачатку XX ст. і пра Наталлю Арсенневу і з радасцю адзначалася: «Але і на Усходзе — за гранічнай мяжой, якая падзяліла Беларусь на дзве часці, — родзяцца сярод беларускіх жанчын паэтыцкія таленты, творы якіх для нас, на жаль, бадай зусім недаступны. Толькі выпадкова дайшла да нас невялічкая кніжачка пад назовам "Вершы", надрукаваная ў 1926 г… з якое даведваемся аб імёнах трох беларускіх паэтак — прадстаўніц пралетарскага кірунку, а такжа можам пазнаёміцца з узорамі іх творчасці…»[2]

Часопіс публікаваў шмат матэрыялаў, прысвечаных Цётцы, у тым ліку прысвечаны ёй верш «Шляхаводная зорка», падпісаны В. Ш.

Заклік спрыяць «хто пяром, хто словам» паклікаў да жыцця пэўныя формы масавай жаночай паэзіі (хоць і ў куды меншых памерах, чым мужчынскай). Гэтая масавасць і імкненне схавацца за псеўданімамі і да сённяшняга дня выклікаюць складанасці з ідэнтыфікацыяй аўтарак.

---

[1] Статут Аб'яднання Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі «Цёткі». — Вільня: Друкарня Ад. Дворжэца, 1931. — С. 3.

[2] Пясняркі Усходняе Беларусі (З. Бандарына, В. Вішнеўская, Я. Пфляўмбаўм) // Жаноцкая справа. — 1931. — № 2. — С. 3.

Хоць, па праўдзе кажучы, і ў аўтарак былі праблемы з самаідэнтыфікацыяй. Самы яскравы прыклад — Алёна Цапрынская, якая да сваіх вершаў на беларускай мове паспела адзначыцца як польскамоўная і як літоўскамоўная аўтарка, якая, тым не менш пісала (шукала?) пра сваю Літву. Аднак менавіта ёй належыць адзін з самых моцных патрыятычных вершаў, створаных у тыя часы, «Кахаю Беларусь…»:

Кахаю дзействам спорным я нутра фабрычнага —
Машынаў дабрадзеек сакатух.
І не люблю мацней узрыва вулканічнага
Я Беларусь як служку розных слуг.

Паэзію А. Цапрынскай адрозніваюць яснасць думкі, філасофскія і сацыяльныя матывы, што гучаць вельмі актуальна:

Ёсць даўжэзная прамова,
Як жывём, як жылі перш,
Ды няма свабоды слова,
Каб дакончыць гэты верш.

*(«Што ёсць, а чаго няма»)*

Апафеозам патрыятычнай жаночай паэзіі Заходняй Беларусі можна лічыць верш «Беларуска» Л. Геніюш, якая пачала друкавацца ў самым канцы 1930-х:

Ты пойдзеш у бой, а я плуг пакірую,
каня накармлю, напаю, —
і так абаронім, засеем, збудуем
Беларусь дарагую сваю.

Гэты верш — адзін з улюбёных у даследчыц гендара, але цяжка не пагадзіцца з Алай Петрушкевіч: «Аўтарка адышла ад традыцыйнага адлюстравання вобліку маладой суайчынніцы як прыгожай, мілай, працавітай, пакорнай лёсу. Матыў развітання з каханым, якога чакаюць змагар-

ныя дарогі, напоўнены не слёзным смуткам і нараканнем на нядолю, а жаданнем самой тварыць уласны лёс. Яе беларуска — моцная, гордая, годная быць гаспадыняй сваёй зямлі, здольная пастаяць за сябе і свой Край. І гэта вабіла, было новым і незвычайным»[1].

Яшчэ адна заходнебеларуская паэтка з выразнай гендарнай скіраванасцю — Ганна Новік. Для яе творчасці характэрна асэнсаванне сябе і сваёй ролі ў грамадстве, канстатацыя адсутнасці выбару жыццёвага шляху для жанчыны: «Нам і печ, гаршчок і міска, / свінні, куры і карова; / і гароды, і калыска, / і на ўсё ты будзь гатова» («Жаночая доля»), але цяжкія абставіны не забіваюць прагу самарэалізацыі ў творчасці: «На загоне, што ару я, — / для сябе пішу; / тут чытаю — голас чуе / толькі ветру шум» («Песнярам»). І гэта не голая публіцыстыка, а пошукі жанчынай свайго месца ў соцыуме.

Аднак у параўнанні з жаночай паэзіяй Заходняй Беларусі паэзія жанчын Усходняй Беларусі была значна больш гендарна маркіяванай і палітызаванай з прычыны самой сацыяльна-палітычнай сітуацыі. У сваю чаргу, паэзію жанчын Заходняй Беларусі можна назваць у большай ступені трансцэндэнтнай, нацыянальна скіраванай, з характэрнымі хрысціянскімі матывамі.

Крыху ўбаку ад нацыянальна-патрыятычных плыняў і «жаночага пытання» стаіць постаць Н. Арсенневай, заўважанай і падтрыманай выкладчыкам Віленскай гімназіі, дзе яна вучылася, М. Гарэцкім. Яна друкавалася з 1920 г., але ў 1922 г. у сувязі з замужжам пераехала ў заходнія раёны Польшчы, таму геаграфічна знаходзілася далёка ад Беларусі, але працягвала шмат пісаць і друкавацца.

---

[1] Петрушкевіч А. Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі: манаграфія / прадм. і рэд. А. М. Пяткевіча. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — С. 124.

У 1927 г. выйшла першая кніга **Н. Арсенневай «Пад сінім небам»**, якая выклікала шэраг станоўчых водгукаў, як у Заходняй Беларусі[1], так і ва Усходняй. Амаль адразу пасля выхаду кнігі была надрукавана рэцэнзія ў «Маладняку» М. Байкова (1927, № 8), якую ён пачаў з наступных словаў: «У нашай сучаснай беларускай літаратуры ёсць адзін даволі значны мінус. Гэты мінус выявіўся, калі ў мінулым годзе найбліжэйшыя супрацоўнікі "Полымя" сабраліся ў фатаграфіі для юбілейнага здымку. Была заўважана і яўна кідалася ў вочы адсутнасць жанчын. І сапраўды, у юбілейным № "Полымя" мы зусім не знойдзем ані ў групавым здымку, ані сярод паасобных партрэтаў жаночых абліччаў. Гэта — прыкры факт, але факт: у той момант, калі Кастрычніцкай рэвалюцыяй дадзена кабетам магчымасць найпаўнейшага выяўлення іх творчасці і актыўнасці ўва ўсіх галінах жыцця, у галіне літаратурнай дзейнасці наша беларуская (як, аднак жа, і расійская, і украінская) кабета выявіла сябе вельмі і вельмі нязначна. Якая тутака прычына, гэта — пытанне іншае, але прыкры факт застаецца фактам: літаратурная выява нашай савецкай жанчыны дужа бедная»[2]. Будзем лічыць, што падобны ўступ М. Байкова, які даволі прыязна вітаў паэтычны зборнік маладняковак, выкліканы выключна захапленнем паэтычным талентам Наталлі Арсенневай і пажаданнем творчага росту іншым аўтаркам.

На працягу ўсёй рэцэнзіі аўтар працягвае захапляцца: «У асобе Наталлі Арсенневай мы маем паэтку першае, так сказаць, ступені з напрацаванай тэхнікай верша пры ўну-

---

[1] Чэмер М. (Самойла У. — *Заўв. А. Данільчык.*) Верная дачка сонца і «Шчырай зямелькі» // Родныя гоні. — 1927. — № 5–6; Луцкевіч А. «Пад сінім небам»: Характарыстыка творчасці Наталлі Арсенневай // Наша Праўда. — 1927. — 3 жніўня.

[2] Байкоў М. Аб творчасці Наталлі Арсенневай // Полымя. — 1927. — № 8. — С. 156.

транай змеснасці паэтычнай творчасці»[1]. І працягваючы, дадае: «Галоўнае — унутраны бок творчасці. Галоўнае — выпуклая індывідуальнасць паэткі. І разглядаючы з гэтага боку творчасць пясняркі, няможна не прызнаць, што тутакі мы маем вельмі выдатную з'яву ў нашай літаратурнай рэчаіснасці, маем у яе асобе — паэтку з ярка вызначанай індывідуальнасцю»[2]. Аўтар рэцэнзіі зазначае, што сярод вершаў Арсенневай амаль няма твораў на гарадскія тэмы, а пераважаюць натуралістычныя і фальклорныя матывы.

Сачылі ва Усходняй Беларусі і за творчымі дасягненнямі латгальскіх беларусаў і беларусак, на чале якіх стаяла, калі можна так сказаць, Вольга Сахарава. У 1928 г. у «Полымі» выйшаў артыкул А. Стахода «Беларуская літаратура ў Латвіі», дзе згадвалася і пра латгальскіх паэтак у кантэксце патрыятычнай лірыкі: «Але асноўнае закаханне латвійскіх беларускіх паэтаў яшчэ, зразумела, не да горада, а да вёскі… Часамі ў маладой паэткі В. Казлоўскай гэта закаханне ў вясковую Беларусь даходзіць да экстазу: *Бажніца мая ты святая, / У аправе з саломенных стрэх, / Як цябе не любіць дарагая, / Твае слёзы і сонечны смех!*»[3] і любоўнай: «У любоўнай лірыцы часамі адчуваецца чадны анархізм (Я. Воркуль, М. Талерка, В. Казлоўская і асабліва Кастусёнак), але ўсё ж каханне ў шмат каго з паэтаў з'яўляецца здаровым, глыбокім, радасным пачуццём, што параджае новыя сілы (Н. Мікалаева): *Прытуліся хутчэй — / Да грудзі ты маей! / Ты змарыўся ў змаганні з няволяй!..*»[4]. Трэба сказаць, што В. Казлоўская дорага заплаціла за любоў да радзімы, хоць у зборніку «Расстраляная літаратура» (2008) пра яе не згадалі.

---

[1] Байкоў М. Аб творчасці Наталлі Арсенневай. — С. 157.

[2] Тамсама. — С. 158.

[3] Стаход А. Беларуская літаратура ў Латвіі («Кнігапіс») // Полымя. — 1928. — № 11. — С. 104.

[4] Тамсама. — С. 106.

Латгальскія беларускі мелі і сваю кніжку паэзіі. У 1932 г. у Рызе Вера Вайцюлевіч выпусціла за свае сродкі лацініцай кніжачку з 5 вершаў на беларускай і латышскай мовах «Вершы. Dzejas», якая выклікала зацікаўленасць у беларускім асяродку Латвіі. У часопісе «Беларуская школа ў Латвіі» выйшла рэцэнзія за подпісам Бібліофіла (К. Езавітава?) «Зборнік вершаў сялянскай беларускай паэтэсы Веры Вайцюлевіч», аўтар якой адзначаў: «З’яўленне зара’ зборніка вершаў В. Вайцюлевіч з’явілася для беларускага грамадства у некаторай меры неспадзяванкай. Адкладаючы разгляд вершаў з боку іх тэматыкі, формы і грамадскага значання да іншага разу, мы вітаемо самы факт выхаду новага зборніка беларускіх вершаў у Латвіі, хаця ж не можамо не адзначыць свайго жалю з таго повадў, што зборнік быў выпушчаны наспех і зусім неахайна з боку граматычнага, бо гэта дужа памяншае карысць гэтага выдання»[1].

Старэйшая з беларускіх паэтак Латвіі Вольга Сахарава таксама падрыхтавала зборнік вершаў «Водгукі сэрца», якому не дадзена было пабачыць свет.

У 1937 г. «Шлях моладзі», № 4 надрукаваў артыкул «Наш літаратурны маладняк», падпісаны А. Р-ук (Алесь Рымчук?), цікавы ў тым ліку і параўнальнай з пункту погляду гендара характарыстыкай беларускіх паэтаў: «Пакольні Танк парывае і ўсхвалёўвае душу шырокім паэтыцкім размахам, магутнымі пачуццямі, патолькі Арсеннева чаруе нас мяккім і пяшчотным лірызмам, глыбокай, але салодкай настраёвасцю, спецыфічнай музыкальнасцю і мілагучнасцю верша. Выражаючыся канкрэтна, Танк з’яўляецца ў нашай літаратуры як бы прадстаўніком мужское сілы і розуму, а Арсеннева — жаночай ласкі і

---

[1] Бібліофіл. Зборнік вершаў сялянскай беларускай паэтэсы Веры Вайцюлевіч // Беларуская школа ў Латвіі. — 1932. — № 7 (17). — С. 1932.

пяшчотнасці»[1]. Згадваецца тут і пра новы зборнік паэткі «Жоўтая восень», які так і не выйшаў.

Акрамя таго, аўтар артыкула адзначыў і творчасць юнай Ніны Тарас: «З пасярод наймалодшых беларускіх паэтаў робіць вялікія поступы Ніна Тарасішка. Ейныя вершы вызначаюцца лёгкасцю і музычнасцю рытмікі, маюць у сабе многа свежасці і глыбокага лірызму, апрача гэтага з'яўляюцца добра апрацаванымі тэхнічна. Судзячы на падставе дасюлешніх яе вершаў, прабіваюцца ў яе вялікія паэтыцкія здольнасці і буйны талент, якія аднак вымагаюць яшчэ сістэматычнай працы над сабой. Прадусім трэба пажадаць, каб нашая маладая паэтка старалася расшырыць круг сваіх сюжэтаў і імкнулася да стварэння свайго індывідуальнага стылю»[2]. У другой палове 1930-х гг. Н. Тарас публікавалася амаль нароўні з Наталляй Арсенневай, але заўважым, што праўкі, унесеныя ў больш познія перадрукі яе вершаў 30-х гадоў, часта пазбаўлялі іх індывідуальнасці.

Аднак і дзяўчаты-паэткі Усходняй Беларусі мелі сур'ёзныя намеры пісаць далей і развіваць свае здольнасці. У часопісе «Полымя» ў 1927 г. № 8 у раздзеле «Хроніка беларускае культуры» сустракаюцца наступныя звесткі: *«Зіна Бандарына здала Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву для надрукавання зборнік вершаў "Звоныперазвоны"»*[3]. На жаль, іншай інфармацыі, датычнай гэтага зборніка, мы пакуль не маем. Па невядомых прычынах кніга «Звоны-перазвоны» не ўбачыла свет, але ў 1931 г. у З. Бандарынай усё ж такі выйшла кніга вершаў пад назвай «Веснацвет». Хоць, думаецца, гэта была ўжо зусім іншая кніга.

---

[1] А. Р-ук. Наш літаратурны маладняк // Шлях моладзі. — 1937. — № 4. — С. 9.

[2] Тамсама. — С. 12.

[3] Полымя. — 1927. — № 8. — С. 199.

У тым жа 1927 г., але ўжо ў хроніках часопіса «Маладняк» (№ 5) з'яўляюцца і першыя звесткі пра тое, што Я. Пфляўмбаўм «*рыхтуе да друку зборнік лірычных вершаў*»[1], але толькі ў 1930 г. у № 1 і № 3 гаворка ідзе пра тое, што кніга здаецца ў друк, прычым агучваецца і яе назва — «Мелодыі». Гэты зборнік таксама не ўбачыў свет, хоць, мяркуючы па тых цудоўных вершах, якія Я. Пфляўмбаўм друкавала пасля выхаду сумеснага зборніка 1926 г., кніга магла б стаць сапраўднай падзеяй. Калі ў дачыненні да паэзіі Н. Арсенневай літаратурная крытыка ўзгадвае аб імпрэсіянізме, то ў дачыненні да паэзіі Я. Пфляўмбаўм канца 20-х можна весці гаворку і пра імпрэсіянізм, і пра экспрэсіянізм.

Зноў жа — тыя выключныя па прыгажосці вершы так і засталіся ў перыядычных выданнях канца 1920-х — пачатку 1930-х і ў пазнейшыя зборнікі паэткі не ўваходзілі. Дарэчы, яна ці не адзіная, у чыёй паэзіі хоць нейкім чынам прысутнічае эротыка:

На гарачых ад солі вуснах
я адчула цалунак мора
і чакала… чакала пакорна
яшчэ новых, такіх спакусных…

*(«Джан-Хот»)*

А менавіта эратычнасці, цялеснасці бракуе як усходнебеларускай літаратуры міжваеннага перыяду, так і заходнебеларускай.

Калі мы гаворым пра Савецкую Беларусь, то 1930-я гады сталі новым этапам у палітыцы дзяржаўнага фемінізму, якая ў свой час паспрыяла зменам у статусе жанчыны і ў самім жаночым руху. Актыўныя дыскусіі па «жаночым пытанні», што адбываліся ў 1920-я гады пры падтрымцы

---

[1] Маладняк. — 1927. — № 5. — С. 96.

жаночых аддзелаў, практычна сышлі на нішто. Сталінскі ўрад перагледзеў папярэднюю палітыку ў дачыненні да жанчын і сям'і, напрыклад, у сярэдзіне 30-х стала цяжэй атрымаць развод, аборты зноў забаранілі. Эмансіпацыю жанчын абвяшчалі дасягнутай, а «жаночае пытанне» вырашаным. Гэта, аднак, датычылася ўсяго Савецкага Саюза.

І. Гаўракоў, разважаючы аб гендарнай палітыцы СССР, адзначае: «...злом грамадскіх каштоўнасцяў пасля Кастрычніка 17-га года ў значнай меры адбіўся на “жаночым пытанні”. Падрыхтаваны дзейнасцю апалагетаў марксісцкага фемінізму, падагрэты і даведзены да сваёй кульмінацыі Аляксандрай Міхайлаўнай Калантай, гэты працэс прывёў да таго, што ў нейкі момант ідэалы барацьбы і пабудовы новага свету змянілі традыцыйныя жаночыя каштоўнасці. Гэта была спроба стварэння Новай жанчыны, з новым складам розуму, іншымі жыццёвымі арыенцірамі і мэтамі. Нягледзячы на вядомыя перагібы, многія з ідэй Калантай актуальныя і сёння. На жаль, савецкія кіраўнікі ў рэшце рэшт адмежаваліся ад тэорыі Калантай, аддаючы перавагу агульнай крытыцы замест тонкага і паслядоўнага аналізу на карысць савецкай жанчыны»[1]. Дадамо сюды згортванне беларусізацыі і рэпрэсіі, якія хваля за хваляй пракаціліся па шэрагах беларускіх літаратараў, і становіцца зразумелым, што спад жаночай паэзіі ў Савецкай Беларусі (як і ўвогуле ўсёй літаратурнай дзейнасці незалежна ад полавай прыналежнасці) быў непазбежным.

---

[1] Говряков И. Ю. Марксистский феминизм в Советской России: Трансформация традиционных женских ценностей в публицистике Александры Михайловны Коллонтай // Материалы 19-й Международной молодежной научной конференции студентов, аспирантов и молодых ученых «Ломоносов», секция «Журналистика». — Москва, 2012.

Апошняй ластаўкай стаў доўгачаканы, як бачыцца, зборнік вершаў **З. Бандарынай «Веснацвет»**[1], які ўсё яшчэ заставаўся адной з першых кніг паэзіі, напісаных жанчынамі ў беларускай літаратуры (зазначым, што разам са згадкай пра здачу ў друк зборніка «Веснацвет» паведамляецца і пра падрыхтоўку З. Бандарынай новага зборніка). З'явілася кніга ў самым пачатку 1930-х гадоў, калі, можна сказаць, ужо адбыўся пералом у гендарнай палітыцы дзяржаўнага фемінізму. Кніга выйшла ў той час (1931), калі жанаддзелы ўжо спынілі сваё існаванне (1929), таму верш «Жанаддзелу Беларусі», што ў яе ўвайшоў, гучаў дысанансам з рэальнасцю.

Росквітам цудоўным
        і прывабным
Усміхнулася нам
        шчасная
                зара.
Вольнымі арліцамі
        ўзмахнулі крыллем
Родная матуля
        і сястра.

Творы З. Бандарынай сцвярджалі пазіцыю актыўнага ў сацыяльным плане чалавека, як у вершы «Імклівасць»: «…Я на свет нарадзілася / з бурай, / каб імкнуцца тварыць, / будаваць, / каб бяздоннай прагай, / віхурай / Цвіль прывычак / Ушчэнт руйнаваць». У прынцыпе, пазіцыя, характэрная ці не для ўсёй тагачаснай мужчынскай паэзіі, і гэтая пазіцыя актыўнага суб'екта дзеяння праяўляецца і ў вершы «Адыйшоўшым», які сам па сабе можа стаць

---

[1] Гл. Данільчык А. Зборнік З. Бандарынай «Веснацвет» як люстэрка жаночай паэзіі 20–30-хх гг. ХХ ст. // Пра час «Узвышша»: матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 2008–2010). Вып. 5. / уклад. Г. В. Запартыка, В. В. Жыбуль, У. Г. Кулажанка; навук. рэд. М. І. Мушынскі. — Мінск: РІВШ, 2011. — С. 78–84.

падставаю для грунтоўнага артыкула. Верш уяўляе з сябе дыялог лірычнай гераіні з замужняй сяброўкай, ён застаецца актуальным і сёння: дастаткова замяніць «любы камсамол» (адзнаку мінулага часу) на, напрыклад, «любы свой бамонд» або любы іншы публічны асяродак, як сотні жанчын пазнаюць сябе ў лірычнай гераіні твора. «Камсамол» у дадзеным выпадку азначае магчымасць самарэалізацыі, выхаду ў публічную прастору, і адказ сяброўкі не страціў сваёй актуальнасці, ён утрымлівае і крытыку шматлікіх заклікаў тагачаснай прэсы (нагадаем, што адзін з раздзелаў часопіса «Беларуская работніца і сялянка» якраз і называўся «Новы быт»):

«Новы быт» — колькі прыгожых слоў!
А на справе — кухня і пялёнкі.
А на справе — брудныя наскі.
І ў вачах счарнелаю вясёлкай
Дагаралі імпэту агні…

Ніякім чынам нельга пагадзіцца з Ю. Пацюпам, які пісаў пра З. Бандарыну: «Ідэалогія, відаць, падарвала яе музу і паэтка звярнулася ўрэшце да прозы»[1]. З паэтак-«маладняковак» З. Бандарына даўжэй за астатніх змагалася за права працягваць паэтычную творчасць. Пасля апошняй паэтычнай публікацыі 1933 г. (у Я. Пфляўмбаўм, напрыклад, у 1931 г.) настаў вельмі працяглы перапынак (наступная публікацыя адбылася за год да смерці ў 1958 г., верш «На купалаўскіх сцежках»). Часы змяніліся. А можа быць, З. Бандарынай проста надакучыла апраўдвацца: «Прынамсі калісьці т. Дворкіна[2] («Маладняк», № 9), крытыкуючы мой “Веснацвет”, абвінавачвала мяне ў ня-

---

[1] Пацюпа Ю. Першыя паэткі Савецкае Беларусі // Саламея. — 2001. — № 11. — Ліпень–жнівень. — С. І.

[2] Юлія Дворкіна (1902–1943), літаратуразнаўца і крытык, аўтар рэцэнзіі «Зіна Бандарына. Веснацвет», надрукаванай ў часопісе «Маладняк», 1931, № 9. Загінула падчас вайны ў Мінскім гета.

шчырасці, базуючыся на разыходжаннях у гэтак званай грамадскай і асабістай лірыцы. Так і цяпер — я пішу вершы палітычна актуальныя і больш таго, для "Работніцы і калгасніцы", старанна працуючы над больш простай і даступнай формай, стымул дзеля іх — новы творчы дзень будаўніцтва, пульс звязаны з маім пульсам. Мяне глыбока хвалюе кожная перамога, і ў гэтым вялізнае маральнае задавальненне. Аднак, пэўныя творчыя няўдачы, вузка асабістыя перажыванні жанчыны таксама нараджаюць лірыку, і мне цяжка вырашыць яе мастацкую вартасць»[1]?

У БДАМЛМ у фондзе Л. Бэндэ захоўваецца машынапіс з рэдактарскай праўкай вялікага артыкула Алеся Кучара «Становішча і перспектывы развіцця беларускай савецкай паэзіі», які быў апублікаваны ў 1934 г. у часопісе «Полымя рэвалюцыі» (№ 1). Адзін з раздзелаў называецца «Ці патрэбна нам пяшчотная і жаноцкая лірыка», і гаворка там ідзе пра З. Бандарыну[2]. На пачатку А. Кучар спасылаўся на артыкул З. Бандарынай «Маё слова ў спрэчках», дзе яна ўздымала пытанне «злучнасці грамадскай і інтымнай лірыкі», а пасля ставіў пытанне рубам: «Ці патрэбна нам сапраўды жаноцкая і пяшчотная лірыка і ці быў такім лірыкам Гайнэ. Праўда, Гайнэ даваў малюнкі кахання ў духу лепшых эстэцкіх сантыменталістаў, але Бандарына не разумее таго, што гэтыя сантыментальныя малюнкі кахання Гайнэ даваў для таго, каб у гэтыя ж вершы яшчэ з большай сілай надсмяяцца над гэтым пяшчотным сантыментальным каханнем… Не быў Гайнэ ні "пяшчотным", ні "жаноцкім" лірыкам, а Зіна Бандарына паўтары стагоддзі пасля смерці гэтай пяшчотнай і жаноцкай лірыкі хоча яе

---

[1] Бандарына З. Маё слова ў спрэчках // Літаратура і мастацтва. — 1933. — № 19. — 9 ліпеня. — С. 3.

[2] Кучар А. Становішча і перспектывы развіцця беларускай савецкай паэзіі: артыкул. Машынапіс з рэдактарскай праўкай. БДАМЛМ. — Ф. 66. — Воп. 1. — Адз. зах. 1406. — Арк. 91.

культывяваць»[1]. Кучар крытыкуе верш «Маё credo», называе некаторыя грамадскія вершы паэтэсы «пустымі» і «халтурнымі», адзначае, што «грамадскасць ёй патрэбна толькі тады, калі ў яе жаночым сэрцы бываюць непрымірымыя пачуцці»[2]. Але ў апублікаваны варыянт артыкула гэтая частка, як і частка пад назвай «Пра рэвалюцыйную рамантыку», не ўвайшлі. Магчыма, рэдакцыя палічыла, што раз няма патрэбы ў жаноцкай і пяшчотнай лірыцы, то і пісаць пра іх не варта. Ды і для рэвалюцыйнай рамантыкі месца ў Савецкай Беларусі больш не засталося.

Для кожнага даследчыка паўстае пытанне: як ставіцца да вершаў «на патрэбу дня»? Ці варта разглядаць іх у агульным кантэксце творчасці паэта, ці адкінуць іх як творы, што страцілі надзённасць, а іх мастацкая якасць не выклікае захаплення? Мы не будзем выкрэсліваць «палітычную лірыку», яна дастаткова красамоўная з гендарнага і сацыяльнага пунктаў гледжання, а часта вызначаецца і высокай мастацкасцю. І прачытваць гэтыя вершы можна па-рознаму. Але адкідаць іх не варта, за выключэннем хіба што падхалімскіх хваласпеваў «павадыру народаў». Аднак ніхто з маладняковак іх не пісаў, пакінуўшы гэтую няўдзячную місію БелАППу.

Ці магла ў такой атмасферы існаваць паэзія, ды і ці магла існаваць літаратура ўвогуле? З 1934 па 1945 г. З. Бандарына не друкавала не толькі вершаў, але і прозы. Аднак не кінула паэзію, хоць наступная публікацыя паэзіі адбылася толькі ў 1958 годзе (прынамсі, наколькі вядома на сённяшні дзень). Тым не менш у БДАМЛМ захоўваецца машынапісны паэтычны зборнік З. Бандарынай «Выбраныя вершы», палову якога складаюць творы, напісаныя ў 1940–1950-я гады.

---

[1] Кучар А. Становішча і перспектывы развіцця беларускай савецкай паэзіі: артыкул. — Арк. 92.

[2] Тамсама. — Арк. 93.

Многія літаратуразнаўцы лічаць, што толькі Я. Пфляўмбаўм не кінула літаратуры, пісала «ў стол» да апошніх дзён і пасля доўгага маўчання выдала кнігі вершаў «Сувой жыцця» ў 1989 г. і «На захадзе сонца» ў 1992 г. Думаецца, калі б З. Бандарына пражыла болей, то і яе новая кніга ўбачыла б свет.

А хіба не прыклад вернага служэння музе Канстанцыя Буйло? Хоць той жа М. Байкоў у згаданай рэцэнзіі на зборнік Н. Арсенневай пісаў: «Што Буйло была “выпадковасцю” ў межах нашай паэзіі, гэта яскрава даводзіцца тым, што яна вельмі хутка адыйшла ад літаратуры, — адыйшла, як толькі спынілася крыніца яе дзявоцкага натхнення, — і, выйшаўшы замуж, Канстанцыя Буйло супакоілася, а не падаравала беларускай літаратуры ад таго часу ніводнага верша»[1]. На шчасце, крытык памыліўся. К. Буйло таксама да пэўнага часу пісала «ў стол», а некаторыя вершы праляжалі ў рукапісах да пачатку 90-х, як гэты, датаваны 1937 годам:

Я сэрца гору не аддам,
Вясна узнімецца над краем!
Сплыве мой боль — як бурна ў маі
Сплывае чорная вада.

*(«Таму мне сумна жыць на свеце...»)*

У вымушаным зацішшы 1930-х гадоў ва Усходняй Беларусі пачыналі друкавацца Марына Барсток і Эдзі Агняцвет, аднак гендарная афарбоўка іх вершаў была зусім інакшай, прынамсі, пра неабходнасць вызвалення жанчыны гаворка больш не ішла. Усё і так было добра. Гэта пацвярджалі вершы Валянціны Жураўлёвай і Сашы Янковай, якіх «выхаваў большэвіцкі друк»[2].

---

[1] Байкоў М. Аб творчасці Наталлі Арсенневай // Полымя. — 1927. — № 8. — С. 157.

[2] Жураўлёва В. Мяне выхаваў большэвісцкі друк // Работніца і калгасніца Беларусі. — 1934. — № 21. — С. 5.

Кнігі Эдзі Агняцвет ігнараваць немагчыма, бо, як кажуць, з'ява мела месца быць, аднак многія яе вершы, напісаныя ў той перыяд, поўныя ліслівых хваласпеваў тав. Сталіну (вось ужо сапраўды, лепш маўчаць!). З другога боку, нават Янка Купала ў тыя страшныя гады пісаў падобныя «творы»…

Ужо ў 1940 г. у абсалютна іншай рэальнасці выйшла кніга Ніны Тарас «На ўсход ідучы…», у якую аўтарка ўключыла большасць твораў, апублікаваных раней у перыядычных выданнях Заходняй Беларусі і часта адрэдагаваных у адпаведнасці з новымі рэаліямі, кшталту таго, што ў выніку даў назву зборніку, а таксама дадала некалькі новых, напрыклад, «Таварышу Сталіну».

Напрыканцы сваёй прадмовы да раздзела аб творчасці паэтак Савецкай Беларусі Ю. Пацюпа напісаў: «Падсумоўваючы наш агляд, хочацца звярнуць увагу на некаторыя акалічнасці эпохі. Савецкая ідэалогія абяцала шырокае вызваленне чалавека, і жанчыны, у прыватнасці. На дануючэму нямала было затрачана хвальнага пафасу, палемічнае энергіі, ды ў выніку ўсё вярнулася ў патрыярхальную даўніну. Многія з паэтак пражылі доўгае жыццё, але ці так, як ім хацелася? Практычна ніводная з іх не стала соцрэалісткаю. Яны ў час замаўчалі. Зышлі з паэтычнае дыстанцыі. У прозу. У навуку. У сям'ю. У самоту. У няведамасць»[1]. Дадамо — у ГУЛАГ і ў смерць.

Гэты сыход быў вымушаным і часта ратаваў жыццё, хоць не ўсе змаглі ўратавацца. Загінула ад куляў НКВД Валянціна Казлоўская (Лясная Кветка), якая, пазнаёміўшыся з Янкам Купалам, прыехала вучыцца ў Беларусь, адбылі свой тэрмін у лагерах Я. Бяганская, пазней Н. Арсеннева,

---

[1] Пацюпа Ю. Першыя паэткі Савецкай Беларусі // Саламея. — 2001. — № 11. — С. I.

а ўжо пасля вайны і Л. Геніюш. Многія паэткі раз'ехаліся з Беларусі хто куды.

На жаль, немагчыма ў межах прадмовы асвяціць усе аспекты варункаў, жыцця і творчасці жанчын-паэтак у 1920–1930-я гады (хоць, прызнацца, вельмі хацелася б), таму давялося абмежавацца толькі асноўнымі, на наш погляд, момантамі. Але, думаецца, і гэтага дастаткова, каб пераканацца — беларуская жаночая паэзія 20–30-х гадоў можа даць багаты матэрыял для даследаванняў.

Дый не толькі паэзія, але і проза, якую пісалі Леаніла Чарняўская, Наста Шутко, А. Цітава, Аўгіня (Аўгінка) Вігура, Фаіна Хмара, Палачанка (Вольга Сахарава), В. Жукоўская, Anita і іншыя аўтаркі, і крытыка, прадстаўленая ў міжваенны перыяд імёнамі такіх жанчын, як ужо згаданая Юлія Дворкіна, Любоў Фіглоўская, Рыва Рубіна, Вольга Таполя (Зубко)…

Падсумоўваючы, адзначым, што калі паэтак можна налічыць некалькі дзясяткаў, то арыгінальных паэтычных кніжак у жанчын у міжваенны перыяд выйшла некалькі: у Савецкай Беларусі ўсяго чатыры «дарослых»: адна калектыўная (Бандарына З., Вішнеўская Н., Пфляўмбаўм Я. Выбраныя вершы. 1926, Мінск) і тры персанальныя (Бандарына З. Веснацвет, 1931, Мінск; Э. Агняцвет. Маё пакаленне, 1935, Мінск; Э. Агняцвет. Вершы, 1938, Мінск). Акрамя згаданых, выйшлі і тры вершаваныя кнігі для дзяцей І. Каганоўскай: «Як Натка гутарыла з маткай» (1932), «Ударныя брыгады ў дзіцячым садзе» (1933) і «Кіскі і кніжкі» (1935). Кніг магло б (і павінна было) быць больш, але не здарылася. За гэты ж перыяд чатыры кніжкі выйшлі ў аўтарак з Заходняй Беларусі: Арсеннева Н. Пад сінім небам, 1927 (Вільня), Вайцюлевіч В. Вершы. Dzejas. 1932 (Рыга), Тарас Н. На ўсход ідучы…, 1940 (Мінск). Асобным выданнем выходзіла паэма «Сялянская доля» П. Мядзёлкі (1921, месца выдання не

пазначана). Засталіся ненадрукаванымі зборнікі «Звоны-перазвоны» З. Бандарынай і «Мелодыі» Я. Пфляўмбаўм, «Жоўтая восень» Н. Арсенневай, «Жменя асенніх думак» Г. Новік і «Водгукі сэрца» В. Сахаравай, а можа быць, і іншыя зборнікі, пра якія мы сёння яшчэ не ведаем, але яны абавязкова знойдуцца.

Хочацца верыць, што анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду дапаможа па-іншаму паглядзець на літаратурны працэс 20–30-х гадоў і на ўдзел у ім жанчын. Анталогія проста неабходная дзеля ўзнаўлення гістарычнай справядлівасці, каб больш не з'яўляліся фразы кшталту «Наталля Арсеннева — адзіная жанчына-паэтка на беларускім паэтычным алімпе 1920–1930 гадоў»[1]. Магчыма, Н. Асеннева валодала ці не самым магутным талентам, але, на шчасце, не была адзінай, у тым ліку і на паэтычным алімпе.

Укладальнікі анталогіі імкнуліся паказаць не толькі найлепшае, але і характэрнае для тых часоў, даць магчымасць прагучаць забытым галасам беларускіх паэтак, а таксама паспрыяць актывізацыі даследаванняў іх паэзіі. Сёння стаіць задача вярнуць беларускую жаночую паэзію 20–30-х гадоў з «няведамасці», каб аднавіць гістарычную і мастацкую справядлівасць.

*Аксана Данільчык,*
*кандыдат філалагічных навук*

---

[1] Вабішчэвіч Т. Арсенneўская восень // Новы час. — 2003. — № 16.

# ПАЭТКІ УСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

## КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО

*1893–1986*



Канстанцыя Буйло (сапр. Канстанцыя Антонаўна Калечыц) нарадзілася 2 (14) студзеня 1893 г. у Вільні ў сялянскай сям'і. Бацька працаваў конюхам у князя Гагарына, а пасля пераезду ў 1895 г. у мястэчка Вішнева Ашмянскага павета стаў арандатарам, лясным аб'ездчыкам.

Паэтка закончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Вільні (1914). Настаўнічала на Лідчыне. Потым загадвала беларускай кнігарняй у Полацку (1915–1916), але ў сувязі з яе закрыццём перайшла на працу ў Земскі саюз. У 1917 г. знаходзілася ў бежанстве. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працавала статыстам у Валакаламскім павятовым выканкаме рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бухгалтарам саўгаса «Данілкава».

У 1923 г. К. Буйло выехала ў Маскву, куды яе муж, аграном Віталь Адольфавіч Калечыц, быў запрошаны на працу (у 1933 г. ён быў незаконна арыштаваны і пазней загінуў у сталінскім лагеры). Сама паэтка займалася хатняй гаспадаркай, даглядала сына, пазней працавала на заводзе «Аграном» (1929–1934), начальнікам аддзела збыту палітэхлабарсаюза (1934–1940), у 1940–1951 гг. — начальнікам аператыўнага аддзела, потым выконвала абавязкі намесніка дырэктара цэнтральнай канторы ветэрынарнага забеспячэння трэста Саюзветзабпрам. З 1954 г. знаходзілася на пенсіі. Шмат гадоў сябравала з Уладзіславай Луцэвіч, перапісвалася таксама з Эдзі Агняцвет, Сяргеем Новікам-Пеюном, Алесем Пальчэўскім, Станіславам Шушкевічам, Нінай Тарас і многімі іншымі.

Сябра Саюза пісьменнікаў СССР з 1944 г.

Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.

Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1968).

Памерла 4 чэрвеня 1986 г. Была пахавана спачатку ў Маскве, але ў 1989 г. урна з яе прахам перавезена ў вёску Вішнева, дзе на магіле пастаўлены помнік.

Канстанцыя Буйло дэбютавала вершамі ў 1909 г. (газета «Наша Ніва»). Першую кнігу «Курганная кветка» (1914, Вільня, факсімільнае выданне ў 1989 г.) адрэдагаваў Янка Купала, а аздобіў Язэп Драздовіч.

У 1930-я гг. паэтка не публікавалася. «У той час яна пісала даволі шмат, — зазначае Дзіяна Чаркасава, — але шмат і знішчала, бо сярод напісанага былі вершы "небяспечныя". [...] Канстанцыя Антонаўна па-сапраўднаму ненавідзела Сталіна і прысвяціла яму і яго страшным справам нямала вершаў» (Чаркасава Дз. Яе крамяністы шлях // Буйло К. ...Коціцца рэха. Мінск, 1993. С. 9).

Пазней выйшлі зборнікі вершаў «Світанне» (1950), «На адноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965), «Роднаму краю» (1973). Выйшлі «Выбраныя творы» (1954), «Выбранае» (1968, 1976), «Выбраныя творы» ў 2 т. (1981). Дзецям адрасаваны кніжкі вершаў «Юрачка» (1957), «У бляску зор» (1968), «Вясной» (1984). Пасмяротна выйшлі кнігі «...Коціцца рэха: Вершы, паэма, лісты» (1993), «Пялёсткі курганнай кветкі» (2007).

Працавала К. Буйло і ў драматургіі. Яна — аўтар п'ес «Кветка папараці» (1914) і «Сягонняшнія і даўнейшыя» (1914, пастаўлена ў 1921).

Многія вершы паэткі пакладзены на музыку (К. Галкоўскі, Дз. Лукас, Л. Захлеўны і інш.). Асабліва шырокую вядомасць займела песня «Люблю» (музыка М. Равенскага), якая стала народнай.

Дакументы паэткі захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 263).

**Літаратура**

Калечыц Я. В. Расказвае сын: [Гутарка з сынам паэтэсы К. Буйло Я. В. Калечыцам / запісаў А. Гардзіцкі] // ЛіМ. 1990. 26 студз. С. 13.

Каўка А. Кветкі для Буйлянкі // Асоба і час: беларус. біягр. альманах. Мінск, 2011. Вып. 4. С. 291–295.

Чаркасава Дз. Люблю. Мінск: Выд-ва ЦК КП Беларусі, 1978 (Б-чка газ. «Голас Радзімы»).

## Не кукуй, зязюля!

Не кукуй, зязюля, каля майго дому!
Шчасця год — тут болей не лічы нікому.
Ты ляці, зязюля, ў гай ляці зялёны,
Дзе хістаюць дрэвы пышныя кароны,
Дзе спакой і ціша у духмяным ценю,
Дзе скрозь лісце ніжа сонейка праменні.
Не будзі ты суму адзінокай хаты,
Адляцеў далёка сокал мой крылаты…
Слёз ён не убачыць, жалю не утуліць…
Не кукуй ля дома гэтага, зязюля.

*1934*

* * *

Сэрца, сэрца, ты, можа, заснула?
Цішыня навакола настала,
Не чуваць крыві палкага гулу,
Не грахочуць пачуццяў абвалы…
Цішыня…
                    Можа, смерць гэта,
                                                      можа,
Не ачнецца яно ўжо ніколі,
І нішто ўжо яго не ўстрывожыць,
І не будзе ні шчасця, ні болю…
Як спакойна!
                          Як страшна!
                                               Дарэмна
За акном зноў вясна верхаводзіць,
У якойсьці дрымоце нікчэмнай
Дні і ночы тупыя праходзяць.
Не — о, не!
                      Не хачу я!
                                         Не буду
Жыць у гэтым застыўшым спакою,

Выбаўлення чакаю я, цуда,
Няхай громам грыміць нада мною,
Хай мяне скалыхне — як бывала —
Хваляваннем да болю гарачым,
Хай і горам, вялікім ці малым, —
Толькі сэрца хай б'ецца і плача.
Няхай будзе і шчасце і гора,
Няхай будуць і слёзы і мукі,
А не гэта бяссілле…
з пакорай
Абамлеўшае сэрца і рукі.

*1937*

## Адчай

Сонная муць мне ахутала вочы,
Мозг апавіла валокнамі сну.
Не, не сустрэць мне у полі вясну…
Сэрца ні біцца, ні жыць больш не хоча.
Цяжка падняць мне стамлёныя вейкі,
Цяжка мне рукі угору падняць.
Тут не памогуць ні доктар, ні лекі,
Мукі такой не суняць.
Ты нежывы…
Дагарае, як свечка,
Сэрца маё. Шчасця болей няма.
Так замірае бурлівая рэчка,
Калі ёй хвалі сцінае зіма.
Ты нежывы. Сэрца біцца не хоча.
Хай жа і я тут навекі засну.
Ці дачакаю я збаўчага сну?
Хай бы прыйшоў — і заплюшчыў мне вочы.

*1937*

## Мяцеліца

Праз пустыя бязмежныя гоні
Скачуць лёгкія белыя коні.
Ветрагонныя звоняць капыты,
Шкляным звонам ільдзістым падбіты.

Еду, еду па беламу полю,
А віхура дарогу заносіць.
Яна ўслед мне так страшна галосіць,
Быццам сэрца заходзіцца з болю.

Ўдаль лятуць мае белыя коні
Па пустым бездарожным загоне.
Пераблытаў ім вецер гуллівы
Легкавейныя, тонкія грывы.

Поле снегам сыпучым пакрыта,
Звоняць звонам ільдзістым капыты…
І куды я загублена еду,
Без пуці, без напрамку і следу?!

*1937*

## Ці то прыснілася мне?

Ці то прыснілася мне, што ад людзей я далёка?
Адстрашыў іх ад мяне лес мой, як цемра пануры.
Сум залівае душу. Холадна мне, адзінока,
А за сцямнелым акном жудасна плача віхура.
Ноч. Непраглядная ноч. Пуста і страшна наўкола.
Дождж б’ецца ў вокны мае.
Плюшчыцца, злосны, аб шыбы.
Восень мне ў вочы глядзіць. Погляд яе невясёлы,
Мокнуць пад небам палі, узмёту шырокія скібы.
Ціша наўкола.
Ні слоў, ні родных крокаў на ўсходах…
Не затрапеча званок, госця звястуючы звонку.

Толькі па вокнах цякуць восені мутныя воды,
І топаль гнецца сівы ветру шальному ўдагонку.
О! Як любіла я ў ноч гэткай ліхой непагоды
Ўся прытуліцца к табе —
ціха заплюшчыўшы вочы.
Колькі лілося ў душу мяккай, жывой асалоды,
Нізанка светлая мар — радасных, ясных, дзявочых.
Любы мой! Дзе ты цяпер?
І — ці жывы ты на свеце?..
Годы плывуць як вада, годы нялюдскай разлукі…
Сумна мне…
Сумна таму — што расшалеўшыся вецер
Белай бярозцы скруціў тонкія, кволыя рукі.

*1937*

* * *

Таму мне сумна жыць на свеце,
Што я, не ведаю чаму,
Стаю — як колас, што зіму
Сустрэў на полі, у замеці…
Суровы вецер дрэвы гне,
Мароз бязлітасны лязгоча…
А я… заплюшчу шчыльна вочы,
Хай студзіць гора — белы снег…
Я сэрца гору не аддам,
Вясна узнімецца над краем!
Сплыве мой боль — як бурна ў маі
Сплывае чорная вада.

*1937*

## Вербы

Не шуміце, вербы, над вадою,
Не раняйце лісце залатое,
Ў вашым шуме сумнай скаргі многа
Аб згаранні лета залатога.
Раз за разам падаюць дадолу
Лісця з шэлестам ціхім і кволым.
Зімка снегам ногі вам атуліць,
Апране у белую кашулю,
Ўсе галінкі інеем адзене,
У зямельцы збераджэ насенне,
Каб вясной шумелі вы вясёла,
Над вадой устаўшы стройным колам.

*1938*

## Восень

Скінула даўно убор зялёны,
Залатое лісце паскідала,
Шэрым ценем пад акном устала,
Ў пасмах косаў дажджавых, сцюдзёных.
Вецер вые ля вуглоў надрыўна,
Яна пальцамі ў акно стукоча,
Быццам ў хату папрасіцца хоча,
На дварэ сцюдзёна ёй і крыўдна.
Цёмныя насупіліся хаты,
Зрэнкі вокан глянулі ў бязмеры…
А у небе, хмар заслонай шэрай,
Затуліўся маладзік рагаты.
А яна дажджамі горка плача,
Плюшчыць слёзы, вокны імі мые,
Хіліць скрушна пад вятрамі шыю
І сумуе — аб вясне, няйначай.

*1938*

## АНТАНІНА ШУНЭЙКА

*(1894 — пасля 1945)*

Антаніна Рыгораўна Шунэйка нарадзілася ў 1894 г. у Магілёве. У 1930-х гг. жыла ў Мінску, працавала на адным з заводаў. У 1937 г. яе муж, механік Павел Шунэйка быў расстраляны як польскі шпіён-дыверсант. У час Другой сусветнай вайны Антаніна Шунэйка разам з дачкой Нінай трапіла ў палон, утрымлівалася ў канцлагеры ў Нарвегіі, адкуль была вызвалена ў 1945 г., атрымаўшы магчымасць вярнуцца на радзіму. Далейшы лёс не высветлены.

**Крыніцы**

Государственный архив Российской Федерации. Ф. р-9506, оп. 6, д. 1149.

## Вясна на заводзе

Вось ён, родны мой,
сонцам запушаны,
несупыннай гаворкі станок.
Вось ён, пас мой,
агніста-напружаны —
песні гэтае першы радок.

Я крану яго,
і шыбы люстраныя
звонка кінуць свой сонечны смех
на станок,
на мяне ўсхваляваную,
на мой кожны гатовы лямех.

Цэх мой сёння
бязмерна бліскучы,
цэх мой сонцам заліт і вясной.
Ён гамоніць, гудзе,
іскры лучыць,

ён любуецца працай маёй.
А наўкол
ходзяць валікі шпарка,
ходзяць рукі, хусцінкі мігцяць…
Рэжуць, піляць мэталь на сяваркі,
на плугі — толькі іскры ляцяць.

І нястрыманай радасцю
грудзі
уздымаюцца з песняй такой.
І станок мой зліваецца ў гудзе,
творчым гудзе
вясёлых станкоў.

Заўтра ўсе яны
з гнуткае сталі —
маладыя сяваркі, плугі
папаўзуць у калгасную далеч,
ў край вясёлкавы і дарагі.
Заўтра выйдуць яны
ўсе са славаю,
выйдуць смела насустрач табе,
разгарнуцца раллёю кудраваю,
развінуцца ў калгаснай сяўбе.
Каб шумела там
буйнае жыта,
долу гнуліся скрозь каласы,
каб заможнаю радасцю жыцце
зазвінела на ўсе галасы.
Гэй-жа грукай,
станок мой няспынны,
гамані па-вясноваму, цэх!
Я ў хусцінцы стаю за машынай
і абточваю гостры лямех.

*[1934]*

## ХМАРКА

*1897–?*

Наталля Васілеўна Панамарова нарадзілася 26 лістапада 1897 г. у Мінску ў сям'і служачага Лібава-Роменскай чыгункі, які меў дваранскае паходжанне. У 1915 г. закончыла агульны курс Мінскай Марыінскай жаночай гімназіі і дадатковы («словесное отделение») педагагічны клас, атрымала званне хатняй настаўніцы. У час Першай сусветнай вайны з восені 1915 г. разам з бацькамі, бабуляй і цёткай знаходзілася ў эвакуацыі ў цэнтральнай Расіі (г. Калуга), з кастрычніка 1917 па верасень 1920 г. працавала ва ўпраўленні Сызранска-Вяземскай чыгункі і давала прыватныя ўрокі. Восенню 1920 г. вярнулася ў Мінск, 1 снежня была залічана справаводам у літаратурна-выдавецкі аддзел Народнага камісарыята асветы БССР. Закончыла беларускія лектара-інструктарскія і настаўніцкія курсы пры беларускім аддзеле Камасветы (1921), атрымаўшы званне настаўніцы пачатковай школы. З чэрвеня 1921 г. з'яўлялася сакратаром навукова-літаратурнага аддзела, з 10 верасня — загадчыкам агульнай канцылярыі, ці кіраўніцай справамі Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы, а з чэрвеня 1922 г. — сакратаром інспекцыі навуковых установ Наркамасветы, памочнікам сакратара Галоўпрафасветы. Акрамя асноўнай працы, Н. Панамарова была лектарам і загадчыкам курсаў для супрацоўнікаў Наркамата асветы і лектарам на 12-месячных курсах дашкольнага выхавання. У тым самым 1922 г. яна паступіла на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ, але з I курса з нейкай прычыны «выбыла по личному заявлению».

З кастрычніка 1924 г. Наталля Панамарова працавала справаводам Інстытута беларускай культуры, аднак праз месяц перайшла на пасаду карэктара ў Белдзяржвыдавецтва, адкуль у канцы 1925 г. звольнілася «ў сувязі з пераходам на іншую працу». Апошнія вядомыя згадкі пра пісьменніцу датуюцца 1928–1930 гг. На той час яна была замужам, жыла пад мужавым прозвішчам — Янчанка.

Літаратурную дзейнасць Наталля Панамарова пачала ў 1921 г. Напачатку падпісвалася крыптанімамі Н. П. і П. Н., потым (са снежня 1921 г.) стала перайшла на псеўданім Хмарка. Вершы

і прозу для дзяцей актыўна друкавала ў часопісе «Зоркі» (1921–1922), сакратаром якога з'яўлялася, творы для дарослых — у часопісах «Вольны сьцяг» (1921), «Полымя» (1923–1925), альманаху «Адраджэньне» (1922). У 1928 г. у Белдзяржвыдавецтве ўбачыла свет першая і адзіная кніга Хмаркі «Апавяданне старога вожыка», куды, акрамя аднайменнага твора, увайшоў і яшчэ адзін — «Жыхары зрэзанага дрэва».

**Літаратура**


Гесь А. Хмарка: забытая паэтка 20-х гадоў Наталля Панамарова / А. Гесь // ЛіМ. 2000. 3 сак.

Гесь А. Яна працавала з Янкам Купалам // Бярозка. 2000. № 3.

Жыбуль В. «У самым нязначным… можна знайсьці шмат цікавага»: жыццё і творчасць Хмаркі (Наталлі Панамаровай) // Роднае слова. 2013. № 1.


## Зоркі

Зоркі мае мілыя, зоркі прамяністыя,
З вамі ў ночку цёплую ціха гаманю:
Мо вы зразумееце, зорачкі агністыя,
Думкі, што замучвалі ўсю душу маю?
Імі не цікавяцца людзі пагардлівыя.
Я хаваю глыбака ў сэрцы думкі ўсе.
Слёзы мае горкія, сны душы шчаслівыя
Толькі вы пабачыце, зорачкі мае.
Ласкава праменнямі ў вочы пазіраючы,
Быццам разважаеце жальбу вы маю.
Дні свае дзіцячыя думкай ўспамінаючы,
Ціха песню родную я вам запяю.
Над сваёй калыскаю гэту песню чула я
Ад матулі родненькай у дзіцячым сне…
З песняй гэтай ціхаю лепшае мінулае
Як бы падыходзіць зноў бліжай да мяне.

*[1921]*

## Каб магла

Каб магла расказаць я ўсё тое табе,
Што ўвясну адчуваю душой,
Што трапечацца, б’ецца ў нязмернай жальбе,
Што з павек маіх гоніць спакой.

Што як раніцай птушка так шчасна пяе,
Рвецца, ймчыцца ў паднёбную высь, —
Тыя думкі, чароўныя мары мае,
Тыя сны, што я сніла калісь…

Каб магла расказаць, каб магла толькі я
Зачапіць твайго сэрца струну,
Каб на водклік душа адгукнулась твая,
Каб ў цябе прабудзіці вясну.

Тваё сэрца маўчыць. Ты не бачыш яе,
Хараства яе дзіўнага чар,
Ты марнееш у зімнім бязрадасным сне,
Пад навалаю жудасных мар.

Ты маўчыш, прытаміўся змаганнем жыцця,
Сумен погляд глыбокіх вачэй.
Ясных зор ты шукаў, ты блукаў без пуцця
І нідзе не знайшоў ні аднэй.

*[1921]*

## Восень

Восень блізіцца памалу…
Цяжкіх, шэрых хмар навала
Пацягнулась над зямлёй.
Спахмурнелі косы сонца,
Нейкі жаль і сум бясконца
На душы паўсталі з ёй.

Пасціхалі птушак спевы,
Паскідалі лісце дрэвы,
Зніклі кветкі на палёх.
Пахаваліcь людзі ў хаты,
Сумна лес глядзіць кашлаты,
Жоўты ліст увесь палёг.

Нудна сэрцу ў гэту пору,
Кожны рад залезці ў нору,
Захавацца ў цёплы кут;
Рад заплюшчыць свае вочы,
Каб не бачыць гэтай ночы,
Каб не знаць яе пакут.

Дождж сцюдзёны б’ець у вокны,
Хмараў шэрыя валокны
Засцілаюць даль нябёс…
Вецер вые ды скаголе,
Нудна плача ў лесе, ў полі,
Праклінае горкі лёс.

Сумна, жудасна, здаецца,
Што вясна не усміхнецца,
Захаваная ў труне.
Лес пад ветрам плача хмурны,
Лес заводзіць спеў хаўтурны,
Развітанне шле вясне.

*22 кастрычніка 1921 г.*

## Старая хатка

Восень… Вецер завывае…
У халоднай цьме-імгле
Хатка туліцца старая,
Бы сумуе па цяпле.
Зімна хатцы сярод поля;
Навакол гусцее змрок…

Хатку горкая нядоля
Пахіліла ўсю на бок.
Дзюрак шмат у кожнай сценцы,
Ў шыбах шкла зусім няма,
Ў хатцы дроў — ані паленца,
А ўжо блізіцца зіма…
Гаспадар яе пакінуў —
У чужую старану
Ён паехаў і загінуў,
Кінуў матку ў ёй адну.
Доўга матанька чакала,
Ці не вернецца сынок?
Думкі нудныя снавала,
Пазіраючы ў той бок…
Падлічала дні ды ночы,
Слёз без ліку праліла,
Асляпіла свае вочы,
Захварэла ды злягла…
З’ела гора сірацінку,
Ад тугі сышла ў труну…
Непрытульную хацінку
Ў полі кінула адну…
Нудна хатцы ў адзіноце —
З кім размову завясці? —
З кім парадзіцца ў бядноце?
Дзе падкрэпу ёй знайсці?
Стогне вецер, уздыхае…
Навакол гусцее змрок…
Хатка туліцца старая,
Пахіліўшыся на бок.

*[1921]*

## Зімовы лес

Сціхла к ночы ліхая мяцеліца.
Нерухомыя дрэвы стаяць.
Снег пушыстаю коўдраю сцелецца —
Нават крокаў сваіх не чуваць.

Ціха ў лесе — птушынымі спевамі
Не абудзіцца сон баравы;
Пад маркотна-маўклівымі дрэвамі
Ты не знойдзеш зялёнай травы.

Прамінуліся ночкі вясновыя,
Казка гожая лета прайшла,
Утужлівыя, сумныя, новыя
Восень думкі з сабой прывяла.

Спахмурнеўшы пад шэрымі хмарамі,
Уздыхаючы ціха ўва сне,
Лес, спавіты жалобнымі марамі,
Ўспамінаў, сумаваў па вясне.

Час сыходзіў. У вопратцы белыя
Апрануўшысь, зіма падышла,
Мары лесу тужліва-нясмелыя
Белым снегам сваім спавіла.

Супакоілась к ночы мяцеліца,
Вочкі-зоркі мігцяць угары.
Снег бялюткаю коўдраю сцелецца
Ў нерухомым, маўклівым бары.

*[1921]*

## На могілках

Ціхія могілкі, могілкі смутныя,
Вабіце вы маё сэрца бяссільнае:
Кветкі задумныя, дрэвы магутныя,
Неба над гэтым блакітна-прыхільнае.

Шэрыя крыжыкі лісцем затканыя,
Белыя помнікі — варта маўклівая;
Жыцця забранага мары схаваныя
Ціха шапоцяць мне казку тужлівую.

Ціха ўстаюць прад вачыма маркотнымі
Зданні мінулага з смутнай пакораю,
З песняй жалобнаю, з песняй гаротнаю
Нікнуць у далі чаргою няскораю.

Спевы сціхаюць за імі хаўтурныя,
Слёзы ліюцца з вачэй мімавольныя.
Хіляцца ніжай бярэзінкі хмурныя,
Туляцца к могілкам кветкі бяздольныя.

Доўга сяджу я, знямогай спавітая,
Сэрца жальбуе ціхутка бяссільнае.
Шчырымі косамі сонца аблітае,
Неба ўсміхаецца роўна-прыхільнае.

*1 снежня 1921 г.*

## Ты ўзбудзіў

Ты ўзбудзіў маё сэрца, пясняр малады,
Сваёй песняй аб шчасці, аб волі,
Разагнаў мае думкі жальбы ды нуды,
Мае стогны аб горкай нядолі.

Ты душу ўскалыхнуў мне, музыка-дудар,
Ты паклікаў мяне да змагання,

Аджывіў у грудзёх маладых маіх жар,
Запаліў ў маім сэрцы каханне.

Ты вярнуў мне вясновыя мары мае
Сваёй дзіўнаю, шчаснаю песняй,
І душа за табою аб шчасці пяе,
Нібы птушка ў палёх напрадвесні.

Развярнуў прада мной ты бязмежны абшар,
Асвяціў мае сумныя вочы,
Разагнаў чараду гэтых жудасных хмар,
Што заслалі мне сонцы, бы ўночы.

Ты залезныя краты турмы паламаў,
Растапіў крыгу лёду цяжкую.
Сваёй песняй душу мне да дна ўсхваляваў —
І забыці яе не магу я.

Гэту песню я чую наяве, у сне —
І на сэрцы так лёгка, прыемна…
Я складаю ў душы гімн каханню, вясне,
Да цябе лячу думкай таемнай…

Дык спявай жа, спявай, мой пясняр-чарадзей, —
Хай пра долю забуду цяжкую.
Кліч да шчасця мяне, кліч да жыцця грамчэй —
І з табою паўсюды пайду я.

*[1923]*

* * *

Калі пад нядоляй, пад гора цяжарам
Душа ўся палае нягаснучым жарам,
Якога ні сцюжы зімы, ні мяцелі,
Ні слёзы без ліку згасіць не здалелі;
Ў якім, як у горне, ўся крыўда згарэла,
І што было чорным — зрабілася бела,
Які асвятляе, як сонца дзянніцы,

Глыбокія процьмы, жыцця таямніцы,
Палае ды кліча душу да змагання
За шчасце, за долю, шле сонцу вітанне…
Дык ўсё гэта сведчыць, што дух не зламаны,
Што сілы глыбока у ім захаваны,
Што здольны к жыццю ён, што шчасця ён варты,
Калі так у цемры палае упарта.

*Сакавік 1924 г.*

## Каб я мела…

Калі б сэрца мела волю,
Кабы жыцце дала долю,
Калі б скрыдлы за плячыма,
Кабы далі прад вачыма,
Я б з пакорай не сядзела —
Ўдаль памкнулася бы смела…
Не хавала б твар у рукі,
Не глушыла б сэрца гукі.
Я б спявала шчасця песні,
Нібы птушка напрадвесні.
Я лунала б па-над морам,
Шапацела б з лесам-борам…
Пеставала б кветкі ў полі,
Шчыра цешачыся з волі.
Я б купалась ў косах сонца,
Я б смяялася бясконца…
А у цёплай летняй ночы —
Цалавала б зорак вочы…
У блакіце я б лунала…
І таго б было мне мала:
Ад знаёмых мне абшараў
Я ўзвілася б ў цемру хмараў,
Пачала бы гульні з імі,
Нібы з сябрамі сваімі…

Закруцілася б з віхурай,
Я б шалела разам з бурай…
А як сціхла б навальніца,
Перасталі б хмары біцца,
Я б, у сябры ўзяўшы зорку,
Пачала бы з ёй гаворку…
Шмат цікавага б пачула,
Покуль ночка б не мінула.
А як ўстала б толькі сонца —
Зноў пяяла бы бясконца…
Так, не ведаючы гора,
Я б лунала у прасторы,
Каб мне жыцце дала долю,
Калі б сэрца мела волю.

*14 сакавіка 1924 г.*

## Сакавіку

Сакавіку маё вітанне!
Хай крые снег усё дазвання,
Няхай пануе йшчэ зіма,
Хай завіруха круціць ўночы
І слепіць белым снегам вочы,
Няхай цяпла яшчэ няма;
Хай неба хмарамі пакрыта
І вецер вые так сярдзіта,
Нібы пагрозы шле вясне,
Нібы хаўтуры ёй спраўляе
І сцежкі снегам спавівае,
І дрэвы стыгнуць ў зімнім сне…
Але я страхам тым не веру —
Вясна адчыніць сабе дзверы
І сонца выгляне з-пад хмар;
І сакавік сваёй размовай
Прагоніць цяжкі сон зімовы

І аджывіць зямлі абшар.
Блакітам глянуць неба далі,
І ўсе, хто доўга так чакалі
Вясны жаданае прыход,
Свой злучаць голас з спевам волі,
З чароўным гімнам лепшай долі
І стопяць гэтым гімнам лёд!
Сакавіку мы шлем вітанне!
Зімы сярдзітае кананне
Не напалохае больш нас —
Яе мінуўся час і сіла,
Зіму чакае ўжо магіла,
І блізкі к нам вясновы час!

*[1925]*

# ГАННА БРЭСКАЯ

*1901 — пасля 1936*



Ганна Яфрэмаўна Аўсеенка (дзявочае прозвішча паэткі) нарадзілася ў 1901 г. (па іншых звестках у 1902) у маёнтку Зелькі Валынецкага раёна Полацкай акругі (цяпер вёска ў Верхнядзвінскім раёне) у сялянскай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымала, верагодна, у Дзісне. Працавала ў Дзісенскім павятовым аддзеле народнай адукацыі (1919–1921). У верасні 1920 г. пазнаёмілася з педагогам і мастаком, выпускніком віленскіх беларускіх курсаў Сямёнам Брэскім, разам з якім нейкі час (1921–1922) жыла ў вёсцы Фёдарава Каменскай воласці Лепельскага павета, дзе С. Брэскі працаваў настаўнікам. У 1922 г. Сямён і Ганна пераехалі ў Дрысу (цяпер — Верхнядзвінск), дзе зарэгістравалі шлюб.

З 1923 г. Г. Брэская жыла з мужам у Полацку, дзе пачала займацца творчай дзейнасцю. У сакавіку 1925 г. уступіла ў Полацкую філію «Маладняка». 14 лютага 1928 г. муж паэткі, на той момант — загадчык Полацкага краязнаўчага музея і настаўнік выяўленчага мастацтва, быў арыштаваны за распаўсюджванне антысавецкай паэмы «Третья» свайго сябра, паэта Аляксандра Сімакова (1896–1938) і сасланы ва Усходнюю Сібір. Ганна Брэская працягвала ў 1930-я гг. жыць у Полацку і, верагодна, працавала на адной з фабрык. Апошнія згадкі пра паэтку датуюцца 1936 годам і звязаныя з паўторным арыштам яе мужа.

Вершы публікавала з 1925 г. у часопісах «Беларуская работніца і сялянка», «Маладняк», газеце «Полоцкий пахарь» (пазней — «Чырвоная Полаччына»), літаратурных альманахах «Наддзьвіньне» (1926), «Росквіт» (1927), «Зарніцы» (1928).

У 2000 г. выйшла кніга паэзіі Г. Брэскай «Настурцыі», падборкі вершаў друкаваліся таксама ў газеце «Голас Радзімы», часопісах «Дзеяслоў», «Роднае слова», паэтычнай анталогіі «Краса і сіла» (2003).

**Літаратура**

Аркуш А. Ганна Брэская: новыя факты з біяграфіі паэткі / А. Аркуш // Белорусская литература и мировой процесс: Между-

нар. науч. сб. Вып. 1 / Отв. ред. А. А. Гугнин. — Новополоцк: УО «ПГУ», 2005.

Жук Н. В. Семен Бресский — педагог, художник, первый заведующий краеведческим музеем в Полоцке / Н. В. Жук // Віцебскія старажытнасці: Мат. навук. канф., прысв. 50-годдзю знаходкі берасцяной граматы ў Віцебску і 150-годдзю з дня нараджэння А. Р. Брадоўскага. Віцебск, 22–23 кастр. 2009 г. — Мінск: Медысонт, 2010.

Жыбуль В. Замужам за «антысавецкім агітатарам»: штрыхі да жыццяпісу Ганны Брэскай // Роднае слова. 2011. № 12.

## Сава

Крычы, крычы, сава…
У ночку чорнай восені
Ты енкам жудасці
Наводзіш страх.
Не маеш ты ў жыцці
Прытульнасці —
Ты мне сястра.

Ізноў сканае дзень,
Заціхне ўсё наўкол…
Ахрыпшым голасам
Ты абуджаеш страх.
У чорнай цемені
Ты бачыш шмат агнёў —
Ты мне сястра.

*1925, Полацк*

## Зімовае

Сані скрыпам прарэзалі снежную бель…
Эх, звініце, ліхія бубёны!..
Вецер посвістам смелым у сіняй імгле
Песціць стан завірухі шалёнай.

Вецер — стары буян горы-гурбы мяце,
Узнімае пуховыя хвалі…
Я хачу сёння знішчыць мінуўшчыны сцень,
Расквітацца з жаночай нядоляй.

Захаваўся ў глыбокіх снягох небасхіл,
А мне сняцца ружовыя далі…
Што зіма? Калі ў сэрцы цвітуць васількі,
Калі чарамі ноч захапляе?!

Мутна-белая ноч на мярэжнай канве
Парассыпала срэбную россып…
Ну чаго так галосяць палоззі саней,
Калі сэрца ад шчасця зайшлося?..

*[1926]*

## З каўказскіх напеваў

Белай шапкай калышацца хмель
Паміж гор, дзе бягуць раднікі.
Мае думкі аб новай вясне,
Ў маіх песнях ізноў васількі.

На хвіліну агорне журба,
Не журба, а жыццёвы надлом,
Што люблю сакаліны размах,
Што жадаю зімой васількоў.

Я жаданням дарыла простор,
Хай умруць на марскіх берагах.
Дзікім смехам рагоча прыбой,
Ў сініх хвалях радзілася рань.

Ў сініх хвалях радзілася рань —
Сонца косы палошча ў вадзе…
Дык чаго, дык аб чым сумаваць?
Не сягоння, дык заўтра мой дзень.

Не сягоння, дык заўтра ў душы
Празвініць рой разбуджаных слоў…
Не хачу ні аб чым варажыць,
Ні жалець, што ў гадах адцвіло…

Паміж гор, дзе бягуць раднікі,
Белай шапкай калышацца хмель.
Ў маіх думках цвітуць васількі,
Мае песні аб светлай вясне.

*1926, Каўказ, Чарнамор'е*

* * *

Не — восень на мяне не веяла журбой
І не хацелася стрымаць імпэт жыцця…
Я помню сэрца часты перабой
І шолах ласкавы прыбрэжнага трысця…
Не — восень на мяне не веяла журбой…

Гарэў на захадзе пунсовы небасхіл
І адляталі ў край далёкі журавы…
Няясным водгаласкам ціхае тугі
Вячэрні змрок мне радасць апавіў…
А ў край далёкі плылі журавы…

Так і гады… Ідуць, плывуць гады.
У маладосці з імі лёгка заблудзіць.
П'яней за опіум дурніць кахання дым,
Так люба захапляцца маладым,
І ў чадзе багнавым так лёгка заблудзіць…

Гады не ждуць, мяняюцца гады,
Зноў ўецца нада мной жывых імкненняў рой…
Ружовыя шляхі вясёлкамі ляглі
І неба край ярчэй, чым веснавыя дні…
Не — восень на мяне не веяла журбой.

*1926, Полацк*

* * *

Зялёны свет
        дарыла сонца бору.
Зялёны свет…
        А лісцям гоман слоў.
Сказала я —
        што ў сэрцы накіп гора,
што рвецца дум разблытаных вязьмо.
Сказала так…
        а песня звонам сталі,
пяшчотных струн кранула перабор.
І дзесьці сум згубіўся і растаяў,
як тае лёд пад праменем вясной.

*1927, Полацк*

## Над вазёрамі

Чуць хістаюцца сінія асокі,
Над вазёрамі дымная муць.
Паглядзі, як у небе высокім
Зоры золатам кросны снуюць.

А у далях сівыя асіны
Нечуваным акордам звіняць,
Б’юцца вёслы ў вадзе цёмна-сіняй,
Месяц бераг ласкава абняў.

Туманы шэры змрок разасланлі…
Змоўкла ўсё, нават вецер сціх…
Ціха к берагу човен прычаліў,
Золак раніцы ўсход асвяціў…

*[1927]*

## Настурцыі

I

У лахмоццях лістоў вецер туліцца,
Плача вуліца гулам калёс.
А на вогнішчы сочных настурцый
Паразлёгся брадзяга мароз.

І не шкода. Няхай упіваецца
Недацвёўшай апошняй красой.
Лепш загінуць пунсоваю раніцай,
Чым па кроплі губляць жыццё.

Я не знаю, чаго плача вуліца,
Што так вецер мінорам звініць.

…Было лета. Цвілі настурцыі,
Ды завялі ў імглістую стынь.

І мароз галаву сівалосую
На гарачых пялёстках пагрэў.

Калі жыць і не бачыць прыгожага,
Лепш прыгожа й раптоўна згарэць.

II

А сягоння ізноў
Чэрвень чары разліў
І настурцый кусты разгарэліся.
Мне здавалася сном
Гэта дзіўная быль,
Новым дням захацелася верыць мне.

На пялёсткі ў крыві
Чэрвень чары разліў,
Каб ізноў запылаць, зарумяніцца.
Каб даць поўную цвець

І прыгожа згарэць
У вабнімках пунсовае раніцы.

*[1927]*

* * *

*Прысвячаю Петрусю Броўку*

Шчасце горн,
а жыццё гэта кузня —
перазвоны, напевы і лязгі.
Эх Пятрусь!
сінявокі Пятрусь мой —
з простай песняй,
з душой нараспашку.

Так бывае,
што слова не знойдзеш,
калі шмат
чаго хочаш сказаць,
не накінеш на сэрца паводдзі,
калі б’ецца з жыццём неўпапад.

І калі часам
пуста і нудна,
я маўчу, пакуль згоіцца боль.
Не сасватаем буйную удаль
з чарнакрылай і лёгкай журбой.

А па-твойму —
ўсё проста і ясна:
шчасце горн,
а жыццё гэта кузня —
перазвоны, напевы і лязгі.
Эх Пятрусь!
сінявокі Пятрусь мой!

*[1927], Полацк*

## Чырвоны мак

Чырвоны мак
абвеянай галоўкай
ківае мне, як стары добры сябра…

Тых дзён няма —
пранесліся далёка,
іх не вярнуць
і ў песнях не абняць.

Я помню дні у сонечных запалах,
я помню дні у віхрах барацьбы…
І хоць цяпер пялёсткі пазрывала,
а не астыў юнацтва пыл.

Стаю адзін, а захад пунсавее
і вецер трэпле ў кудрах сівізну,
я знаю, што зімовыя завеі
прарочаць нам сусветную вясну.

Тых дзён няма…
Здаецца, так далёка
і маладосць не вернецца ізноў…
Чырвоны мак
ківае мне галоўкай
і сыпле зерне ў прэлы чарназём.

*[1928]*

## Ліпнёвае

Шэпчуцца кудлатыя
вербы ля мяжы.
Мы сягоння сваталі
сонечную шыр…

Звісла
сіняй
сеткаю
павуціны ніць…
Ой, збыліся светлыя
майго лета сны.

Песня ветлай ластаўкай
просіцца з грудзей.
Заквітнела радасць зноў
у ліпнёвы дзень.

Шэпчуцца кудлатыя
вербы ля мяжы…
Мы табе сасваталі
сонечную шыр…

*[1928]*

## Хочацца жыць

Распускаюцца крыллі,
хочацца жыць…
Песняй славіць
вясну маладую.
Што было,
што прайшло —
ты аб тым не кажы,
адшумеўшым
душы не хвалюй…
Помню чорныя ночы бяссоння:
стынь, імгла…
…Я адна…
Муж у піўной,
муж з другой.
У калысцы галодны дзіцёнак.

А на сэрцы —
тупы боль…
. . . . . . . . . . . .
А сягоння
чуць дзень спазарання
разбудзіў нас
фабрычны гудок.
Я стаю ля станка,
ўсё мацнее рука.
Шэпчуць пасы машын:
ты жыві,
ты пішы,
ты пішы,
Ты жыві!
Паўтараюць рамні:
Ты працуй!
Ты —
любі!
Распускаюцца крыллі,
наўперадзе шар…
Жыць!
І славіць вясну маладую…
Мы
ідзем,
мы расцем,
мы —
будуем!

*[1931]*

## АЎДАКЕЯ БЫК

*(1902–?)*

Аўдакея (Еўдакія Антонаўна) Бык нарадзілася 27 ліпеня 1902 г. у Барысаве ў сям'і чарнарабочага. У 1922–1926 гг. вучылася ў Барысаўскім педагагічным тэхнікуме. Паводле анкеты, першы верш напісала ў 1923 г. Пісала на беларускай і рускай мовах. Была сяброўкай Барысаўскай філіі «Маладняка» з красавіка да верасня 1925 г. Творы Аўдакеі Бык захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў фондзе Усебеларускага згуртавання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк».

**Крыніцы**

БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 31–37.

### Лютаўская рэвалюцыя

Сягоння святкуем вясёлае свята —
Звяржэнне тырана, звяржэнне цара.
Прайшоў восьмы год, як у нашай краіне
Ўзышла для нявольных свабоды зара.

Да часу ж таго, нават страшна і ўспомніць,
На фронце мільёнамі гінуў народ.
Там біўся працоўны з такім жа працоўным.
За што, за якое, для ч'іх жа прыгод?

Настала пара, што цярпець не змаглі;
Пакінулі фронт, не пайшлі ваяваць.
Салдаты й працоўныя разам спляліс,
Ды й дружна пайшлі багачоў руйнаваць.

«Не трэба вайны, а лепш дайце нам хлеба!
Ня будзем ўжо больш мы у роўных страляць!
За намі усе, бо крыві нам не трэба,
А трэба нам цара із трона сагнаць!

Скарэй жа ў паход — ў дэманстрацыю!
Хай роўнасць між ўсімі жыве!
Далоў ўсе разлады між нацыямі.
Жыццё хай другое прыдзе!»

Вось гэткі быў рух у Расеі.
Саўсім ўжо не тое мы бачым цяпер:
Збыліся герояў надзеі.
Дык крэпні ж ты, СССР!

*састаўл. 1925 г.*

## Прывітанне

*Састаўлена для дэкламацыі ў жаночае свята*
*(8 Сакавіка)*

Ад усіх слухачоў Тэхнікуму
Вітаю жанчын працаўніц!
Вітаю таксама камуну,
Якая дала ім карысць!

Бальшую карысць, бо жанчыны
Жыццё было горш удвайне.
Цяпер ж працаўніцы дзяўчыны
З хлапцамі стаяць нараўне.

Як звернеш увагу на горад —
Жанчыне там лепш стала жыць:
Усюды — на раду й на зборы
Шлях вольны, раздольны ляжыць.

Дзяўчынкам ёсць доступ усім
Хадзіць ў піянерскія клубы.
Магчыма займацца хоць чым —
Прымаюць у школы і ўсюды.

На вёсках — таксама — жанчынам
Адкрыта свабода і роўнасць,

Бо маюць магчымасць мужчынам
Прад’явіць сваю ўжо умоўнасць.

Дзяўчаты ужо зразумелі,
Што сілы дарэмна кладуць,
Не бачуць і свет за кудзеляй:
Прадуць ды прадуць, потым ткуць.

Цяпер жа яны так не мкнуцца,
К таму, каб больш трубак наткаць,
А мыслюць, каб ў краі тым цёмным
Усім навучыцца чытаць.

Дык звернем на гэта увагу —
К дзяўчатам на помач пайдзём:
Паможам сабраць ім пасагу
Ды ведай яе назавём.

Вясці агітацыю будзем,
Што роўнасць належыць да ўсіх.
Мы лозунг такі распаўсюдзім:
«Жанчына вальней ад усіх!»

Дык вось у апошняй прыпеўцы
Яшчэ раз жанчын я вітаю!
Вітаю ад шчырага сэрца
Й на помач ісці абяцаю!

*[1925]*

## Першае Мая

Азірніцесь кругом! Што за дзень?!
Гэта ж свята сусветнае — першае мая!
Першамайскае сонца спусціла прамень
Па ўсім свеце — ад краю да краю.

Мы сягоння святкуем вясёлае свята —
Аб’яднанне вялікай працоўнай сям’і.

Няхай кожнае сэрца і кожная хата
Перапоўніцца радасцю ў гэтыя дні!

Ў гэты час хай усе ўскалыхнуцца —
Паспяшаць стаць ў рады дэманстрацый.
І прамовы ракой хай пальюцца
Аб сусветным злучэнні ўсіх нацый.

Сказы войстрыя сэрцы хай рэжуць,
Узбуджаючы жаласць ва ўсіх
К тым героям, што ў турмах марнеюць, —
Пастараемся вызваліць іх!

Дарагія сябры! Ў гэты радасны час
Параднімцеся з цэлым мы светам.
Сябар сябра назавём: «Брат, сястра»!
Усе пойдзем за ўладу Саветаў!

Для таго параднімся, каб разам
Барацьбу было весці лягчэй
З гэтай цемрай, з нядоляй, з знявагай,
Што не зніклі яшчэ у людзей.

Хай нянавісць і злоба змяцецца,
Хай усе будуць роўныя людзі.
Свет свабоды ракой хай пальецца
І зіяе, як сонца паўсюды.

Нам вядома, што цяжка жылося
Ў старыну нашым продкам ў няволі.
Колькі многа крыві пралілося
Ў дасягненні і волі, і долі.

Дык звярнуўшы увагу на продкаў,
На учынкі вялікія, іх гераізм —
Мы палепшым жыццё для патомкаў.
Будзем жыць, як гласіць камунізм!

Стары свет — свет цямры — мы зніштожым.
Умірай, стары свет! Умірай! Умірай!
Жыцце новае скласці паможам!
Зацвятай жа, наш май! Ясны май, зацвятай!

*[1925]*

## Верш, ахвяраваны Янку Купалу ў дзень юбілею дваццацёхгадовай яго працы

Эй, праснецеся, хто спіць!
Годзе спаць, ўставайце!
Ці не чуеце той кліч,
Што гудзіць: «Змагайцесь!»

Гэты кліч гудзіць даўно,
Дваццаць год мінае;
Будаваць заве гняздо,
Кліча, не змаўкае.

Ў дні царызму, ў дні няволі,
Кліч магутны кінут быў
Ў край наш бедны, ў край нядолі.
Шмат карысці ён зрабіў.

Зычна гук яго раздаўся —
Сэрцы жалем абняло,
Й хто ніколі не змагаўся,
Стаў змагацца за адно.

Дык праснемцеся ж, хто спіць!
З шчырым прывітаннем
Ўсе звярнёмся к ПЕСНЯРУ
За яго змаганне!

Хай жа крэпне кліч яго —
Дух ва ўсіх падніме;
Хай заве усіх у бой,
Пакуль хмара згіне.

Хай «жалейка» і «гусляр»
Галасней зайграюць,
Пра свабодны, вольны край
Песні ўсім спяваюць.

*28 мая 1925 г.*

## АКІЛІНА МЯЛЕШКІНА

*1902–?*



Акіліна Цярэнцьеўна Мялешкіна нарадзілася 29 снежня 1902 г. у вёсцы Снегіры Ляднянскага раёна Аршанскай акругі (цяпер Дубровенскі раён Віцебскай вобласці) у шматдзетнай сялянскай сям'і. З 7–8 гадоў пачала працаваць на гаспадарцы. Нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, «мела моцныя мкненні да навукі»: закончыла школу 1-й ступені (1913), адукацыю працягвала ў вышэйшым пачатковым вучылішчы ў мястэчку Леніна (1915–1918), школе 2-й ступені ў Вольшы (1918–1920). Працавала настаўніцай у школе 1-й ступені (1920–1923), з-за хваробы была змушана перапыніць працу. Вучылася ў віцебскім Белпедтэхнікуме (1923–1927), пазней жыла ў Магілёве.

У 1924–1928 гг. Акіліна Мялешкіна была сябрам Віцебскай філіі «Маладняка», у 1926 г. выконвала абавязкі казначэя філіі. Пэўны час уваходзіла ў склад Цэнтральнага Бюро «Маладняка». Удзельнічала ў Магілёўскай філіі БелАППа (1928–1929). Вершы друкавала ў газеце «Заря Запада», калектыўным зборніку «Пачатак» (1926), альманаху «Раньне» (1929). Кіраўніцтва Віцебскай філіі характарызавала паэтку як «здольную, але без усялякай падрыхтоўкі і знання мовы».

**Літаратура**

Маракоў Л. Валеры Маракоў. Лёс, хроніка, кантэкст. Менск: Бел. кнігазбор, 1999. С. 13, 34, 60.

Мялешкіна А. Мая аўтобіяграфія // БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 17, арк. 36–37.

## Думкі

Ах, вы думкі,
ах, вы думкі,
разышліся з сэрцам вы.

Сэрца
б’еццa,
б’еццa,
дужа —
Думкі ж лётаюць ўвышы.
Сёння бура выла страшна,
страшней буры —
гэта ноч.
Я не хочу спаць так рана,
я не хочу бачыць ноч.
Я іду…
Хістае вецер
ліхтароў агністы бляск.
Гудкі свішчуць у паветры —
чорным
дымам
дыша
век.
А тут сэрца несціхана
енчыць,
стогнець…
Ой — баліць!
А жыццё — бы акіян:
То спакойна,
то кіпіць.

*[1926]*

## Вясна

Выплывае вясна на паветраных вёслах,
І душа не баліць ні аб чым.
Вецер радасць чароўную плёскае
На палі раскудлачаных ніў.

Сёння далі здаюцца мне іншымі,
І інакшым мой родны куток.

Нібы шоўкі паветру хтось бісерам вышыў
Й замест сонца — прамністы вянок.

Апранулася коўдраю пышнаю
Далячынь неабсяжная поля,
І лугоў па-над рэчкай абшары імшыстыя,
Дзе адзін толькі вецер сваволіць.

Сэрца бадзёрыш, юнацкі май,
Вабіш п’яняючай ласкай —
Толькі на час. Як яго ні трымай —
Горад заве ўсемагутнасці казкай.

*[1926]*

# НАЛЯ МАРКАВА

*1906–1994*



Анастасія Паўлаўна Маркава (у замужжы Хмара) нарадзілася 25 снежня 1906 г. у вёсцы Хатоўня Быхаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці). Бацькі займаліся земляробствам. Выхоўвалася ў рэлігійнай сям'і дзеда, ад якога змалку чула шмат апавяданняў пра розныя страхі і чарадзействы. Пачатковую школу закончыла ў Прапойску (цяпер Слаўгарад). Жыла там у цёткі. Потым вярнулася ў Хатоўню і вучылася ў школе 2-й ступені, неўзабаве пераўтворанай у сямігодку. Працягвала вучобу ў Рагачоўскім педтэхнікуме, у 1924 г. перавялася на 2-гі курс Магілёўскага педтэхнікума, які закончыла ў 1927 г. Працавала загадчыцай цэнтральнага піянерскага клуба пры Магілёўскім абкаме камсамола, выхавацелем у Магілёўскай дзіцячай камуне, а пасля пераезду ў Ленінград да мужа (1929) — выхавацелем дзіцячага сада пры заводзе «Электрык». У 1934 г. закончыла Ленінградскі педінстытут. Выкладала рускую мову і літаратуру ў Ваеннаартылерыйскім тэхнічным вучылішчы, загадвала тамсама агульнаадукацыйным цыклам. Напярэдадні вайны працавала дырэктарам інтэрната Куйбышаўскага раёна Ленінграда. У гады Другой сусветнай вайны разам з 200 выхаванцамі інтэрната эвакуявана ў Чалябінскую вобласць РСФСР. Пасля вяртання адтуль у 1944 г. працавала дырэктарам школ № 201, 84 і 38-й школы працоўнай моладзі Ленінграда. З 1952 г. настаўніца рускай мовы і літаратуры ў школе працоўнай моладзі № 35 Петраградскага раёна. З 1962 г. — на пенсіі. Узнагароджана медалямі.

Памерла ў 1994 г.

Паводле анкеты «Маладняка», Н. Маркава пачала пісаць вершы ў 1921 г. пад уплывам захаплення містычнай творчасцю С. Надсана, якая знаходзіла водклік у душы дзяўчыны, выхаванай у рэлігійнай атмасферы. Уступленне ў камсамол, знаёмства з творчасцю Дз. Беднага, М. Горкага, аб'яднанне маладых літаратурных сіл Беларусі ў арганізацыю «Маладняк» спрыялі напаўненню паэзіі Н. Маркавай грамадзянскімі і патрыятычнымі матывамі. У 1925 г. яна ўступіла ў Магілёўскую філію «Малад-

няка», удзельнічала ў працы І-га з’езда «Маладняка». Першы надрукаваны верш Н. Маркавай «У вёску» з’явіўся ў 1925 г. у газеце «Магілёўскі селянін». Друкавалася таксама ў часопісах «Маладняк», «Чырвоны сейбіт», «Полымя», газетах «Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», літаратурных зборніках «Дняпроўскія ўсплёскі» і «Ранне».

У часы маладосці Наля Маркава сябравала з вядомым паэтам Уладзімірам Дубоўкам, які прысвяціў ёй свой зборнік вершаў «Наля» (1927). Нашмат пазней, у 1970 г. паэты аднавілі адносіны праз перапіску. Пад уражаннем ад Дубоўкавай «Палескай рапсодыі» Н. Маркава напісала ў 1970-я гг. яшчэ некалькі вершаў (на рускай мове).

**Літаратура**

Багдановіч І. Э. Авангард і традыцыя: Бел. паэзія на хвалі нац. адраджэння. Мінск: Бел. навука, 2001. С. 310–316.

Маракоў Л. Наля Маркава: «Я ў сугучнасць сваіх песень заплятаю васількі…» // Голас Радзімы. 2000. № 2. 12 студз. С. 5.

* * *

Сінь васільковая.
        Далі іскрыстыя.
Цвецень кляновая.
        Рань прамяністая.
Шэрань і просіні
        ранню закованы,
ў прозалаць восені
        думкі заснованы.
Зноў пералівы
        пунсовага рання
восень гуллівую
        постаццю маняць.
Думкі увосень
        палошчуцца ў лісці,

радасці косы
праносяцца свістам.
Сёння былое
туляецца ценню,
ў чырвань адзеты
мае летуценні.
Дык чаму маўкліва
ружавеюць далі;
дык чаму на дзіва
зазвінеў мінор?
Маё сэрца кадзіць
пераззвонам мая.
Дык чаму у ранні
шчэ смуткуе гай?
Мо таму, што ў сэрцы —
чырвані кахання
завіліся смуткам,
смуткам у грудзёх?
Мо таму журбою
спавіліся далі,
мо таму і слёзы —
дробныя каралі?..
Мо таму і рання
васільковы вэлюм,
вэлюм васільковы
сцеле далавах?..
Ой, нашто так раптам
хваляваць парою,
хваляваць парою
думак сіні бор?
Жменяй лепш рассыпаць
водблеск васільковы,
васільковы водблеск
іскаркамі зор!
Сінь васільковая.
Далі іскрыстыя.

Цвецень кляновая.
        Рань прамяністая.
Далі маўклівыя
        ў росквітах радасці,
сэрца сагрэтае
        думкі спагадаю.

*[1926]*

* * *

Сіні зялёнай вясны
        ў косах гуллівыя думкі:
Ўсё летуценні ды сны,
        сіні зялёнай вясны.
Ў просіні з думак саткана
        коўдраю радасць ў рады.
Золак у чырвані ранак,
        ў просіні з думак саткана.
Ў цёмным бары пералівы,
        спевы зязюлі «ку-ку».
Ціха хвалююцца нівы,
        ў цёмным бары пералівы.
Сэрца і думкі не ладзяць —
        вецер шапоча ў лістох.
Голля сумуюць у садзе,
        сэрца і думкі не ладзяць.
Сэрца парой загавора
        млявасцю ліпкай у жылах.
Сэрца ў размаху матора,
        сэрца парой загавора…
Падымуцца сцягі кахання.
        А думкі… о, думкі мае!..
Золак жартуе пад ранне,
        падымуцца сцягі кахання.

Сэрца і думкі не ладзяць,
        вецер шапоча ў лістох.
Голля сумуюць у садзе,
        сэрца і думкі не ладзяць.

*[1926]*

## Ціха…

Ціха…
        жаль
        пагардай вострай
        сэрца рытмы
                затрымаў.
Ціха…
        ў далях
        снуе кросны
        белакрылая
                зіма.
Ціха…
        ў гаі
        чарнабровым
        так смуткуюць
                верхавінні.
Ціха…
        ў суме
        палыновым
        маё сэрца
                не астыне.
Ціха…
        так…
        і сум бярозы —
        беларосны снег.
Ціха…
        штосьц
        ліюцца слёзы —

          то не скарга,
                    не!
Ціха…
          сінь
          і бэлы вэлюм —
          бела-сіні снег.
Ціха…
          жаль
          пагардай сцеле
          ў радасцях
                    на дне.
Ціха…
          вецер
          пры дарозе
          пахіліў
                    каліну.
Ціха…
          рдзее
          вербалоззе,
          рдзее
                    пуцявіна.
Ціха…
          ціха…
          ой, кахаю
          свет прывольны,
                    любы!
Ціха…
          ціха…
          каля гаю
          знова
                    прыгалубіць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маё сэрца не астыне
ў смутку палыновым,

бо іду я пуцявінай,
пуцявінай новай!

*[1926]*

## Адна

Варажыла сёння,
варажыла ўчора,
ў цёмна-сіні вечар
пад вярбой,
Наліліся думкі
ціхім перакорам,
а у сэрцы радасць
ўспыхвала парой.
Сумавалі вербы,
усміхаліся далі,
шапацелі лісця
верхавін,
Думкі у маркоце
радасцю палалі,
рассыпалі радасць
ў цвет калін.
Паджыдала друга
у тэй сіні вечар,
сэрца загадала
варажыць.
Месячык таксама
варажыў аб нечым,
супыняў свой погляд
на мяжы.
І з усмешкай горкай
паглядзела ў далі,
не дастала вокам
сіні дна.

Струны ціха, ціха
　　　на мінор спявалі,
　　　паглядзела — пуста…
　　　Зноў адна.

*[1927]*

## Аб кучаравай Беларусі

Ляцеце, дні!..
Палайце, далі
Ў густой ружовасці
Жыцця…
Я песні —
Срэбныя каралі —
Заўю ў чырвоны
Сцяг.

Ляцеце, дні,
Хутчэй — і ночы…
Далячыні
Гараць агні…
А лес
Кудравісты рагоча
У просінь дней.

Гараць агні…
У вырай, мусіць,
Матораў
Завілася ніць —
Сталёвы гуд
Чырвонай
Беларусі…
А лес шуміць.

Хвіліны, дні —
Прыволля гусі,
Ляцеце гужам…

Далячынь
Аб кучаравай Беларусі
Матораў песняй
Прагучыць.

*[1927]*

## Усё новыя, новыя дні…

Усё новыя,
новыя дні,
і на сэрцы
ўсё новыя раны.
Ў вочы вечару,
любы, зірні
і схавайся
ў бялявым тумане.
Ў аксамітную
ноч ля вакна
застануся
адна варажыці:
…«Любіць, любіць…
ой, не»…
Давідна
мае думкі
хвалююцца жытам.
Усё новыя,
новыя дні
і ўсё новыя,
новыя людзі.
Толькі гай
мінулым звініць
ды альха
жаўтацвеценню нудзіць.
Усё новыя,
новыя дні

усміхаюцца
ў белым тумане.
Знаю. Трэба
адно бараніць —
Тэй Маяк,
што стаіць на кургане,
бараніць…
пакуль сыпяцца
словы,
пакуль радасцю
песня звініць.
Толькі хочацца
ў подыху новым
пражыць усе нанава дні!

*[1927]*

* * *

Восенню мігаюць
Вочы.
Золатам звіняць
Лісты.
Прыхадзі варажыць
Ля рошчы,
Калі жар у грудзёх
Не астыў.
Прыхадзі… Шапацяць
Лістамі
Залатыя, юнацкія
Дні.
Прыхадзі, пакуль золак
Над намі
У пунсовасці красак
Не знік.

Пылам плюецца
Дарога…
Прыхадзі на узмежжа,
Прыдзі…
Чуеш раскацісты
Рогат
Пляску жыццёвых
Гадзін?
Прыхадзі…
Прыхадзі…

*8 верасня 1927 г.*

* * *

Ружавеюць маладосці
дні.
Дыяментамі мігаюць
ночы.
Ну, аб чым сягоння
гаманіць,
Калі вербы ў запале
рагочуць?..
Ну, аб чым?.. Ці сягоння
нялюба
Зліцца з шэптамі іх
верхавіння?..
Мяне вецер ў палёх
прыгалубіць,
Кволы сум маладосці
раскіне.
І зязюля ў дуброве
кувае.
Сыплюцца зернямі
дні.

Зразумееш ты ўсё,
дарагая,
Толькі ў сінія вочы
зірні…
Зразумееш…
пачуеш гукі,
Што мінорам абвеялі
дні.
Дай мне рукі у рукі
ды у вочы зірні,
зірні.
Закалышуцца думкі
роем,
І на сэрцы лягчэй,
лягчэй.
Заблішчыць перламутнай
расою
Сіняя пожня
вачэй…

*1928*

## У сэрцы аганькі…

…Навокал — лес і белыя паляны,
застыгла ў занізі сярэбраная ноч…
А ў сэрцы — мітульга
мяцеліцаю п’янай,
А ў сэрцы — аганькі
смуглявых воч…

Увысь глядзіцца сумная дарога,
І гай заводзіць патаемны вой,
і на палёх — віхураў
буйны рогат…
Я думаю, чарнявы:
што з табой?..

Ці на дарогу выйду — толькі вецер
          спагадаю пяе ля гаю…
І расплялiся думкі
          доўгім вецщем,
і нехта сэрца
          ціха супыняе…

Калі цягнік за гаем закрычыць,
трывожным гукам закалыша далі,
я усміхаюся,
          а далячынь
сціскае сэрца
          жалем…

Увысь глядзіцца нудная дарога
і гай заводзе патаемны вой,
і за вакном — віхураў
          буйны рогат…
Я думаю, чарнявы:
          што з табой?..

*20 снежня 1927 г.*

* * *

Сціхае дождж.
У сэрцы сціхла роспач.
Гадзіны б'юць
Ў працяг начы.
Адзванівае восень рошча,
У золата лістоў
Сава крычыць…

———

Сціхае дождж
У звоне жаўталісця.
Мне сніцца ў туманох Нява…
Гадзіны сыпяцца

Васеннім лісцем.
У нізку дней
Схілілась галава.

———

Сціхае дождж.
У роднай Беларусі
Гадзіны б’юць
Ў прасцяг
Агністых дней.
На север думкамі імкнуся,
А ў сэрцы —
Беларусь радней!

*22 верасня 1928 г.*

## Знікае снег

Ў душы павольна, ціха.
Лагчыны чорныя,
І чорныя палі.
І толькі вечарам
Ўзвіхрыцца віхар —
Пяе, лявоніць
Ля калін.

Знікае снег.
І ў сэрцы смутак вяне
І водарам вясны
П’яніць у жылах кроў.
— Ў апошні раз
Прыдзі у ранні,
Каб сэрца чула
Ласку зноў.

Знікае снег.
І ў сэрцы б’ецца радасць,
І радасць птушкамі

Віецца на раллі.
— «Скажы, таварыш,
Мне свой адрас,
Ці ліст прышлі».

Знікае снег.
Пяе калёсамі дарога.
— «Скажы, шагаеш
Ты куды?..»
У далячыні
Аружжа рогат…
«Спяшаюся ў казармы…
У рады…»

Знікае снег.
А гукі песні звонкай
Так казлытаюць
Струны мар:
— «Мы конніца Будзённага
Рабочых і сялян»…

*[1929]*

# ІДА ЧЫРВАНЬ

*1906/1907–1941*



Іда Чырвань (Зінаіда Гервасьеўна Кобрык) нарадзілася ў 1906 г. (паводле слоў сваякоў — у 1907 г.) у Магілёве (прадмесце Лупалава). Бацька быў паштова-тэлеграфным чыноўнікам, маці — швачкай.

Дзякуючы багатай бацькоўскай бібліятэцы Зінаіда Кобрык з дзяцінства шмат чытала, расла цікаўнай і прагнай да ведаў дзяўчынкай. Пасля заканчэння школы вучылася на Магілёўскіх агульнаадукацыйных курсах (1924–1925). У сакавіку 1925 г. была залічана кандыдатам у сябры Магілёўскай філіі «Маладняка», але неўзабаве пераехала ў Слуцк, дзе на той час служыў яе бацька. Там 2 жніўня 1925 г. стала сябрам Слуцкай філіі «Маладняка».

У верасні 1925 г. у Слуцку пазнаёмілася з вядомым празаікам Кузьмой Чорным, за якога выйшла замуж, і 13 кастрычніка пераехала разам з ім у Менск, аднак шлюб быў нядоўгім. Вярнуўшыся ў студзені 1926 г. у Магілёў, Іда Чырвань зноў далучылася да мясцовай філіі «Маладняка».

Пры канцы 1920-х гг. разам з другім мужам Іванам Цяўлоўскім жыла ў вёсцы Чырвоная Лужа (Польшча), дзе ў іх нарадзіўся сын Віталь (1928–2013?) — будучы міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі. У 1930-х гг. працавала выкладчыцай англійскай мовы, перакладчыцай. Перад Вялікай Айчыннай вайной жыла ў Брэсце. У чэрвені 1941 г. разам з маці і сынам паехала на курорт у Мінеральныя Воды (Стаўрапальскі край, Расія), дзе памерла ад сардэчнага прыступу праз некалькі дзён пасля пачатку вайны.

Паводле ўласнага прызнання, пісаць Іда Чырвань пачала ў 1924 г. «з маленькіх лірычных вершаў на расейскай мове». Вершы друкаваліся ў газетах «Вясковы будаўнік» (г. Слуцк), «Беларуская вёска», калектыўным зборніку «Слуцкія песняры» (1926).

**Літаратура**

Васілеўскі Ю. Іда Чырвань // Наша Ніва. 1994. № 2 (люты).

Жыбуль В. «Закахалася гораду шумам...»: Штрыхі да біяграфіі Іды Чырвань // Роднае слова. 2016. № 10. С. 6–10.

Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх // Пушча Я. Збор твораў. У 2 т. Вершы. Паэмы. Пераклады. Крытычныя артыкулы 1930–1963. Мінск: Маст. літ., 1994. Т. 2. С. 382–387.

## Маладняку

Творчасці напрамкі —
Пах з заводаў гары.
Маладняцкі рамкі —
Молата удары.

Сонца на заводзе
К працы хай прывыкне;
Бліскацяць праменні
Лепшай долі жыцця.

Беларускі маладняк,
Пой[1] змагання песню,
Будуй новы, моцны шлях,
Табе ў старым цесна!

Старое зруйнуйце —
Яму з шляху йсці.
Мы сваё будуем,
Мы паперадзе.

Маладняцкі крокі
К сонцу ўраз — ды прытка!
Наш размах шырокі,
Ў сэрцы — хвалі рэчкі.

---

[1] Русіцызм: Ад беларускага — сьпявай. (Заўвага рэд. газ. «Вясковы будаўнік».)

Разыдзіся ж ў даль,
Сонца, песні пой!
Прэч ад працы жаль,
Маладняк, не стой!

*[1925]*

## Жытнёвы прастор

Выйду ў поле, дзе жыта-калоссе,
акунуся ў яго я прастор.
Тут песню пачуць давялося
на новы суладжаны строй.

У полі жытнёвую слухаць бы казку,
шапацяць што у сінь каласы,
і глядзець бы на пышныя краскі…
Птушкі пяюць ды на ўсе галасы.

Як іду у жытнёвым прасторы,
ап’яняюся ветрам лясным.
Дзе ні глянеш — ўсё неба ды поле,
каласы, каласы, каласы!..

*[1925]*

## Закахалася…

Закахалася бурай, грымотай,
што бліскоча і б’е перуном.
Закахалася сонцам, асокай,
працай вольнай, яе песняром.

Закахалася вёскі саломай,
каласамі ячменю, аўса.
Прывітанне ім шлю я з паклонам:
ў шапаценні я іхнім расла.

Закахалася гораду шумам,
яго хваляй жыцця — таўхатнёй.
Захапляе мяне гэты гоман,
акунуся ў яго з галавой.

Закахалася светам ад сонца,
зіхаценнем праменняў ад зор.
Сэрца поўна каханнем бясконцым —
і складаюцца песні ў узор!

*[1925]*

# НАТАЛЛЯ ВІШНЕЎСКАЯ

*1907–1989*



Наталля Вячаславаўна Вішнеўская нарадзілася 3 траўня 1907 г. у Коўне ў сям'і настаўнікаў. Падчас Першай сусветнай вайны жыла з бацькамі ў эвакуацыі ў Самарскай губерні. Пасля грамадзянскай вайны Вішнеўскія вярнуліся ў Беларусь, жылі на Случчыне. Тады, у 1922 г., Наталля і пачала пісаць вершы. Уплыў на фарміраванне паэткі зрабіў Я. Колас, які звязаў яе з «Маладняком» і дапамог стаць студэнткай мінскага Белпедтэхнікума (1924). Далучыўшыся да літаратурнага жыцця, Н. Вішнеўская ўдзельнічала ў 1-м з'ездзе «Маладняка» (1925).

У 1928 г., на апошнім курсе вучобы, узяла шлюб з паэтам Алесем Дударом, з якім пазнаёмілася ў «Маладняку». Неўзабаве мужа арыштавалі і выслалі ў Смаленск. Паступіла ў БДУ (1929), аднак на працягу года творы Н. Вішнеўскай не друкаваліся, яна не магла знайсці працы, часам галадала. У 1930 г. «Маладняк» і «Савецкая Беларусь» зноў пачалі друкаваць творы паэткі, але ў сувязі з узбуджэннем новай справы на А. Дудара і новымі допытамі яна шукае паратунку ў Маскве (1930). Тут працавала ў беларускай секцыі Дзяржвыдавецтва народаў СССР. Пасля яе ліквідацыі перайшла ў газету «Гудок», рэдагавала беларускую старонку. Там пазнаёмілася са сваім другім мужам Алесем Звонакам. У 1934 г. вярнулася ў Мінск. У 1936 па справах А. Дудара і А. Звонака зноў выклікалася на допыты. Арышту пазбегла, разам з маці падалася на Украіну, потым у Ленінград (1938), дзе выйшла замуж трэці раз за беларускага паэта Янку Бобрыка. Да вайны загадвала бібліятэкай РК ВКП(б). У 1942 г., перажыўшы першую блакадную зіму, эвакуавалася з дзіцячым домам у Горкаўскую вобласць. У 1945 г. вярнулася ў Ленінград, працавала ў бібліятэцы Стаматалагічнага інстытута. Выгадавала двух дзетдомаўскіх хлопцаў (абодва сталі капітанамі далёкага плавання). З 1962 г. на пенсіі.

Памерла 1 траўня 1989 г.

Паводле анкеты, якая захоўваецца ў БДАМЛМ, пісаць вершы Н. Вішнеўская пачала ў 1922 г. Першыя публікацыі з'явіліся

ў 1926 г., калі разам з З. Бандарынай і Я. Пфляўмбаўм яна выдала супольны зборнік «Вершы». Друкавалася таксама ў часопісах «Маладняк», «Чырвоны сейбіт», газеце «Савецкая Беларусь» і літаратурным дадатку да яе.

Пасля 1930 г. літаратурнай дзейнасцю не займалася. Вяла ліставанне з Сяргеем Грахоўскім. Эпісталярная спадчына перыяду 1970–1980 гг. была апублікаваная Леанідам Мараковым у газеце «Голас Радзімы».

**Літаратура**

Багдановіч І. Э. Авангард і традыцыя: Бел. паэзія на хвалі нац. адраджэння. Мінск: Бел. навука, 2001. С. 307–310.

Жыбуль В. Прашумелае шчасце Наталлі Вішнеўскай // Роднае слова. 2007. № 5.

Маракоў Л. Тры замужжы Наталлі Вішнеўскай // Голас Радзімы. 1999. 10–17 чэрв.

## Да Дня жанчыны

Гэй, ляці, мая першая песня,
У кужэльную, шэрую вёску.
Гэй, туды, дзе у хаце курнай
Тчэ жанчына схіліўшыся кросны!

Ды напомні, што час падняволля
Знік у тхляні шэра-туманнай,
Што праменнямі новае сонца
Напрадвесні ёй ззяе загнанай…

Што у цемры мінуўшчыны шэрай
Адышла жнейка вечна прыгонная,
І на месцы яе ў ззянні новым жыцця
Ўстала сонца свабодных загонаў.

Ўжо ад хатніх турбот векавечных,
Ад жніва, ад калыскі дзіцяці
Яе клічуць у сабе усяўладна —
Яе кліча вялікая праца,

Што на росквіце дзён светазорная
З віру бур, завірух, навальніцаў
Яна ўстала магутная, смелая,
Яснай долі сваёй будаўніца.

Дык ляці, мая першая песня,
У кужэльную, шэрую вёску.
Гэй, туды, дзе ў гарачае лета
Вецер спелым гуляе калоссем.

*Сакавік 1925 г.*

## Ціха навокала…

Ціха навокала. Ночка вясновая,
Нібы дзяўчына да хлопца вясёлага,
Нікне да шэрых грудзей камяніц,
Туліцца ў бляску вясёлым зарніц.

Вецер сарваўшыся ймкнецца маланкай,
Стукне у вокны, у шыльды буяна,
Быццам юнак развясёлы вальсуе,
З ліпай кудлатай гуляе-жартуе.

Неба таемна глядзіць мнагавокае,
Зоры мігцяць, мітусяцца высока так…
Рынецца з неба адна з іх, другая,
Глянуць іскрыста — і ў цемры знікаюць…

*Красавік 1925 г.*

## Помню

Помню, калісьці ў зялёным бары,
Чуць завілася лісце дубоў,
Пад чароўныя спевы вясны
Мы сышліся з табой.

Ў нашых сэрцах цвіла, як навокал, вясна —
Ў сэрцах, поўных надзеі бурлівай…
А вакол калыхалася ў красках трава
Пад спеў ветру бадзёра-гуллівы.

Нам завілі квяцісты вянок
Мары з чырвані кветак кахання,
І, калі спавіліся абшары у змрок,
Сэрцы біліся ў шчасці спаткання…

Але… Дні прайшлі, і тужлівая восень
Задыміла ў даліне туманам.
Новы спеў прazвінеў сугалоссем —
І была я у полі адна…

І калі памярцвелае лісце
Страсянуў вецер з чорных галін,
Сэрца ў смутку забілася ціха,
Бо нялёгка яго загаіць.

*20 кастрычніка 1925 г.*

## Ноч

Не шапоча над рэчкай чарот
Ў лёгкім подыху кволых дрымот…
Хвалі сіняй ракі
Спавілі берагі —
Спяць…

Явар стан пахіліў над ракой,
Ледзь ваду закрануў галіной,
У вясковай красе,
Ў брыльянцістай расе
Задрамаў…

Месяц вынырнуў з хмар залатых,
Зазірнуў у люстэрка вады,
Заблукаў у кустох,
Ў маладзенькіх лістох
Загуляў…

Раптам ветрык узняўся наўсцяж,
Зашасцеў у карунках лісця,
Кроплі ясныя рос —
Дыяментавых слёз
Паскідаў…

Зашумеў ціха, ціха лазняк,
І дубняк свой голас узняў,
Усё сціхла ізноў…
Сон над чорнай зямлёй
Панаваў…

*[1926]*

## Завіхрылі

Завіхрылі, завіхрылі
Віхры ў полі, ў чыстым полі,
Завіхрылі ў чыстым полі,
На разложыстым прыволлі,

Зацягнуўшы сінь нябёсаў,
Неба ў хмары убралося,
Неба ў хмары убралося,
Шэрым смуткам завілося.

Верхалістыя бярозы
Паскідалі долу слёзы,
Паскідалі долу слёзы —
Буйна іскрыстыя росы.

І, абтрэсшы ўбор зялёны,
Завіліся ў чырвань скроні,
Завіліся ў чырвань скроні,
Паабтрэсшы ўбор зялёны.

На балоце ў шэрай далі
Рассыпаліся каралі,
Рассыпаліся каралі
Журавін у мшыстай далі.

Журавы у неба белі
Ў край далёкі адляцелі,
Ў край далёкі адляцелі
Журавы ў імглістай белі.

Веюць віхры ў чыстым полі,
Ў чыстым полі на прыволлі,
Веюць віхры на прыволлі,
Апавіўшы смуткам поле.

*1926*

* * *

Варажыла сэрца, варажыла ў ростань —
Будзе любы, будзе доўгаждань госцем.

Прыйдзе любы ўвосень… Жоўтыя пракосы…
Зноў рассыпле з смехам залатыя косы.

Зазірне у вочы, ласкава прыгорне;
Заспяваю песню, што спявала ўчора:

«Ой ля саду, саду сеяла рассаду,
Слязьмі палівала, цябе паджыдала…

Над ракой каліну гнулі ветры долу…
Дзе ж ты, мая радасць, дзе ты, мая доля?»

Пунсавеюць вусны, паланеюць вочы…
Песня мая плакаць, галасіць не хоча.

Любы зноў вярнецца, радасць твар ажывіць.
Варажыла сэрца… Толькі варажыла…

*15 жніўня 1926 г.*

* * *

Плакала дзяўчына… Сыпаліся слёзы,
Ручаінай беглі пацямнелым долам,
Абмывалі ногі белае бярозы,
Зіхацелі росна… зіхацелі полем.

Плакала дзяўчына па вясновым цветні,
Па усмешцы яснай пурпуровых вуснаў.
Зацвітала шчасце ды ружовым цветам,
Зацвітала шчасце ды гарачым пунсам.

Плакала дзяўчына… і бліжэй тулілась
Ссірацелым станам да грудзей асіны.
Ім абодвум шчасце так нядаўна снілась —
Чэрвень і каханне… нікнуць сіраціны.

Толькі ветры трэплюць косы залатыя,
Што пакорна звіслі у тузе бязмоўнай.
Ой вы песні, песні — думы дарагія,
Запалеце стоны у грудзёх агнём вы!

Хай палын агорклы зашасціць мяжою,
Бор заплача слёзна над пустым прыволлем…

Ой, пайду туманам, ой, пайду імжою,
Хай зацiхне ў сэрцы несуцiшны боль.

Завіюцца сцежкі дзеразой завілай,
Цьмяныя пуціны лягуць праз Палессе.
Над курганам сонным, над крыжом пахілым
Загалосяць спевы, бо ў грудзёх ім цесна.

«Ой ля возера, ля крыніцы
Брала ягады-брусніцы,
Не расою — слязьмі палівала,
Ой да свет-зары любага чакала».

*[1926]*

* * *

Цешацца мяцелі рогатам і свістам,
Абуджаюць белы, ціхадумны гай…
Ой куды, чаго ты страсянуўся лістам,
Пачакай!..

Так галосяць ветры над пустым прыволлем,
Пад нагамі сцежка — гурбы, буралом.
Не спяшайся, браце, над тваёю доляй
Ноччу непагоднай завілі залом.

Не спяшайся, браце, вецер буравейны
З рогатам загасіць у вачох агні.
Не палі задарма паходні надзеі,
Не задарма веі сцежкі замялі.

Смоль кудрэй развеецца…
З чорных стануць сівымі…
Ў музыцы мяцеліц
Задрыжыш асінаю.

Будзеш праклінаці сівыя завеі,
Буралом, і гурбы, і здзічэлы гай…

Не спяшайся, браце, даль заружавее,
Пачакай!..

*2 лютага 1927 г.*

* * *

У прасторах снежна-белых
Сцюжы, веі і зіма…
Паміж варты верб ссівелых
Добра несціся ў санях.

Лёгкі бег, у твар сняжынкі,
Шлях наперад, далей, далей.
Разліваюцца шамкі
Звонам ў далечы крыштальнай.

Месяц дорыць долу бляскі;
Там, улева, бор чарнее.
Па выбоінам, ух! траска…
Ветры ў полі, ветры веюць.

Дражніць далі яркай беллю.
Ў небе зоры, ў полі зоры.
Зразумей, ці неба поле,
Ці на полі неба ўзоры.

Конь захроп… Ша, воўча зграя,
Ці мо, голле шарахціць,
Ці то баюць сосны-баі,
Баравыя таямніцы?..

Не згадаю… Эх, ды што там,
Шлях шырокі, коні ймчаць.
Ну ж, падужай, вольны ветру,
Пару чорных перагнаць?!

Коні, ветры… Поле, поле,
Шлях наперад, вольны шлях…

Белым звеяным прыволлем
Добра несціся ў санях!

*16 лютага 1927 г.*

## Ты сказаў…

Ты сказаў мне — роўна ў дзесяць
Да цябе прыйду, —
Хай жа ветры апавесцяць
Лёгкую хаду.

Хай жа ветры нагадаюць
Твой далёкі крок…
Я з надзеяй і з адчаем
Выйду за парог.

Пагляджу на пуцявіну:
Шлях стары далёк.
Так трывожна б'юць гадзіны…
Паланее зрок…

Вее даль… палын і мята
Ды сівы туман…
Прашумі мне вецер, братка,
Любае імя!..

Выйду, гляну… ў хмарах месяц,
Навакол імгла…
Ты сказаў мне — роўна ў дзесяць,
А чаму ж няма?..

*Лістапад 1927 г.*

## АЛЕСЯ НОВІК

*1907–?*

Алеся (Аляксандра Язэпаўна) Новік нарадзілася ў 1907 г. у сялянскай сям'і. У 1925–1926 гг. уваходзіла ў лік студыйцаў Барысаўскай філіі «Маладняка», друкавалася ў адзіным нумары часопіса «Маладняк Барысаўшчыны» (1926). Дадатковых біяграфічных звестак не выяўлена.

**Літаратура**

Сьпіс асабовага складу Барысаўскай філіі на 1–X–25 г. // БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 15.

Пацюпа Ю. Першыя паэткі Савецкае Беларусі // Саламея. 2001. № 11. С. I.

* * *

Зажаўцела жытцо маладое,
Васількі ў ім амаль адцвілі,
Над ім жаўранак з песнямі ўецца,
Стрэлкі скокі спраўляюць над ім.

Аб траву з каласамі сярпочак
Так вясёла прыемна скрыпіць,
Я зразаю сярпом каласочкі —
Кладу, стаўлю ў парадак снапы.

Зверху сонца вагністае смале
Спіну, чорныя рукі і твар…
Над зямлёй лёгкі ветрык гуляе,
Асвяжаючы потны мой стан.

Ад світання стаю і да вечара,
Разгінаю, згінаю спіну.
І знямогі дакучную прыкрасць
Залацістым калоссем ганю.

А як сонца схаваецца ў лесе,
Я складаю у копы снапы,
Быстракрылая песня жніўная
Над палямі нясецца тады.

Туманы над зямлёю садзяцца,
Як бы з лесу выходзяць яны.
На балоце драч песню заводзе,
Дае знаць аб пачатку начы.

Дае знаць, што дзень скончыўся палкі,
Наступілі спачыну часы.
К працы цяжкай вясёлай назаўтра
З новай сілай адважна ісці.

*[1926]*

## ЯЎГЕНІЯ ПФЛЯЎМБАЎМ

*1908–1996*



Нарадзілася 1 лістапада 1908 г. у сям'і чыгуначніка Эргарда Карлавіча Пфляўмбаўма (з ліку немцаў, запрошаных у свой час для працы на чыгунцы) і хатняй гаспадыні Алены Кандратаўны Лагун родам з вёскі Сеніца. У 1923 годзе скончыла ў Мінску сярэднюю школу, вучылася ў педагагічным тэхнікуме. У 1926 годзе паступіла на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыла ў 1930 годзе.

Прымала актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці, была членам «Маладняка», БелАППа, уваходзіла ў іх кіруючыя органы. Працавала бібліёграфам Кніжнай палаты пры Дзяржаўнай бібліятэцы БССР (1930–1932), літсупрацоўнікам рэспубліканскай газеты «Звязда». 10 сакавіка 1933 года быў без віны асуджаны і на два гады пазбаўлены волі яе муж, беларускі паэт Максім Лужанін, у тым жа годзе Я. Пфляўмбаўм выехала за ім у Сібір. У г. Марыінску Кемераўскай вобласці, дзе М. Лужанін адбываў пакаранне, уладкавалася на працу настаўніцай. Выкладала рускую мову і літаратуру адначасова ў дзвюх сярэдніх школах, гарадской і сельскай. Пасля заканчэння тэрміну пакарання мужа, у 1935 годзе яны пакінулі Марыінск і прыехалі ў Маскву да бацькоў Я. Пфляўмбаўм.

У 1935–1945 гадах працавала карэктарам, а потым рэдактарам Абароннага дзяржаўнага выдавецтва ў Маскве («Оборонгиз»). Падчас Вялікай Айчыннай вайны была байцом супрацьпаветранай абароны Масквы. З 1945 года жыла ў Мінску, у 1964 г. выйшла на пенсію.

Памерла 13 студзеня 1996 г. Пахавана на могілках вёскі Паперня ў Мінскім раёне.

Першы верш Я. Пфляўмбаўм «Пялёсткі восені» быў надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1925 г. Разам з З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай стала аўтарам калектыўнай кнігі «Вершы». У 1929–1930 гг. падрыхтавала і здала ў выдавецтва зборнік вершаў «Мелодыі», аднак ён не ўбачыў свет. Вершы Я. Пфляўмбаўм з'яўляліся ў друку да пачатку трыццатых гадоў,

потым быў перыяд працяглага маўчання. Вяртанне да актыўнай творчай дзейнасці адбылося толькі ў 80-я гады. Выйшлі кнігі «Сувой жыцця» (1989), «На захадзе сонца» (1992). Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1989 года. Перакладала з рускай і ўкраінскай моў.

**Літаратура**

«Всегда же со мною твой образ…»: переписка Максима Лужанина и Евгении Пфляумбаум / подг. к печати и перев. с бел. письма, отмеченные звездочкой, Т. Куварина; [автор предисл. М. Лис] // Неман. 2011. № 6. С. 158–189; № 7. С. 139–171.

Вярцінскі А. Сонца весняе, сонца зімовае: Пра маці, лёс і паэзію Яўгеніі Пфляўмбаум // Роднае слова. 1998. № 5. С. 26–36.

Лис М. М. Штрихи к портрету Е. Э. Пфляумбаум (по материалам фонда ЦНБ НАН Беларуси) // Библиотеки национальных академий наук: проблемы функционирования, тенденции развития. 2012. Вып. 10. С. 333–339.

## Я маладая…

Я маладая… жыццё наперад!..
Мне пырсне радасць вясёлы свет,
Кудзеляй шчасця, нібы ў сне тым
Сатчэцца шлях мне — нязрыўны нерат.

Я маладая… мяне кахаюць…
Мне спеў квітнее на шчырых вуснах.
Ў вачох ня знойдзеш журбы спакуснай,
Я маладая… мяне кахаюць.

Я маладая… кахаю шчыра
Бліскучы погляд яго вачэй;
І плынню срэбнай мой смех цячэ,
І шчасцем светлым пачуцці шырыць.

*[1926]*

## З лістоў да брата

Не ведаю чаму… я не прашу нікога
мне растлумачыць сэнс тых дзіўных цьмяных слоў,
яны хвалююць мне таемныя пакровы
і ткуць вэлюмы мілагучных сноў…
Закалыхалася у постаці надзеяў
прыгожай казкі светлая чадра,
і небасхіл прыветна ружавее,
і ў светлым ранні плешчацца трава…
Мне хочацца акордаў ціхіх і крыштальных,
як першая сляза дзявочага кахання,
як спеў палёў і шолах звонкай сталі
у свежым непарушным ранні.
І гаю шэпт у восені актавах,
і шэлест лісця ціхі і таемны —
мне незапомныя дзіцячыя забавы
так шчыра атулілі жалем хмельным…
Так многа, многа год і вельмі мала песняў
аб радасці жыцця і хараստве палёў,
і толькі словы цьмяныя у зараве прадвесняў
гараць і пунсавеюць, нібы кроў…
Мне хочацца сказаць, але ўсяго не скажаш,
і толькі неяк дзіўна мне на свеце жыць:
ніводнага пытання цалкам не развяжаш,
ніводнай крыўды цалкам не забыць…
Таму так цяжка часам хіліцца да долу
мой зрок без барацьбы, шукаючы спакою.
І хочацца да роднага, каб прытуліўся голаў
і адпачыў у чуласці няроўнага душою…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як кветка любая у кветадонні чыстым
свой келіх радасна да сонца уздымае,
так думы ясныя ў душы маёй вітаюць
надзею палкую аб радасці іскрыстай…

*5 лістапада 1926 г.*

## Гімн

Бы вадазбор ў люстранасці бліскучай,
Хароніць золак пераліўнай хвалі,
І плыннню ціхай, плыннню мілагуччаў
Цалуе кропель слёзныя каралі…

Бы ціхі шэпт пралескі снежна-свежай,
Ледзь чутны шэпт абуджанай вясны,
Глыбокі подых сівых узбярэжжаў,
І ў дыяментах сонечныя сны…

Бы лёгкі дым празрыстае тканіны,
Ласкавы зрок і маладосць душы,
І пералівы ў радасці даліны,
І веснавая парыванняў шыр…

…Так я адчула радасць існавання,
І самацветны золак у жыцці,
І безнадзейнасць першага расстання,
І услаўленне вольнага пуці…

Красу мелодый гордых і крыштальных,
Прароцтва сноў у чыстаце душы,
Жалобны стогн у песні пахавальнай,
І серабрыстага кахання шыр…

Шаўковы шолах веснавейнай плыні,
Знаёмы рытм сугучнасці палёў,
І непарушны подых багавіння
У каляровасці пяшчотных слоў…

І я па-новаму люблю нябёсы,
І услаўляю хмельны пах зямлі,
І сіратлівую ў тумане просінь,
І чорнакудрыя у сне палі…

*[1927]*

## Вецер у стэпу такі малады

Вецер у стэпу такі малады:
Млява схіляецца стройны кавыль;
У сэрцы такі непарушны ўздым,
У сэрцы такая квяцістая быль!..
Возера светласць ў адценнях нябёс,
Белыя лілеі ў слодычы мар;
Мне ў забыцці гэтак дзіўна і проста
Закалыхаць хараством цяжар…
Мне ў забыцці ціхамірыцца боль,
Звыкласць жальбы — мая ціхая радасць,
І над ракой я шапчу мімаволі:
«Сумна пялёсткам наземіцца, падаць!»
Што расказаць і чаму паверацць?—
Белым рамонкам шаптаць з усмешкай:
«Гордых люблю я, люблю без меры,
Ну, а пакорлівасць сэрца цешыць»…
З белых рамонкаў вянок маладой…
Дрэмлюць ўспаміны нязблеклага жалю —
Марыць дзяўчына над п’янай ракой —
Хмельныя словы на цноце скрыжаляў.
Радасць мая — у румянцы сноў,
Радасць мая — белакрылая чайка,
Ускалыхнулася ўдумлівым словам,
Словам радзімым у чужынным краю…
Вецер у стэпу такі малады.
Млява схіляецца стройны кавыль.
У сэрцы такі непарушны ўздым,
У сэрцы такая квяцістая быль!..

*[1927]*

## Легенда

Гордая цвіль чаравала мінулым
Свежую кветку вясновай даліны;
Цьмяныя шолахі зваблівым гулам
Ціха плылі у пластычнасці плыні…

Чары адвечныя!.. Чары узрочныя!
Любую кветку у хмельных павеях
Заласкаталі русалкі паўночныя,
Ў перлах расістых плывучыя феі..

Зблякнула кветка у змроку нязнанага,
Ціха пялёсткі звівалі жальбу,
Стройнага келіху свежая рана
Ззяла пагрозаю будучых бур…

Смерць падпаўзла… а у хвалях сімфоніі
Чуецца рытм светлакудрай вясны.
Сонцам атулены гнеўныя скроні,
Ў сэрцы ж халодныя чорныя сны.

*[1927]*

## Сон у стэпу

Сон, лёгкапенны сон
туліцца ў ласкавых бліках,
ветлівы стэпаў уклон
дыша пахучай гваздзікай.

Ў стэпах я і сусвет
дрэмлем пад казку ветра,
ў стэпах я і сусвет
п’ём сонцадальнюю светласць.

Свет тут такі залаты,
свет тут такі неабдымны,

хмелем-красой завіты
ў радасць, у шыр і парыўнасць.

Радасці сонечны госць —
сэрца прасторыцца ў марах, —
з ветрам мы шчыра запросім
ўсіх маладых і старых.

І з кавыля — вянок,
з гордай бязмежнасці — казку
мы ў сінядумны зрок
выплеснем усплёскамі — ласкай.

Сон, лёгкапенны сон
туліцца ў ласкавых бліках,
ветлівы стэпаў уклон
дыша пахучай гваздзікай.

*13 ліпеня 1927 г., Баш[кірская] рэспуб[ліка]*

## Песня радзіме

Люба мне ў чужой краіне
Беларусь мацней кахаць
і над рэчкай з белых лілій
ёй вяночкі завіваць.
Беларусь — краіна казак,
казка светлая сама,
па табе ў нямым экстазе
рукі звыкла заламаць.
І ў даліне неабдымнай
шолах родны затаіць,
вялічава ціхім гімнам
вобраз ласкавы завіць.
Люба мне ў чужой краіне
Беларусь мацней кахаць

і над рэчкай з белых лілій
ёй вяночкі завіваць.

*[1927], вёска Алі-Беева Башкірск. рэспублікі*

## Радасць…

Ўсё прамінецца, зблякне ў света-ценях
і тванню-сівізной запеніцца краса,
і толькі яркія, парыўныя імкненні
не кінуць ў сэрцы разгарацца і згасаць.

І заўжды свежасцю імклівіць пераліўнасць,
уздымнай навізной трывожыць стынь і жаль,
і зноў ў сугучнасці так проста і так дзіўна
квяцісты шлях у туманох запален.

Сусвет святла… дзве бліскавіцы — вочы,
такая шыр нервова-гордых дзён,
а змеі-сцежкі неабдымнае прарочаць
і стомленая радасць нікне за адхон.

І зноў жыве. У трэпеце стагоддзяў
звівае думныя бліскучыя гады,
і ў мазаічнасці жыццёвых карагодаў
пакіне новыя нязбежныя сляды.

*[1928]*

## Паэту

Колькі смагі песеннай
нікне ў прыкрай шэрані,
шэрані, асвечанай
бляклiасцю жыцця,
і ў звіванні радасці
ўздымнымі намерамі

нагадуеш блізка ты
малае дзіця…

Вочы заяскравілі…
смутак пераможаны,
ліраю пакорлівай
разаб’еш ты лёд:
песня пераліўная
тузе варожая
абаўе у водзыўках
пунсавейны ўсход.

І усмешкай ветлаю
азірнеш навокала:
светацені ніжуцца
ў пурпуры лістоў,
ты такі задумлівы,
зноў нервовым крокам
абуджаеш ў водзыўках
рэшту светлых слоў…

І такія кволыя,
бы заплачкі восені,
запалоніць смутак
твой парыўны зрок,
зноў ты ў звыклай шэрані
і адвечнай «просіні»
ад таго жаданага
блізкі і далёкі…

І ужо усцешаны…
ганарышся прыкрасцю,
вочы завэлюмлены
срэбнаю расой…
Ты, паэт, і з горачы
можаш радасць выкраіць

і у гучнай радасці
празвінець тугой!..

*[1928]*

## Башкірка-дзяўчынка

Залацісты кунган[1],
стройны стан, гібкі стан! —
Ман сінэ яротам[2],
ман сінэ яротам!..

Нехта прыдзе чужы
з-за стэповай мяжы,
купіць мёдам твой стан
і прыгожы кунган.
Ман сінэ яротам,
ман сінэ яротам!..

Будзе срэбны калым[3]
і вясельны уздым,
і захмеліцца стан
і бліскучы кунган.
Ман сінэ яротам,
ман сінэ яротам!..

Мне стэповы кавыль
шалясціць гэту быль…
Над ракой гібкі стан
і прыгожы кунган.
Ман сінэ яротам,
ман сінэ яротам!..

*[1928]*

---

[1] Па-башк. — Збан. (Тут і далей заўвагі Я. Пфляўмбаўм. — Заўвага ўклад.)

[2] Па-башк. — Я кахаю цябе.

[3] Па-башк. — Пасаг.

## Мелодыя

Я не чула нідзе і ніколі,
што краса параджае слёзы…
Вось затым маё сэрца сваволіць
ў звіваннях паўднёвай мімозы.

Я сягоння убачыла мора,
як калісьці ў вячэрніх крозах,
і далёкае бляклае ўчора
адышло ў звіваннях мімозы.

Любы мой — падарунак сонца, —
пакахала яго ля мора,
і цяпер у марскую бясконцасць
завіваю з мімозаў дакоры…

———

У немінучасць,
у неабдымнасць
твайго
быцця
вазьмі пявучасць,
вазьмі парыўнасць
майго
жыцця!..

Ты залюляеш,
ты закалышаш
ў прадонні хваль…
І будзе ў краі
такая ціша,
і сціхне
жаль.

———

Я пайду у мора
па дарозе срэбнай,

месяцу і зорам
адслужу малебны.
Будзе думаць любы,
што яго наяда…
і аб новай згубе
прапяюць цыкады.
Я прыду пад вечар
у расістых пэрлах,
прапяю аб нечым
радужна-бязмерным…
І даруе любы
ўсё сваёй наядзе,
сціхне песня згубы
ў шэлесце цыкадным.

*[1928]*

## Гейша

У цябе прахалодныя рукі —
  беражэш для каго гэту свежасць?
    Ты цішэй тут за ўсіх, Сузукі,
      ў гэтым пышным чайным картэжы.

Ты дзіцёнкам не ведала маці,
  скуль жа гэта жаноцкасць святая?
    Хто аднойчы жанчыну траціў,
      ў тваім вобліку страту згадае.

І твае прахалодныя рукі
  цалаваць будзе ў прагным болю.
    Ты цішэй тут за ўсіх, Сузукі,
      як дзяўчынка ў святочнай школе.

…Там староннія дужыя людзі
  у зялёным святле ліхтарняў
    зноў Сакэ цябе піць засудзяць
      і за столікам іх гаспадарыць.

Будуць ўздрыгваць халодныя пальцы
пад рукой неадхільна-дужай
і ў страшным канвульсійным вальсе
з валасоў асыпацца ружы.

…Пацяплелі стамлёныя рукі,
пасма падае чорнаю стужкай.
— Валасы хочуць спаць, Сузукі, —
шэпча той неадхільна-дужы.

І згасае святло ліхтарняў,
дываны ўсё чарней і бліжай,
набліжаюцца чорныя шары
вартавых падазронага Вішну.

І дзяўчынка святочнай школы,
што цішэй ад усіх… Сузукі…
расцвітае начной мацэолай
і звівае гарачыя рукі.

І у лялечнай гэтай жанчыны
безліч сонц у загарным целе.
— Дай мне, дужы, маленькага сына,
Я гушкацьму яго на арэлях!

*[Канец 1920-х гг.]*

## Сон

Я з табою была ва Фларэнцыі
партрэтысткаю тонкіх абліччаў.
Там дзівак прада мною ўкленчыў
і сваёю назваў Беатрычэ.

І партрэт яго самы тонкі
ад цябе я доўга хавала,
покуль нашай радзімы сонца
буйнай сілаю не акрыяла.

І пакінуўшы хісткасць мансарды,
мы шчаслівыя йшлі абое.
Ты быў толькі радзімаю гарды,
ну а я, жанчына, табою.

*[Канец 1920-х гг.]*

## Джан-хот[1]

На Джан-хоце высокія горы,
на Джан-хоце віно і смех,
і ў зіяннях, бы першы снег,
бела-пенныя грэбні на моры.

З Геленджыку, на кацеры «Спід»
паплылі у трывожнай прасторы,
а здалёк усміхаліся горы —
на чужыне — чужы краявід.

Адзначыла у ласках праменных
вялічава-задумнае мора,
і маяк урачыстым дазорам
сведчыў сонцу сваю сумленнасць…

Я глядзела любаму ў вочы,
напілася віном і смехам…
аб такой нечаканай уцехе
на Джан-хоце стары прарочыў.

Вакханалію справіла мора:
распляло цёмна-сінія косы
і кахання хмялёвую россып
ў навальнічных прапела мажорах!..

Зноў глядзела я любаму ў вочы!
напілася жудой і соллю,

---

[1] Джан-хот — мясцовасць на Паўночным Каўказе.

аб такім невыказным болю
на Джан-хоце стары не прарочыў.

На гарачых ад солі вуснах
я адчула цалунак мора
і чакала… чакала пакорна
яшчэ новых, такіх спакусных…

А пазней… адпачыла глыбока
у пяшчотах сярэбранай ночы…
і глядзела я любаму ў вочы,
бы ў прадонне, трывожным зрокам.

*1 ліпеня [1929], Геленджык,*

## Турксіб

Золата песеннай улады
ў дзікай стэповай красе
гэта найвысшая радасць,
творчай мелодыі сеў…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Людскай сімфоніяй працы,
смагай празрыстых крыніц
творыцца велік палацу,
горы схіляюцца ніц…

Нікне ў стэповых глыбінях
хмельная моц барацьбы…
Пунсам красуюць віргіні,
ўсходзіць паданнямі быль.
І у бясплодных нізінах
буйна народжана зноў:
скораны стэпы машынай,
сілай жалезных сланоў.

У рытме кіргізскае песні
рушыць зямлю кетмень —

насып высока ўзнеслі
чорнай пахучай пенай.

Крышаць упартыя скалы
бронзай напружаных рук,
сілай адвечнай металу
ў чоткіх
размерных
рухах.

Глыбяць прадонныя
студні
з гор вадзяныя ніты…
ўсходні, гарачы палудзень
ў фарбах
ажыў
залатых.

Нікнуць бясплодныя
далі
смуглай стэповай сям’і,
гімн жыватворчае
хвалі
горда Турксіб стаіў…

У цёмна-лілёвым цюрбане
прыйдзе ліпнёвая ноч,
з пылам спрадвечных
буранаў
далей на поўнач пакрочыць.
Ў лёгкасці стройнай
жанчыны
схіляць на кошмы стан.
Хмельны кумыс прыадчыніць
ўладны Турксібу
каран.

*[1929]*

# ГАННА АРАХОЎСКАЯ (БАЗЫЛЕНКА)

*1908–1980*



Ганна Мартынаўна Базыленка нарадзілася 22 сакавіка (4 красавіка) 1908 г. у вёсцы Арэхі Аршанскага павета (цяпер гарадскі пасёлак Арэхаўск Аршанскага раёна) у сялянскай сям’і. У два гады засталася без бацькі, гадавалася ў цяжкіх умовах (у сям’і было 10 чалавек, 7 з іх — непрацаздольныя).

Закончыла віцебскі Белпедтэхнікум, літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1931). Працавала ў Слуцкім і Мінскім педагагічных тэхнікумах (1931–1933), Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі (1933–1938), у БДУ (1944–1970; старшы выкладчык, дацэнт кафедры рускай мовы, у 1949–1955 гг. намеснік дэкана філалагічнага факультэта). Брала ўдзел у стварэнні «Руска-беларускага слоўніка» 1937 г. і «Практычнага беларуска-рускага слоўніка» (рукапіс загінуў падчас Вялікай Айчыннай вайны), абараніла кандыдацкую дысертацыю «Устойлівыя словазлучэнні ў мове твораў Якуба Коласа» (1952). Манаграфія даследчыцы «Пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы ў беларускай літаратурнай мове» (1964) да сённяшняга дня не страціла навуковага значэння.

Памерла 19 студзеня 1980 г., пахавана на Паўночных могілках Мінска.

З дзяцінства Г. Базыленка любіла чытаць, маляваць, пісала маленькія п’есы, пазней звярнулася і да вершаў, уступіла ў Віцебскую філію «Маладняка». У газеце «Заря Запада», калектыўным зборніку «Пачатак» змяшчала вершы, апавяданні, аднаактовыя п’есы пад сваім прозвішчам і пад псеўданімам Ганна Арахоўская.

Ганна Базыленка — аўтар шэрагу навуковых артыкулаў па праблемах сучаснай беларускай мовы, у тым ліку па пытаннях моўнага майстэрства Якуба Коласа, суаўтар падручніка «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Марфалогія» (1957), першага тома акадэмічнай «Граматыкі беларускай мовы» (1962).

**Літаратура**

Базыленка Ганна Мартынаўна // Памяць. Орша і Аршанскі раён: Гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі: у 2 кн. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. Мінск, 2000. Кн. 2. С. 419.

Германовіч І. Ганна Базыленка // Роднае слова. 1998. № 4. С. 73–74.

Сцяпанава А. Вучылася ў Я. Коласа // Аршанская газета. 1998. 12 мая. С. 2.

## Я радзілася пастушкаю убогай

Я радзілася пастушкаю убогай,
У вёсцы беларускай у глухой.
І з маленства мне далі у рукі
Пугу з вяроўкі крутой.
За вялікім я статкам хадзіла,
Бізуном падганяла кароў.
Уставала я з ранняй расою,
А лажылась з вячэрняй парой.
Легла важкая, горкая праца
На дзіцячых і кволых плячах —
З навальніцай і сонцам змагацца,
А тут сон, як туман у вачах.
Мне хацелася вельмі вучыцца,
Заўладаць дасягненнем людзей
І вось гэта бяздольнае дзецтва
Асвятліць светам новых ідэй…

*[1925]*

## Вясна

Бы палотнамі сцелюцца лужы
І паветра шапоча: «Вясна!»
У ваконцах ухмыляюцца ружы,
Ручаёчак звініць, як струна.

Ў карагоды збіраюцца зоры,
Свеціць месяц жамчужным сярпом,
Ручаіныя дзіўныя ўзоры
Між каменняў блішчаць серабром.

Дзеці з вёскі гурбою збяруцца,
На лугу разальюць галасы,
Іх шчаслівыя твары смяюцца,
Як у жнівень аўса каласы.

Бы палотнамі сцелюцца лужы
І паветра шапоча: «Вясна!»
У ваконцах ухмыляюцца ружы,
Ручаёчак звініць, як струна.

*[1926]*

## У поўнач

Ўжо даўно спеў над вёскай замоўк,
За сцяною звініць завіруха,
То завые, як ў поўначы воўк,
То закрэкча, як тая старуха.

А у хаце нырае чаўнок,
А дзяўчына працуе так пільна,
Пасмы нітак лажацца ва ўток
І бярдом прыціскаюцца шчыльна.

Ўжо даўно ныюць рукі яе
І так ломіць спіну над навоем.

Душа поўна палючых агней,
Закранутых віхуравым воем.

Ўжо даўно спеў над вёскай замоўк,
За сцяною звініць завіруха,
То завые, як ў поўначы воўк,
То закрэкча, як тая старуха.

*[1926]*

* * *

Шырокі шлях перада мною,
Убраны перламі вясны.
Стаю я з думкаю нямою,
А навакол, як ранне, сны.

І шэпча ціха мне паветра,
Ідзі уперад! К сонцу йдзі!..
Там казкі дзіўныя… Там светла…
Ты прыгорнеш усё к грудзі.

*[1926]*

## ЯДВІГА БЯГАНСКАЯ

*1908–1992*



Ядвіга Іосіфаўна Бяганская нарадзілася 16 (29) лютага 1908 г. у г. Верхне-Удзінску (цяпер Улан-Удэ Бурацкай аўтаноміі) у сям’і беларускіх перасяленцаў у Сібір, якія вярнуліся на Беларусь у 1922 г. З 1924 г. сям’я жыла ў Мінску, дзе Ядвіга Бяганская закончыла Мінскую чыгуначную школу (1926), курсы па падрыхтоўцы ў ВНУ (1927), літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1930). Працавала выкладчыцай мовы і літаратуры ў сярэдняй узорнай чыгуначнай школе № 25 імя А. Чарвякова, у 20-й школе і на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. У 1937 г., як удзельнік нацдэмаўскай арганізацыі, быў паўторна арыштаваны Алесь Сак, муж пісьменніцы, а потым бацька Іосіф Вікенцевіч Бяганскі (абодвух расстралялі). 6 лістапада 1937 г. была арыштавана і сама Я. Бяганская і 4 студзеня 1938 г. асуджана на 10 гадоў лагераў; адпраўлена на Калыму. У лагеры шыла адзенне для зняволеных, рукавіцы для рыбакоў і мяшэчкі для золата. Улетку 1940 г. з Магадана яна была адпраўлена на будаўніцтва першага запалярнага калгаса «Эльген», дзе працавала да свайго вызвалення 6 лістапада 1947 г. На пачатку 1948 г. выйшла замуж за мастака Міхаіла Леберфарба і жыла ў пасёлку Певек на Чукотцы, дзе працавала машыністкай ва Упраўленні золата і плаціны. У 1948 г. атрымала дазвол вярнуцца на Беларусь. З кастрычніка 1948 да 1955 г. жыла ў г. Рэчыца Гомельскай вобласці. Рэабілітавана ў кастрычніку 1954 г. Праз год, дачакаўшыся рэабілітацыі першага мужа, пераехала з сям’ёй у Мінск. У 1956–1963 гг. працавала старшым рэдактарам Беларускага радыё для дзяцей і юнацтва, а па выхадзе ў 1963 г. на пенсію — старшым рэдактарам літаратурна-мастацкага вяшчання.

Памерла 3 красавіка 1992 г., пахавана на Паўночных могілках Мінска.

Пісаць вершы Ядвіга Бяганская пачала яшчэ ў школе на рускай мове, у студэнцкія гады перайшла на беларускую. Першыя публікацыі з’явіліся ў 1926 г. у часопісе «Малады араты».

З 1953 г. пачала выступаць як празаік. Перакладала з польскай і славацкай моў. У 1957 г. была прынята ў Саюз пісьменнікаў СССР. Выдала кнігі для дзяцей «Далёка на Поўначы» (1954), «Жэнеў галубок» (1958), «Сустрэча з морам» (1962), «Зосіна зорачка» (1965; 2-е выд. 1980), «Над ракой Шушай» (1977), «Нечаканая сустрэча» (1978), «Сланечнікі» (1980), «Ля самага сіняга мора» (1982), «Сонцу і ветру насустрач» (1988). У 1997 г. у перакладзе на рускую мову выйшла аўтабіяграфічная аповесць «Моя Голгофа: Страницы пережитого» (упершыню — «Полымя», 1990, № 3).

Пераклала з польскай мовы аповесці «Палю Парыж» Б. Ясенскага (1932), «Вера і яе таварышы» Г. Мушынскай-Гофман (1965), «Кароль Мацюсь Першы» Я. Корчака (1970), «Дом пад каштанамі» Г. Бехляровай (1972), «Прыгоды маленькага Пінгвіна Пік-Пока» А. Багдая (1973), «Хам» Э. Ажэшкі (1975), «Самая доўгая ноч» Д. Бянькоўскай (1976), «Нявыдуманыя гісторыі» Г. Паўшар-Кляноўскай (1976), «Хлопчык шыварат-навыварат» Г. Ажагоўскай (1978). Са славацкай — раманы «Я вярнуся жывы» М. Крно (1960), «Жывыя і мёртвыя» У. Мінача (1961), «Брат маўклівага ваўка» К. Ярункавай (1976), «Яношак» Я. Грушоўскага (1980). З расейскай — «Маліна» К. Лявіцкай (Менск, 1931), «Аповесць пра нафту» Л. Вайсенберга (Менск, 1932), «Цікавыя задачы» Я. Перэльмана (Менск, 1932), «На месяцы» К. Цыялкоўскага (Мінск, 1958), «Дзіўныя камені» Н. Калінінай (1959).

Дакументы пісьменніцы захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 436).

**Літаратура**


Агняцвет Э. Слова пра сяброўку // ЛіМ. 1968. 27 лют.

Васілеўская Г. Вытокі творчасці // Работніца і сялянка. 1978. № 2.

Карпава Л. «Я да канца свайго жыцця буду верыць...»: Жыццё і творчасць Ядвігі Бяганскай // Роднае слова. 2007. № 6. С. 30–32.

* * *

Восень, забыцце і ціша,
Вечнасці песня чуваць,
Ветрык ціхутка калыша
Дрэвы, што ў сонцы гараць.

Ліст залаценькі апошні
Сонца цалуе і смерць.
Так на жыцця майго пожні
Сэрца канае, а верыць.

*30 чэрвеня 1925 г.*

## Ноч

Маўчаць палі ў хітоне змроку.
Пануры лес заціх, маўчыць.
Сыходзіць ноч нячутным крокам,
І неба зоркамі гарыць.
Пад коўдрай туману расістай
Маўчыць зацята шыр балот.
На небасхіле серабрысты
Выходзіць месячык ў абход.
Маўчаць загоны, спіць араты,
Зямля спавіта цішынёй…
А думкі ўдаль плывуць узнята,
І ў сэрцы гэткі супакой.

*4 лютага 1926 г.*

* * *

Бягуць гады, бягуць…
А бег іх хто стрымае?
Далёка прошласць уцякае,

Быллём старое парастае.
Гады бягуць, бягуць…

Бягуць гады, бягуць…
Змяняюць ўсё на свеце.
Закон бацькоў знішчаюць дзеці,
Што ўчора чцілась — сёння ў смецці.
    Гады бягуць, бягуць…

*13 сакавіка 1926 г.*

* * *

З ветрам не сварацца дрэвы,
Ўжо не шумяць яны ў злосці.
Плачуць аб лета павевах,
Шэпчуць аб лецейку штосьці.
Я ўжо не мару аб казцы,
Ўдаль адляцелі раенні.
Дзе вы, вяночкі, дзе краскі?
Дзе вы, дзявочыя сненні?
Падае, сыплецца лісце,
Хмары раскрылі улонні.
Жыцце было тут калісьці,
Смерць тут пануе сягоння.
Ціха. Ўжо крадзецца вечар,
Плачуць бярозы старыя.
Хвіля — і ноч ўсё навокал
Чорным цалункам акрые.

*30 кастрычніка 1926 г.*

* * *

Зноў у ядвабным павуцінні
Рассыпае косы сонца,
І шумяць паціху дрэвы,

Лісце кідаюць бясконца.
А ў палях асірацелых
Пахне свежаю раллёю,
Груганоў хаўтурны гоман
Не сціхае над зямлёю.
А ў прасторах гэтак ціха,
І ў блакіце ясна, чыста,
На зямлі вялікі смутак,
Усё канае урачыста.
І ў душы святая ціша,
Сэрца Requiem спявае.
А ў ядвабных павуцінках
Сонца косы рассыпае…

*20 кастрычніка 1927 г.*

* * *

Ой, гады праляцяць
Стужкаю-маланкай.
Ўчора ўжо не вернеш,
Сёння не стрымаць.
Не гадай аб шчасці,
Чорная цыганка,
Для паэта шчасце?
Эх, нашто казаць!
Праляціць ўсё жыцце
Птахам быстракрылым,
Песня абарвецца,
Зледзянее кроў.
Заспяваюць ветры
Над маёй магілай
Пра маё юнацтва,
Пра маю любоў.
Зашуміць вясною
Лісцем маладзенькім

Белая бяроза,
Кучаравы клён,
Аб праменнях сонца,
Нівах залаценькіх,
Аб блакітах ясных
Мне прысніцца сон.
А ў маёвы вечар,
Калі глянуць зоры,
Салавей-музыка
Песню кіне ўвыш
Аб каханні нечым
І аб сэрцы нечым,
Дзе цяпер стаў крыж.
А зімой сцюдзёнай
Прыбярэцца беллю
Поле, сенажаць,
Белыя пялёсткі
Могілкі засыплюць,
Срэбрам дыяментаў
Ў сонцы задрыжаць.
І калі сарвецца
Белая завея,
Непагадзь у полі
Будзе бушаваць,
Ўстану я з магілы
Белая, бы фея,
Палячу ў прасторы
Край свой прывітаць.

*2 лістапада 1927 г.*

## Бяссонніца

Нехта чорны схіліўся над ложкам маім
І далоньмі халоднымі скроні спавіў,
Заспяваў лебядзіную песню магіл,

Маё сэрца тугой ледзяною спавіў.
Нехта чорны над ложкам схіліўся маім…

Нехта чорны глядзіць і з сабою заве,
На чало маё з міртаў ўскладае вянок,
Шэпча ціха: «Прыйшоў да цябе я здалёк,
Праз прасторы, засветы, мільёны дарог…»
Нехта чорны глядзіць і заве…

*15 снежня 1927 г.*

* * *

За акном зажурылася восень,
Неба шэрымі плешча крыламі.
Я не ведаю, мабыць, здалося,
Што ў душу нехта кінуў камень.
Я не ведаю, мабыць, здалося.
Вецер нудныя правіць літанні,
І заплакана шэпчуць бярозы.
Мо здалося, што сэрца паранена,
Што з вачэй пакаціліся слёзы.
Мо здалося, што сэрца паранена…

*29 чэрвеня 1930 г.*

* * *

Не дары мяне, восень, слязамі
І халоднымі ласкамі неба,
І лісця залацістую замяць
Не сцялі мне пад ногі, не трэба.
Не дары мяне кроўю рабіны,
Ледзянымі пялёсткамі астраў,
Развітальнай тугой жураўлінай
І мінорнаю, сумнаю казкай.
Я хачу, каб смяялася сонца,
Каб цвілі і звінелі прасторы

І жыццё красавала, смяялася,
Рассыпаючы песняў сузор'і.

*6 кастрычніка 1930 г.*

* * *

*A. S.*

Ў белых далях халодная ціш,
Белы сад ў зачарованым сне.
Ты навошта, навошта маўчыш
І раняеш слязінкі на снег?
І навошта ў вачах гэты сум,
І чаму ў сэрцы роспач ізноў:
І за кратамі песні красуюць,
І ў кайданах не згасне любоў.
Той, хто моліцца сонечным ўзвышшам,
Пераможа няволю і здзек!
Дык навошта, навошта маўчыш
І раняеш слязінкі на снег?

*20 лістапада 1930 г.*

# ЯНІНА ГЕРМАНОВІЧ

*1909–1959*



Яніна Міхайлаўна Германовіч (у шлюбе — Кляшторная) нарадзілася 6 снежня 1909 г. у вёсцы Раванічы Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Чэрвеньскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і.

Атрымала сярэднюю адукацыю. У 1927 г. выйшла замуж за паэта Тодара Кляшторнага, пазней рэпрэсаванага. У шлюбе гадавала трох дачок: Тадзіяну (у будучым — дзіцячую паэтку), Весналіну і Маю. Працавала афіцыянткай у 1-й сталовай Мінваенторга. У кастрычніку 1937 г. арыштаваная ў сваёй кватэры (Менск, вул. Фабрычная, д. 10/4, кв. 7) і 28 лістапада асуджаная асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і (жонка) здрадніка радзімы» да 8 гадоў выпраўленча-працоўных работ. 24 студзеня 1938 г. прыбыла з Аршанскай турмы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР (Акмолінскі лагер жонак здраднікаў Радзімы, АЛЖИР). Вызваленая 1 снежня 1945 г. У 1949 г. зноў арыштаваная і высланая ў г. Бялова Кемераўскай вобласці. Канчаткова вызваленая ў 1955 г. Рэабілітаваная трыбуналам БВА 4 лістапада гэтага ж года. У 1957 г. кошт канфіскаванай у яе маёмасці быў «кампенсаваны». Вярнулася ў Мінск цяжкахворай, некалькі разоў перанесла інсульт.

Памерла 21 траўня 1959 г., пахаваная на Усходніх могілках у Мінску.

З вершамі ў друку выступала ў 1920-я гг. Па словах яе дачкі Маі Кляшторнай, Яніна Германовіч працягвала пісаць вершы «для сябе» і па вяртанні з высылкі, аднак яны не захаваліся.

**Літаратура**

Германовіч Яніна Міхайлаўна // Маракоў Л. У. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991. Энц. даведнік: у 10 т. Мінск, 2003. Т. 3. Кн. 1.

## Надзеі

Надзеі, мілыя надзеі!
Надзеі, сэрца летуценні…
Я вас у сэрцы вечна грэю;
Не дружны з вамі чорны цені.

Як гора ці ўцеха нахлынуць
Магутнай хваляй у грудзі юнацкія —
Слёзы змываюць горкую муць
І родзяць песні ваяцкія.

Песні бадзёрыя вецер
Падхопіць на ўлонне свавольна,
Праспявае шумна вецщем
Ці траўкай у стэпах прывольных…

А песні шчырыя з сэрца
Адчуюць напэўна і людзі;
Заўторацъ з ветрам ад сэрца —
І песня вечна жыць будзе!..

Ах, песні! Песні-надзеі…
І колькі ў тонах чуць веры!
Якой не ўкрадуць зладзеі —
Буры, нягоды не разувераць!

Надзеі, вечныя надзеі!..
Надзеі, сэрца парыванні…
Я вамі сэрца вечна грэю —
Іду ў прасторы, што прывабны.

*[1929]*

# АРЫНА ГЛІНСКАЯ

*1909–1997*



Арына (Ірына Паўлаўна) Глінская нарадзілася 21 снежня 1909 г. у г. Мсціслаўлі Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Закончыла Магілёўскі педагагічны тэхнікум (1926), манументальнае аддзяленне Вышэйшага мастацка-тэхнічнага інстытута ў Ленінградзе (1930). Працавала асістэнтам у Ленінградскім інстытуце інжынераў камунальнага будаўніцтва па кафедры «Уводзіны ў архітэктурнае праектаванне і архітэктурная графіка» (1930–1935), праекціроўшчыкам у Архітэктурна-планіровачным упраўленні Ленгарвыканкама (1935–1938), кіраўніком групы малых формаў архітэктуры і афарбоўкі фасадаў (1938–1941).

У ліпені 1941 г. добраахвотна пайшла на фронт. Служыла радавым 28-га асобнага стралковага батальёна. З 1943 г. працавала ў франтавым друку, была карэспандэнтам-арганізатарам газеты «Боевой сигнал». У 1945 і 1946 гг. знаходзілася за мяжой у складзе войскаў І Беларускага фронту. У 1946 г. пасля дэмабілізацыі паступіла ў аспірантуру на кафедру мастацтваў у Ленінградскім дзяржаўным універсітэце імя Жданава. У 1950 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Развіццё галандскага рэалістычнага жанравага жывапісу ў першай чвэрці XVII ст.», атрымала ступень кандыдата мастацтвазнаўства. Працавала асістэнтам у гэтай навучальнай установе (1949–1951), у Інстытуце імя Рэпіна (1951–1952) і па сумяшчальніцтве ў Інстытуце інжынераў будаўніцтва на архітэктурным факультэце. Пазней была старшым навуковым супрацоўнікам метадычнага аддзела Навукова-асветніцкага аддзела Эрмітажа. У 1953–1973 гг. працавала ў Ленінградскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. І. Герцэна на пасадзе старшага выкладчыка, потым дацэнта, кіравала секцыяй малявання. У 1973 г. абараніла доктарскую дысертацыю па педагогіцы на тэму «Фармаванне спосабаў авалодання прасторавай інфармацыяй на плоскасці ў малодшых школьнікаў (На аснове даследавання прыёмаў перадачы прасторы ў выяўленчай дзейнасці)».

Сябра Саюза савецкіх архітэктараў (1933). Узнагароджана медалямі «За отвагу» (1943), «За оборону Ленинграда» (1943), «За взятие Берлина», «За победу над Германией».

Памерла 7 лютага 1997 г. Пахавана на Паўночных могілках у Санкт-Пецярбургу[1].

У друку выступала з вершамі і прозай з 1926 г. Вершы і апавяданні публікавала ў газеце «Камуніст», альманаху «Уздым» (1926, 1928). Жывучы ў Ленінградзе, перайшла на рускую мову, апавяданні публікавала ў часопісах «Знамя», «Звезда» і іншых выданнях. Аўтарка п'есы «Дорога жизни» (1957), аповесці «Смирно, сердце!» (1965), шэрагу дапаможнікаў па методыцы выкладання выяўленчага мастацтва («Как рисовать фигуру человека» і інш.).

**Літаратура**

Жыбуль В. Арына Глінская і яе няспраўджаны талент // Arche. 2006. № 11.

Личное дело Глинской Ирины Павловны // ФМИ РГПУ им. А. И. Герцена / Г-22.

Майоров Я. М. Магистрали мужества. Москва, 1982. С. 58, 83–85, 131, 190.

Турро И. Н. Зарисовки в стиле «Ретро» (о кафедре и о себе) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://art-education.narod.ru/Turro.htm.

## Беларусі

Ты прасці, прасці мяне, лапцюжная.
Даганяе вецер бег калёс…
Я цябе кахаю шчыра, дужа,
Але мне застацца тут не лёс.

---

[1] За інфармацыю аб працоўным шляху А. Глінскай укладальнікі выказваюць падзяку Лізавеце Маратаўне Гур'янавай — галоўнаму захавальніку музея Расійскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А. І. Герцэна.

Я іду сваёю пуцявінай,
Адплываю к новым берагам,
Там убачу новыя краіны
І надоўга застануся там.

А ў грудзёх навекі застанецца
Шыр палёў тваіх і даль лугоў.
Слова песні роднай адгукнецца
Нават там, у дальніх берагоў.

Мілы сэрцу сонечныя песні
Беларускіх родных песняроў,
Гэта спевы птушак напрадвесні,
Гэта радасць, зажыгаючая кроў…

Буду помніць родныя балоты,
Ціхіх рэчак галубы абрус,
І калі мяне спытаюць: «Хто ты?» —
Адкажу з каханнем:
«Беларус!»

*2 верасня [1926], Ленінград*

## На вуліцы

Бег трамвай. Бег, хапаўся.
Спазніўся куды, мо проста так.
За газетаю бег маленькі Паўлік —
Бацька паслаў і даў пятак.

Вуліцу перабягаў. Слізкія рэйкі.
Недзе блізка зазвінеў трамвай…
Толькі пачуўся крык нейкі…
Кандуктар спалохаўся. Вагон стаў…

Скочылі людзі… «Божачка, задавілі!
Хуткую дапамогу! Пажарную часць!
Як гэта? Божачка, як гэта зрабілі?
Як гэта яму давялося папасці?»

Выцягнулі з-пад каткоў скромсанае цельца.
Засталася толькі лужынка крыві…
Вуліцаю снег беленькі сцелецца,
Мабыць, да вечара яе прыкрые.

Доктар глянуў… Кінуў звычайнае:
«Памёр… яшчэ бы… пераехаць так!»
Толькі вецер плакаў глуха і адчаяна
І блішчэў загублены ў крыві пятак.

*[1927], Ленінград*

## На Няве

Сінім скрыдлам Нява памахала — вецер,
Сіняй хваляй пырснула — дождж…
Шлях па ёй далёк, і шырок, і свецел!
Плыць да плыць беспрапынна можна!
Сфінксы вочы сашчурылі, гледзячы ў неба,
Ўспамінаючы знойны і жоўты Егіпет…
Там яны ніколі не бачылі снега,
І ніколі памяць аб ім не знікне.
Ціха дрэмле і ў дроме казкамі марыць
Ля маста бальшы «Крэстынтэрн»,
А Нява яму пацалункі дарыць,
А Нява для яго жонка верная…
Сонца жоўтай дарожкай уніз пакаціцца
Пакупацца ў хвалях Нявы.
Пырснуць золатам хвалі. Нява багатая!
І схіляць галаву на беразе львы.

*[1928], Ленінград*

## ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

*1909/1910–1959*



Зінаіда Аляксандраўна Бандарына нарадзілася ў Гародні 11 кастрычніка 1909 г. у сям'і настаўніцы і вайскоўца (па некаторых звестках у 1910 г., што цалкам верагодна, улічваючы дату нараджэння яе старэйшага брата Вадзіма, які пазней стаў вядомым хімікам). Пасля пераезду сям'і ў Мінск у 1920 г. вучылася ў мінскай пятнаццатай сямігадовай школе.

Пасля заканчэння сямігодкі два гады працавала загадчыцай дзіцячага сада ў мястэчку Койданава, а ў 1925 г. паступіла ў Мінскі педагагічны тэхнікум, дзе вучылася на адным курсе з паэтамі М. Лужаніным, Н. Вішнеўскай, П. Глебкам, С. Дарожным, В. Казлоўскім. У 1927 г. скончыла тэхнікум і паехала ў Сібір, дзе працавала настаўніцай у беларускай школе ў пасёлку Медзякова Краснаярскага краю. Вярнулася на Беларусь у 1928 г. з туберкулёзам, працавала ў гомельскай газеце «Палеская праўда». На пачатку 30-х гадоў З. Бандарына паехала вучыцца на літаратурна-сцэнарны факультэт Інстытута кінематаграфіі ў Маскву, які скончыла ў 1933 г.

Загадвала сцэнарным аддзяленнем Віцебскага кінатэхнікума (1933–1934), пасля пераехала ў Ленінград. Там З. Бандарына тры гады была аспіранткай Дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў (закончыла ў 1937 г.), потым працавала на кінастудыях і ў тэатрах Масквы, у 1938–1939 гг. была рэжысёрам Тэатра юнага гледача ў г. Архангельску, далей да пачатку вайны працавала ў горадзе Горкім.

Ад пачатку вайны дабраахвотна пайшла санінструктарам у Панфілаўскую дывізію, была кантужана. У чэрвені 1942 года атрымала адпачынак і прыехала ў Маскву, дзе ў сакавіку 1943 года нарадзіла сына Канстанціна. У 1944 г. Зінаіда Бандарына нарэшце вярнулася на радзіму, працавала ў часопісе «Бярозка», на Беларускім радыё (1945–1946), у Доме народнай творчасці ў Гродна, дзе у той час знаходзілася і харавая капэла Рыгора Шырмы (1946–1948). У 1948–1950 гг. была загадчыцай філіяла

музея Я. Купалы ў Вязынцы, супрацоўніцай газет «Зорка», «Літаратура і мастацтва» (1950–1956).

Памерла 16 красавіка 1959 г., пахаваная на Усходніх могілках Мінска.

Літаратурнай дзейнасцю займалася з 1923 г. Першыя вершы надрукавала ў насценнай газеце і паказала іх Янку Купалу, з якім былі знаёмыя яе бацькі. З 1926 г. З. Бандарына пачала друкавацца ў часопісе «Маладняк», у тым жа годзе выпусціла сумесны зборнік з Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм «Вершы», у які ўвайшлі сем яе твораў. Рэдактарам кнігі быў Уладзімір Дубоўка.

У 1931 г. выходзіць зборнік вершаў З. Бандарынай «Веснацвет», з 1934 г. наступіў доўгі перыяд маўчання, але ў адрозненне ад многіх сваіх паплечніц З. Бандарына вярнулася да больш-менш актыўнай літаратурнай дзейнасці. У БДАМЛМ (ф. 75) маюцца рукапісы яе вершаў, пачынаючы з 1942 г., там жа захоўваецца і падрыхтаваны напрыканцы пяцідзясятых зборнік З. Бандарынай «Выбраныя вершы» (не быў выдадзены).

Хутчэй за ўсё, менавіта асабістае знаёмства з Янкам Купалам і сяброўства з У. Ф. Луцэвіч вызначыла яе жаданне напісаць аповесць аб дзіцячых і юнацкіх гадах паэта «Ой рана на Йвана», якая выйшла ў 1956 г. Аўтарка зборніка апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці» (1960), кнігі «Дыпломная работа» (1953), «Галіна Ільіна» (1959, апошнія дзве — на рускай мове). Была сябрам СП СССР (з 1957 г.).

**Літаратура**

Гарэцкі М. Маладняк за пяць гадоў. 1923–1928 // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы / [склад. А. С. Ліс, І. У. Саламевіч; бібліягр. паказ. і камент. І. У. Саламевіча]. Мінск: Маст. літ., 1984.

Шушкевіч С. Шляхі і дарогі Зінаіды Бандарынай: Да 75-годдзя з дня нараджэння / ЛіМ. 1984. 12 кастр.

Данільчык А. «Жывая дзікарка» беларускай паэзіі: слова пра Зінаіду Бандарыну // Дзеяслоў. 2012. № 4 (59).

## Над возерам

Больш гонару, веры — ніхто не пазнае:
Ніхто не прыкмеціць драпежнай гульні…
У восені — смутак плыве над курганам…
У восені — у вырай лятуць журавы…
Бліскучая знічка згасала над краем,
Над краем каханым у цнатлівай цішы.
Больш гонару, веры — ніхто не пазнае:
Душа захлынецца ў крыві…
Над возерам сонным схіліліся лозы,
Хвалююць люстраныя далі вятры.
І першыя слёзы, празрыстыя слёзы
Фарбуюць праменні зары.
Над возерам сонным варожа дзяўчына,
І падаюць слёзы-каралі у жвір.
«Пакінь, супакойся…» — шапочуць галіны,
Лясун выплываючы вабіць у вір:
«Там сцішна, спакойна, палацы з крышталяў,
І радасць заўсёды красуе вясной.
Вянкі заплятаюць русалкі з лілеяў,
І скачуць, спяваюць вясёлай гурмой…»
І вабіць дзяўчыну бяздонная багна,
І белыя рукі звівае, пяе…
Калісьці на возеры сінім кахала,
І гушкалі хвалі ў крылатым чаўне…
Ой, рана з расой, з пурпуровай зарою,
На поплавы ўвосень кладзецца імгла.
Нам месячык, зоркі свяцілі з табою,
Пяшчотная ціхая ночка плыла…
Зноў кталіся роўна істужкі-пракосы,
І водгулле ў пушчы люляла каса,
У зрэб’і падраным зласлівая ростань
На пожні зялёнай увечар прайшла.
Над возерам сонным дзяўчына чакала…
Анучаю шэрай крадзецца туга.

Пад вішнямі любага песціць другая,
Ахутала долы і мары імгла.
І вабіць дзяўчыну бяздонная багна.
І белыя рукі звівае, пяе…
Калісьці на возеры сінім кахала,
І гушкалі хвалі ў крылатым чаўне.
Павольна над гаем зара выплывала,
Бахматыя макі раскідваў усход,
І хтосьці шаптаў ёй: пражыта так мала,
А новыя сілы ўзрастаюць штогод…
І хтосьці шаптаў ёй: «Бяскрылая птушка,
Няўжо наша эра варожа табе?!»
І ростані роспач хтось выкрасліў тушшу,
І думку закінуў у жыцця кругабег…
Даволі, даволі нудзіцца і плакаць!
Сучаснаму смутак варожы, чужы,
У краіне свабоднай за творчаю працай
Так хочацца творчай адзінкаю жыць.

*12 лютага 1926 г.*

## Навучы

Навучы, зеленакосы вецер,
Як сказаць ласкавае люблю.
Засмяялася асіна сівым веццем,
Прытуліўся ліст к лісту.
Навучы, зеленакосы вецер,
Як сказаць мне ласкава: люблю…
Пахіліўся дуб стары у лесе,
Заспяваў віхор ў сваю дуду.
— Многа год жыву на свеце,
Перажыў і радасць і тугу.
Толькі вось такіх не мог прыкмеціць,
Каб жылі з ласкавага: люблю…
Знаю, знаю, любы братка вецер.

Мо загіну, ў полымі згару?
А лілеі у бялявай цвецені
Зацвітуць на родным берагу.
Сонца кіне дыяменты-росы,
Упрыгожыць чарамі зямлю,
Загалосіць, бура загалосіць,
Я скажу апошняе: люблю.

*30 студзеня 1927 г., Менск*

## Апошняя вясна
*(да карціны Клодта пад такой жа назвай)*

О, не сумуй, што я сягоння іншай
Прыйшла сюды за ласкаю тваёй!
Ў вітрынах кармазыняць вішні,
Па вуліцах гудзіць, снуе аўто…
А ў полі дзесь…
Ды ты не зразумееш…
Табе больш любы горад і завод,
Прамені любіш ты электрыкі і зменнасць,
І грукат, гул трамваяў і аўто…
У полі дзесь…
Ды ты не зразумееш…
Там журавы ды з выраю ляцяць.
Дзе яшчэ ўчора завывалі веі,
Барвістым дыванам іскрыцца сенажаць.
— А я, а я?! і для мяне завеі,
Элегію сумлівую заўюць,
Бо з першым праменем, што ласкава прыгрэе,
Спаткаю я — апошнюю вясну…
Іду на вуліцу… а вецер песціць грудзі,
Цалуе твар, ўслед вые: угу, гу…
А вецер лёгкі сполах будзіць,
Шапоча мне — «даволі, любы друг!..
— Даволі жыць… бо адзвінела шчасце

І радасць зорная, як белая свяча.
Яшчэ хвіліна… дагарыць і згасне…
І пойдзеш зноў нязнанае шукаць».
Дык не сумуй, што я сягоння іншай
Прыйшла сюды за ласкаю тваёй.
О, не сумуй!.. — бо веі закалышуць,
Бо буду чуць ў расстання буйным свісце,
Што хтосьці кліча, кліча дарагой,
Бо буду чуць я кволая: прачніся!..
Бясконца марыць сонечнай зарой.

*18 ліпеня 1927 г.*

## Звоны

Звоны звоняць, звоняць, звоняць
Ў час начны…
Грукат, гоман, звоняць ў звоны
Званары.
Зоры свецяць, месяц свеціць
Залаты…
Гэй да сонца, гэй ў дарогу,
Малады!
Звоны звоняць, звоняць, звоняць
Уначы.
Грукат, гоман, звоняць ў звоны
Званары.
Навальнічыць, навальнічыць неба сінь,
Даўны звычай, дзіўны звычай
Уначы.
Звоняць звоны гулка, звонка,
Дзіўны плачам, дзіўным гукам,
Дзіўным днём…
Звоняць звоны гулка, звонка:
— Мы ідзём…
Грукат, гоман, звоняць звоны

Да зары.
Дзіўным сказам, дзіўным гукам:
Волі шыр.
Б’юць сталецці, б’юць гадзіны
У званы.
Даўны звычай, дзіўны звычай
Уначы…

*26 люрага 1927 г.*

* * *

У сіне-зялёным прадонні
Вясна пагубляла ключы,
О, вольныя птахі, о, вецер!..
Пазычце мне крылляў сваіх.

З вясною квяцістыя веі
Калыша, гушкае галлё,
І перламі ззяюць лілеі
У сонечных радасных снох.

З вясною плывуць успаміны —
Далей камяніца і брук.
Ў прыволлі крылатым не згінем,
Нам вецер таварыш і друг.

Мне цесна, мне цесна на свеце —
Наўкола імгла, туманы…
О, вольныя птахі, о, вецер,
Пазычце мне крылляў сваіх!..

*[1927]*

## Першы май

Аксамітнаю усмешкай
Прывітаўся з сонцам май.
Па глухіх забытых сцежках
Бегла к поўначы зіма.

Дыяменты-кроплі палі,
Кроплі першага дажджу,
Бліскавіцы ў сініх далях —
Быццам пруцці з сталі жнуць.

Першым грукатам грымотаў,
Першым бляскам бліскавіц,
Знікла стомленасць, сумота,
Кліча май імкнуцца — жыць.

Дыяменты-кроплі палі
На пажоўклую траву,
Мігам з радасці крыштальнай
Там пралескі зацвітуць.

Каснікамі залатымі
Спелянала сонца далеч,
І фабрычны комін дымны
Шле вясне сваё вітанне.

Промень будучыні светлай
Прывітай жа, родны край,
Сімвал еднасці сусветнай —
Першы май.

*1928*

* * *

Завіліся словы
Ў сінія туманы.
Даўнасцю сталеццяў

Даль звініць, звініць…
Завіліся словы
Ў сінія туманы,
Ранне аксамітнае
Прашаптала:
Хочу жыць…
Сонца залацістае
Маладой вясны,
Шалясценнем ветрыка
Дадало:
Лю-біць!..
Завіліся словы
Ў сінія туманы.
Даўнасцю сталеццяў
Даль звініць, звініць…

*1928, Сібір. Больніца*

## Маё credo

Я зусім не баюся смерці.
Ці не такім, як я, паміраць?!
Хто маю пуцявіну змерыў,
Жыцця пал замураваў?!
Прэч ад мяне, малаверы!
Прэч, хто не верыць у сябе,
Экстазнасцю дзікіх прэрыяў
Сягонняшні наш разбег.
Слова маё ці вобраз
Прымусяць і жыць, і гарэць,
Знікне з дарогі тормаз,
Толькі б культуры перл.
Сягоння, учора і заўтра
Адчыняю «Новыя Амерыкі»
І віхрастай жывой дзікаркай
Вачыма ў тэорыях бегаю.

Гніллю, смяццём закінутым —
Смутак, туга, бездарож.
Бровы ўпартасцю скуты,
У жылах пульсуе кроў.
Жыла я дасюль, бы ў лесе,
Знала адно — Беларусь…
А сягоння наша Палессе
Кліча машынны грукат.
Прэч ад мяне, малаверы!
Прэч, хто не верыць у сябе!
Экстазнасцю дзікіх прэрыяў
Сягонняшні наш разбег!

*1929, Масква*

## Да новых перамог

*Жанчыне-работніцы ў дзень 8 Сакавіка*

Гудкі, гудкі… Салют сталёвым гартам.
Жыццё адменнае, адменныя шляхі.
Хадою простай, думкаю упартай
Свідруюць вочы будучыні дні.
Няволі крыж, прыгонніцкія краты
Злізалі полымем Кастрычніка агні,
*Сястрыца, любая! Сягоння наша свята —*
*Мы новага жыцця будаўнікі!*
Ты чуеш гул?! Ты чуеш звон набатны?!
Да новых перамог,
Да новай барацьбы.
Імкненнем палкім, працаю упартай,
Ў вачох рашучае: не жыць, ці перамагчы!
Мужнасць
— жаночасць,
Магутнасць
— ласка…
Далёкай любай з дзяцінства казкай…

Таварыш —
маці,
Сястра і воін,
Гудкі вітаюць
Цябе такою.
З нязбыўнай мары цвіце сапраўднасць,
Ў краіне вольнай вітанне, радасць.
І вось таму так радасна заўзята
Вітаюць дзень фабрычныя гудкі.
*Сястрыца, любая! Сягоння наша свята —*
*Мы новага жыцця будаўнікі!*

*[1929]*

## На заводзе

Дык чаго глядзіш так падазрона,
Дык чаго пытаеш, ці люблю?
Важым перамогі мы на тоны
І вітаем чорную раллю.
За імшарнікам, за жоўтым кураслепам
Скалы новыя тарфяныя растуць,
Беларусь перад усім сусветам
Дэманструе моц сваю.
Дагніваюць шэрыя лапцёнкі,
Попелам лучына дагарыць,
Занядбаную калісь старонку
Да святла кіруюць дымары.
Ў кожным слове, ў кожным рытме — сіла,
Маладосці сонечнай уздым,
Я калісьці шнур палёў любіла,
А сягоння вабіць фабрык дым.

*1929, «Чырвоная зорка»*

## Адышоўшым

На герань, на прымус і пялёнкі
Ты змяніла любы камсамол.
А калісьці радасна і звонка
Заклікала верай новых дзён.
Дружа мой, адкуль такія змены?
І ў вачох чытаю я адказ:
«Механічна выбыла, абеды,
Малы сын займалі ўвесь час…»
Няўжо забылася пра яслі,
Няўжо сталовай не было?
Засмяялася: «А што б сказаў мне Ясік?
Новы быт — колькі прыгожых слоў!
А на справе: кухня і пялёнкі.
А на справе брудныя наскі».
І ў вачох счарнелаю вясёлкай
Дагаралі імпэту агні…
Гэта спадчыны агідлая адрыга,
Багна гразкая гразнуляў старых.
На жывых лісткох гнілая вільгаць,
Сонцам спалены закінуты пустыр.
Ў думках блытаных шукала я адказу.
Выйсце дзе, ці ж поруч нам ісці?
І прытульнасць ціхая абразай,
Цені новыя рэальнасць спавілі.
Кругагляд такі абмежаваны —
Дабрабыт, кватэра, муж і сын;
Малы свет кругом замураваны
І мінулых успамінаў дым…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Другі, скіньма спадчыну цяжкую,
У грудзёх нянавісці вулкан,
Няўжо далёкія, чужыя,
Няўжо ня звернецеся к нам?!
Вырвем з коранем агідлы, рабскі звычай,

Жыць па-новаму, па-новаму кахаць,
Каб не быць ахвяраю прывычкі,
Каб тварыць, імкнуцца, будаваць.

*[1929]*

## Бліскавіцы
*(з жыцця сялян з Гарадзеншчыны на Сібіры)*

*У Сібір 1908 г.*

Доўга па хатах мігцяць аганькі:
Думаюць-гадаюць, ці ехаць у Сібір.
Бабы галосяць. Маўчаць мужыкі.
— Там чалавека, бы муху, забіць.
Край невядомы… Кругі, кругі.
У траўні звярнуліся хадакі.
— Там халады, ды без меры зямлі.
Колькі захочаш, заворвай, бяры.
Доўга на сходках гарланіў народ:
Боязна ехаць, ды зноў недарод.
— Зноў жа слабода, — гавора Хвядос.
І падхапілі: — Цярпелі ўжо досыць.
Сілы апошнія знішчыў прыгон.
Пойдзем па шчасце, па долю ў пагоню!

Пахавалі бабы прасніцы і кросны,
Бо ці ж лён уродзіць у краі чужым.
Развіталіся з краінай, роднай вёскай,
Бо спрадвеку прагне чалавецтва жыць.
Шлях знаёмы; кучаравыя бярозы,
Дзе-нідзе самотныя крыжы,
А ля самага Сожу
Далучыліся новыя: — І мы ў Сібір…
Краіна родная…
У самотлівае ранне,

Знікае Сож, і Прыпяць,
і Дняпро…
Глухім дакорам
простае казанне,
За сведак кручы
гэтых берагоў,
Пакіньма іх,
дзе дні за днямі ў твані,
Дзе сталлю халадзіў
Сібірскі магістраль,
Адтуль апошняе
маўклівае вітанне
Шле перасяленец
ў родны край.
Мільгаюць шапкі белыя
Уралу,
Скідае пыл
з каменнямі скала,
Ці то цягнік так сунецца
памалу,
Ці думы?! Ў думах нікне
галава.
Забыты шлях,
бярозавы гасцінец,
Дзе пурпурам
рабіна зацвіце…
Іртыш агнямі
прывітаў гасцінна
Зусім чужых,
няпрошаных гасцей.

*[1929]*

## Жанаддзелу Беларусі

Росквітам цудоўным
і прывабным
Усміхнулася нам
шчасная
зара.
Вольнымі арліцамі
ўзмахнулі крыллем
Родная матуля
і сястра.
Дзесяць год,
як промені
Мітусяцца,
бліскаюць,
Вераю хвалюе,
узнімае грудзі —
Перамога
блізка!
Ў жанаддзеле сёння
словы-
бліскавіцы:
— Для краіны вольнай
Будзем вянок віці.
Наша сёння
свята,
Наша сёння
воля,
Будзіць
горды покліч
Заімшалы гоні…

*[1929]*

## Адцвітанне

Палец белы пракалола гостраю іглою,
Кропелька крыві на ім заззяла,
Дый не чула быццам і не боль,
У адчаі усе пальцы пакусала.
І ўсё роўна нязмерна хацелася плакаць,
Мо па зруйнованых надзеях…
— Роспач!
                    Пыталася я — ці прыгатаваны палацы,
Ды каб віна пабольш, —
                                        чуеш?! І новая ідэя:
— Роспач!
Бачыла я сёння калісьці каханага,
Бледны, калматы, з поступам жабрачым…
Паглядзі, ці кубак яму прыгатаваны?
Хочу на ростані шчасцем упіцца,
Хочу зноў быць маладою, прыгожаю.
Ведаеш, і без пары часта гіне калініца,
Ранняй вясною прыхваціць марозам.
Дымкаю белай схавалася роспач,
Спяшаючы вячэру гатаваць.
А я, раскідаючы залатыя косы,
Выйшла ў сад, дзе зелянела аксамітная трава,
Слухалі моўчкі, як шпак пералётны
Штосьці спявае дружыне сваёй…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Усё гэта зараз далёка, далёка.
Шэрыя цені прасцёр супакой…
І таму зноў палец пракалола гостраю іглою,
Кропелька крыві на ім заззяла.
І не чула, быццам і не боль,
У адчаі ўсе пальцы пакусала.

*[1929]*

## Залатыя верацёны
*(Ля ракі Масквы)*

Залатыя верацёны патанулі
Ў ртутнай шыры…
Залатыя верацёны
Ў гэтым люстры дэбашыраць,
Смех, бліскучасць,
                    znічкі,
                              словы…
Гоман,
          гул жыцця вясёлы
Ап’яняюць хмелем новым.
Залатыя верацёны
Ў ртутнай шэрані згасаюць.
І з краіны роднай зьічка,
Прывітаўшыся, казала:
          «Блесткі, словы,
                              ток, упартасць,
          Ў неба гордыя узлёты…
          Быць, як сонца, яго вартым,
          Бегчы прэч ад мглы, сумоты,
          Чорнай хіжай сум крадзецца,
          Пацукамі грызе пражу,
          Не паддайся — гэта вецер
          К нам заносіць лямант ўражы.
          Пі суздром
                    жыцця праменні,
          Перашкоды зруйнаваўшы,
          Беражы свой творчы геній
          І не дбай аб ціхім шчасці».
Знічка любая, бы думка,
Ў стынь набраклую нырнула…
Грукаціць аўто, па бруку
Цені блудзяць на хадулях…
Я адна… Наўкола бляскі,

Гул трамваяў, смех, трымценне,
І знаёмай любай казкай
Аплятаюць летуценні…
У калысцы пелясткавай
Сніцца мора, сняцца далі.
Парадзілі сонца словы
У сучаснасці крыштальнай.
Пена,
          пыркі,
                    хвалі, хвалі…
Хто мацнейшы,
                              хто падужыць?..
Захавала далеч ў скалах
Сполах слізкім чорным вужам…
Міг… хвілінай непаўторнай
Расцвіла усмешка мая…
А над вухам шум маторны
І сімфонія трамваяў.

*1929, Масква*

## ГАННА САПРЫКА

*1911–1962*



Ганна Іосіфаўна Сапрыка нарадзілася 3 (16) чэрвеня 1911 г. у вёсцы Куркаўшчына Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Мсціслаўскі раён Магілёўскай вобласці) у сялянскай сям'і.

Пасля заканчэння вясковай сямігодкі вучылася ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. У час навучання ўваходзіла ў Мсціслаўскую літаратурную студыю разам з З. Астапенкам, А. Куляшовым, З. Піваваравым, Ю. Таўбіным.

Закончыўшы педтэхнікум у 1930 г., працавала настаўніцай на Віцебшчыне. У 1931 г. пераехала ў Менск, дзе ў 1933 г. скончыла газетна-выдавецкае аддзяленне Менскага педагагічнага інстытута. З 1933 г. працавала ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве.

Памерла 14 траўня 1962 г., пахаваная на Усходніх могілках Мінска.

Літаратурную дзейнасць Г. Сапрыка пачала ў 1926 г. з вершаў, якія друкаваліся ў часопісах «Малады араты», «Аршанскі маладняк», «Работніца і калгасніца Беларусі», газеце «Чырвоная змена». Аднак больш вядомая як празаік і перакладчык. У 1959 г. яе апавяданні і аповесць выйшлі асобнай кнігай «Калі ў сэрцы вясна».

На беларускую мову пераклала «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў» (1953), кнігу «З крыжам ці з нажом» Я. Галана (1954), «Раённыя будні» В. Авечкіна (з М. Герасімовіч, 1958), «Мой памочнік Карсыбек» М. Вірты (1961) і інш.

**Літаратура**


Войценкаў М. Ганна Сапрыка // Святло Кастрычніка (Мсціслаў). 1966. 26 крас.

Войценкаў М. Мсціслаўскія «маладнякоўцы» // Святло Кастрычніка (Мсціслаў). 1986. 11, 14, 18 кастр.

Клімуць Я. Ганна Сапрыка // Магілёўская праўда. 1991. 26 студз.

## Сяўба

Паказалась з-за лесу ўжо сонейка,
Скрозь туман выглядае, як блін…
Запражом у калёсы мы коніка,
Жыта сеяць паедзем на клін.

На калёсы паложаны бараны,
Пасканныя са збожжам мяхі,
І сявалка з папругай аборванай,
І саломы снапы для ляхі[1].

Ў полі ціха. Туманам акутаны
Поле, рэчка, і луг, і лясы.
І ні мошак, ні птушак не чутна —
Пахаваліся ўсе ад расы.

Тут мяшкі расстаўляем па пахаце,
Бацька сее рукою зярно,
Я ж са жменяй саломы пад пахаю,
Значу, дзе пакладзецца яно.

Цягне конь барану дзеравяную —
Тая рэжа камлыгі зямлі;
Разрыхляем зямельку старанна мы,
Каб расці лепш зярняты маглі.

*[1928]*

---

[1] Увага рэд. [час. «Аршанскі Маладняк»] Ляха, ляшыць — вызначаць саломаю, дзе падае жыта на раллі. Я буду сеяць, а ты ляшыць. Ляшэнне пашырана на Амсціслаўшчыне.

## На праполцы

Серабрылася росна
ля выбітай сцежкі
маладая, зялёная
шчотка — трава.

А яна,
як заўсёды з вясёлай
усмешкай,
на калгасны гарод
прыйшла працаваць.

Яна — брыгада:
дзяўчаты, жанчыны,
вышлі разам усе,
як адзін на гарод.

Трэба сёння падрэзаць
макрыцу ў лагчынах
і да вечара
вырваць на ўзгорку асот.

Кучаравая Зося
з вясёлай Марынай
аднавілі сягоння
стары дагавор:

Не пашкодзіць ніводнай
каштоўнай расліны —
пустазелле падрэзаць
і скінуць ў разор.

А Агапа з Настасяй
і цёткаю Фроскай —
абматычыць да вечара
пяць ярусоў.

Буракі ўзышлі там
        чырвонай палоскай,
іх заглушваў пырнік
        і колкі асот.

Узялі абавязкі
        і ўсцяж разышліся
па загону шырокаму
        пухкай раллі.

Звонкі гоман і песні
        не сумам калішнім,
а юнацкім задорам
        у далеч плылі.

І мільгае на сонцы
        жалеза матыкі,
каляровых касынак
        бы ў маку града.

Хто адстане сягоння,
        запалам вялікім
б’ецца кожнае сэрца —
        тэмпаў не здаць.

Гэтай раніцай сонечнай,
        цёплай, пагоднай,
калі водар наўкол
        разлівае вясна,
калі радасць нясецца
        з калгасных загонаў,
хіба ж можна
        цяпер сумаваць.

Пустазелле
        мы вымецем вон з агародаў,
а з жыцця маладога
        трывогу і сум.

Гэта выйшла брыгада.
        Сталёваю ротай
такіх тысячы выйдуць
        у гэту вясну.

*24 красавіка 1933 г.*

## Уборачная

Сонца сыпле праменні долу,
Паветра сціскае. Горача.
Надышла ўпэўненаю хадою
Кіпучая летняя ўборачная.

Харaством, ураджаем багатым
Бязмежны прастор каласіцца,
І вышлі на поле брыгады
Збіраць залатую пшаніцу.

На участках жняяркі стракочуць,
Зразаюць салому пад корань,
А сонца жмурыць вочы,
Разлівае праменняў мора…

Колас ядраны, цяжкі
Золатам звоніць, ляскае.
Не адзін не загіне — звяжуць
Моцныя рукі калгаснікаў.

І ўсцяж на іржэўнікі шэраг
Снапоў умалотных кладзецца.
Гады прамінулі шэрыя,
Радасцю б’ецца сэрца.

Сёння вялікае свята,
Сёння вялікая радасць.
Кожнага звяна на участку,
Кожнай ударнай брыгады.

Не дарма яны увесну
З-пад снегу аралі глебу —
Ў падзяку зямля прынесла
Ураджай вялікі хлеба.

І стрэне звонкаю раніцай
Чырвоныя абозы горад.
Развінайцеся ж, песні працы,
Ураджайным калгасным задорам.

*[1933]*

# ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*1913–2000*



Эдзі Агняцвет (сапр. Эдзі Сямёнаўна Каган) нарадзілася 28 верасня (11 кастрычніка) 1913 г. у Мінску ў сям'і служачых: бацька займаў пасаду прараба на лесасплаве і лесанарыхтоўках, маці працавала ў бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.

Пасля заканчэння сямігодкі была вучаніцай на мінскім машынабудаўнічым заводзе «Камунар» (1930), год вучылася ў Мінскай прафтэхшколе будаўнікоў. Закончыла крытыка-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута (1934). Завочна атрымлівала адукацыю на педагагічным аддзяленні літфака згаданай навучальнай установы (1934–1936), працавала рэдактарам Беларускага радыё (1934–1938), кансультантам у кабінеце маладога аўтара Саюза пісьменнікаў БССР (1939), у аддзеле паэзіі часопіса «Полымя рэвалюцыі» (1940–1941). Падчас Вялікай Айчыннай вайны жыла ў эвакуацыі ва Узбекістане. У 1945–1946 гг. працавала ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1937 г.

Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўных Саветаў БССР і Узбекскай ССР. Міжнародным саветам па дзіцячай і юнацкай літаратуры (ІВВУ) у 1986 г. узнагароджана ганаровым дыпломам за кнігу «На двары алімпіяда».

Памерла 17 ліпеня 2000 г., пахаваная на Усходніх могілках Мінска.

Дэбютавала вершамі ў 1929 г. у газеце «Чырвоная змена». Выйшлі зборнікі паэзіі «Маё пакаленне» (1935), «Вершы» (1938), «Вясновай раніцай» (1941), «Край мой родны» (1945), «Дарога ў будучыню» (1949), «Беларуская рабіна» (1959), «Лірыка» (1965), «Круглы год: Выбранае» (1966), «Жаданне» (1971), «Спадзяванне калыханак» (1983), «Закаханым» (1986), «І смутак, і святло» (1996), «У свеце дабрыні» (2013), паэма «На беразе Волгі» (1940).

Асаблівую вядомасць Э. Агняцвет набыла як дзіцячая паэтка. Юным чытачам адрасаваны кнігі «Васількі» (1947), «Ля

піянерскага кастра» (1952), «Твае таварышы» (1957), «Госць з далёкай зямлі» (1958), «Незвычайныя канікулы» (1962), «Першы ліст» (1966), «Падарожнік» (1969), «Піянерская гама» (1970), «Краіна маленства» (1975), «Мы сур’ёзныя, мы вясёлыя» (1976), «Доктар Смех» (1977), «Ад зярнятка да вясёлкі» (1981), «Хто пачынае дзень?» (1982), «На двары алімпіяда» (1984), «Буду настаўнікам» (1990), «Рэчка, рэчанька мая» (1991), «Хай часцей смяюцца дзеці» (1997), «Пад сінім небасхілам» (1999), паэмы «Песня пра піянерскі сцяг» (1949), «Мы будзем сябраваць» (1955, дапрацаванае выданне ў 1979), кніга для чытання ў 4 класе «Роднае слова» (з Я. Івашуціч, 1989). У 1976 выйшлі Выбраныя творы ў 2 т.

Аўтар лібрэта опер для дзяцей «Джанат» (1962, ставілася ў 1944, 1947, 1974), «Марынка» (урыўкі ў 1958, пастаўлена ў 1956).

Перакладала з рускай, украінскай, узбекскай, французскай і іншых моў.

**Літаратура**

Барсток М. Цяплом вясны сагрэтая // Агняцвет Э. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск: Маст. літ., 1976. Т. 1.

Глінская Л. І. Нязгасная кветка дзіцячай паэзіі // Пачатковая школа. 2003. № 9.

Яфімава М. «У Вашых творах — Ваша сэрца…»: Развагі пра творчасць Эдзі Агняцвет // Роднае слова. 1998. № 10. С. 11–17.

## Вецер

Куды нясешся, вецер неспакойны,
ў якую рвешся ты таемну даль?!
Куды імкнецца дух твой вольны,
бушуе-рвецца, бы шалёны шквал?!

О, гэта сіла, вецер, сіла злая,
яна ірве у іншы край твой вольны дух!..
У краі ж тым народ з нядолі памірае,
ім незнаёмы светлы вольны рух!

У краі тым гаруе люд працоўны,
крыві людской праlітая рака…

Ой, паляці туды, мой вецер неспакойны,
і разнясі, змяці там гора бедака!

*[1929]*

## Песні зімовыя

Захлынуўся ў ціхіх песнях снежань,
Загудзеў працяжна дрэваў карагод.
І паліўся звон увыш, ад вежаў:
Заспяваў іскрыста-полымны завод.

І панеслась песня буйнае машыны;
Чую, заліваюцца-звіняць гудкі…
І задумна шэпчуць казкі вераб'іны,
Плачуць і пяюць бары-маладнякі.

Ой, не плачце, песні жыцця, маладыя,
Не шкадуйце кветак тых, што адцвілі,
Услаўляйце сэрцы нашы агнявыя,
Што гараць у бурным, баявым агні.

Не гудзі сярдзіта, срэбная бабуля,
Не сумай на скрыдлах ціхіх забыцця.
Воркат твой зімовы, што зямлю атуліў,
Не заглушыць спеваў вольнага жыцця.

*[1930]*

## Першы ўспамін

Ці мне забыць завулак той,
Дзе клён стаяў адзін,
Дзе нарадзіўся раніцой
Мой першы успамін?

Было ў той час дзівосным мне:
Як лёталі жукі,
Як расцвіталі па вясне
Кляновыя лісткі.

Мы сцежкай бегалі прамой,
Плыла здалёк рака,
І крыкнуў друг вясёлы мой
Спалохана:
                    — Рука!

Ён пазіраў на пыльны шлях,
Яна ляжала там
Без чалавека.
                    Першы страх
Глядзеў у вочы нам.

Я добра помню мазалі
Шурпатыя на ёй.
Мой друг, мы селі на зямлі
І плакалі з табой.

А дрозд свісцеў у гэты час…
І вось праз пыльны шлях
Стралой прамчаліся паўз нас
Армейцы на канях.

Адзін на хвілю стаў,
                                        зірнуў
На нас, малых,
                              на клён.

Ён толькі повад падцягнуў,
І шаблю сціснуў ён.

*Ліпень 1939 г.*

## Таполя

На паляне, на прыволлі
Дзень і ноч шуміць таполя.
І, здаецца, кажа казкі, —
Можа травам, можа краскам?

Можа колас ціхі ў полі
Думы ведае таполі?
Вецер мне шапнуў на вуха:
— Уначы прыходзь,
паслухай.

І стаю
я на прыволлі
Ля высокае таполі.
Загудзела верхавіна…
Будзе казка ці быліна?

— Будзе казка і быліна! —
Кажа кожная галіна,
І звініць мне срэбрам лісце:
— Сустракала я калісьці
Родных хлопцаў-партызанаў,
Маткай стала ім адданай.
Ночкай цёмнаю хавала
Я сыночкаў ад навалы.

А як зорка гасла ў небе, —
Я шаптала:
— Ў пуць вам трэба,
Каб ад панскай ягамосці
Засталіся толькі косці!

Уставалі партызаны, —
Кожны ў мару закаханы:
— Будзе воля,
                    будзе доля!
Ну, пакуль, мая таполя.

Я чакала.
                Смуткавала.
Дзён спакойных я не знала.
Прыляцелі ветры з поля:
— Ёсць і шчасце,
                        ёсць і доля!

І расту я на паляне.
Сэрца цешыцца, як гляне —
На азёры,
                на прасторы,
На лясоў зялёных зоры.

Спее жыта і пшаніца,
Лён ласкава залаціцца.
Пахнуць яблыкі і сосны,
І сады звіняць пад восень.

Гляну ў неба —
                        раным-рана
Мчацца дзеці партызанаў.
Мне б сказаць уголас:
                                — Дзеці,
Недарма жыву на свеце!

*[1939]*

## Мараку

Ты паплыў у сіні край,
Без цябе я астаюся.
Толькі ты не забывай
Аб дзяўчыне з Беларусі!

Мы хадзілі сустракаць
Вечары
            парой вясновай.
Многа ты хацеў сказаць, —
Не сказаў жа мне ні слова.

Толькі вочы люба так
З-пад расніц глядзелі русых.
Ты лістоў чакай, марак,
Ад дзяўчыны з Беларусі.

Ты ўдыхаеш солі пах,
У начным стаіш дазоры,
І нябесны млечны шлях
Зорамі плыве па моры.

Дзесьці ўсплывае маяк,
Чаек з далей крык пачуўся.
Помніш ты цяпер, марак,
Аб дзяўчыне з Беларусі?

Устае за валам вал,
Бура спее ў морскіх нетрах.
Ты сустрэнеш смела шквал,
Друг мой, не пакорны ветрам.

А калі і грымне бой —
Мігам я ў паход збяруся.
Мо спаткаецца з табой
І дзяўчына з Беларусі!

*Ліпень 1939 г.*

## Каўказ

Цябе я ў ма́рах бачыла даўно,
Зялёны край,
                    радзіма гор і мора.
Тваё святло ішло ў маё акно,
І подых твой мне чуўся ў соснах бора.

Цяпер глядзі,
                    табе прынесла я
Вітанне ніў,
                    прывольны шум калоссяў;
Таму цяпер пяе душа мая,
Што мне з табой сустрэцца давялося.

Калі стаю на кручы векавой
Ці п’ю з тваіх струменяў серабрыстых —
Кладзеш ты ўсе багацці прада мной,
Як гаспадар гасцінны,
                              сэрцам чысты.

Жаўцеюць мандарыны у садах,
І з дрэў, здаецца, падаюць лімоны.
Пладоў тваіх мне любы спелы пах,
І любы мне прыбою гул бяссонны.

Калі ж ля гор я сустракаю тут
Сасонку
            ці палескія яліны, —
Яшчэ мацней мне родны кожны кут —
Твае, Каўказ, цясніны і даліны.

*1939, Гагры*

## На чаўне

Зорка ўсходзіць над гарою
І мігціць на морскім дне,
Дрэмлюць хвалі,
                                        мы з табою
Праплываем на чаўне.

Паказаў дарогу месяц
Нам рукою залатой.
Ты пяеш, —
                              лясы Палесся,
Рэчак звон у песні той.

Я не знаю, што са мною, —
Мар маіх шуміць прыбой.
Можа, гэтаму віною
Мора,
            зорка над гарой.

Пэўна, ветрык — птах крылаты —
Мне спакою не дае.
А, быць можа, вінаваты
Вочы сінія твае? —

Што вясною мімаволі
Сняцца мне ў дзявочым сне…
Дрэмлюць хвалі.
                                        Мы паволі
Праплываем на чаўне.

*1939, Гагры*

## Бура на моры

Схаваўся ў хмарах маладзік.
Стаяць у задуменні горы.
Маланкі вогненны язык
Трапеча і знікае ў моры.

Паўднёвы вецер, буры сын,
Я чую твой гарачы подых, —
Ён дзьме з узгор'яў і нізін,
І сінія чарнеюць воды.

Прыбой не знае берагоў.
У цемры ночы палахлівай
Шалеюць тысячы ільвоў
І ззяюць пеністаю грывай.

Такою ноччу не заснуць.
О, сінія агні маланак!
У дальні, невядомы пуць
Вас праганяе ціхі ранак.

Прыходзіць ён з-за снежных гор,
Спявае хвалям калыханку.
Адно імгненне —
                                    і прастор
Святлее ад усмешак ранку.

Звініць птушыная свірэль,
А на скале прамень іскрыцца.
Плыве спакойна карабель,
Нібы не ведаў навальніцы.

*[1939]*

## Каўказскай ноччу

Прыходзіць ноч.
Яе жывыя вочы
Агнямі ззяюць дзіўнымі ў гарах.
Чытаю я сівую казку ночы.
Над возерам самотны кружыць птах.

Я тут адна.
Вятры з надхмарных высяў
Ка мне ў даліну мар не даляцяць.
І пальмы ля зялёных кіпарысаў,
Як моцна закаханыя, маўчаць.

Далёка ты,
не прагнеш шумнай славы.
Твой карабель плыве між сініх льдоў
У краі тым, дзе не растуць і травы,
Дзе ты, мой друг, іх вырасціць гатоў.

Паўночны брыз імчыць праз акіяны,
І хваль сівых нязлоўна быстры бег.
Ці чуеш ты скрозь буры і туманы,
Што часта я смуткую па табе?

Я пазнаю праз дальнія прасторы
Высокі лоб,
усмешку, друг, тваю.
Маёй журбе адна ёсць сведка — зоры:
Глядзяць,
як я ля возера стаю.

Я ведаю, —
прыедзеш неўзабаве,
Каб зноў паплыць у мора вечных зім.

Каўказа ноч
                    і вецер гор ласкавы,
Спявайце аб каханні аб маім.

*1939, Гагры*

## Вінаграднік

Я іду цяністым садам,
Спеюць гронкі вінаграда.
У тамленні, у знямозе
Да зямлі звісаюць лозы, —

Хочуць
            пырснуць ненарокам
На мяне пахучым сокам
І ракою залатою
Зашумець,
                запець на тоях!

Вунь прымчаўся вецер з высяў,
За галінкі зачапіўся,
Кожнай кісцю лозы машуць.
Як вазьму зімой я чашу,
Маладым вінoм напоўню, —
Гэты дзень
                і сцежкі ўспомню,
Дзе ішла,
                дзе ў садзе звонкім
Вінаграда спелі гронкі.

*[1939]*

## ЛІДЗІЯ КАРМАЛІТАВА

*1915–1996*

Лідзія Уладзіміраўна Кармалітава нарадзілася 5 красавіка 1915 г. у Мінску ў сям’і эканаміста і настаўніцы.

Удзельнічала ў Другой сусветнай вайне, мела ўзнагароды.

Значную частку жыцця працавала ў педагагічным друку, газеце «Советская Белоруссия» і іншых выданнях.

Памерла 15 чэрвеня 1996 г., пахаваная на Усходніх могілках Мінска.

Публікавалася з пачатку 1930-х гг., у тым ліку і з вершамі (часопіс «Іскры Ільіча»). У 1950-х гг. друкавала прозу ў «Настаўніцкай газеце».

### Зімовыя забавы

Выпаў беленькі сняжок,
Мяккай коўдрай сцелецца.
Бяжэм, дзеткі, у садок,
Снег так добра лепіцца.

Ах, як слаўна на дварэ!
Дык хутчэй, рабяткі!
Трэба ўзяць з сабой насілкі,
Мётлы ды лапаткі.

І ў пакоі пуста стала.
Пад нагамі снег скрыпіць:
Гэта дружна дашкаляты
Сталі ў гурбу снег вазіць.

Рэм і Валік — за лапаткі:
— Мы вам будзем насыпаць!
Падстаўляйце свае тачкі,
Працаваць, дык працаваць!

Мётлы ўзялі Эма, Рая
І дарожкі размятаюць.
Жоржык, Боб, не уцякайце,
Снег змятаць нам памагайце!

Тупат, гоман, снег іскрыцца,
Звонкі смех дзяцей звініць.
Добра з горачкі вазіцца,
Яшчэ лепш — яе рабіць.

*[1933]*

## К. ДРАБЫШЭЎСКАЯ

*?–?*

К. Драбышэўская — сялянка вёскі Сапожкава Кармянскага раёна Магілёўскай акругі, прадстаўніца т. зв. масавай паэзіі.

### Давай дарогу бабе вольнай

Давай дарогу бабе вольнай —
Цяпер і мне тут месца ё.
Даволі мучылась бяздольнай,
Было пакутнае жыццё.

Спыніўся гнёт і забабоны,
Спыніўся цёмны бабскі шлях.
І я з душою аднаўлёнай
Нясу высока яркі сцяг.

Ніхто мне душу не скавае
І не накіне ланцугоў:
Прайшла даўно гадзіна злая
Спрадвечных жудасных гадоў.

Давай дарогу бабе вольнай —
Заззяла воля на зямлі.
Ўжо гнёт не вернецца ніколі,
Я — роўны сябар у сям'і.

Як вол, раней я працавала,
Цярпела вельмі шмат пакут,
Ні ў кім увагі не спаткала
Пад скрыгатаннем цяжкіх пут.

Злажылась нават небыліца
Аб тым, як мы цярпелі век,
Што быццам курыца — не птіца,
А баба — дык не чалавек.

І гаварылі: доўгі волас,
Зато кароткі бабскі вум…
І галашу, бывала, ўголас
Ад чорных дзён, ад чорных дум.

А ён, разумны, прыдзе з шынку
Дзікі, п'яны, што чуць стаіць.
Да ніткі спусціць ўсё на рынку
І стане розуму вучыць.

І чым разумнага «дурная»
Звярыны не ўсміраю гнеў, —
Ён косы мне павырывае
На то, каб розум падлінеў.

Цяпер сабе сама я пані:
Хаджу ў чытальню, ў клуб хаджу.
Ламацца нада мной не стане
Ніхто, — я грамаце вучусь.

Усё не так тут, як дагэтуль,
І вёску нашу не спазнаць:
Нам свет адкрыла ўласць саветаў,
Каб новае жыццё кавацць.

Я — дочка новай Беларусі,
Тут сэрца вольнае стучыць.
І шчырай ўдзячнасцю за волю
Яно трапечацца, гарыць.

*[1925]*

## МАРЫЯ МІЦКЕВІЧ

*?–?*

Працавала настаўніцай. Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

## Якубу Коласу

Ты выйшаў з глыбіні народа,
Не ведаў ты вясны сваёй…
Твой ідэал была свабода,
І песнь сваю спяваў ты ёй…
Ты бачыў гора і нядолю
І шкадаваў працоўны люд,
Што злую ён цярпеў няволю
Ад незаслужаных пакут…
Будзіў ты дум жывыя сілы,
Каб чалавекам кожны стаў,
Каб з ранніх год і да магілы
Ў другім бы брата шанаваў…
Спявай жа нам, цяпер заўсёды,
Спявай аб радасці жыцця,
Аб славе вольнага народу,
Якога ты, пясняр, дзіця.

*[1926]*

## РАГНЕДА БЕРАЗІНСКАЯ

*?–?*

Біяграфічных звестак пра паэтку не выяўлена. Вершы публікавала ў часопісе «Чырвоны сейбіт». Мяркуючы па запрашэнні «зайсці ў рэдакцыю», змешчаным у адным з нумароў часопіса, жыла ў Менску.

### Люблю

Люблю я родныя абшары,
Прасторы вольныя палёў,
Старыя помнікі-курганы
І спеў размашыстых вятроў.
Люблю таемны голас лесу,
Яго начныя галасы…
Як салаўі смяюцца з бэзу…
Люблю вясёлы бляск расы.
Васенніх бур люблю я голас,
Агонь маланкі з чорных хмар…
Люблю! — у полі гнецца колас
І вее шырынёй абшар.

*[1926]*

### * * *

Шэпчуць, гамоняць паціху таполі —
Прошласці цёмнай сыны,
Шэпчуць аб радасці, шэпчуць аб волі,
Плачуць лістамі яны.

Плач іх разносіцца, гіне далёка,
Скарга мінулага ў ім.
Сум залягае у сэрцы глыбокі,
Штосьці здаецца сваім.

Чуюцца ў шопаце казкі былога,
Песні нядолі бацькоў,
Суму і роспачы ў песнях тых многа,
Спадчыны прошлых вякоў.

Шэпчуць, гамоняць паціху таполі,
Прошласці цёмнай сыны,
Шэпчуць аб радасці, шэпчуць аб волі,
Плачуць лістамі яны.

*[1926]*

## Ой, сагнуўся…

Ой, сагнуўся стан твой,
Матуля, любая.
Пабяліла косы
Ой, нуда ліхая.

Устае павольна
Прад табой былое —
Ўспомніла міжвольна
Жыццё маладое.

Зноў ты стройная дзяўчына
З чорнымі брывамі,
Шэрымі вачыма,
Чорнымі касамі.

Зноў пераплятаеш
Косы васількамі,
Потым аздабляеш
Жыта каласкамі.

Вось ў сям'і чужой,
Далёка ад роду,
Ты дзявочасці сваёй
Губіш там свабоду…

Ды бяжыць за годам год.
Ты ўжо пастарэла,
Пад навалаю нягод
Каса пабялела…

Арлянятамі з гнязда
Разляцелісь дзеці.
Ты засталася адна
Без апоры ў свеце…

Ды усё змагла ты —
Сілы йшчэ хапіла.
Бачыла ты краты,
Бура не схіліла.

Сыну памагала
Ў працы за свабоду —
Кідала адозвы
Скутаму народу.

Вось і сцяг свабоды
Чырванню узвіўся…
Ой, стамілі годы,
Стан твой пахіліўся…

*2 студзеня 1927 г., Менск*

## У дарозе

Снежная раўніна
Ды прастор палёў.
Зрэдка голая асіна,
Ціхі шэпт кустоў.

І імчацца коні —
Замірае дух,
Прамялькаюць гоні.
Снег, як белы пух.

Вецер кіне ў вочы
І ляціць далей,
Потым зарагоча
Ён яшчэ смялей.

То ізноў гулліва
Жартаўнік пяе,
То мяне маўкліва
Шчыра абайме.

То ласкае квола
Любы чараўнік,
То ў далёкім полі
У прасторы знік…

*[1927], Станькава*

## ЭСТЭР ЗЯЛЁНКА

*?–?*

Эстэр Зялёнка (іншыя варыянты напісання прозвішча: Зяленка, Зеленко, Зеленка) згадваецца ў справаздачы часовага кіраўніка Бабруйскай філіі «Маладняка» М. Лынькова сярод «8 чалавек, якія працуюць (пішуць) болей-меней рэгулярна» (БДАМЛМ, ф. 225, воп. 1, спр. 11, арк. 4). Месцам жыхарства паэткі там пазначаны Бабруйск. Пісала пераважна па-руску, друкавалася на старонках бабруйскай газеты «Камуніст». Пастановай пратакола № 3 пасяджэння ЦБ «Маладняка» 24 лютага 1927 г. Эстэр Зялёнка была выключана са складу Бабруйскай філіі, а замест яе залічана Арына Глінская (БДАМЛМ, ф. 225, воп. 1, спр. 3, арк. 41).

### За жизнь

Вот она мчится, летит быстрокрылая,
К новому, к лучшему смело летит;
Свежая, быстрая, вечно-кипущая
В стройке горячая
Бурно шумит.

Старая, хилая, слабая, грязная,
Злая, отсталая, — стой позади!
Прочь! Сторонися! Дорогу грядущему!
Жизнь прекрасная,
Стройся, иди!

Галстуки красные, звездочки Кима,
С песнею звонкой, песней труду,
Жизнь покорим свежей силой бурлящею,
В сердце внедрим,
Победим на лету!

Вот она мчится, летит быстрокрылая,
К новому, к лучшему смело летит;

Свежая, быстрая, вечно кипящая
В стройке горячая
Бурно шумит!

*[1927]*

## Камсамолка

Шэрыя вочкі, платочак чырвоны,
Заўсёды прыгожы-здаволены твар,
Колькі жыцця, колькі моцы магутнай.
Сэрца адважна, гарача, як жар.

———

Шчыра кахаю твой вобраз вясёлы,
Словы гарачыя, быццам агні,
Ўночы, увечары, ўсюды, заўсёды
Твар камсамолкі стаіць прад вачмі.

———

Шэрыя вочкі, платочак чырвоны,
Заўжды прыгожы, здаволены твар,
З песняю звонкай лятай, быццам птушка,
З сэрцам адважным, гарачым, як жар!

*[1927]*

## С работы

Расцелуюсь с синею лазурью,
Захлебнусь в объятьях синевы,
Обниму горячею рукою
Свежий стан красавицы-весны.

Нежно ветерок ласкает плечи,
Руки черные от пыльного станка;
Голубыми колокольчиками вечер
Напевает гимн концу труда.

И в работе молодость не дремлет,
Ручейками звонко жизнь бурлит,
И на отдыхе в весенний, синий вечер
Молоточком в жилах кровь стучит.

И готов я с ветром целоваться,
Потонув в объятьях синевы,
И обнять горячею рукою
Свежий стан красавицы-весны.

*[1927]*

## ЗОСЯ ДУМКА

*?–?*

Жыла ў мястэчку Любонічы (цяпер вёска ў Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці), друкавалася ў газеце «Камуніст» (г. Бабруйск). Іншых біяграфічных звестак не выяўлена.

### Васеннія думы

Дзень сонечны, прыгожы,
Як моладасць, як казка…
Дзень, перавіты праменем,
Іскрыстым, як крышталь…
Ў душы прыгожы сон,
Сон, поўны дзіўнай ласкі.
І маніць, вабіць сэрца
К прасторам сінім даль…

Блішчыць, дрыжыць паветра,
А ніці пухам белым
Павіслі над прасторамі,
Імкнуцца ўвысь, у даль,
І пранясуцца ветрыкі
Павевамі нясмелымі,
І сэрца агарнецца
У ціхі-ціхі жаль…

У восень ціха-сонную,
Чырвоную закатамі
Нясмелым рэхам гукае
З палямі ціхі бор…
А далі цёмна-сінія
У сум і жаль апрануты…
І гэты сум — бы чуцен мне
Ў іскрыстым бляску зор.

*[1927], м-ка Любонічы*

## ЗОСЯ ПАЛЫН

*?–?*

Сапраўднае прозвішча — магчыма, Бабровіч[1]. Вершы Зосі Палын публікаваліся ў часопісах «Аршанскі маладняк» і «Росквіт». Біяграфічных звестак пра паэтку не захавалася.

* * *

Ой, да ты, каліна,
золата-маліна,
Светла-зорная, ўзнімісь
ў чорна-хмаравую высь.
Зашумі на белы свет;
прыбярыся ў макаў цвет.

Дажджом ягады рассып,
змый згрызоту да расы.
Дружа, ягаду глыні:
зарунелі б скрозь агні.
Ты ж расці, каліна,
золата-маліна!

*[1927]*

* * *

Не прыйдзем мы
з пахіленаю галавою
і не схіліць яе
ардою навальніц.
Хай рогат грому
свет прад вачыма двоіць,

---

[1] Паводле ганарарных разлікаў рэдакцыі часопіса «Росквіт» (БДАМЛМ, ф. 55/252, неапрацаваны).

не ўбачыце вы нас
бярозы веццем — нібы
ніц.
Звініць звон дзён…
звон наш — далёка!..
хай золь злуе…
няхай аблогай золь!
Абмаршыруем свет, «une terre» —
нацыянальным крокам,
не кінем заклікаць
да салідарнасці
мазоль.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мінаюць караблі
на хвалях
выспы:
звон нашых дзён
ружова-мудры вечар зменіць,
заціхне ўсплёск
апошняй пырскі…
а на шляху сваім
ні перад чым
не станем
на калені!!

*[1927]*

* * *

Бывайце здаровы,
старыя парогі,
дзе мае хадзілі
бялюсенькі ногі.
Дзе яны хадзілі, —
хадзіці не будуць:

па светлую долю
пайшлі з сваім людам.
Ой, ды не у полі
(ў полі дзікі вецер),
не ў глыбокім небе
ды шырокім свеце,
знойдзем сваю долю
мы у чорнай глебе, —
ураджай вялікі:
радасці ды хлеба.
Толькі ў чорнай глебе
залатыя горы,
горы залатыя,
радасныя зоры.
Зоры-весялухі
разумнейшай долі
пойдуць карагодам
у хаце і ў полі.
Навіной вітаю
новыя парогі,
бо да вас прымчацца
чарнюсенькі ногі.

*[1927]*

# ВАЛЯНЦІНА ЖУРАЎЛЁВА

*?–?*



У сярэдзіне 1920-х гг. працавала сакратаром камсамольскай ячэйкі ў Лёзненскім раёне, актыўна займалася грамадскай дзейнасцю. У 1925 г. пазнаёмілася з часопісам «Беларуская работніца і сялянка» (пазней — «Работніца і калгасніца Беларусі»), арганізоўваючы яго чыткі сярод жанчын. У 1927 г. была вылучана «на жанработу», прыцягнула шмат жанчын да журналісцкай працы. Сама публікавала карэспандэнцыі, артыкулы і вершы публіцыстычна-агітацыйнага зместу ў газетах «Беднота» (Масква), «Заря Запада» (Віцебск), «Віцебская сялянская газета», часопісе «Работніца і калгасніца Беларусі». У 1928 г. была райарганізатарам рабселькораў у г. Гарадок Віцебскай вобласці. Працала хатнікам (загадчыцай хатычытальні) у Аляксандраўскім і Балецкім сельсаветах (Гарадоцкі раён), выдавала насценную газету, вакол якой гуртаваўся актыў рабселькораў. У 1931–1932 гг. вучылася на курсах падрыхтоўкі газетных кадраў пры Камвузе Беларусі, з 1932 да кастрычніка 1935 г. працавала адказным рэдактарам крычаўскай раённай газеты «Сацыялістычны шлях».

**Літаратура**

Жураўлёва В. Мяне выхаваў большэвіцкі друк // Работніца і калгасніца Беларусі. 1934. № 21.

Жыткевіч З. Наша селькорыя // Заря Запада. 1928. 5 мая.

## Камсамолія

Мо хто вецер затрымае,
Зловіць птаху вольную,
Ну, а моц ніхто не мае
Стрымаць камсамолію.

Мы расцём з сялянскай нівы,
Расцём з грукату машын.
З нас ніхто не палахлівы,
Мы ўсе роўны, як адзін.

Восень хай слязліва плача,
Ці зімой мароз трашчыць,
А вясна нам шлях зазначыць,
Камсамол па ім ляціць.

Мы ўжо выраслі даволі
І штодзённа ўсё расцём,
Не стрымаюць камсамоліі,
Мы яшчэ далей пайдзём.

Фізкультурнікі, спартсмены —
Гэта справа нашых рук.
З піянерам куём змену
І грызём граніт навук.

Мы ўсю вёску ўзбунтавалі,
Ў фабрыцы нясёмся ўскач,
Беларусь мы будавалі,
З намі дзядзька Галавач.

*[1928]*

## Трэці паверх

Разносяць кроў электражылы,
Пад вёрт калёс раве завод.
За Капэбэ магутнай сілай
Ударнікаў ідзе паход!

На рыштаваннях грае вецер,
Струны паўзуць да зор уверх.
Мы новы, моцны, ужо трэці
Упарта складваем паверх!

Пяціпаверхавы будынак
Рашылі скласць, будзе гатоў.
Мускул расце бесперапынна
Ужо трынаццаць вось гадоў.

Гісторыя складае шпарка
З днёў тыдні, з месяцаў гады,
Нас кліча партыя і мы ўпарта
Будуем гмахі-гарады.

Гісторыя хай буйным шрыфтам
Адзнача пераломны год.
Еўропе трухлай нас не сцішыць,
Не перакроіць бег ўпярод.

Наш піянер — Кастрычнік вырас,
Праклаўшы шлях да ўзорных днёў.
Падлічым, што юнак наш вынес
За шэраг пройдзеных гадоў.

Гучыць серп з малатком на ўсходзе,
Берлінскі металіст гразіць —
Цярпець даволі, будзе, годзе,
Свет падзяліўшы, гадам жыць!

*[1931]*

## Мабілізуйцеся, кабеты, да перавыбараў саветаў

Мабілізуйцеся, кабеты,
Звоніць шустрая зіма.
Перавыбары саветаў
Правадзіць ідзі сама.
Мяккі шопат вёрту шпулек,
Электрычнасць, спеў гурткоў.
Нас прывабна маніць, туліць
Больш дзясяткаў ўжо гадоў.

Між замшэлых сізых багнаў
Моцна думку залажыў,
Мы муруем дружна, прагна
Новы горад-калектыў.
Шэрай стужкай між сугробам
Ўецца сцежынка на сход,
Тут падлік яшчэ мы зробім
Руху нашаму ўпярод.
Хусткі, хусткі… Ясны вочкі,
Сталь сцяны з жывых людзей.
Тут сацыялізму дочкі
Лічуць новыя падзеі.
Асінбуды, Турксіб-буды,
Калгас-буды — гарады,
Па савецкім краю ўсюды,
Выраслі ў гэты гады.
Лепшых, лепшых у саветы,
Хто калгасу блізкі, свой,
Хто па Ленінскіх заветах
З апошняй класай вядзе бой.
Лепшых, лепшых у саветы,
Хто жыццё гатоў аддаць
За сацыялізм сусветны,
Сцяг чырвоны вышэй ўзняць,
Хто за выкрытую здраду
Вырадкаў сусветных зграй
Ва ударную брыгаду
Сёння першы уступаў.
Ліхтары туман разгоняць,
Новы звон электраструн,
Капіталу пахароны —
Новы марш узгрунь.
Пяцігодачка радная,
Шпар далей, наддай-ка жару,
Дроў у вогнішча кідая
Сусветнага пажару.

Палыхне усход і захад,
Зоркі ж ярчэ будуць ззяць,
Блізак час, калі саветы
Ўвесь свет будзе абіраць.

*[1931]*

## Рабкор — ударнік, ударнік — рабкор

«Рабкор — ударнік, ударнік — рабкор», —
Па-вясенняму спевам звініць.
Завод пяе, гук праз сізы прастор
Да кудравых калгасаў ляціць.

«Рабкор — ударнік, ударнік — рабкор», —
Па ўсім С-С-С-Р чуем мы.
Ніхто, ніхто не спыніць шлях да зор,
Лозунг наш на ўвесь свет грыміць.

Брыгада, звяно, калектыўны наш крок.
З кожным днём расце новы атрад.
І там хутчэй разлятаецца змрок,
Дзе ёсць наступ ударных брыгад.

Хутчэй, сюды. Слухай кожны, што тут.
Гэта менскіх ударнікаў ліст.
Да ўсіх, да ўсіх, хто ўдарнік праз друк,
Прапанову сваю вынось.

Звініць, звініць па ўсёй БССР —
У адказ прапаноў не злічыць.
І я, гэта я, рабселькор,
Пяцігодку іду завяршыць.

Шчыльней рады, вось электраагні,
Запрагайце электра-каней,
Віхрам імчаць, папрабуй дагані.
Чаму тэмпы у нас — разумей.

«Рабкор — ударнік, ударнік — рабкор», —
Па-вясенняму спевам звініць.
Усё пяе, гукі поўняць прастор.
Гэты спеў ўвесь свет абляціць.

*[1931]*

## РАБОТНІЦА КЛІМАВА

*?–?*

Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

### За вучобу

Раз Адарка (будзь што будзе)
Зайшла ў школу паглядзець,

Што там робяць тыя людзі,
Што над кніжкаю сядзяць?

Яшчэ неяк заглянула,
Нешта ў школу пацягнула.

Мароз люты на дварэ,
Дарку ж і сон не бярэ.

Людзі там, бы пчолы ў вуллі,
Клім з суседняга двара

Клапатліва к сшытку туліць
Дзюбу вострага пяра.

Зразумела тут Адарка,
Што і ёй пара пачаць

Кінуць лаянку і сварку,
Павучыцца лепш чытаць.

А суседка, як на тое,
Ў школу кліча: «Годзе спаць,

Траціць годы залатыя,
Трэба свету смак пазнаць».

Дарка павяла вачыма:
— Ці я ж горшая за ўсіх?

Ці год болей за плячыма?
Трэба ў школу й мне ісці.

Дні за днямі крочаць ўперад.
Самой Дарцы навіна:

Свет убачыла праз веды,
З кніжкай дружбу завяла.

Ў Даркі сонцам шлях заліты —
Больш не прыйдзецца блудзіць.

Жывымі сталі радкі літар,
Пачалі з ёю гаварыць.

*[1930], Менск*

## Л. ПУТЫРСКАЯ

*?–?*

Біяграфічных звесткак пра Л. Путырскую выяўлена мала. Вядома, што да пачатку 1930-х гг. яна працавала ў часопісе «Беларуская работніца і сялянка», пазней была памочніцай начальніка па жанрабоце палітаддзела Заслаўскай МТС.

Выступала ў друку з вершамі (пераважна для дзяцей) і публіцыстычнымі артыкуламі. У 1930 г. асобным выданнем выйшла апавяданне Л. Путырскай «Падшэфны Рыжык».

* * *

Я дзяўчынка удалая,
Не глядзеце, што малая.
Магу шыць і маляваць,
Ўсё з паперы выразаць,
Добра кубікі складаць,
І спяваць, маршыраваць.
Магу вымыць і пасуду,
Не люблю гразі і бруду.
Чыста мыюся сама,
Гэта звычка ўжо мая.
Маме я дапамагаю,
Прыбіраю, падмятаю,
Бо я знаю, што яна
З працы зморанай прыйшла.
А чаму ж я удалая,
Дык ніхто не адгадае?
Свой сакрэт адкрыць вам рада:
— Бо хаджу ў дзіцячы сад я.

*[1930]*

## Дзецям радасць

«Чырвоная Зорка»
Наш калгас завецца.

У калгасе дзеткам
Радасна жывецца.

Раней нашы маткі,
Ідучы на працу,

Дзяцей пакідалі
Ў сырой, цёмнай хаце.

Там мы не гулялі,
Бо не было часу;

Нам патрэбна было
Меншых даглядаці.

Вось цяпер — другое
Жыццё наступіла,

Калі пры калгасе
Яслі адчынілі.

Ёсць у нас тут цацкі,
Папера, алоўкі,

Любім маляваць мы
Каня ці кароўку.

Часам наша цёця
Нам апавядае

Ці з кніжачкі вершык
Уголас прачытае.

Мы у нашай рэчцы
Рыбак налавілі,

У банку з вадою
Рыбак пасадзілі.

Кожны дзень іх кормім
Ды ваду мяняем,

За ігрою рыбак
З цёцяй наглядаем.

Маем свае градкі,
Самі іх капалі,

Гародніны, кветак
Там мы насаджалі.

Градкі нашы ўвечар
Добра паліваем

І за прарастаннем
Пільна назіраем.

Нікаму не сумна,
Ўсім тут працы хопіць.

А меншыя дзеці
З пяску бабкі робяць.

Эх, ды што пра гэта
Доўга разважаці,

У дзіцячых яслях
Не жыццё, а шчасце.

*[1930]*

## Сонца-лекар

Залатое сонца
Весела зіяе,
Жаркія праменні
Ўсюды разлівае.

Ліфікі, сукенкі
Паскідаем мы,
На сабе заставім
Трусікі адны.

Няхай сонца грэе
Грудзі, ногі, плечы;
Ад усіх хваробаў
Няхай нас палечыць.

Загарым, як негры,
Чорныя мы станем,
Нават тата з мамай
Дзяцей не пазнаюць.

Толькі, хто памыцца
Часта забывае,
Да таго загара
Ніяк не прыстане.

Падрасцем і будзем
Мы бальшавікамі,
Для таго здароўе
Сваё захаваем.

*[1930]*

## Жніво

*Частушкі*

Не падумайце, што ў нас
        Кепскія парадкі.
Не глядзіце, што ў калгасе
        Ды старыя хаткі.

Вось пабачце, колькі дрэва
        Мы сабе навезлі:

Хутка будзе пабудован
Дом калгасным сем’ям.

Маем школу, яслі, кузню,
Маем і сталоўку.
Добрых коней і авечак,
Свіней і каровак.

Жывём дружна мы без сваркі
І працуем дружна.
Вось прыйшла пара жніва —
Сілы ўсе напружым.

Да нас шэфы прыязджаюць,
Нам дапамагаюць:
Вяжуць, жнуць, снапы складаюць,
Ураджай збіраюць.

Дзе сярпом, а дзе жняяркай
Пазжынаем мы свой хлеб,
Для жывёлы зробім шпарка
Мы зімовы новы хлеў.

Першай ўдарніцай сябе
Мар’я абвясціла,
Фатаграфію яе
Часопіс змясціла.

Шэсць ударніц у ячэйку
Заявы падалі,
Камуністкамі ўжо
Яны ў нас сталі.

Сацспаборніцтва ў нас
Цяпер разгарнулася.
Аб прыёме ў калгас
Сялянства звярнулася.

*Прыпеў:*

Тарахці, гучней, жняярка!
Сазывай сялян у калгас,
Кулаку ад злосці жарка:
З’еў бы, знішчыў бы ён нас.

Гэй! Жывей, братва, давай!
Падавай, не зявай!
Дружнай грамадой збірай
Бальшавіцкі ўраджай!

*[1930]*

## ЗІНА КАГАНОВІЧ

*?–?*

На пачатку 1930-х гг. жыла ў Ленінградзе. Уваходзіла ў Беларускую секцыю Ленінградскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, друкавалася ў альманаху «Цагліна ў падмурак», часопісах «Полымя», «Чырвоная Беларусь». Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

### Завод

Раніца. Сонца ашчэрыла зубы,
Колюць праменні блакіт.
Цвёрда красуюцца чорныя трубы
На моцным улонні зямлі.
Дым пакаціўся; застыла паветра,
Чуюцца ўздымы грудзей.
Вось разбягаюцца звоны па нетрах
З заклікам гулкім: «Хутчэй!»
Тахт падхапілі сталёвыя вежы.
Раз! — і замоўкла усё…
Два! — і разнеслася сілы бязмежжа…
Тры! — і пайшло калясо…
Больш не стрымаць, не стрымаць гэтых колаў,
Б’е па металу метал.
Вось ён завод, працазвоністы волат.
Вось дзе дынаміка хваль!
О, ты прыгожасць індустрыі светлай,
Крокаў ліхіх уладар,
Дойдзем мы, дойдзем з табою да мэты
Ў гімнах усплёскаў жыцця.
Дымныя хвалі плывуць ў задуменні…
Гэй! разыграйся, завод.

Груба, рытмічна ты сцелеш праменні.
Гэта дынаміка год.

*[1931]*

## Томас Оўэн

*(Урыўкі)*

I

Студзень.
                Ноч навісае столлю.
У трывозе імчыць цягнік.
Негарэлае.
                Механік Оўэн
На савецкай, новай зямлі.
Кліча новы размах варштатаў,
Кліча новы інакшы дзень.
Томас ведае:
                    вострай датай
Урубляецца гэта мгненне.
Усё дарога, дарога,
                            рэйкі,
І шуміць беларускі лес.
Адчыняе свае павекі
Раніцою ўсё Палессе.
Набухае рака ад снегу
І пакрыта ўсё белай лускай.
Над вакзалам
                    у дошку белую
Уплецена слова
                        «Бабруйск».

II

Узнімаюцца дні ў тэмпах
І ламаюцца думы Томаса:
Бачыць ён, што «савецкі дэмпінг»
У парламентах быў створаны.

Вечарамі гарачыцца Томас:
Ён расказвае ўсім рабочым
Пра ўсё, што Ангельшчына творыць,
Каб насунуць ваенныя ночы.

Закіпае вірлівая ярасць
І ў цемру ахвота рынуцца,
Каб палотнішчы параспарваць
І пусціць свет бесперапынны.

Чуе Томас:
                    ужо ў Сіці
Рвецца стукат рабочых ног,
Гэта значыць — чырвонымі ніткамі
Прашнураваны дні перамог.

Набягае дзень,
                          як лава,
Разгарачаная азартам —
У цаху сёння радасць:
Ангельскі механік
                                  уступіў
                                                  у партыю.

СССР — краіна родная.
Томас вымысламі небагаты,
Але трэба Ангельшчыну перагорнуць,
Каб сваімі былі варштаты.

Гэта думка з тахтамі сэрца
Разам білася з хвілі ў хвілю,

Праца праглая ў рух інерцыі
Самаго нават Томаса
падхапіла.

III

Прайшлі дні першыя маю,
Сёння цэху сход.
«Таварыш Оўэн слова мае»…
Томас пачаў гаворку:
«Таварышы,
браты мае!
Можа гэта дзіўна:
Еду я за аблічча сіняе —
За Ламанш-праліў.
Што ж мяне кліча ў гэткія рэйсы,
Зноў у мурзаты свет?
Таварышы. Я хачу, каб
Ангельшчына
Уваходзіла ў СССР.
Некалькі месяцаў у новым свеце
І…
зусім інакшы настрой.
Надыходзіць жалезны вецер
Разламаць брытанскі строй.
Сёння дзень імпэту бязмернага.
Аж зямля хутчэй кружыцца.
Я хачу, каб рабочая вера
Дала ўдар сваёю дужасцю.
Я даю, таварышы, слова:
Узнімаць палёты ніцыя,
Павырастаюць сотні новых
Ангельскіх
ударнікаў і партыйцаў».
Нарастае бурлівасць залі,
Нарастае, як ледаход,

Уступаюць дзве брацкіх хвалі
У адзіную маладосць.

Вось Ангельшчына і СССР
Бачаць свой адзіны шлях.
Томас сцягам узнімае ў сэрцы
Ад рабочых Бабруйску наказ.

IV

На пероне аркестры і сцягі,
Над перонам гарыць маладосць.
«Мы гарым у барацьбе, таварышы!» —
Устрывожана кажа Томас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Языкі выкідае дарога,
Не глынуць маладую даль…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось такія Оўэны Томасы
Савецкім зробяць абшар.

*Ліпень 1931 г., Ленінград — Беларусь*

## Песня і торф

Чорнай дрыгвай ільсніцца балота,
І вада
        зеляней дрэў…
— Вось вам прырода…
Вось экзотыка! —
Скажа якісь паэт.
Я ўзнімаю песню другую,
Іншым шляхам іду да балота.
Што мне экзотыка,
калі край патрабуе
Мільёны кубаметраў торфу.
На прасторах балота рэж канавы,
Досыць сівай гуманнасці!

Сёння хачу больш за ўсё ўславіць
Тых,
        хто не ўмее назад ісці.
Не патрэбна больш песень лёгкіх,
Што ўзвіваюцца,
                                        як дымы.
Трэ каб словы маладосцю
Узнімаліся на дыбы.
Песню новую
                                    і высокую,
Песню новую ў кругазор;
Гэта песня ў балотах
Хай здабудзе
                                  чорны торф.

*[1932]*

# ІРЫНА КАГАНОЎСКАЯ

*?–?*

Ірына (Фіра, Эсфір) Каганоўская вядомая як актывістка эсперантысцкага руху на Беларусі, на пачатку 1930-х гг. рэдагавала і вяла радыёперадачы на эсперанта для замежных слухачоў: спачатку раз на месяц, потым двойчы на тыдзень, а ў 1935 г. дзесяць разоў на месяц. Тагачасная эсперанцкая прэса пісала пра І. Каганоўскую: «Яна вечна кудысьці спяшаецца, вечна занятая, хоць справа рухаецца ў яе павольна. Праўда, гэты недахоп з цягам часу ў яе знікае. Затое выяўляюцца вартасці. Каганоўская ў нас валодае эфірам, ёю арганізуюцца эсперанцкія радыёперадачы. Яна ж пачынае паступова ўваходзіць і ў літаратуру, піша кніжкі для рабят дашкольнага ўзросту і хоча дагнаць на гэтай ніве Янку Маўра».

Свае творы для дзяцей І. Каганоўская друкавала з 1931 г. пераважна ў часопісе «Іскры Ільіча», выдала кнігі «Як Натка гутарыла з маткай» (1932), «Ударныя брыгады ў дзіцячым садзе» (1933), «Кіскі і кніжкі» (1935). У часопісах «Bulteno de CK SEU», «Sur Posteno», «Международный язык» (г. Масква) публікавала артыкулы, прысвечаныя руху эсперанта (некаторыя — пад псеўданімам K. Ira). Пераклады замежнай публіцыстыкі з мовы эсперанта змяшчала таксама ў часопісе «Работніца і калгасніца Беларусі».

Кніга І. Каганоўскай «Ударныя брыгады ў дзіцячым садзе» паводле загаду № 33 Галоўліту БССР ад 3 чэрвеня 1937 г. была ўключана ў спіс літаратуры, падлеглай знішчэнню. Лёс аўтаркі невядомы.

### Літаратура

Миркор. Силуэты нашего актива // Международный язык (г. Москва). 1934. № 7. С. 187.

Эсперанта ў Беларусі / апрац. В. Луба // Ніва (г. Беласток). 2009. 26 ліп. С. IV.

Якімовіч А. Некаторыя пытанні дзіцячай літаратуры // ЛіМ. 1932. 25 мая.

## Ударныя брыгады ў дзіцячым садзе

I

Грае сонца праз ваконца,
Зайчыкамі скача;
А даўно ужо за працай
Наш садок дзіцячы.
Тут брыгада, там брыгада —
Дружна ўсе працуюць;
У куточку — Рэм і Надзя
З Валяю майструюць.
У руках у іх: цвікі,
Дошкі, пілы, малаткі;
Робяць вешалкі з фанеры,
Каб павесіць рушнікі.

### Песенька брыгады

Ходзіць Гог, ходзіць Гог
Брудны з галавы да ног.
Нос у Гога, што за нос,
Ці не мохам ён аброс?
Гог наш сумны, Гог нервовы,
Гог наш, мусіць, нездаровы.
Ну, а мы — бадзёрыя:
Чыстыя-здаровыя!
Мы — ў брыгадзе, мы ў ударнай,
Мы ў брыгадзе санітарнай.
Мы стругаем, рубім, пілім;
Робім полачкі для мыла
І для шчотачкі зубной;
Кожнаму — куточак свой.
Зробім працаю ўдарнай
Наш куточак санітарны.
І прывесім мы плакат
Для ўсіх нашых акцябрат:

**Бруд — хваробу нам нясе!**
**Чыстата — нам моц дае!**

II

Сонца весела міргае,
Ў жмуркі з дзеткамі гуляе.
Не да сонейка брыгадзе —
Непарадак у садзе:
Дурасліўка Валя
Цацкі раскідала;
З кубікаў заводзік
Разбурыў Валодзя.
Рэчы не на полцы,
Крэслы ўсе без толку,
На падлозе Мішка,
Не ў парадку кніжкі.
Цацкі убіраем,
Крэслы расстаўляем,
Пыл ўсюды знімем,
Вокны ўсе адчынім.
Будзе чыста, будзем рады,
О, як чыста будзе ў садзе!
І спаборнічаюць з Наткай
Ліна, Рэм і Маша:
— Мы — брыгада па парадку
Ў памяшканні нашым.
І прывесім мы плакат
Для ўсіх нашых акцябрат:

| |
|---|
| МАТЭРЫЯЛ СВОЙ БЕРАГІ,<br>УСЁ НА МЕСЦЫ ПАКЛАДЗІ! |

III

Дзень вясёлы, дзень бадзёры
Для брыгады трэцяй:
Попел ў скрыні, попел чорны
Сыплюць з групак дзеці.
Для чаго вам попел, дзеці?
Вы куды яго нясеце?
Павязем яго з сабою
У калгас — на полі,
Ўзойдзе жыта, ўзойдзе ўдвое,
Будзе хлеба болей!
І ў руках плакацік
Стась з Зосяю трымае.
**Калі попел мы збіраем,**
**Мы калгасам памагаем,**
**Памагаем ураджаю!**

IV

У наступнай
У брыгадзе
Феня, Грыша
З Васільком;
— Мы брыгада
Па даглядзе
За жывым
Нашым кутком.
Кормім птушку
Крошкай, мушкай,
Кормім рыбак
І жучкоў.
Мы ударна
Даглядаем
Нашы кветкі
І звяркоў!

V

Мы бываем на заводзе,
Наглядаем працу;
Выраблякоць там машыны,
Розныя варштаты.
Там рабочых розных шмат,
Ёсць і машыністы;
У рабочых працаваць
Будзем мы вучыцца.
А завод той велізарны
Шэфствуе над садам,
Для ударнікаў плакаты
Робім мы брыгадамі.

VI

З сонцам разам
Стройным радам
Выйшлі з песняй дзеці.
Піянерскія брыгады,
Вы куды ідзеце?
Б'юць барабаны,
Б'юць барабаны,
Рад, змыкайся цесна!
Ідуць у паход,
У ўціль-паход
Ідуць брыгады з песняй:

**Гэй, брыгады, жвава**
**Прымемся за справу!**
**Мы двары абойдзем,**
**Шмат чаго мы знойдзем;**
**Усюды мы пралезем**
**І збярэм жалеза,**
**Розныя кавалкі;**
**Будуць рэйкі, гайкі.**

**Будуць для краіны**
**Новыя машыны.**
**Гэй, брыгады,**
**Жвава прымемся за справу!**

Ажыўляюцца двары
Смехам зычным дзетвары;
Дзівіцца, любуецца
На дзяцей ўся вуліца.
Памагаюць піянерам
Тут жа акцябраты.
І ўціль збіраюць у садзе
Тры ударныя брыгады.
Цягне Шурка
Бляху з Нюркай;
Шклянкі, банкі цягне Янка;
І жалеза два кавалка
Вунь нясе малы Міхалка.
І падраную галёшу
Дзесь знайшоў Цімоша.
А Грышок з маленькай Нінай
Усяго сабралі ў скрыню:
Тут і бланкі, і бляшанкі,
І іржавыя цвікі.
Будуць з іх для нас машыны,
Будуць трактары!

*

Блішчыць сонца,
Грае сонца,
Зайчыкамі скача,
Наш абоз з уцілем едзе,
Наш абоз дзіцячы.
Тры дзіцячыя брыгады
Ў рад сышліся цесна,

Тры ўдарныя брыгады
Крочаць смела з песняй…

**Мы — дзеці краіны,**
**Свабоднай краіны!**
**Нас клічуць заводы,**
**Нас клічуць машыны.**
**Разам з бацькамі,**
**Хутка з бацькамі**
**Мы ля варштатаў**
**Станем і самі.**
**У Савецкай краіне,**
**Ударнай краіне,**
**Працуем, будуем**
**Сям'ёю адзінай,**
**Нашае слова, моцнае слова:**
**Да працы гатовы! Заўжды гатовы!**

*

Не іграе праз ваконца
Балаўнае сонца,
І канчаюць працу ў садзе
Усе ўдарныя брыгады!

*[1931]*

## Кіскі і кніжкі

Што за злыя,
Злыя кіскі.
Разадралі
Мае кніжкі!

Ад прыгожай
Чорнай галкі
Пад сталом
Адны кавалкі.

І без колаў
Цягнікі,
Паравозік
Без трубы.

Ад рачулкі
І бярозкі
Вунь ляжаць
Адны палоскі.

А скамечаны
Завод —
Як ён трапіў
Пад камод?

А вясёлых
Акцябрат
Пакусалі
Кіскі ў рад.

Ах, якія
Злыя кіскі!
Разадралі
Мае кніжкі!

І расказвае
Мая,
Тут жа плакаць
Пачынае.

Кажа Мая:
— Я сядзела
І малюначкі
Глядзела.

Побач кіскі,
Злыя кіскі,
Пільнавалі
Мае кніжкі.

Заглядзелася
Ў аконца
Я на зайчыкаў
Ад сонца —

Тут падбеглі
Злыя кіскі,
Расцягнулі
Мае кніжкі.

І таму, што
Я на сонца
Заглядзелася
Ў аконца,

Разадралі
Мае кніжкі
На кавалкі
Злыя кіскі!

**А было гэтак.**

Што ў пакоі
За папера
Ад вакна
Да самай
Дзверы?

Хто з вас,
Дзеці,
Адгадае?

— Гэта кніжкі
Нашай Маі,
Па пакоі
Раскідала
Мая кніжкі,
Дзе папала —

Каля крэслаў,
Каля печы,
Не прайсці
Ніяк тут
Дзецям.

А гулялі
Побач кіскі.
Тры вясёленькія
Кіскі.

Лапкі беленькія —
Змейкай;
Ў плямах
Шэранькія
Шыйкі.

Разгуляліся
Тут кіскі,
І качаюцца
Па кніжках.

Намалёваны
Завод
Кіска цягне
Пад камод;

На спіне
Ляжыць другая,
З кніжкай
Лапкамі
Гуляе.

Як разбеглася
Вунь трэцця,
Кніжкамі
Пагнала вецер.

Кіпцюркі
Ўтыкаюць ў кніжкі,
Нібы ў мышкі,
Нашы кіскі.

Ад старонак
Шаст нясецца.
Што ад кніжак
Застанецца?

**Што сталася?**

Дзе ж завод
І дзе бярозкі,
Ці не гэтыя
Палоскі?

Паравозік
І аўто
Ў дзірках,
Нібы рашато.

А атрады
Акцябрат —
Як іх склеіць,
Як сабраць?

А калючыя
Дзве елі;
Кіскі з’елі,
Кіскі з’елі!

Плача Мая,
Плача Мая
І маленькіх
Кісак лае.

Будзем вінаваціць
Кісак,
Што не стала ў Маі
Кніжак?

*[1934]*

## ВЫСОЦКАЯ

*?–?*

Біяграфічныя звесткі і імя аўтаркі не выяўлены. Друкавалася ў часопісе «Іскры Ільіча».

### Цягнік

З шумам зычным і вясёлым
Стукацяць-імчацца колы,
Стройна рэйкамі бягуць,
Паравоз крычыць «угу».

Мы дагонім вецер быстры,
Нібы мошкі, сыплюць іскры.
Белым воблакам густым
Засцілае вокны дым.

Дачы, хаты і гароды,
Трубы фабрык і заводаў,
Школа, клуб, калгасны сад —
Ўсё ляціць-бяжыць назад.

У рабочых працы многа:
Трэба новую дарогу
Пракладаць нам па лясох,
Па балотах і палёх.

Хай ад мора і да мора
Па шырокіх тых прасторах
Мчацца сотні цягнікоў
Да калгасаў, гарадоў.

*[1933]*

## ЗОЯ ФЯРКО

*?–?*

Біяграфічныя звесткі не выяўлены. Друкавалася ў часопісе «Работніца і калгасніца Беларусі».

### Сямнаццаты акцябр

Сямнаццаты год, сямнаццатую восень
Будуем край мы свой, аквечаны зарой!
Імпэтна, непахісна йдзем наперад
Хадою пераможнай змагароў.

Растуць заводы, фабрыкі і домны,
Калгасаў незлічоных крочыць раць.
І ва ўчарашнім краі хмызняковым
Сягоння Беларусь Саветаў не пазнаць.

Яна расце — краіна сонечнага гарту,
Будуем мы яе, работніцы станка, палёў,
Мы дружным поступам ідзем ў хадзе упартай
Пад ясны бляск запаленых агнёў.

За намі цвёрда, з радасцю кіпучай
Замежныя браты і сёстры ўслед
Ўсе выйдуць прывітаць краіну гучнай
Спяванкай радасці у дні пабед!

*[1934]*

## САША ЯНКОВА

*?–?*



Саша (Аляксандра Ягораўна) Янкова (Маліноўская) жыла ў вёсцы Бронніца Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці, працавала даяркай у калгасах «Перамога» і «Перадавік», пасля 1936 г. — у мясцовым парткабінеце. Брала актыўны ўдзел у ліквідацыі непісьменнасці ў раёне. Вершы публікавала ў часопісе «Работніца і калгасніца Беларусі», газеце «Звязда».

**Літаратура**

Летапіс [Бронніцкай базавай] школы [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://school-bronitsa.by/index.php/letopis-shkoly.

## Калгасныя частушкі

Ў нашай Бронніцы, бывала,
Дрэнна маладзёж гуляла;
Альбо карты, альбо п’янка,
А цяпер сюды заглянь-ка!

Ўсюды зараз на сяле
Камсамол стаў на чале:
Ўжо ні карты і ні п’янка,
А культурная гулянка.

Ну і хлопцы камсамольцы!
Як ні хвастацца тут ўсім.
Чыста вопратка, прычоска,
На грудзях чырвоны КІМ.

І дзяржаве памагаюць
Ўсе пастаўкі выпаўняць,
І рыхтуюцца рабяты
Калектыўна святкаваць.

Гэта свята ўсім вядома,
Знае стар і знае мал,
Што з сямнаццатага году
Наш народ свабодны стаў.

Мы страчаем свята ярка,
Дружнай песняй маладой,
Ўжо не дробнай гаспадаркай,
А калгаснай грамадой.

*[1935]*

## Рэлігія — дурман

Хай не страшаць мяне пеклам,
Бо я пекла не баюсь.
Калі раней малілась богу,
Дык цяпер я не малюсь.
Кожну раніцу і вечар
Маць малілася бясконца.
Усё прасіла дапамогі
У нябеснага айца.
Свечкі ставіла з малітвай
Багародзіцы святой,
Але бог не дапамог ёй,
Засталося ўсё хлуснёй.
Толькі Ленін, камуністы
Прэч развеялі туман.
І тады сказала маці,
Што рэлігія — дурман.
І павынесла іконы —
Непатрэбны лішні хлам.
Ільіча ў вялікай рамцы
Памясціла мама там.

*[1935]*

## Калгасныя прыпеўкі

Нібы кветачка красуе
На рабінавым кусце.
Наша слаўная радзіма
Расцвітае і цвіце.

Як прыгожа цвітуць кветкі
Пад ваконцам на градзе,
Ўжо да трэцяй пяцігодкі
Родны Сталін нас вядзе.

Мы нуду-бяду забылі,
Надышоў шчаслівы час.
Дзякуй, дзякуй табе, Сталін,
Што клапоцішся пра нас.

Мы стаханаўцамі выйдзем
На ўраджайныя палі,
Каб сем-восем мільярдаў
Буйным цветам зацвілі!

Хай буржуй-кулак трасецца,
Свайму богу моліцца.
Весела у нас жывецца
І работа спорыцца.

Узрасла культура ў масах,
Шчаслівейшым стаў народ.
Мы стаханаўскім ды зробім
Новы трыццаць шосты год.

Камсамол наш, як заўсёды,
Будзе ўсюды першым,
Ён пакажа нам рэкорды
І размах не меншы.

Каб павысіць ураджайнасць,
Будзем з тэхнікай дружыць.

І жадаем, родны Сталін,
Доўга, доўга табе жыць!

*[1936], Буда-Кашалёва*

## І поўніць сэрца радасць

Мялі кару з мякінай,
Пячы з яе бліны!
Вось да чаго сялянства
Даводзілі паны!

Але ў дваццатым годзе
Не сцерпілі паны;
Як зайцы, з Беларусі
Ўцяклі прэч яны.

І вось прайшло нямнога:
Ўсяго шаснаццаць год,
А глянь, як ў Беларусі
Расцвіў цяпер народ.

Ён змёў касцёлы, цэрквы,
Будуе школу, клуб,
А ворагі ад злосці
Аж скаляць воўчы зуб.

А вунь на тым балоце,
Вякамі што гніло,
Там зараз вырастае
Калгаснае кіно.

І трактараў магутных
Чуваць там галасы,
Там шэпчуцца пшаніцы
Буйныя каласы.

І поўніць сэрца радасць
І льецца цераз край,

Як глянеш, што красуе
Калгасны ураджай.

Стаханаўцу ў калгасе
Будуюць светлы дом,
Ён зараз адчувае
Сябе гаспадаром.

Не пойдзе да бабулі,
Каб спіну палячыць:
Ён едзе ў санаторый,
Ён едзе адпачыць.

Не прычакаць буржуям,
Каб нам звярнуцца к ім:
Пазыкаю краіну
Яшчэ больш узмацнім!

*[1936], Буда-Кашалёва*

## Вясна

Прайшла зіма, замоўклі завірухі,
Уся зямля праснулася ад сна.
Спяшыць да нас госць трэцяй пяцігодкі,
Вясёлы госць — любімая вясна.

Спяшыцца бор надзець сваё убранне,
На ім іскрацца кропелькі расы.
І кожны дзень, як музыка над раннем,
Паветра поўняць птушак галасы.

Тут на палях не змоўкне яшчэ гоман
Тых ручайкоў, што шэпчуць на зары,
А па лясу нясецца рэха громам,
Як заспяваюць песні трактары.

Пад гэты спеў, вясёлы і магутны,
Плугі кладуць зямлю за радам рад,

І кожны дзень тут раніцай туманнай
Чуваць напеў стаханаўскіх брыгад.

Надыдзе час, і гэты звон і шопат,
Усіх вясёлых песень галасы
На гэтым полі ў ясны дзень асенні
Паўтораць зноў пшаніцы каласы.

А вось цяпер як ласкай свеціць сонца.
Вясна прыйшла шумлівая ў калгас,
І поўніць сэрца радасцю бясконца,
Што родны Сталін думае пра нас.

Што пад яго цудоўным кіраўніцтвам
Усе заводы, фабрыкі, палі,
Усе народы бацькаўшчыны нашай
Пад гэтым сцягам шчасцем расцвілі.

*[1938], Буда-Кашалёўскі раён*

# ПАЭТКІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЛАТГАЛІІ

## ВОЛЬГА САХАРАВА

*1884–1943*



Вольга Фёдараўна Сахарава (дзявочае прозвішча Нікановіч) нарадзілася 15 (28) чэрвеня 1884 г. у вёсцы Казаноўка Лепельскага павета Віцебскай губерні (цяпер Чашніцкі раён Віцебскай вобласці) у сям'і праваслаўнага святара Фёдара Нікановіча, абранага ў 1907 г. мясцовым насельніцтвам у дэпутаты Дзяржаўнай думы 3-га склікання.

Закончыла Полацкую дзяржаўную гімназію (1900). Настаўнічала ў Люцыне (цяпер г. Лудза, Латвія), дзе ў 1905 г. пабралася шлюбам з настаўнікам Люцынскага гарадскога вучылішча Сяргеем Сахаравым (1880–1954) — будучым вядомым фалькларыстам і этнографам. У студзені 1907 г. разам з мужам пераехала ў г. Юр'еў (цяпер г. Тарту, Эстонія), дзе закончыла прыватныя курсы дашкольнага выхавання. Пасля колькіх год працы ў Віцебску, Юр'еве і Пінску ў 1917 г. зноў апынулася ў Люцыне, куды С. Сахараў быў запрошаны на пасаду дырэктара гімназіі. Вольга Сахарава арганізавала там прыватны дзіцячы садок, удзельнічала ў працы культурна-асветнага таварыства беларусаў Латгаліі «Бацькаўшчына», утворанага ў 1921 г.

У 1922 г. Сахаравы пераехалі ў Рыгу, у 1925 г. — у Дзвінск (цяпер Даўгаўпілс, Латвія), дзе да 1932 г. працавалі ў Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. У канцы 1932 г. зноў перабраліся ў Рыгу, а ў 1935 г. — у мястэчка Краслава, дзе В. Сахарава дапамагала мужу збіраць беларускі фальклор. У 1936–1937 гг. Сахаравы жылі ў Дзвінску, потым зноў у Рызе — разам з сям'ёй дачкі Ірыны.

Перажываючы смерць старэйшай дачкі Галіны (11 лістапада 1940 г.), Вольга Сахарава цяжка захварэла, апошнія месяцы жыцця была паралізаваная.

Памерла 13 сакавіка 1943 г. у Люцынскім шпіталі, пахавана побач з дачкой на Люцынскіх праваслаўных могілках.

Актыўная пісьменніцкая дзейнасць В. Сахаравай распачалася пасля пераезду ў 1917 г. у Люцын. Яна пісала невялічкія інсцэніроўкі для выхаванцаў свайго дзіцячага садка, якія і ставіла разам з імі. У Дзвінску пісала п'есы для вучнёўскіх пастановак у гімназіі. Найбольшую вядомасць атрымалі казачная феерыя «На Полацкім замчышчы» (пачатковая назва — «Зачарованая княжна»; паст. 1927, выд. 1928; музыка К. Галкоўскага), створаная па матывах паэмы Янкі Купалы «Сон на кургане», а таксама п'еса ў 3-х дзеях «Птушка на волі» (паст. 1929, выд. 1932), якая паводле сюжэту крыху нагадвала купалаўскую «Паўлінку». Іншыя п'есы В. Сахаравай — «Маладыя пабегі», «Ліст да Прэзідэнта», «Аксюткіна ёлка» — ставіліся ў Дзвінскай беларускай гімназіі, але апублікаваныя не былі. Пісала Вольга Сахарава вершы і апавяданні, некаторыя з якіх друкаваліся (як пад сапраўдным прозвішчам аўтаркі, так і пад псеўданімамі Палачанка, В. Лепельчанка, крыптанімам О. С.) у газеце «Голас беларуса» (г. Рыга), часопісах «Родныя гоні», «Беларуская школа ў Латвіі», «Школьная праца», калектыўным зборніку «Першы крок». У 1943 г. рыхтаваўся да друку пасмяротны зборнік яе вершаў «Водгукі сэрца», які не быў выдадзены (рукапіс захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы). Вяла дзённік (не захаваўся).

У 2015 г. выйшла кніга Вольгі і Сяргея Сахаравых «Выбраныя творы».

## Літаратура

Казлоўскі М. Сапраўднае застаецца Радзіме // Сахарава В., Сахараў С. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2015. С. 3–18.

КахаНоўскі Г. Пра Вольгу Сахараву // Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі / укл. і прадм. С. Панізьніка. Мінск: Бел. кнігазбор, 2003. С. 262.

Памяці В. Сахаравай // Новы шлях. 1943. № 7.

## Беларускай грамадзе ў Латвіі

Я шчыра кахаю свой народ гаротны,
Кахаю, як матка дзіцё.
Ён цёмен і бедзен, усюды ў прынусе,
Не маіць ён волі сваей!
Яго не шанавалі ні рускі, ні паляк
І гналі ў палон да сябе.
Але вось новае жыццё прыйшло,
Як лад дэмакратычны стаў,
І беларус як роўны з роўным
Свой голас за сябе падняў.
Яму дазволілі мець школкі,
І бараніць свае правы.
Меў сілу ён у сойм Латвійскі
Свайго абаронца правясці.
Былі і дзеячы ў спіску
Не хужэй, як ва ўсіх,
Але не меў ён моцнай волі
І правароніў ён сваіх.
А ўсё за тое, што ён цёмен,
Не шануе сам сябе,
Прыйдзецца доўга яму прачынацца ад сну,
Пакуль не навучыцца як трэба
Сябе любіць і бараніць,
І стаць на роўны шлях з усімі,
Хто сённека яго цясніць.

*1925*

## Змагару-адраджэнцу

*Прысвячаецца К. Езавітаву*

Трымайся, мой браце,
Не скардзься на долю!
Хай цяжка змагацца
За праўду і волю, —
Вагонь гарыць ў сэрцы.
Ты справы не здрадзіш
Ў ганьбе-паняверцы.
Працуй жа няўпынна
І веруй заўзята,
Што знойдзеш ты праўду
Для роднага брата!

*1925, Дзвінск*

## Яму і Бацькаўшчыне

На чужым берагу мы з табою адны.
Навакол злая ўюга бушуе.
І штодня сніцца мне,
Як у радной старане
Сонца ласкай п’яніць і калдуе.

Хай ў чужой старане мы з табою адны,
Навокал няхай уюга рыдае,
Але ведаем мы,
Што край любы, радны
Наша імя дабром ўспамінае!

*20 снежня 1925 г., Дзвінск*

## На абарону моладзі

Бацькоўскае сэрца не можа больш цярпець,
Гледзячы на тую муку, што валіцца на іх дзяцей.
У тыдзень па шэсць лекцыяў бывае кожны дзень,
І іх трэба ведаць, каб уцяміць усё далей:
Кожны з педагогаў спяшыць, каб больш задаць
І каб сваю праграму хутчэй уперад падагнаць,
І вось дзіця малое сядзіць да паўначы,
Не маючы прасвету ў сваім жыцці.
Ад цяжкай такой працы хваробы тут як тут,
Прыходзіць малакроўе, а то і сухаццё,
Не дзіва, што увосень, а то і пад вясну
Смерць бязлітасна косіць нашу дзетвару.
Каб не каверкаць жыцця дзеткам
І сілы іх не касіць,
Патрэбна бацькам, педагогам, дактарам
Хутчэй к рэформе нашай школы прыступіць.

*1926, Дзвінск*

## На дзень хаўтур вучаніцы гімназіі Іраіды Зэйгліш, якая атруцілася

У гэты век цяжкіх абставін
Людзям становіцца жыццё не міла:
Чуць спаткаецца няўдача
Ці ў любові, ці ў навуцы —
Юнцы робяць самагубства,
Не шкадуючы ні сябе, ні бацькоў.
Гэткіх харобрых цяпер нямала,
Што хапаюцца за яд,
А спаткаўшыся са смерцю,
Просяць і моляць ратаваць.
Тут уж рукі не падкласці,
Калі ў вочы смерць глядзіць.

Так і гінуць нашы кветкі
Цераз роспач і дурасць свае.

*[1927]*

## К 5-гадоваму юбілею Дзвінскай беларускай гімназіі

Цябе, беларуская родная школа,
Я шчыра вітаю з 5-гадовым днём!
Красуйся ты кветкай на лоне асветы,
Гадуй ты магутных і верных сыноў,
Якія старых бы працаўнікоў замянілі б,
Ідэйную працу ў народзе вялі,
Краіну, як матку сваю, шанавалі
І родную мову сваю зберaглі б.

*1927, Дзвінск*

## Кліч

Як авечак белых у нябёс прасторы —
        Стады воблакоў;
Без граніц шырока разлілося мора —
        Мора каласоў.
І высока неба і шырока ніва,
        У паветры жар,
У паветры сонца; ціха дрэмле дзіва,
        Дрэмле чар.
Кураслепак-красак залатыя вочкі
        З сінню васількоў
Ўюнка-павяліца звіла у вяночак,
        Прыпляла званоў.
Абыйшоў навокал цэлы свет багаты,
        Свет чужы,
Зноў прыйшоў да роднай я да старай хаты
        На мяжы.

Чую кліч я сэрцам, чую кліч далёкі,
Ціха адзавусь,
Кліча сонца, поле, кліча бор высокі,
Кліча Беларусь.

*[1927]*

## Покліч да працы

Жыццё кіпіць, і праца ў вочы
На нас глядзіць і нас завець:
Прачнісь, каб скінуць цемру ночы —
Сякерай, молатам грымець.

Хай мазалямі ўспухнуць рукі,
Цурком хай з твару льецца пот, —
Працуй! Мазоль пазбавіць мукі,
Наперад зрушыць наш народ!

Хай гром грыміць над галавою, —
Змагайся! Хмары перайдуць,
Ўсё знішчыць праца й сіла волі,
Навалы чорныя мінуць!

Паўстань з прымусамі змагацца,
Цяжар каб скінуць здзекаў злых!
Прачніся, брат! Хутчэй да працы,
Аддай ўсе сілы для другіх!

*1933*

## АЛЕНА ЦАПРЫНСКАЯ

*1880-я — пасля 1930*

Алена Цапрынская-Цікава (Цапрынскайтэ) нарадзілася на Случчыне, відаць, у сям'і дробнага шляхціца. Паводле ўскосных звестак, у 1920-я гг. жыла ў савецкай Беларусі, у сталыя гады жыла ў Вільні.

У беларускім друку дэбютавала ў 1907 г. перакладам верша М. Горкага «Песня астрожніка» («Сонца ўсходзіць і заходзіць...»), у польскім — у 1908 г. У 1907–1914 гг. змяшчала свае творы на старонках «Нашай Нівы», «Беларускага календара "Нашай Нівы"». Адначасова рэдагавала польскі часопіс «Lud» («Народ»), прызначаны для літоўцаў, актыўна супрацоўнічала з рэдакцыяй часопіса «Litwa» («Літва»). Верагодна, ёй належыць нататка «Беларуская справа», змешчаная ў часопісе «Lud» за 1913 год (№ 7–8). У 1907 г. у Вільні выйшаў на польскай мове яе зборнік «Poezye», у 1909 г. — драматычны абразок «Odstępca». Прыкладна з 1910 г. перайшла ў паэзіі і прозе на літоўскую мову. Свае літоўскія творы ў 1910–1917 гг. друкавала ў рыжскай газеце «Rigos garsas» («Рыжскі голас»). У 1925–1929 гг. свае беларускія вершы і апавяданні А. Цапрынская змяшчала пад псеўданімам Алёна ў часопісе «Авадзень», газетах «Krynica», «Biełaruskaja krynica», «Сялянская ніва».

**Літаратура**


Варвашэвіч М. А., Мархель У. І. Цапрынская Алена // Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўнік: у 6 т. Мінск: БелЭн імя П. Броўкі, 1995. Т. 6. С. 210–211.

Пацюпа Ю. Беларускія паэткі XIX стагоддзя і нашаніўскае пары // Саламея. 2011. № 10. С. II.


## Працавітая дзяўчына

Ой, сонейка жалю не мае,
Праз вакно мне ўсё дакучае:
Кладзе на мой тварык румяны
Загар ды людзям адкрывае,

Што хата мая не прыбрана,
Што сорам мне спаць, бо не рана.
Ой, шмат бы чаго даканала:
Ледзь свет рупна б я уставала,

Каб ў будні іграла мне дудка
І ў свята пад скрыпку скакала,
У шоўку я жала бы хутка.
Эх, добра жылося б мне тутка.

Як не б’юся — ўсё большае ліха.
Эх, спачну яшчэ з гора хоць крыху!
Калі стану я Богу прыгодна,
Дык не буду ніколі галодна.

*[1925]*

* * *

Бaрaнуючы брыдзе
Муж з карчмы да хаты.
Ў хаце жонка жджэць яго,
Латаець там латы.

— Жонка, золатца мае,
Хоць адзін разочак
Пашкадуй, не бі мяне —
Гнуся ў паясочак!

— Ой, за што ж я маю біць,
Калі любы мне ты.
Ляж, саколік, пераспі —
Хай хмель пройдзе гэты.

— Гэй ты, жонка, ведзьма-баба!
Пахмяліцца, есці!
Толькі крута — водкі, яйцаў
Мне бардзей прынесці!

— Га, праснуўся, дык і добра:
Лепш цяпер пачуеш
Чапялы смак, як прыўдару,
Дык аж затанцуеш!

Вось за хмель, за валацугства
Параўную косці,
Ты не дзяк, я не папоўна
Цацкацца з любосцяй.

*[1925]*

## Што ёсць, а чаго няма

Ёсць у нас непастаянства,
Мляўкасць, хісткасць, дзве душы.
Ад няверу трусасць, п’янства,
Цяг хавацца дзе ў глушы.

А няма адзінства чыну,
Веры ў працу рук сваіх.
Губім самахоць айчыну,
Каб шукаць яе ў чужых.

Ёсць бязмэтная работа
З-пад прымусу ад вякоў.
Спавіла народ драмота,
Бо жыве без чыну, слоў.

Ў нас няма адважнай волі
Беларусам выйсці ў свет.
Не было для нашай долі
Творчай працы, ясных мэт.

Ёсць даўжэзная прамова,
Як жывём, як жылі перш,
Ды няма свабоды слова,
Каб дакончыць гэты верш.

*[1925]*

## Бура ноччу

Настала ноч. Віхор бушуе.
Маланкі твораць дзіва — казку,
Злуецца бура і жартуе.
Уся прырода банкетуе,
Надзеўшы чорны плашч і маску.

Эх, кіну-рыну ўсе запрэты,
З размаху ў вір бурлівы скочу.
Няхай, што цемра, неадзета…
Бардзей пад’едзь, Ільі карэта —
Хачу быць часткай буры ноччу!

*[1925]*

* * *

Эх, вазьму нядолю —
Злыбяду ліхую,
Кіну яе, рыну,
Дзе вада віруе.

Вырву бор вяковы,
Вырву лес дубовы —
Вымашчу ім грэблю,
Палажу шлях новы.

Ды масты праз мора
Кіну прахадныя,
Але-ткі даб’юся
У краіны тыя.

Там, дзе птушка шчасця
На мяне чакае,
Папараці кветка
Буйна расцвітае.

*[1925]*

* * *

Што твой лёт, арол магучы!
Але ж думкай ты жабрак!
Я дык вось увысь імчуся,
Каб на зорку злётаць як.

Пад зямлёй таксама бачу,
Меж няма майму «хачу».
Над царамі цар вярхоўны,
Трон свой з тронаў узваджу.

Збудаваўшы трон, зруйную,
І магу нічым я стаць,
Бо магу сваю мець волю,
Волю думкай кіраваць.

*[1925]*

## Кахаю Беларусь…

Кахаю Беларусь сучасную — не выснену
Сялянскім сэрцам, ратая душой.
Кахаю творчым дзелам, а не мыслена.
Кладу падмур мазольнаю рукой.

Кахаю радасным каханнем будаўнічага,
Што кінуў цераз пропасць мост-праход.
Кахаю гордасцяй я погляду мужычага
На свой аруд, дзе зверхам умалот.

Кахаю моцай, бляскам току электрычнага,
Што сонцам-чарам апраменіць край,
Калі і паляшук задзівіць энергічнасцяй
І загрыміць з пагрозай: не чапай!

Кахаю палкасцяй агонь-каня сталёвага,
Што нетрам і аблогам дзень і ноч

Развозіць творчы дух, жыццё адумысловае,
Наперад, напралом імчыць наўскоч.

Кахаю дзействам спорным я нутра фабрычнага —
Машынаў дабрадзеек сакатух.
І не люблю мацней узрыва вулканічнага
Я Беларусь як служку розных слуг.

*[1925]*

## Праўда аб Беларусі

Вынеслі раз пастанову
Даць святочную абнову
Для батрачкі Беларусі.

Апранулі тым і гэтым
На дзіў, зайздрасць ўсім кабетам —
То завяліка, то душыць.

Клікнулі краўцоў з усходу —
Навярнула іх з заходу.
Дагадзіць ніхто не можа.

Ўрэшце ніваю-тканінай
Беларусь-красу дзяўчыну
Селянін сам апрыгожыў.

Зноў рашылі дабрадзеі
Выдаць замуж нашу жнею
За багатага суседа.

Панічы таўкліся хмарай.
А працоўніца ім жара:
— Не пайду за дармаеда!

І купец-брухач з усходу,
Шляхціц-махціц аж з заходу
Хвігу з’елі такжа жвава.

Бо селянін быў ёй мілы,
З ім на век саюз зрабіла
Дзеля шчасця, добрай славы.

*[1925]*

* * *

Ой, нядолечку
Каваль мне накаваў,
Горам, мукамі,
Быццам сталь, угартаваў.

Не ламаецца
Мак, хоць вецер гне.
Не заплачу ж я,
Хоць пакінуў мяне.

Сэрца вылечыць
Варажбой не магу,
Толькі думкай аб ім
Разганяю тугу.

Ты, калiначка,
Не раўнуйся са мной —
Зімой мучышся,
А я кожнай парой.

Хлопцы чэпяцца,
Злоснай, гордай завуць…
Дзе ж мой мілы, дзе —
Не відаць і не чуць.

Сцяжка цвёрдая,
Укрывайся травой,
Пад вянцом з руты
Не стаяць маладой.

*[1926]*

## Задума

Усё, што мудрасць стоўпіць можа,
Усё, што за межамі веды ляжыць —
Аднаўляецца прыгожа,
Вечна па кругу наперад імчыць.

Чар-абновай, роўным рухам
Космас і вечнасць даюць змест для «ёсць».
Вер — не вер душы і духам —
Станеш ты «новым», упёршысь у «досць»!

Воля свету існавання
Усходкай вышэй загадала нам стаць.
Дык нашто ў крыві змаганне?!
То ж чутна сэрцам, душою ідаць!

*[1926]*

## ЗОСЬКА ВЕРАС

*1892–1991*



Зоська Верас (сапр. Людвіка Антонаўна Сівіцкая, па мужу Войцік) нарадзілася 18 (30) верасня 1892 г. у пасёлку Мяджыбаж Лятычаўскага раёна Хмяльніцкай вобласці (Украіна) у сям'і капітана царскай арміі.

Вучылася ў прыватнай гандлёвай вучэльні Л. Валадкевіч у Кіеве (1904–1908), нейкі час жыла на радзіме маці ў маёнтку Крыштапарова Сакольскага павета (цяпер Беластоцкае ваяводства, Польшча). У 1912 г. закончыла прыватную жаночую гімназію Е. Баркоўскай у Гродне, у 1914 г. — агародніцка-пчалярскія, а таксама ваенныя санітарныя курсы ў Варшаве. Удзельніца гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1913). У 1916–1917 гг. працавала ў Менскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Акрамя таго, працавала загадчыцай сталовак, дзіцячага прытулку, ткацкіх майстэрняў, была сакратаром, казначэем, вяла заняткі на курсах садоўніцтва і пчалярства, лячыла хворых, актыўна займалася дапамогай бежанцаў. З 1923 г. жыла ў Вільні. У 1924–1929 гг. — адміністратар рэдакцыі газет Беларускай сялянска-рабочай грамады, у 1927–1931 гг. — рэдактар дзіцячага часопіса «Заранка», у 1934–1935 гг. — дзіцячага часопіса «Praleski», у 1928–1939 гг. — старшыня Беларускага кааператыўнага таварыства «Пчала», адначасова (1934–1938) — рэдактар пчалярскага часопіса «Беларуская борць» (Вільня). Вынесла з віленскай турмы «Лукішкі» вершы М. Машары і выдала за свой кошт яго першы зборнік «Малюнкі» (1928). З 1939 г. жыла з сям'ёй у хаце на ўскраіне Вільні (хата згарэла ў траўні 1990 г.).

Памерла 8 кастрычніка 1991 г., пахаваная на могілках Панерай у Вільнюсе.

Друкавацца пачала ў 1907 г. (часопіс «Подснежник», Кіеў). На беларускай мове выступіла з абразкамі пад псеўданімам Мірко ў 1911 г. (газета «Наша Ніва»). Аўтар «Беларуска-польска-расейска-лацінскага батанічнага слоўніка» (Вільня, 1924), брашуры «Гісторыя ўжывання зёлак у лячэнні» (1934), кнігі вершаў і апавяданняў для дзяцей «Каласкі» (1985). Напісала ўспаміны пра

М. Багдановіча, У. Галубка, Г. Леўчыка, Ядвігіна Ш., пра выданне «Заранкі», дзейнасць Гродзенскага гуртка беларускай моладзі і інш. Кансультавала гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, выдавецкіх і музейных работнікаў, краязнаўцаў. У 1982 г. была прынята ў Саюз пісьменнікаў СССР.

Для дзіцячага тэатра з украінскай мовы пераклала п'есы Р. Завадовіча «Князь Марцыпан» (Вільня, 1929), Ю. Ігарава «Сірата» (Вільня, 1929), з расейскай — «Лясныя хаткі» В. Біянкі (Вільня, 1931).

Апошнім часам літаратурна-мастацкая, мемуарная і эпісталярная спадчына выйшла некалькімі асобнымі выданнямі: «Я помню ўсё: Успаміны, лісты» (2013), «Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты» (2015), «Выбраныя творы» (2015).

Дакументы пісьменніцы захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 318).

**Літаратура**

Войцік Г. Зоська Верас. Сэрыя «Партрэты Віленчукоў». Вільня: Выдавецтва беларусаў Літвы «Рунь», 2002.

Мілаш Л. «Агеньчык, які не затухае»: (да 110-годдзя з дня нараджэння Зоські Верас) // Кантакты і дыялогі. 2002. № 10–12.

Саламевіч Я. «Я не баюся жыццёвай буры...»: Жыццё і дзейнасць Зоські Верас // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 5. С. 60–62.

Скобла М. Бараніць вуллі свае... // Наша вера. 2015. № 4. С. 46–49.

## Прыйдзі да нас, Хрысце…

Калі прад вякамі хадзіў Ты, Хрысце, па далінах зямлі… Пад святыя ногі Твае слаліся дываны кветчаных палёў… Перад Табою схіляліся гордыя вяршыні векавых ліп і бяроз… Для Цябе ліліся пахі з сасновых кадзяльніц… А Ты ўсё блаславіў, Хрысце, і ўсяму нёс у дані ўсемагутную ідэю кахання…

Бо не было травінкі, не было камушчыка, пылінкі не было на гэтай беднай зямлі, каторых бы Ты, Хрысце, каханнем сваім не абняў…

І ўсё, кругом, кахання было поўна…

Спакой быў і цішыня…

Не жыла нянавісць, не жыў грэх, не жыла пагарда, усё роўным было, святым…

— Гэта было даўно…

— Гдзе Ты, Хрысце, цяпер?

— Чаму пакінуў Ты стварэнне Тваё, кінуўшы на здзек духам зла?

— Паглянь: зямля стогне пад болем страшным…

— Дрыжыць пад хвалямі чалавечай крыві…

Няма красак, няма свежай зелені, згарэла, спапялела ўсё ў агні злосці і крыўды…

Анямелі скрыдлатыя спевакі лясоў, спуджаныя пагрозай людскіх пракляццяў…

— Гдзе Ты, Хрысце?

— Ці грэшная зямля пахавала цябе ў адхланні правінаў сваіх?

Няма цябе — няма Дабра…

Няма Кахання — ёсць Нянавісць.

— Гдзе Ты, Хрысце?.. Устань з мёртвых, зыдзі на даліны зямлі.

— Вярні кахання моцы, устань з мёртвых, бо сканае свет, а грэх запануе на руінах быту… устань з мёртвых, мільёны худых чорных рук з жабрачай просьбай выцягнуты да цябе… устань з мёртвых і прынясі Святло… і прынясі цяпло… і ажыві палі і нівы… і выжні грэх — і выжні крыўду, і выжні здзек.

Дай спакой душам нашым…

Дай моц Твайго вялікага кахання сэрцам нашым…

Прыйдзі да нас, Хрысце…

*[1917–1921]*

## Чары

А за намі — сонца захад…
Перад намі — цёмны хмары…
Долам сцелюцца туманы,
А у полі снуюць мары.

Ціха… ціха… сэрца б’ецца,
Думка льецца, штось гаворыць…
Штось гаворыць, штось шапоча…
Ціхай думцы сэрца ўторыць…

Ў жыце з коласам даспелым
Чутны шэпат… Можа, чары?
А за намі — сонца захад…
Перад намі — цёмны хмары…

*1921, Альхоўнікі*

## На імяніны майму сыночку Тоню

Што за з’ява? Што за дзіва?
Лес і поле, луг і ніва
Зазвінелі ціхім тонам —
Ці то песняй, ці то звонам.
Ціхі голас зычна льецца
Ўверх па горах, ўніз па рэчцы…
Льецца песня — ідуць пары…
Што за дзіва? Хіба чары?
Йдзе валошка з шыпшыною,
Там бяроза з каліною,
Далей, ўзяўшысь за лісточкі,
Йдуць стакроткі, як вяночкі…
А за імі — брат-сястрычка,
І зязюлька невялічка,
Мак чырвоны, драсён белы
І звончыкаў букет цэлы.

Йдуць дарогай і мяжою
Ды спяваюць грамадою.
А як пахнуць — як прыбраны —
Як у казцы счараванай!
Аж сонейка ў небе стала
— А куды ж вы? — запытала. —
На вяселле? На хрысціны?
— Не, на Тоня імяніны…

*13 чэрвеня 1921 г., Альхоўнікі*

## Ліст

Хацела да цябе напісаці
На пялёстку ружы пахучай,
Але пялёстак мог згінуць
У пору буры грымучай.

Хацела да цябе напісаці
На скрыллі у матылёчка,
Але матыль умірае,
Як прыйдзе цёмная ночка.

Хацела я ліст паслаці
Праз ластаўку з нашага дому,
Але ж яна магла даці
Яго каму-небудзь другому.

І так дзянёчкі праходзяць…
Не маю яго як паслаці,
А ліст такі ўжо сардэчны
Хацелася напісаці.

*Менск*

## Шкада

Шкада мне тых, што не спачынуць сёння… Тых, чые думкі спавіла чорная ноч болю… Тых, чые вочы збялелі ў муках сэрц… Тых, чыя душа забіта здзекам ворагаў… Тых, каторых праўды свет паняць не можа.

Шкада мне тых, што па цярністых пуцінах жыцця ў адзіноцтве йдуць, нясуць поўнымі жменямі цудоўныя дары праўды, дабра і духовай пекнаты, але ж ніхто да іх не працягне рукі, ніхто іх не бярэ…

І далей ідуць адзінокія з душамі, атручанымі жалем і крыўдай…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але ж і тых шкада, чые вочы не бачаць справядлівасці…

Чые сэрцы акамянелі ў злосці…

Чые душы спавітыя цемраю крыўды людской, нячулыя на святло праўды…

Шкада тых, што раняць людскія пачуцці, топчуць іх і панявераюць…

І тых шкада, чые нізкія шэрыя інстынкты не маюць адвагі бараніць таго, што яснае, і разводзяць цемры зла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шкада цябе, род людскі…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Род ахвяр і забойцаў…

*[1924]*

## Псальм

Даспела душа мая ў цярпенні, о Божа мой… Напоўнілі яе і Жаль і Боль, але ж не апанавалі яе ні злосць, ні ненавісць. Апусцела яна і ўвайшла ў глыб сваю, каб схаваць ад цікавага вока свой Сум і Жуду.

Пакрыліся раны яе тканінай містэрнаю, а пад ёй плыве і плыве кроў жывая…

Не затрымлівай, о Божа мой, Крыві плакучай, не адбірай яе агню жывога, бо акамянее душа мая, Пане, і цвёрдай масаю зробіцца.

Няхай плыве кроў гарачая, няхай жыве Боль магутны, каб не сталася яна падобна да скалы горнай, нячулай на енкі і стогны ветру бяздальнага.

*[1925]*

## Чароўны край

Сыночку маленькі, ты ручку мне дай,
Увяду ця' ў чароўны, ў нязведаны Край,
Вузенькай мяжою мы пойдзем ўдваіх;
Так мякка, на'т крокаў не ўчуем сваіх,
Так мякка, прыгожа, пахуча… ах рай!
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай…

Глянь: жыта красуе-расуе кругом,
Русалкі-казыткі хаваюцца ў ём.
А зайчык, прысеўшы ля самай мяжы,
На жабку міргае: «Дзе я, не кажы».

На лузе зялёным пан бусел стаіць,
Над ім ўецца кніга і кліча: піць-піць!
Шнур гусак на сонцы бліснуў, закрычаў,
Спусціўся і ў лозах-чаротах прапаў.

На возера чыстай-празрыстай вадзе
Лілея свае карагоды вядзе…
Камарыкі роем лявоніху скачуць…
Ля берага вербы хістаюцца, плачуць…
Чаго яны плачуць? Ты сэрцам згадай…
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай…

*[1928]*

## Сонейка грэе!

Сонейка ты, залатое!
Сколькі цёмных, сумных дзён
Мы чакалі дарагое
Ў нашых хатках ля вакон
Тваіх ясных, цёплых косак,
Твае ласкі і пяшчот,
Што збудзілі б жыццё вёсак,
Поле, траўку, лес, чарот…
Разбудзілі б птушак хоры,
Жаб зялёных грамаду;
Растапілі б снегу горы,
Адагрэлі бы ваду…

*

І прыйшоў вось час жаданы:
Сонца коскі свае шлець,
Каб збудзіць наш Край каханы,
Разбудзіць і абагрэць.

*[1929]*

## * * *

Сонца свеціць
там над намі,
Снег іскрыцца
пад нагамі,
Мароз цісне,
дакучае,
А наш Янка
і не дбае:
З гор на саначках
нясецца —

Гараць вочкі,
сэрца б’ецца…

*[1931]*

## Першы снег

Сярод дзетак радасць, крыкі
і вясёлы звонкі смех:
пакрыў вулкі, платы, стрэшкі
белы снег, пушысты снег.

Слупы шапкі паўздзявалі,
куст закутаўся ў кажух…
Дзівы, дзівы, як у казках,
аж займае дзеткам дух.

Сняжок ціхі, чысты, белы…
Ад лілеі ж ён бялей:
Ўсё прыбраў, прыбраў святочна,
ўсюды стала весялей.

*[1934]*

## Шчыглова вяселле

*З народнага*

Шчыглік невялічкі грамаду збірае,
Ён не хоча адзін жыці, жаніціся мае.
Узяў сабе дзявіцу — бараву сініцу,
Красную, ясную, вераб’я сястрыцу.

Паслаў арла, паслаў арла ўсё птаства збіраці.
А арол напаў на гусі, давай мардаваці;
Два снегіры, два снегіры шпака спаймалі,
А вароны за той час каравай згібалі.

Два капланы, два капланы солад малацілі,
Курапатка ды з цяцёркай да млына насілі.
Бусел меле, бусел меле, а крук засыпае,
А варобчык — добры хлопчык, муку адбірае.

Перапёлка, перапёлка хату замятае,
Сава сядзіць на покуці — скоса паглядае.
Сядзіць дзяргач на парозе, сядзіць на парозе,
Пугач, пугач, упіўшыся, ляжыць на марозе.

А сарокі, як прыданкі, скачуць каля лаўкі:
«Бедна ж наша галовачка, не маем прыганкі».
А чайка з кулікам на вяселлі грае;
А кулік чайку
Узяў за чубайку.
Чайка кігіча:
«Згінь ты, куліча!»

# ПАЎЛІНА МЯДЗЁЛКА

*1893–1974*



Паўліна Вінцэнтаўна Мядзёлка нарадзілася 12 (24) верасня 1893 г. у мястэчку Будслаў Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер вёска ў Мядзельскім раёне). Закончыла прыватную жаночую гімназію ў Вільні (1912), Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбургу (1914). Адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я. Купалы ў Пецярбургу (1913). Удзельнічала ў рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні. З восені 1916 г. сакратар Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Петраградзе. У 1917 г. працавала ў Кіеве, у Саюзе гарадоў, у аддзеле дапамогі ахвярам вайны па арганізацыі дзіцячых прытулкаў. Для падрыхтоўкі Беларускага з'езда ў Кіеве аб'ехала шэраг гарадоў. У кастрычніку 1917 г. арганізавала беларускую школу ў вёсцы Жорнаўка Ігуменскага павета, з сакавіка 1918 г. настаўнічала ў Мінску, у вёсцы Мядзведзічы Слуцкага павета, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі (Пронка ў «Хаме» Э. Ажэшкі, Зоська ў «Раскіданым гняздзе» Я. Купалы). З вясны 1919 г. інспектар беларускіх школ, кіраўнік Грамады беларускай моладзі і драмгуртка ў Гродне. За ўдзел у выданні газеты «Родны край» 20 ліпеня 1919 г. арыштавана польскімі акупацыйнымі ўладамі. З пачатку 1920 г. у Менску, кіравала жаночай беларускай школай, удзельнічала ў беларускіх спектаклях, была звязана з падполлем. У траўні 1920 г. арыштавана польскай дэфензівай, вывезена ў Варшаву, была зняволена ў турму Вронкі на Познаншчыне. Пасля вызвалення ў лютым 1921 г. нелегальна выехала ў Літву. Удзельнічала ў выданні ў Коўне агітацыйна-прапагандысцкай літаратуры, скіраванай супраць польскіх акупантаў у Заходняй Беларусі. З восені 1921 г. па прапанове Ц. Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. З 1922 г. у Латвіі, выкладала ў беларускай гімназіі ў Дзвінску, арганізавала там хор і драматычны калектыў. Разам з іншымі выкладчыкамі арыштавана за «падрыўную дзейнасць», апраўдана судом у красавіку 1925 г. і пераехала ў БССР. Працавала

ў сектары мастацтва Інбелкульта, у 1927–1930 гг. выкладала ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1930 г. беспадстаўна арыштавана і выслана за межы Беларусі. З 1932 г. выкладала ў маскоўскай школе. З 1947 г. настаўніца ў Будславе, арганізавала драматычны і харавы калектывы.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1966).

Памерла 13 лютага 1974 г., пахавана ў Будславе.

У маладыя гады (з 1918 г.) выступала з вершамі, артыкуламі, рабіла спробы ў драматургіі. Асобным выданнем у 1921 г. убачыла свет паэма «Сялянская доля». Паўліна Мядзёлка зрабіла значны ўнёсак у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва, яе дзейнасць спрыяла беларускаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню. Сябравала з Я. Купалам, які прысвяціў ёй вершы. Аўтар мемуараў пра культурнае жыццё Беларусі дарэвалюцыйнага часу «Сцежкамі жыцця» (1974; ч. 2 апубл. 1993).

**Літаратура**

Ермаловіч М. Першая выканаўца // Настаўніцкая газета. 1973. 15 вер.

Калеснік У. Галгофа адроджаных // Полымя. 1993. № 2.

Міхнюк У. «Невінаватым ад нас не выйдзеш…» // Беларуская мінуўшчына. 1995. № 6.

## Песня змагання

*[Пасвячаецца Тамашу Грыбу]*

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут, ў бяседзе такой,
успомнім мы, брацця, аб долі няроўнай —
усіх тых, што церпяць за край родны свой.

З гарачай душою ўсе лепшыя сілы,
што выйшлі з народу, з сялянскай сям'і, —
адных ужо крыюць курганы-магілы,
другія у муках за кратай турмы.

У Познань і Кракаў ў далёку чужыну,
сасланы ў няволю, як быццам навек —

бацькоў старых кінуў і мілу дзяўчыну,
а сам церпіць голад, і холад, і здзек.

І, тварам збялелым прынікшы да краты,
шукае ён зоркі на небе глухім —
каб думкі занесла да роднае хаты,
каб кліч перадала сабраццям сваім:

— «Змагайся, мой браце, з тыранам народу,
з наезнікам панскім змагайся, як можаш,
змагайся за лепшую долю й свабоду,
хоць цяжка змаганне — а ўсё ж такі зможаш!»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут — прысягу даём:
не зломяць нас віхры у бітве няроўнай!
За здзек нашых брацціяў мы помсту нясём!

*1921*

## У выгнанні

Атрымала я вестку з роднай краіны: вось цэлы жмут газет прада мной… Сэрца б’ецца з радасці вялікай, з нецярплівасці рукі дрыжаць.

Хутчэй, хутчэй жа чытаць! Як жывуць усе там нашы? Як праца ў іх там ідзе? Што чуваць? Ці народу лягчэй ужо жыць?

---

Прачытала…

За што, за што так церпіць народ наш?

За што калечаць душу, рабуючы скарбы яго?

З якога пекла там сілы пануюць?!

Вочы сухія палаюць агнём, у душы бурліць боль. Выць, кідацца й кусаць… А мо дзіка бязудзержу рагатаць?

---

Сунімаецца вострая боль на хвіліну. Я нічога не бачу — не чую… Цішына, як на могілках цёмнаю ноччу за вёскай глухой. Далёка недзе выюць сабакі.

У галаве, апусцеўшай ад думак талковых, уеццa песня страшная; дысанансаў у ёй поўна, дзікіх крыкаў выцця. А за кожнай звароткай — прыпеў жудкі, страшны і працяжны, як удары звана на пажар:

Гвалт… Гвалт… Гвалт…

---

Не магу я на месцы сядзець! Пабягу — уцяку ад самое сябе.

Сёння сонца прыгрэла — вясна на дварэ.

Апынулася я аж у парку, як вясёла тут птушкі пяюць! Вясна…

І ў нас там таксама будзе вясна. Пацякуць ручайкі, рэчкі за сну праснуцца, рунь так міла на полі заззяе…

Прыпасці б грудзямі к роднай зямельцы сырой, абнімаць, цалаваць, слёзы радасці ліць, разам з птушкамі песні спяваць і гукнуць на ўвесь свет:

«Ёсць радасць у жыцці! Ёсць шчасце і праўда! Ёсць воля святая!..»

Дзе? Там — у нас?

Гвалт… Гвалт… Гвалт…

---

Бач, як дзеткі смяюцца! Так цёпленька адзеты… У аднаго булачка, у другога шакалад у руках. Бацька кніжку ў падарак купіў… Там вось лялька якая. Той у трубку мядзяную дзьмець…

А нашы там дзеткі?

Гвалт… Гвалт… Гвалт…

---

О, уладар сусветам, часы і абшары!

Чаго ж хочаш ад нас?! Якой яшчэ патрабуеш ахвяры?! Няўжо мала табе яшчэ мук, паняверы, крыві, слёз?

Грахі продкаў сваіх, што наш край запрадалі, мы слязамі даўно ўжо змылі! Слёз не стала — мы крывёй абмывалі… Даўно адпакутавалі. Годзе.

Чаго хочаш яшчэ!

Пачуй стогн душы маёй.

Гвалт… Гвалт… Гвалт…

*[1921–1922], Берлін*

## Сялянская доля
*Паэма*

I

Гэй, браты, маўчаць даволі
аб тэй горкай нашай долі,
што спаткала нас!
Мы ўсе крыўды тут падлічым
і народ увесь заклічам:
«Змагайся — прабіў ужо час!»

II

Сёмы год, як церпіць
Беларусь няшчасце:

Абвілі яе дротам калючым,
на грудзёх зямлі — маткі нашай —
долы-ямы капалі,
акопамі акружалі
і білі ў грудзь яе…
З цяжкіх гармат білі,
раны кулямі тварылі,
пякучыя, балючыя раны…

Сколькі ж людцаў лягло,
сколькі трупаў згніло
па тых ямах-акопах,
у магілах зямелькі сырой.
Напілася зямля
крыві досыта,
кроў ракою ўсюды лілася…

III

Ўслед за бітвай страшной
пажарышча ішло…
Запылалі агнём
усе хатанькі,
ўсё дабро, ўвесь пажытак людскі,
цяжкай працай сялянскай здабыты, —
ўсё пайшло у ахвяру
разшалелай стыхіі — агню.

І ў тым мейсцы, гдзе перш
залатое жытцо калыхалась,
гдзе вясёлыя дзеткі смяялісь,
васількі сабе рвалі
і ў вяночкі сплятàлі —
там крапіва й палын параслі
і дзе-нідзе толькі комін стырчыць —
гэты помнік людскога няшчасця…

IV

А ў дабавак таго,
ўсіх людзей гналі вон
з роднай хатанькі, з роднай вёсачкі
і пад градам куль, і пад дымам хат
прымушалі ісці ў старонку чужую,
на бяздолле і здзек
ды на холад і спек
у далёку вандроўку цяжкую.

І пайшоў наш народ
са слязой уваччу,
з страшнай боллю ў грудзёх,
з дзікім крыкам ў вушох…
Смерць за ім — смерць прад ім…
І усеяў магілай ўсю дарожаньку,
ўсю дарожаньку цярністую,
як празвалі цяпер — ту крыжовую.

V

Быццам сціхла ўжо
вайна жорсткая,
праняслася ўжо
бура страшная.
Ужо вяртаецца
селянін дамоў
на папелішча
сваё роднае.

Ой, ён выцерпеў шмат…
Не злічыць нам тых страт,
не злічыць нам ўсіх крыўд,
сколькі вынес праз гэты ён час.
Ці ж цаной дарагой не купіў ён сабе
права вольна ўздыхнуць,
у спакоі і волі спачыць,
працаваць для сябе і для краю свайго?

VI

Не дапіў ён яшчэ
горкай чары да дна,
не закончыліся
мукі цяжкія…
Пацягнулісь к яму
рукі хціўныя,

лапы страшныя —
польска-панскія…

Ўсё бліжэй і бліжэй
насуваліся,
ўсё хутчэй і хутчэй
памыкаліся,
каб за горла схваціць,
мужыка прыдушыць,
каб ён пікнуць не смеў,
каб хутчэй ён згібеў.

VII

Польскі пан…
Гэта вораг наш злы,
Беларусі ён вораг адвечны…
Добра помняць дзяды,
як ў прыгоне былі,
як паны на сябе працаваць прымушалі,
як карміліcь іх потам,
на сабак іх мянялі
ды збівалі да смерці для ўцехі сваёй.

VIII

І цяпер, як пранёсся той кліч,
кліч да волі сярмяжных сялян,
як ударыў той звон,
з усіх чутны старон:
«Схамяніся, працоўны народзе!
Бяры сам сабе дар —
ты цяпер гаспадар
у старонцы сваёй Беларусі!» —
польскі пан задрыжэў,
дзікай злосцю скіпеў…
«Як, хам вольным ўжо хоча зрабіцца?
Ён і школы жадае?

Ды зямлі не хапае?
Ці ж не можа ўсё гэта спыніцца?!»
Польскі пан задрыжэў,
ва ўсю моц заравеў:
— НЕ ПОЗВАЛЯМ!!!

IX

«НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб хам
сам сабой кіраваў!
НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб шнур
ён зямлі пашыраў!
У пакоры для нас
павінен ён жыць,
па загаду шляхціца
ўсё ён мусіць рабіць!
НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб ў школах сваіх
ў роднай мове вучыўся,
каб ў касцёлах, царквах
па-сваяму маліўся!
НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб зваў ён сябе
беларусам!
Ха-ха-ха!.. Запяе ён інакш
пад прымусам».

X

«Незалежным ён хоча ўжо быць —
ці вы чулі аб гэтым, панове?
Вы падумайце добра;
як мужык сам пачне сабой быць
у тым краю сваім — Беларусі,
як пачне завадзіць
там парадкі свае, —
што ж з маёнткамі будзе тагды?..

Забярэ ў свае рукі ўсё,
а мы з чым жа тагды застанёмся?

Як не схочам мы з ім працаваць,
побач з ім і араць, і касіць, —
трэба торбу надзеўшы пайсці жабраваць,
у суседзяў трэ' хлеба прасіць…
Мы ж да працы сялянскай не здольны —
ды й не хочамо хамскай работы рабіць».

XI

«Дык хутчэй жа, паны,
мы паклічам салдат
з нашай Польшчы шляхецкай і панскай,
а на свет ўвесь дурны
мы ідзём — скажам так —
бараніць Беларусь ад наездцаў,
бальшавіцкую сілу прагонім…
А змаўчым, што… маёнткі баронім».

XII

Вось прыйшоў пан Пілсудскі
аж у Вільню, у Менск…
За ім хмара паноў:
рэёновых, старостаў
і жандармаў, шпікоў,
«ужэнднікув паньствовых»
(стада чорных крукоў),
рознай злыбядзі тут…

Пан Пілсудскі прыйшоў,
сказаў шмат пекных слоў:
«Беларус і Літвін!
Мы баронім цябе
ад наездцы з Масквы,
ты ж як хочаш жыві —
гаспадарам будзь сам;
памагаць мы ўсцяж будзем табе.

Будзем жыць, як брат з братам
у згодзе,
роўны з роўным, з вольным вольны
на сходзе…»

XIII

Пан Пілсудскі, ці ты шчыра казаў
аб свабодзе?
Мусіць, не, бо праслыў ты тут катам
ў народзе.

Салаўём ты спяваў
да народу, лізун,
за плячыма ж трымаў
цяжкі путы й бізун…
Гдзе ж твой гонар той польскі?
Гдзе сумленне падзеў?
Ты, падлыжніку панскі,
страхаццё на дзяцей.
Не паспеў ты сказаць
тэй прамовы сваёй —
засвістаў ўжо бізун
над плячыма сялян…
Ўжо жандармы-скаты
распраўляліся,
турмы страшныя
запаўняліся.

XIV

Вярнуліся часы паншчыны —
на прыгон сталі ганяць,
замест платы або хлеба кусок —
бізунамі частаваць:
і старых, і малых,
і хлапцоў, і дзяўчат

не жалеючы біў
польскі пан, польскі кат.

Ці ж забыўся, дзядок,
сівы голубе,
як віталісь з табой
слугі панскія?
Расцягнулі цябе
сярод вуліцы
побач з ўнукам тваім
і нявесткаю.

На працоўных руках
стаўшы ботамі,
білі цяжка вас
каты лютыя.
А за што, скажы?
Што зрабіў ты ім,
што сівой галавы
не шкадуюць тваёй?

XV

Селянін, гаспадар!
Ты цяжкіх мазалёў уладар!
Што ж стаіш ты павесіўшы рукі?
Ці не чуеш? — скацінка
жалосна рыкае.
Не накорміш чаму?!
Ды чаму не арэш і не сееш?
Цябе ніўка даўно ўжо чакае…
«Ўсё чаму і чаму…
Моцны Божа! Што ж рабіць я магу?
Кароўка рыкае,
бо корму не мае.
Конік з голаду паў…
Ўсё дабро пан забраў,

у вайсковым прышоўшы ўбранні,
і засеяць не маю я чым…»

XVI

Растуць кветкі, растуць і раслінкі
у лузе, у полі…
Жывуць дзеткі, жывуць сірацінкі
у цяжанькай долі…
З беларускіх прытулкаў ганяюць
польскія жаўнеры,
на вуліцу выкідаюць
і крыўдзяць без меры.

Школы нашы закрываюць,
хаўрусныя крамы,
кніжак, газет не пушчаюць,
каб чыталі «хамы».
«Кулька в лэб» — таму, хто будзе
чытаць кніжкі ў роднай мове.
«Кулька в лэб»… Вы чулі, людзі,
як страшаць панове?..

XVII

А цяпер прыйдзі,
любы браце ты мой,
пад высоку турму
з мураванай сцяной.
Падыйдзі, паглядзі
і прыслухайся,
што пачуе душа,
тваё сэрцайка.
Ты, бацька і маці,
хадзеце за мной…
Вы станьце вось тут,
глядзіце туды:
там да краты ў вакне

прытуліўшысь хтось сядзіць,
жалосную песню пяець…

«Матанька, міленькая, родненькая,
пажалей ты мяне маладзеньку…»

«Моцны Божа!..
То ж дачушка мая!..
А сыночак мой гдзе?»
Ціха! — слухай далей:

XVIII

«Ой, ці сніш ты, мая мамка,
сваіх дзетак у турме?
Ой, ці бачыш, родны татка,
нашы мукі ува сне?

Дротам нас калючым білі,
ў дзверах пальцы нам шчамілі,
костачкі ўсе пакрышылі,
ўсё дапытываліся…
Братца майго расстралялі,
дзявочу чэсць мне забралі,
ў ланцугі мяне скавалі,
і ратуначку няма…»

XIX

Ці ж не досыць ужо крыўд
тут мы палічылі?
Ці ж не досыць нашых слёз
мы ужо пралілі?
Наастатак, паны ў нас
зямлю адбіраюць
і жандармаў — нашых катаў —
ёю надзяляюць.

XX

Дык вось, браце, яку долю
ты цяпер спаткаў…
Вось якую табе волю
Пілсудскі надаў…
Дык жа годзе, мае браты,
цярпець тыя мукі!
Хто жыў-дуж, выйдзі з хаты,
бяры касу ў рукі!

Ўстань, народзе, на змаганне
за волю тваю!
Годзе шляхты панавання —
гайда ў Польшч сваю!..
Вон за Буг! аж у Варшаву,
пакуль цэлы косці!
Не мяшайся ў нашу справу,
польскі ягамосцю!

У нас было б зусім ціха,
каб не тыя госці,
што з усходу і заходу
пруцца к нам чагосьці.
Як прагонім ўсіх чужынцаў
з Беларусі роднай,
зажывём тагды шчасліва
ў старонцы свабоднай.

*[1921]*

## ГАННА ДУШЭЎСКАЯ

*1893 — пасля 1940*



Ганна Сцяпанаўна Душэўская нарадзілася 1 (13) снежня 1893 г. у г. Глыбокім Віленскай губерні (цяпер Віцебская вобласць) у сям'і збяднелага шляхціца, па прафесіі будаўніка. Родная сястра беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, дыпламата, педагога і архітэктара Клаўдзія Дуж-Душэўскага. Сярэднюю адукацыю атрымала ў Вільні ў мясцовай жаночай гімназіі. У 1917 г. паступіла на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, паспела закончыць 2 курсы. З 1919 г. у Вільні, актыўна ўдзельнічала ў беларускім нацыянальным руху, сябра Беларускага таварыства помачы пацярпелым ад вайны, Беларускага настаўніцкага хаўрусу, Беларускага навуковага таварыства. Вызначалася артыстычнымі здольнасцямі, з 1919 г. удзельнічала ў спектаклях Віленскай беларускай драматычнай дружыны, грала вядучыя ролі ў п'есах Францішка Аляхновіча і Уладзіслава Галубка.

Выкладала польскую мову ў Віленскай беларускай гімназіі (1920–1921). З-за пераследу польскімі ўладамі перыядычна з'язджала ў Коўна да брата. У літоўскай сталіцы працавала ў мясцовых беларускіх нацыянальных арганізацыях. Праявіла сябе і як актывістка беларускага жаночага руху, была адной з ініцыятарак стварэння ковенскага гуртка беларусак. Сябравала з Палутай Бадуновай. У 1921–1925 гг. жыла ў Берліне (Нямеччына). Закончыўшы Берлінскую Кансерваторыю па класе вакалу, хацела вярнуцца ў Вільню і арганізаваць там беларускі хор, але не атрымала дазволу ад польскіх уладаў. Нязздзейсненай засталася і спроба стварыць такі хор у Менску. Нейкі час Г. Душэўская жыла ў Таліне (Эстонія; 1925–1927) у сястры Ядвігі, потым — у Коўне, працавала настаўніцай музыкі. Дакладная дата смерці Г. Душэўскай пакуль не высветлена.

З перакладамі (з польскай, рускай, нямецкай моваў) і арыгінальнымі творамі выступала ў друку з 1918 г. Публікавалася ў газетах «Гоман», «Наша думка» (г. Вільня), «Голас беларуса» (г. Рыга). Акрамя вершаў і тэкстаў песень, пераклала на бела-

рускую мову некалькі замежных опер (рукапісы не выяўлены). Адна з укладальнікаў «Сямімоўнага слоўніка» (Sieben-Sprachen-Wörterbuch: Deutsch-Polnisch-Russisch-Weißruthenisch-Litauisch-Lettisch-Jiddisch. Leipzig, 1918).

**Літаратура**

А. [Луцкевіч А.] Сяміязычны слоўнік (Sieben-Sprachen-Wörterbuch:Deutsch-Polnisch-Russisch-Weißruthenisch-Litauisch-lettisch-Jiddisch. Herausgegeben im Auftrage des Oberbefehlshabers Ost. Leipzig) // Гоман. 1918. 16 ліпеня. С. 3.

Архівы БНР. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. Т. 1. Кн. 2.

Чарвякоў М. Беларусы ў Эстоніі. Культурныя пачынаньні // Іскра: аднаднёўка (г. Вільня). 1925. 31 траўня. С. 4.

Ямкова В. Ліставаньне Кляўдуша Дуж-Душэўскага зь Мікітам Шапавалам за 1923–1924 гг. // Спадчына. 2002. № 5–6.

## Ноч

Не бойся, што хмараю цёмнай
Так доўга вішу над зямлёй,
Што ў лесе хваёвым так сумна,
Як ў долі гаротнай тваёй.

Не вечна ж і цемрай і жахам
Я буду цябе абнімаць;
Не вечна і сцюжай, і страхам
Я буду зямлю спавіваць.

Як прыйдзе вясна-чараўніца,
Як скіне мой чорны убор
І збудзіцца маці-зямліца,
Адклікнецца голасна бор —

Уздзену я новыя шаты
З празрыстых праменняў вясны,
І пояс зялёны, багаты,
І золак, і зоркі, і сны…

І з ціхім і лёгкім ўздыханнем
Я буду па траўцы ступаць,
І негія словы кахання
На спячых людзей навяваць.

Калі ж не дажджэш і загінеш,
І скрыешся ў чорнай зямлі,
А жаль і нуду тут пакінеш,
Каб скардзіцца вечна маглі, —

Я ў цьме, непрыметнай рукою,
І жаль, і нуду ўсю збяру,
І раніцай з зор грамадою
Да Бога, у неба знясу.

*1920, Вільня*

## МАРЫЯ ГОЛУБ-БУЧЫНСКАЯ

*1893?–1939*

Марыя Голуб нарадзілася ў вёсцы Няверышкі (Невярышкі) Міцкунскай воласці Віленскага павета Віленскай губерні (цяпер Няверышкес, Вільнюскі раён, Літва).

У 1913 г. жыла ў Варшаве, настаўнічала ў школе Вавэль Герча. Там на кватэры Гальяша Леўчыка пазнаёмілася з Зоськай Верас, з якой сябравала і перапісвалася цягам усяго жыцця. У 1914 г. разам з маці, сястрой Ганнай і малодшым братам пераехала ў Петраград. Набывала там педагагічную практыку, працавала ў польскай школе і польскім інтэрнаце. Была актыўнай удзельніцай Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта (старастам быў Браніслаў Тарашкевіч — зямляк і добры знаёмы сям'і Голубаў); паводле В. Ластоўскага, «усіх там разварушыла, усіх ачаравала сваёй шчырасцю да справы, да працы каля яе і ўсіх вядзе за сабой, сама нідзе ўперад не высуваючыся, адным словам, робіць работу па-апостальску, ідэйна, скромна і шчыра».

Увесну 1915 г. Марыя Голуб працавала гувернанткай у Лепельскім павеце, потым вярнулася ў Петраград. З 1-й паловы 1920-х гг. жыла ў Празе, атрымлівала медыцынскую адукацыю. У 1925 г. выйшла замуж, змяніўшы прозвішча на падвойнае: Голуб-Бучынская. З канца 1920-х гг. працавала ў санаторыі Альбертынум (г. Жамберк, Чэхаславакія). Была сяброўкай Аб'яднання беларускіх жанчын імя А. Пашкевіч (Цёткі). Як медык займалася пытаннямі гігіены і санітарыі, лячэннем і прафілактыкай туберкулёза.

У верасні 1939 г. у Празе, перажываючы пачатак Другой сусветнай вайны, скончыла жыццё самагубствам.

Мастацкія творы Марыі Голуб адрасаваны пераважна дзецям. У 1926–1927 гг. яна была самай актыўнай аўтаркай дзіцячага аддзела «Зорка» ў віленскай газеце «Biełaruskaja krynica». Друкавала там пад псеўданімамі Niawieryskaja і Hałubka, крыптанімамі N—ja і H—ka празаічныя і вершаваныя творы — як свае ўласныя, такі і перакладзеныя з украінскай, чэшскай і сербскай моваў. У суаўтарстве з Зоськай Верас выдала кніжку

«Садок для нашых дзетак» (Вільня, 1927), якую склалі вершы, апавяданні, круцігалоўкі.

Артыкулы на тэму здароўя і гігіены, фізічнага выхавання дзяцей, пераклады мастацкіх твораў друкавала ў часопісах «Жаноцкая справа» (пад псеўданімамі Сястрыца, Прыхільніца), «Шлях моладзі» (пад крыптанімам Dr. M. H.-B.), газеце «Biełaruskaja krynica» і іншых выданнях. Выдала медыцынскія брашуры «Алкаголь і барацьба з ім» (Вільня, 1926), «Што такое сухоты (тубэркулёза) і як з імі змагацца?» (1932).

**Літаратура**

Архівы БНР. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. Т. 1. Кн. 1, 2.

Верас З. Выбраныя творы. Мінск: Бел. навука, 2015. С. 89, 110, 121, 332, 369.

Ждановіч В. «Як блудзячая зорка, пройдзе вобраз чыйсь...»: Лісты Марыі Голуб // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зборнік. Мінск: Маст. літ., 1993.

## Родная мова

Мова родная, слова роднае,
Хто вас забывае,
Той у грудзях не сэрца,
Але камень мае.

Як мову гэтую можна забыць?!
Мову, ў якой вучыла
Нас усіх маці гаварыць!
Маці наша дарагая!

Як мову гэту можна забыць?!
Гэта ж зыкамі тымі
Яшчэ дзяцьмі малымі
Мы да Бога мальбы слалі.

У гэтай мове мы пяялі,
Пры забаве размаўлялі,

У той мове нам мінуўшчыну
Нашу адчынялі.

Мова родная, слова роднае,
Хто Вас забывае,
Той у грудзях не сэрца,
Але камень мае.

*[1926]*

## Гдзе згода ў сям'і

Гдзе згода ў сям'і, гдзе спакой, цішыня,
Шчаслівыя там людзі, шчасліва старана.
Іх Бог багаслаўляе,
Дабро ім пасылае
І з німі век жыве.

*[1926]*

## Што я люблю

Люблю мамулю, люблю татуню,
Люблю ту хату, дзе я расла,
Люблю касцёл, дзе я малюся,
Люблю ту школу, дзе я вучуся.
Люблю ту рэчку, што ўдаль плыве,
Поле, што хлебам корміць мяне,
І студню, з якой ваду бяру,
Сенажаць, дзе ціхія аўцы пасу.

*[1926]*

## Госці сінічкі

Сінічка-сястрычка,
Скуль гасцей ты мела?

Салавей быў з лугоў,
Чорны дрозд — з лясоў,
А варобчык, добры хлопчык —
З зялёных садоў.

Сінічка-сястрычка,
Што ім есці дала?

Салавей еў мушкі,
Чорны дрозд чарвячкі,
А варобчык, добры хлопчык —
Самыя крошачкі.

Сінічка-сястрычка,
Што ім піці дала?

Салавей піў мядок,
Чорны дрозд з ягад сок,
А варобчык, добры хлопчык —
Толькі расу з кляток.

Сінічка-сястрычка,
Як табе дзякавалі?

Салавей запяваў,
Чорны дрозд засвістаў,
А варобчык, добры хлопчык
Толькі зачырыкаў.

*[1926]*

## ВЕРА МУРАШКА (МАСЛОЎСКАЯ)

*1896–1981*



Вера Ігнатаўна Маслоўская (дзявоч. Матэйчук, з другога сужонства Карчэўская, псеўд. Мурашка, Вера Мурашка, Беларуская Мурашка) нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у вёсцы Агароднічкі Беластоцкага павета Гродзенскай губерні (цяпер Польшча) у сялянскай сям'і.

Закончыла Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, вучылася на Першых беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні (1919). У 1917 г. стварыла адну з першых нацыянальных школ у вёсцы Грабавец (Шчучынскі раён), у 1920 г. у час польскай акупацыі працавала настаўніцай у вёсцы Карма Ігуменскага павета. Адна з заснавальніц і старшыня Цэнтральнага саюза (хаўрусу) беларусак, створанага вясной 1920 г. у Менску. З прыходам савецкай улады працавала інструктарам беларускага аддзела Наркамата асветы БССР. З 1921 г. па заданні партыі беларускіх эсэраў разгарнула канспіратыўную дзейнасць па стварэнні падпольнай паўстанцкай арганізацыі на Гродзеншчыне. Удзельніца Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе (верасень 1921 г.). У сакавіку 1922 г. арыштавана польскімі ўладамі і па працэсе 45-і прыгаворана да 6 гадоў зняволення.

Дзякуючы стараням прадстаўніцы савецкага Чырвонага крыжа ў Польшчы Стэфаніі Семпалоўскай Вера вызваляецца з турмы датэрмінова (чэрвень 1927). 21 лістапада 1927 выйшла замуж за Уладзіміра Карчэўскага. Як былы палітвязень доўгі час застаецца беспрацоўнай. Спачатку сям'я жыла ў Гайнаўцы, а потым у Альпені на Палессі і ў Кодані над Бугам, дзе Вера была арганізатарам мастацкай самадзейнасці (у Альпені ставілі, між іншым, Купалаву «Паўлінку», ролю якой выконвала Вера).

З 1939 г. працавала настаўніцай у вёсках Гродзеншчыны і Беласточчыны. Аднак у выніку тэрарыстычных дзеянняў падполля была вымушана спыніць настаўніцкую працу ў Агароднічках і ў чэрвені 1946 выехала ў Жагань на Сілезіі. Тут арганізавала дзіцячы сад, якім кіравала пяць гадоў. У палове 1951 вярнулася ў Супрасль, дзе загадвала гарадской бібліятэкай, працавала ў Лізе

жанчын, была выбрана раднай у беластоцкую Павятовую раду. 3 верасня 1958 на пенсіі.

Памерла ў Супраслі 23 студзеня 1981 г., пахаваная на мясцовых могілках.

У друку Вера Мурашка дэбютавала вершам «Малітва», апублікаваным 15 кастрычніка 1918 г. у віленскай газеце «Homan». Пазней друкавалася ў газетах «Беларус» (Мінск), «Сялянская доля», «Вольны Сцяг», «Змаганне», часопісе «Chryścijanskaja Dumka» (Вільня), а таксама ў рускай газеце «Рассвет», якая выдавалася ў Чыкага і Нью-Ёрку (ЗША). У апошнія гады жыцця вершы публікавала ў беластоцкай газеце «Ніва». Пасля смерці паэткі яе вершы выходзілі ў часопісе «Беларусь» (1996, № 7). Частка творчай спадчыны В. Мурашкі захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 3).

**Літаратура**

Гайдук М. З горда ўзнятым чалом // Ніва. 1978. 30 ліпеня.

Кекелева Т. «О, як мне балела душа!» // Беларусь. 1996. № 7.

Туронак Ю. Непакорная Вера // Беларускі каляндар. Беласток: БГКТ, 1990.

## Малітва

Навучы мяне, Божа, любіць
Чыстым сэрцам і ўсёю душою
І душу каб Табе пасвяціць,
І вечна бы жыці з Табою.

Навучы Ты мяне пазнаваць
Адну толькі Сваю міласэрную волю,
Навучы Ты мяне, як яе пільнаваць,
Сустрэўшы долю й нядолю.

Ты сваёю прачыстаю кроўю,
Усіх каторай прыйшоў адкупіць,
Прасвяці мяне Тваёю любоўю,
Навучы мяне, Божа, любіць.

*[1918]*

## Зорка

Прыйшла начная гадзіна,
Як бы замёршы яна.
Усё аддыхае спакоем
Ад доўга-летняга дня.

Яскрава толькі на небе,
Ясная зорка не спіць,
Праменнем ясным на землю,
Ласкай да нас зіхаціць!..

Сваімі цудоўна вачыма,
Міла на землю глядзіць,
Сваім праменнем, як маці,
Хочаць к сабе прытуліць…

Прайшла начная гадзіна,
Усё, аддахшы, устае.
І зорцы з чыстай душою,
Ёй хвалу сваю дае!..

*27 жніўня 1919 года*

## Ідзі

Выйшла я з хаткі — дарожка ідзець:
Ах! во’ — насустрач бабулька паўзець;
Багаслаўляе і кажа: «Ідзі,
Па вёсках сялян барджэй пабудзі».

Дарожкай іду — усцяж поўнай цярней,
Трудна было мне, ішла я далей,
Услед хтось гудзеў: «Ідзі ты, ідзі,
Зняможаны Люд ад сну разбудзі!»

Заходжу у гай — ён ціха шуміць.
Чую, здаецца, ка мне шапаціць:

«Кінь усё, не шкадуй, спяшайся ідзі —
Там селяніна ад сну разбудзі!»

Выйшла на поле, хлеб спелы стаяў,
Спусціўшы галоўку, ён сумна шаптаў:
«Чужыя сажнуць… дык хутчэй ты ідзі,
Жанцоў ды касцоў скарэй разбудзі!..»

*31 жніўня 1919 г.*

## За кратай

Пяюць птушачкі так міла,
Чуеш, за кратамі.
А тут ходзяць за дзвярыма,
Звонячы ключамі.
Пасадзілі нас за краты,
Адабраўшы волю,
Што мы надта пакахалі
Сялянскую долю.
Сумна седзячы за кратай
Лішнія дзянёчкі,
Не сумуйма ўсё за волю,
Мы — сялянскі дочкі.
Калі прыйдзецца памерці
За народ свой мілы,
Але былі яму верны
Да самой магілы.
Ах, пастойце, не ляціце,
Дні вы дарагія,
А то пройдуць за кратамі
Леты маладыя…
Пяюць птушачкі так міла —
Чуем за кратамі,
Забіваюць ўсё, што міла,
Звонячы ключамі…

*17 чэрвеня 1922 г., Варшава, астрог*

## Птушка

Ой, ляці, мая ты птушка,
У тае ваконца,
Гдзе ніколі не загляне
Ясненькае сонца.

З гэтых вокнаў невясёлы
Твары выглядаюць
І з бліскучымі вачыма
Вольнасці чакаюць.

Запяі ты каля кратаў
Песеньку ім звонку,
Пра той гай, зялёны, цёмны
Й мілую старонку.

Пра іх родну вёску, поле
І старую хатку,
Запяі, маленька птушка,
Шчэ пра родну матку.

Запяі ім, што іх часта
Кожны спамінае,
Хай не думаюць так сумна,
Аб іх кожны дбае.

Запяі ім павітанне,
Што у іх ваконца
Хутка ўзгляне і да кратаў
Тое ясна сонца!..

*25 сакавіка 1923 г.*

## Май

Гожы, пахучы, чароўны,
Квяцісты, цудоўны Ты Май,

Гожымі краскамі поўны,
Паглядзі, як быццам Ты Рай!

Паглядам Ты напаўняеш
Каханнем сэрца маладых,
Галоўкі ім ап'яняеш,
На лёс іх кідаеш адных…

Заходзіш гожы, квяцісты,
Што радасць і гора прынёс,
Не быў Ты як снег нам чысты,
Бо многа аставіў Ты слёз…

Так будзем чакаць такога,
Каб быў Ён нам чысты як рай,
Каб не прыносіў нам злога
Той новы чырвоны наш Май!

*5 чэрвеня 1923 г.*

## Вятрам

*Пасвячаю Бел[арускім] Парт[ызанам]*

Што жа вы, ветры, на хмары глядзіце,
        Каб яснае неба закрыла?
Сільныя ветры, ваш час — праганіце,
        Каб сонца нам ясна свяціла!
Буйныя ветры, там хмары развейце,
        Хай яснае сонца загляне,
Ціхім павевам усюды павейце,
        Хай бура шалець перастане…
Хмараў тых цёмных — іх, ветры, ганіце,
        Ім неба закрыць не давайце,
Ў высокія горы у пропасць нясіце,
        Гдзе людзяў няма — астаўляйце…
Так будзьце, вятры, на стражы заўсёды,
        І хмараў тых з неба ганіце,

Хай яснае свеціць Сонца — пагоды
І шчасця людзям прынясіце!..

*15 чэрвеня 1923 г.*

## Вясна

Я помню, як вясна ў краскі адзявала,
К жыццю імкнулася, што ёсць усё жывое —
Пачула я у ту пару цяпло другое —
Цяпло Кахання, што Душа яго жадала.

Як неба летняе і чыстае без хмараў,
Як анялы ўзаімна Душы пакахалі,
Такой мы вечна Міласці сабе жадалі,
Жыцця такога былі сэрца поўны мараў!

Цяпер та Міласць так вялікая святая
Злучыла душы — сэрца у адно на векі,
І разарваць не здолее нас сіла злая.

Каб так усе жылі на свеце чалавекі,
Не было б зла таго і здзекаў над людзямі,
І як казаў Хрыстос — былі б усе дзяцямі!..

*11 ліпеня 1923 г.*

## Калі узгляну…

Калі узгляну я ў вышыну ту неба
І цёмна-свежы лес пры шэпту вецярка,
І хваляў, як мора так спелага хлеба,
І чую птушак спеў, як быццам гутарка…
Калі абрызганы сярэбранай расою,
Я на турмы зялёны склепак усхаджу,
Здаецца мне, заліты Братняю слязою,
Тады не йду — тады на краты я гляджу…
І вось тады мне сэрца кроўю абальецца,

Так мсціць хачу за здзек беднага мне — Брата,
Тады гатова на усё — і сэрца б’ецца,
Што блізкі час не будзе кра[ва]ўпіца ката!..

*17 ліпеня 1923 г.*

## Славянам

Годзе плакаць вам, славяне,
Абатрэце вочы!
Вы працоўныя сяляне,
Усё ў вашай мочы!..
Люд працоўны не жадае
Грошай панавання!
Глянь: брат працы працягае
Руку да змагання!..
Пад «апекай» быць даволі
У паноў-магнатаў.
Бо не бачыў шчасця-долі
У тых подлых катаў!
Годзе вам, браты-славяне,
Жаліцца на долю!
Люд працоўны і сяляне,
Час здабыць вам волю!..
Так ідзіце ж дружна, смела
З Пралетары света,
Каб зямля Сцяг працы мела,
Вось Святая Мэта!..

*9 верасня 1923 г.*

## Пасвячаю роднай газетцы «Змаганне»

«Нам трэба змагацца за родную волю!» —
«Змаганне» галосіць усім.
І з лозунгам гэтым за лепшую долю
Мы дружна усе паспяшым!..

Мы будзем змагацца з тымі усімі,
Хто будзе «mniejszości» душыць,
Што самы нядаўна жылі пад чужымі,
Умеюць, як «kresy» глуміць…
З тымі усімі мы будзем змагацца,
Хто смокча, як п'яўка, з нас кроў.
Хто працай любіць чужой карыстацца
І плаціць нам злом за любоў…
Мы будзем змагацца, пакуль сэрца б'ецца,
Даволі смяяцца ўжо ім…
Смяецца то той, хто апошні смяецца…
«Змаганне», скажы так усім!..

*5 лістапада 1923 г.*

## Даволі ўжо…

Даволі ўжо хмарам ліць вечныя слёзы,
Тых слёзаў-нядолі на наш родны край.
Даволі і ветрам гнаць сцюжы, марозы
На мілы зялёны і родны наш гай!..
Даволі ўжо хмарам мыць косці старыя,
Гдзе дзеда-бядаку хавае курган.
Распусціць хай косы свае залатыя
Магутнае сонца на гэты дзірван…
Даволі пець песні-жальбы за сахою,
Па бедных тых хатках, хай згіне той плач.
Даволі нам плакаць на нашу нядолю.
Даволі слязамі наш шлях абмываць.
Ці ж дружна і смела за родную волю
Нам сілы не хваце сцяной пастаяць?!.

*6 лістапада 1923 г.*

# ВЕРА ВАЙЦЮЛЕВІЧ

*1902–1986*



• *Фота С. Панізьніка, 1983 г.*

Вера Вайцюлевіч (псеўданім Вера Гаротная) нарадзілася 25 траўня 1902 г. у вёсцы Бярозкі Дрысенскага павета Віцебскай губерні (цяпер Краслаўскі раён Латвійскай Рэспублікі). Вырашальнай для яе лёсу стала сустрэча з Янам Райнісам, які патурбаваўся, каб дзяўчыну-пераростка прынялі ў беларускую школу, і паспрыяў развіццю яе творчых здольнасцяў.

Падчас Другой сусветнай вайны арганізоўвала ў Рызе начлежкі для латгальскіх землякоў, рэлігійныя прытулкі. Па словах Сяргея Панізьніка, яна «выслухвала на вакзале гаворку бедакоў і брала іх пад сваю апеку. Мела пояс наўкруг цела, дзе змяшчала свае рукапісы, начавала і на гарышчах, каб ад кватэры, якую здавала ў наём, мець капейку на хлеб».

Памерла 16 ліпеня 1986 г. у Рызе, дзе і пахаваная.

Паводле словаў самой пісьменніцы, вершы яна пачала складаць ва ўзросце васьмі гадоў: «поўная душа стала… і я пачала складаць радкі». Першая публікацыя адбылася 19 студзеня 1927 г. у рыжскай газеце «Голас беларуса». Друкавалася В. Вайцюлевіч таксама ў часопісе «Беларуская школа ў Латвіі». У 1932 г. сваім коштам выдала ў Рызе лацінкаю маленькі паэтычны зборнік «Вершы. Dzejas», які склалі пяць арыгінальных тэкстаў і іх пераклад на латышскую мову. Фальклярыст і этнограф Сяргей Сахараў запісаў ад яе фальклорнае апавяданне «Як дзялілі зямлю на хутары ў Латгаліі». У сталым веку, адарваная ад беларускай культурнай супольнасці, пачала пісаць прозу па-руску. Яе творы публікаваліся ў «Голасе Радзімы», «Народнай газеце», часопісе «Зрок», зборніку «Крывіцкія руны». Творчую спадчыну В. Вайцюлевіч захавала яе дачка Уладзіслава Душкіна, мастак-мадэльер.

**Літаратура**


Бібліяфіл. Зборнік вершаў сялянскай беларускай паэтэсы Веры Вайцюлевіч // Беларуская школа ў Латвіі. 1932. № 7 (17). С. 1932.

Вера Вайцюлевіч // Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі / уклад. і прадм. С. Панізьніка. Мінск: Бел. кнігазбор, 2003.


## Яну Райнісу

Быў адзіны вялікі паэт
З добрай, шчырай душою і чыстай.
Ў нашым цёмным жыцці — як прасвет,
Як вадар на дарозе цярністай.

Ён для нас працаваў дні і ночы
І заранку нёс нам з аблачын,
Аж пакуль не самкнуў свае вочы,
Адышоў на свой вечны спачын.

Быў ён бацькам для нас, быў ён братам,
Калі з цемры выводзіў глухой.
Быў бязмежным для ўсіх дэмакратам,
Разбудзіў нас гадзінай ліхой.

Разбудзіў ў нашых сэрцах каханне,
Якім трэба кахаць свой народ.
Разбудзіў у нас сілу змагання.
Першы крок сам ступіў напярод.

Разбудзіў нашы спячыя душы
І стаючую кроў узбурліў,
Зацвярдзелыя сэрцы узрушыў,
Розум светлаю думкай наліў.

Калі жыў — мы не ведалі гора:
Галавой быў у нашае справе.
І не страшыла цёмнае мора…
Мы пры ім былі ў чэсці і славе.

А цяпер усіх нас ён пакінуў
І ніколі ўжо не адгукнецца.
У няведамую краіну
Адляцела спагаднае сэрца.

Жыцця горкага знікла услада,
Сонца яснага згасла праменне.
Засталася адна толькі радасць —
Не памеркла паэта іменне.

*[1929]*

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

*1903–1997*



Нарадзілася 20 верасня 1903 г. у Баку, у сям'і начальніка Бакінскай мытнай акругі і былой настаўніцы. У хуткім часе пасля яе нараджэння сям'я пераехала ў Вільню. Падчас Першай сусветнай вайны (1914) была ў бежанстве ў Яраслаўлі, дзе будучая паэтэса напісала свой першы верш на рускай мове. У 1920 сям'я вярнулася ў Вільню, там Наталля Арсеннева пайшла вучыцца ў Першую Віленскую беларускую гімназію, якую скончыла ў 1921 г. На яе паэтычныя здольнасці звярнуў увагу М. Гарэцкі, які там выкладаў. Пасля заканчэння гімназіі працавала настаўніцай у адной з беларускіх пачатковых школ, паступіла на гуманітарны факультэт Віленскага ўніверсітэта.

Увосень 1922 г. Наталля Арсеннева пабралася шлюбам з Францішкам Кушалем, афіцэрам польскага войска, і спыніла навучанне. Сям'я пераехала на жыхарства ў Польшчу па месцы службы мужа.

Пасля верасня 1939 г. і арышту савецкай уладай Францішка Кушаля Арсеннева жыла ў Вілейцы, працавала ў абласной «Сялянскай газеце». У красавіку 1940 г. як жонка палоннага польскага афіцэра была выслана з сынамі ў Казахстан. У маі 1941 г. вярнулася з ссылкі ў Мінск дзякуючы заступніцтву вядомых беларускіх пісьменнікаў. У акупаваным Мінску супрацоўнічала з «Беларускай газетай», напісала некалькі лібрэта да опер, займалася перакладамі. У 1944 г. эмігравала ў Германію, з 1949 г. жыла ў ЗША. Працавала ў эмігранцкай беларускай газеце «Беларус», на радыё «Свабода», у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. У 1970–1980-я гг. адышла ад актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці беларускай эміграцыі.

Памерла 25 ліпеня 1997 г. у г. Рочэстэр (штат Нью-Ёрк, ЗША), дзе і пахаваная.

Першы верш у беларускім друку апублікавала ў 1920 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Пад сінім небам» (1927; факсім. выд. 1991, 1992), другі зборнік «Жоўтая восень» не паспеў выйсці з-за вайны; «Сягоння» (Мінск, 1944), «Між берагамі» (Нью-Ёрк —

Таронта, 1979), «Яшчэ адна вясна: выбраныя вершы» (Мінск, 1996), «Выбраныя творы» (Мінск, 2002).

**Літаратура**

Калеснік У. Наталля Арсеннева // ЛіМ. 1994. 9 снеж.

Петрушкевіч А. М. Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі: манагр.; прадм. і рэд. А. М. Пяткевіча. — Мінск: Кнігазбор, 2013.

Савік Л. Жывём Айчынай мы… // Савік Л. Пакліканыя. Літаратура Беларускага Замежжа. Мінск, 2001.

Тарасюк Л. Пад небам паэзіі // Полымя. 1995. № 6.

* * *

Я ішла… Нада мной разгараўся вузор
Светлых, сумных жамчужынак-зор.
І хоць неба паволі рабілась цямней, —
Зоркі ззялі ярчэй і ярчэй…
Вось сарвалась адна, паляцела стралой
І загасла, зацягнена мглой,
І хоць яркай яна, гэта зорка, была,
Не прымеціць, што знікла яна…

Я ішла… Прад вачмі рад таполяў цямнеў
І аб нечым таемным шумеў…
І хоць слоў я пачуць, зразумець не магла, —
Іх душа зразумела мая.
Раптам вецер шугнуў угары галіны,
Чорны цень перабег па зямлі.
І хоць вецер той зараз далей паляцеў,
Доўга ліст на таполях дрыжэў.

Я ішла.. Ціхі месяц глядзеў з вышыны,
Рассыпаючы ласкі і сны.
І хоць прыкра ў той вечар балела душа,
Я глядзела у неба і шла…

Ціша, неба, і зоры, і сад у паўцьме, —
Ўсё вітала ласкава мяне.
Й хоць балюча ў той вечар на сэрцы было —
Іх таксама вітала яно…

*[1920]*

## Летуценні

> Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
> Дзе такі там хорам важна збудаваны,
> Што мне замянілі б хату і бярозкі,
> Хату і бярозкі беларускай вёскі?
>
> *Я. Купала*

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
Бачу я край той, гдзе мора плюскоча,
Бачу я фарбы паўдня.

Бачу я мора пахнючае кветак,
Белыя дрэвы, прыгожа ўсё гэтак
Ў ласках гарачага дня.

Бачу нябесныя сінія далі,
Бачу узоры, што ночы саткалі
З буйных палудзенных зор…

Гэта — краіна, дзе я нарадзілась,
Гэта — ўсё тое, чаму я малілась,
З чым я вяла разгавор.

Толькі чаму ж маё сэрца не йрвецца
Ў тую краіну, чаму яно б’ецца
Ціха, спакойна саўсім?

Мусіць, чужыя наўдзённыя чары,
Новы абраз той, тускнеючы, стары
Выціснуў ў сэрцы маім.

Нашае сіняе, беднае неба,
Нашы палоскі няспелага хлеба,
Пэўне, што сэрцу радней.

Нашы маркотныя, мглістыя ночкі,
Нашы бярозы, рабіны, дубочкі
Мне за ўсе чары мілей.

Ці мне заменіць блакітнае мора,
Ці мне заменяць высокія горы,
Сонца чужое паўдня, —

Нашае беднае сонца ціхое,
Мілае хвораму сэрцу вясною,
Мілае мне без канца?

Не, бо ля светлага сіняга мора
Вечна аб шчасці ідуць разгаворы,
Вечна там сонца гарыць.

Бо там бяз працы, а родзяць зярняты,
Бо там чужое нам, вечнае свята,
Тамака сэрца маўчыць.

Тут жа у нас па гайкох, пералесках
После зімы зацвітаюць пралескі,
Сцюжу змяняе вясна.

Тут пасля гора жыцця шлях святлее,
Тут пасля слёз расцвітаюць надзеі,
Тутка і ў сэрцы вясна!

*[1921]*

## Ночы і думкі

Ёсць ночы белыя, ёсць цёмныя, глухія,
Ёсць ночы срэбныя і ночы ёсць ціхія,
Іх — больш за ўсё люблю з маркотным бліскам зор,
Што на шаўку нябёс са срэбра ткуць вузор.
Люблю іх за спакой бязмерны і чароўны,
Люблю за свежасць, цень, за смутак невымоўны,
Што на душы ляжыць, калі сяджу адна
І заглядаю ў глыб нябесную без дна.

Ёсць думкі светлыя, ёсць прыкрыя, благія,
Ёсць думкі сумныя і думкі ёсць ціхія,
Іх — больш за ўсё люблю з маною той надзей,
З усім, што дарага зямной душы людзей.
Люблю за цішу іх, глыбокую, нямую,
За тое, што тады і сэрца не гаруе,
За тое, што тады душа гарыць, расце,
За тое, што жыву не так, як людзі ўсе.

І ночы срэбныя, чуць сінія, сівыя,
І думкі сумныя, глыбокія, ціхія, —
Ў маёй душы плятуць, маўляў, адзін вузор,
Як той, што ўвышы ткуць сняжынкі светлых зор.

*[1921]*

## Красавік

*Пасвячаецца М. Гарэцкаму*

Неба сіняе, сіняе, сіняе
Зямлю будзіць ад доўгага сна.
Адусюль смутна-пекнай княгіняю
Пазірае спакойна вясна.
На узгорку кусты пахіляюцца,
Ветрык лашчыцца, штосьці ім пяе.

Тут з пралескай пралескі сплятаюцца,
Сірацінкай фіялка цвіце…
Там — бялеюць вяночкі нясмелыя
Нейкіх кветак вясенніх, а там…
Там яшчэ краскі, жоўтыя, белыя,
Дар вясны зарунеўшым палям.
Як тут ціха, ні шуму, ні клопату,
Ані думкаў, ні смуткаў няма.
Я не чую душы, яе ропату,
Бачу толькі, што ўсюды вясна!
І нічога саўсім не жадаецца,
Ні кахання, ні светлых мінут,
У душы маей штось абрываецца,
Штось нячутна канаець, а тут…
Тут фіялкі цвітуць цёмна-сінія,
Ветрык дыхаець пахам вясны.
Адусюль яна пекнай княгіняю
Сее новыя, светлыя сны!

*20 красавіка 1921 г.*

## Памяці Ядвігіна Ш.

Ціха з шэрых нябес белы падае снег,
А учора смяялась вясна,
Сонца першыя косы так светлы былі,
Усміхаючысь, хмаркі ў блакіце плылі,
І ласкаў, і звадзіў гэты смех.

Вецер, — той нават дыхаў у твары вясной,
Ўжо чарнела дзе-недзе зямля,
Ўсюды з грукатам срэбным плылі ручаі,
Ты памёр, не прыждаўшы чароўнай вясны,
Спі жа з чыстай, спакойнай душой.

Тут, на шумнай зямлі ты і жыў, і цярпеў,
Ты народ свой гаротны кахаў,

Ты да мэты ішоў без пуці, без дарог,
Працаваў, не шкадуючы сіл, пакуль мог,
Не прыждаўшы вясны, дагарэў,

Дагарэў… але светлая памяць твая
Не развеецца лёгка, як дым.
Не забудуцца простыя словы твае,
І, як сына найлепшага, прыме цябе
Беларусі пакутнай зямля.

*[1922]*

## Паралель

Ціхі вечар, маркотны, ласкавы
Так памалу, памалу зыйшоў
І зліліся у змрочнасці лавы
Пад прысадай густых каштаноў.
Паляглі цёмна-сінія цені
Па завулках, па цёмных кутох,
Дзе дрыжаць і згасаюць праменні
Ў нячышчоных даўно фанарох.
Запылалі агнямі лятарні
Над радамі бліскучых вакон
І прарваўся з блізкое кавярні
Неспакойнае музыкі тон…
Гаручковая смеласць размовы,
Смех нярвовы, адрывісты смех,
Голад шчасця спрадвечны, а новы,
Ўсцяж жывое жаданне пацех,
У прысадах цямнеючых лавы,
Гдзе купляюць на ноч пачуццё, —
Гэта — места спрадвечнае права,
Гэта — старага места жыццё…

А далёка, далёка, далёка,
Гдзе аб лепшым сніць польны прастор,

Гдзе жыта́ падняліся высока
Й звоніць рэзвых казёлчыкаў хор,
Гдзе туман сіняватай сцяною
Закрывае штораз сенажаць,
Гдзе так сумна над соннай зямлёю
Няшчыслёныя зоры дрыжаць,
Гдзе памалу, маркотна, ласкава
Спавівае ноч нівы й палі, —
Ці не там ёсць спрадвечнае права,
Жыццё вечнае маці-зямлі?

*[1927]*

* * *

Часта ўвечары так напрадвесні,
Калі гасне заход, перад ночай
Мне так хочацца выліцца песняй,
А так мучыць пачуцце нямочы!
Бо ўсе словы здаюцца малымі,
Ўсе не тыя, што выцвісці хочуць,
Бо ніяк не параджу я з тымі,
Што здалёку смяюцца-сакочуць…
Словы — кветкі на крыллях птушынаў,
Словы — зоры са шляхаў сусвету,
Словы — пэрлы з нязнаных глыбінаў,
Словы, будзьце ж пакорны паэту.
Словы — музыка першых грымотаў,
Словы — чар векавечны, вясняны,
Словы — сонцы з бязмежных высотаў,
Словы, будзьце ж вы мне паслухмяны!
З вас сатку я дыван шматкалёрны,
З вас здабуду рассыпныя тоны,
Пераўю агняцветам вузорным,
Зазвіню пераліўчатым звонам.
Аджыўлю ў вас міргание зарніцаў

І шум-шэлях расістага жыта,
Ўспомню ўсё, што даўно пеpажыта.
Не ўцякайце ж нябеснай пуцінай,
Не хавайцеся ў далях нязнаных…
Словы — кветкі на крыллях птушыных,
Словы, будзьце ж вы мне паслухмяны!

*1927, Хэлмна*

## Першы снег

Сяння раніца й сонца ўставалі
у вянку з каляровых агнёў
і карункамі ільдзянымі ззялі
залатыя галіны кляноў.
Нетутэйшыя, дзіўныя краскі
загараліся ў шыбах вакон…
Было ранне — старонкаю з казкі,
было ранне, як казачны сон.
А пасля… неба згасла… сцямнела…
вецер голлем сухім зашасцеў,
з шэрай вышы, і чысты і белы,
снег густы паляцеў, паляцеў.
Ён паблытаў дзіўныя вузоры
у галлі разварушаных дрэў,
ён маркотныя ніваў разоры
снежна-белай плёнкай адзеў,
сыпкіх гурбаў намёў, перайначыў
свет, хаду нашых чынаў і дзён.
Згасіў зоры й агні, каб зазначыць,
што ўсё ж доля — не казка й не сон.

*9 снежня 1931 г.*

## Запалілі каштаны

Запалілі ў прысадах каштаны
свечкі белых, пахучых кветак.
Там, далёка ў даліне туманнай,
спіць імгла сіняватых палетак,
а над ёю хінуцца узгоркі,
гіне шэраю пасмаю далеч,
на заходзе – шнурком пацёркаў
ззяюць хмараў чырвоных каралі.
І плыве ў неба разам з вятрамі
свет мільёнам, мільёнам хаценняў,
пакуль ноч не суцішыцца снамі
у палёх, пахаваныя ў сцені,
пакуль пацеркі хмараў парваных
не згараць між нябесных палетак
і не згасяць густыя каштаны
свечкі белых, пахучых кветак.

*1931, Хэлмна*

## Зоры

У лагох, туманамі расшытых,
Белым стадам пасуцца таполі.
З цёмна-сініх глыбіняў нябыту
Ноч зыходзіць спакойна й паволі.
Ззяюць зоры, міргаюць вачыма,
Падымаюцца густыя расніцы,
Быццам сочаць так пільна й няўпынна,
Што за сон нам сягоння прысніцца.

*

Калі ўгледзіцца ў зоры сусвету,
Што уночы гараць сінявокай, —
Мала быць расспяваным паэтам,

Нават мала натхнёным прарокам,
Кабы выліць у словы пустыя
Чар нябёсаў адвечны і сталы,
Ўсіх на свеце метафар замала,
Усе рыфмы здаюцца — не тыя,
Ўсе заводзяць і формы й размеры,
Рытм найлепшы — здаецца ніякім.
Можна толькі ў захопленні верыць
Ясным зорам з глыбінь задыяку.

*1935, Хэлмна*

## Часіны творчасці

Растуць у лесе вершы ўвечары…
Разлёгся лес імхамі, плесняю…
Іду сцяжынкай непрыкмечанай
і цешу сэрца новай песняю.
Нялёгка йсці праз нетры слоўныя,
якія йлгуць, тварыць нязнанае,
і рытмы праставаць няроўныя,
і рыфмы уздзіраць дзірванныя,
шукаць метафары разменнае
у думках — жоўтых пыльных хронікаў,
і ў словы выліваць штодзённыя
глухія гутаркі сасоннікаў…
А ўсё ж,
                    люблю тварыць я ўвечары…
Цямнее лес сцяною точанай…
Іду сцяжынкай няпрыкмечанай
па ймхох, расой вячорнай змочаных.
Туман лажыцца між хваінамі,
трасуць асіны пазалотаю,
і цягне вільгацяй лагчыннаю,
вадой стаячай і чаротамі…
Ўнізе, смалой наліты чорнаю,

ляжыць сатвок, затканы плесняю.
Іду, ў ваду гляджу узорную
і цешу сэрца
новай песняю!

*1935, Равіч*

## Маладым паэтам

Вам дадзелі пакора, цярплівасць і Бог,
як жабрак, Вы па шчасце не цягнеце жмені,
вершы Вашыя пугамі б’юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленні.

Я б хацела гарэць і змагацца, як Вы,
разам з Вамі каваці чаканае ранне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Мае дні над аржоннем цвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыннем,
і звіняць алавяным, асеннім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Я, як жоўтая восень, стаю над жыццём
і гляджу на яго, хоць наўкола — змаганне.
Мае вершы — над сонным балотам трысцё,
мгла сівая асенняга рання.

*[1936], Равіч*

## Жоўтая восень

Нервы восені страшаць нас совамі,
ша… шасцяць кажановымі крыламі…
Непрыветнай вітаемся моваю
мы з асеннімі казкамі-былямі.
А ці ж восень папраўдзе панурая?
Груганнём над ніўямі расселася?
Рызманамі зрудзелымі, бурымі
на асінах павісла, на верасе?
Жоўта скрозь…
                        Над палямі шырокімі
спяць дубы, як мядзяныя волаты,
ўкруг бярозы стаяць белабокія,
сыплюць з косаў расплеценых золата,
спіць лог жоўты, туманамі змочаны,
пахне мохам, лістамі, як ладанам…
І сціскаецца сэрца няхочучы
смуткам любым, дзіўным, неразгаданым.
Дзе ж тут жах, кажановыя шэляхі,
плач савіны, вятругі нервовыя?
Восень жоўтая смуткам кудзеліцца,
сном кладзецца на вецце дубовае.
Для мяне яна —
                        блізкая, знаная,
новай песняй у сэрца ўціскаецца
і натхненнямі, здаўна чаканымі,
нада мной, як лісцём асыпаецца…

*1936*

## Лебядзіная песня

Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў,
І над жоўтай іржою асін у парванай асенняй адзежы
Горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.

Гэтак ціха й чароўна-прыгожа у белых абоймах
туманаў.
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць.
Скуль бяруць вечары гэты змрок, так густы
й серабраны,
І ці ж можна у словах іх чар незвычайны аддаць?

Але прыйдзе мой дзень і знайду я патрэбныя словы,
Словы тыя, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе,
Буду ўмеці чмялямі гусці ў раззалочаным цвеце
ліповым
І шаўковай шасцець асакой на зялёнай бліскучай
вадзе.

Ўсё папраўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
Ўсе памылкі, ўсе ўзлёты злічу і расою рассыплю
ў лагох,
Доўг жыццю заплачу: рэшту з добрага й рэшту
з благога
Пастараюсь аддаці яму, хоць напэўна не ўспомню
ўсяго.

Раскажу аб мяцеліцах ночных, не спаных да рання
гадзінаў,
Аб спакоі васенніх змярканняў і яснасці
сплаканых зор.

А ўсе словы злучу я у песню прыпевам
праўдзівым, адзіным.
А ўсе песні ў адзін бесканечна магутны акорд.

Зашумяць, запяюць у акордзе зялёныя хвалі калоссяў,
Пахінуцца зялёнай сцяною вяршыны прадвечныя дрэў,
Туманамі заплача над жоўтымі межамі восень…
Лебядзінаю песняю людзі ахрысцяць мой спеў.

*1936, Равіч*

* * *

Не ў царкоўцы малітвай, свянчонай вадой, —
Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін, я пушчы пяю залатой,
Разумею палёў васільковых размовы.

Да мяне не мутною вадой каляін
Падыходзіць вясна і не снегам счарнелым, —
Мне смяецца яна жоўтым пухам вярбін,
Яснай жаўранка песняй з палёў зарунелых.

Не спякотаю лета глядзіць мне у твар
І не бурамі цвет абірае з чарэсняў, —
Каласістая ніва, адвечны пясняр
Залатыя, гарачыя зносіць мне песні.

Мне не жаліцца восень у дробных дажджох,
У гнілых туманох на размоклым загоне, —
Мне яна павучынне пляце ў лазнякох,
Жоўтым сном на ціхое кладзецца аржонне.

А зіма не завеяй брыдзе на мяне,
Не сляпою мяцеліцай сыпле у вочы, —
Над снягамі, на сінім нябёс палатне
Распаляе яна брыльянцістыя ночы.

І заўсёды, заўсёды паганскай жудой
Маё сэрца сціскаецца ночай зімовай.
Не ў царкоўцы малітвай, свянчонай вадой, —
Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

*1936, Равіч*

## Вугорскія скрыпкі

З-за шыбаў ноч глядзіць вільготнай, жоўтай мглою,
ў жмутох лісця чагось шукае шамятліва,
і не знайшоўшы — дзьме ў каштаны песняй злою,
плюе на плямы шыб дажджом — сліною шклівай.
Пад столлю радыё, уецца цьмой-музыкай,
дрыжыць на шкле вакон, як звонку дождж і восень,
вугорскіх скрыпкаў плач гарачы, яркі, дзікі.
Так нівы на паўдні ўначы шумяць калоссем,
так пуштай залатой імкнецца навальніца,
так рэжуць шэрасць хмар разгульныя грымоты
й зялёны, шумны дождж прадзе ў паветры ніці.
А скрыпкі ўсё пяюць, гарачай, шчырай нотай…
Высокі, светлы тон пярэчыць дню пустому,
вядзе мяне з жыцця па залатым праменні,
і плача, смеючысь, і пнецца строма, строма,
змяніўшы ноч і дождж у сонца зіхаценне.

*1936*

* * *

Толькі ўвечар жыву я душою узлётнай,
Аб якой ў дзень шумлівы не помню зусім.
І зайздросціць гатова я качкам дзікім,
Што ўзбіваюцца з крыкам над сонным балотам
Рухам вольным і дзіўна мяккім.

Я б ляцела за імі над гладзяй зялёнай,
Шэрым крыллем касіць парудзелы чарот,
Ўсіх пазбыцца б хацела чаканняў, нягод,
Як той дзень, што ў бяздонныя, зорныя тоні
Адплывае над плесняй балот.

Але тое, што збуджана — сцішыць ня можна,
Проціў волі, а ўвечары сэрца гарыць.
Проціў волі ўсё лёгкім здаецца згары,
Толькі ў цесным жыцці, як за кратай астрожнай
Гэтак цяжка й няўдзячна тварыць!

*[1937]*

## ГАЛЕНА ІВАНОВА

*(1905/1907–1926)*

У 1922–1925 гг. вучылася ў Люцынскай беларускай гімназіі адначасова з паэтамі Пятром Сакалом (Масальскім), Валянцінай Казлоўскай (Лясной Кветкай), Якубам Воркулем. Удзельнічала ў тэатральных пастаноўках Драматычнай дружыны пры гімназіі («Блудны сын» паводле Р. Блаўмана, 1925, і інш.). Пазней працавала настаўніцай.

Памерла ад сухотаў 19 траўня 1926 г. Як зазначана ў некралогу ў газеце «Голас беларуса» (г. Рыга), да яе заўчаснай смерці спрычыніліся самаахвярная праца дзеля Бацькаўшчыны, голад і нястачы.

Публікавалася ў часопісе «Ластаўка» (1923–1924), які вучні гімназіі друкавалі на шапірографе.

**Літаратура**


Езавітаў К. Віктар Бэнэдыктавіч Вальтар // Беларуская школа ў Латвіі. 1932. № 7 (17). С. 1.

З жыцьця Дзьвінскай беларускай гімназіі ў 1925/26 вуч. г. // Школьная праца. 1926. № 3–4. С. 29.

Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мінск: Навука і тэхніка, 1993.


## Мяцельная ноч

Было цёмна кругом.
На дварэ, за вакном,
вецер выў і спяваў —
весяліўся.

Снег ляцеў, вар’яцеў…
Ведзьма, лешы ці чорт
Там вяселле спраўляў —
ажаніўся.

Весяліся! — Круці! —
Карагод завадзі!

І імчыся кругом
        мімалётным агнём!

Дык — круці і ляці!
У цёмну даль занясі!
Зноў мяне ажыві! —
        Распалі! — Гэ-э-й, ляці!

*1924, Люцын*

## Дзе?..

Дзе мне знайсці шчаслівейшую долю?
Шчасце дзе льецца ракой?
Дзе, пакажыце мне, выйсці на волю?
Дзе захаваўся спакой?..

Не, не знайсці мне, гаротнай, спакою,
Век ўжо не бачыць жыцця…
Час ўжо спакойнай і простай ступою
Смела йсці ў Край Забыцця…

Чуецца голас абразы у сэрцы:
«Мукі за што ты нясеш?
Гінучы ў горы, у злой паняверцы,
Ты за каго жысць кладзеш?»

Можа, у тым, у няведамым краю,
Шлях будзе мой шчаслівей,
Там мо, гаротная, шчасце спазнаю,
Там, можа, жыць весялей!

*[1924]*

## ВАЛЯНЦІНА КАЗЛОЎСКАЯ

*1907–1938*



Валянціна Герасімаўна Казлоўская нарадзілася ў Рызе 19 жніўня 1907 г., вучылася ў Люцынскай, а пазней у Дзвінскай гімназіях (выпуск 1926 г.). У 1927 г. скончыла ў Рызе Беларускія настаўніцкія курсы. Дзякуючы спрыянню Янкі Купалы і Кастуся Езавітава ў тым самым годзе пераехала ў Менск і ў 1931 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Працавала ў Тураўскай раённай бальніцы (1931–1932), нейкі час жыла з сям'ёю ў Менску (1932–1935), пазней працавала ва Урэчанскай амбулаторыі, дзе побач у ваенным гарадку служыў яе муж Маісей Шапіра, вайсковы лекар. У сям'і гадаваліся два сыны.

У снежні 1937 г. была арыштаваная, абвінавачаная ў шпіянажы на карысць латвійскай разведкі. Расстраляная 31 сакавіка 1938 г. Рэабілітаваная 19 траўня 1960 г.

Літаратурную дзейнасць пачала з 1923 года. Арыгінальныя творы і запісы беларускіх фальклорных твораў змяшчала пад уласным прозвішчам і псеўданімамі Лясная Кветка, Кветка ў часопісе «Ластаўка» (1923–1924), а таксама ў асобным выданні вучнёўскіх твораў «Ластаўка» (Люцын, 1924), альманаху «Першы крок» (Рыга, 1926), штомесячніку Дзвінскай беларускай гімназіі «Школьная праца» (выйшла 13 нумароў у 1926–1934 гг. на шклографе). Пісала празаічныя творы на фальклорным матэрыяле («Легенды аб Люцынскім замку», «У калядны вечар» і інш.), аўтар п'есы для дзіцячага тэатра «Зачараваны скарб» («Ластаўка», № 56 за 1923 г; № 7 за 1924 г.).

Пераклала з латышскай мовы «Гімн гайдаў» (марш скаўтаў), верш Яніса Райніса «Дзецям цемры». Верш В. Казлоўскай увайшоў у зборнік «Бацькаўшчына» (2002).

У 2016 г. выйшла кніга Валянціны Казлоўскай і Пятра Сакала «Выбраныя творы».

### Літаратура

Ліставанне Марка Шапіры з Сяргеем Панізьнікам // Сакол П., Казлоўская В. Выбраныя творы / уклад., камент. М. Казлоўскага,

С. Панізьніка; прадм. М. Казлоўскага. Мінск: Кнігазбор, 2016. С. 105–124.

Панізьнік С. Лясная кветка з Латвіі // Новы час. 2005. № 3 (май). С. 12.

Шапіра М. «Лясная Кветка» (Лёс Валянціны Казлоўскай) // Запісы БІНіМ. 2004. № 28. С. 327–350.

## Зорка

*Ахвяравана Пятру Сакалу*

Над соннай зямлёю з нябеснай высі,
Скрозь маркотныя хмаркі начныя,
Зорка сумна на гора-няпраўду глядзіць,
Што заліла абшары зямныя.

Цёмна, сумна і страшна наўкол.
Месяц гдзесьці за хмаркі схаваўся.
Ясных зорак нямы карагод
Згінуў ў небе, бы цемры спужаўся.

Цяжка спіць і ўздыхае ў пацёмках зямля —
Прабудзіцца ад гора не можа.
Толькі зорка, на цёмнага неба краю,
Сон маркотны зямлі ўсё трывожа.

Як бы сведчыць яна, сярод цемнай начы,
Шматпакутны народ абуджая,
Што прагляне ўжо хутка над нашай зямлёй
Коска першая, ў небе іграя.

Дык сьвяці жа, прадвесніца шчасця зямлі,
Пакуль край прабудзіцца з зарою,
Пакуль наш Беларускі Народ не пайдзе
Ўперад светлай, шчаслівай сцягою!

*[1923]*

## Ночка

Блішчаць вянкі дрыжачых зорак ў небе.
Скрозь хмаркі месяц на зямлю глядзіць.
І ветрык, нешта засмуціўшысь,
Ў паветры ціхім не гудзіць.

Журчыць ручэй срэбранаю струною
І брыжжа перламі ў паснуўшую траву.
Аб нечым шапаціць бярозка маладая.
А птушкі ўжо паснулі у лясу.

На цененькай алешніка галінцы
Вось, раптам, запяяў паўночнік-салавей…
І сумна неяк мне, — і радасна на сэрцы.
І ночка — хараша, й — дня хочацца хутчэй!

*[1924]*

## Зіма

Ў белай світачцы Зіма,
Ў хустачцы з туманаў
Прыляцела на вятрох
З палуночных странаў.

Куды павернецца чалом —
Задуюць буйны ветры;
Махне шырокім рукавом —
Заўецца снег ў паветры.

Пакрыла Матку-Беларусь
Ўжо белай пеляною;
Надзела з перлаў ёй вянец
Лядзянаю рукою.

У новай вопратцы наш край
Мо шчаслівейшы будзе,

Ўздыхнуць свабоднымі грудзьмі
Яго бяздольны людзі.

*[1924]*

## Я. Купале
*(Юбілейнае прывітанне)*

Святы агонь ў тваёй душы судзьбіна запаліла,
У рукі гуслі звонкія яна табе дала,
Кахаць Айчыну шчыра навучыла,
Да сонца і да зорак павяла.

Адвечны лес, і шэпат кветак ў полі,
І гоман вольнае, срабрыстае ракі,
І стогн наўкол аб страчанае долі —
Табе у гуслі спеў ўлілі.

Спявай, Пясняр! Хай зыкі тваіх спеваў
Здзяруць з братоў нядолі ланцугі,
Й на нівах бацькаўскіх, між варажых пасеваў,
Ўзмацуюць Праўды й Волі каласы!

*Чэрвень 1925 г., Люцын*

## Разведчыку

Наперад, брат, разведчык юны!
Наўкола дрэмлюць хай браты, —
На ўсё, што дасць табе дзень шумны,
Гатовы быць павінен ты!

Мо гора здарыцца з табою,
Мо страціш хату і спакой —
Не плач! — І з песняю раднsocket
Ідзі жыццёваю сцягой!

За шчасце згвалчанай Айчызны,
Свой посах сціснуўшы ў далонь,

У думках і у сэрцу чысты,
Гатовым будзь пайсці ў агонь!

І хай грымяць наўкол пракляцці,
Маланка ззяе, гром грыміць, —
З пагардай, смела, стой, мой браце,
Як ў буру моцны дуб стаіць!

*Ліпень 1925 г., в. Луні*

## Дай руку, брат

*Прысвячаецца Д. Юркевічу*

Дай руку, брат! — Смялее будзе
У панстве цемры і сярмяг
Каваць Айчыне сваёй долю,
Пакуль агонь не згас ў грудзях!
Штандар наш, бел-чырвона-белы, —
Глядзі! — узвіўся у лазур!
Дай руку, брат! Смялее будзе
Нам бараніць яго ад бур!
Глядзі: смяецца чужаземец
З святыні прадзедаў тваіх!
Дай руку, брат! Смялее будзе
Айчыну вырваць з кіпцяў іх!

*24 лістапада 1925 г., Дзвінск*

## Заўсёды гатова!

За гонар Айчыны, за роднае слова,
За лепшую долю братом, —
Я ўмерці з адвагай заўсёды гатова,
Ў змаганні з няпраўдай і злом!

Пракляцці ўсе тыя, што стогнуць наўкола,
Віхры, што над Краем шумяць,

З радзімых нябёс я заўсёды гатова
Ад сонца і зор разагнаць!

Няхай усе ведаюць, бачуць ўсе людзі —
Кахае свой край беларус!
Мазольныя рукі і моцныя грудзі
Асілюць чужацкі прымус!

*Травень 1926 г., Дзвінск*

## Ластаўчына песня

Я шчасце, я радасць, вясну я нясу.
Прачніся ад сну, мілы краю!
Зірні! — ужо сонца іскрыцца, гарыць,
І буслы клякочуць у гаю.

Вясна наступіла, вясна крывічоў.
Гэй, моладзь! Да працы, за долю народа —
Прысвеціць цябе люд крывіцкі гатоў
І родная маці-прырода!

*[1926]*

## Над труною

*Памяці Іры Мілоўскай*

Спі, мая родная, спі, як ў калысцы,
Ў гэтай сасновай труне…
Спі, і не слухай ты песні жалобныя,
Што люд сабраўшысь пяе!

*

Спі, адпачынь ад жыцця безпрасветнага,
Болей не трэба стагнаць, —
Слёзы дзявочыя, слёзы гарачыя
Ліць, і ад свету хаваць.

*

Доля сірочая, доля цярновая
Мусіць за-цяжка была!
Кветачку хілую бура жыццёвая
Змяла, стаптала, ўнясла.

*

Ціха ляжыш ты цяпер безадказная
З думкай святой на чале…
Спі, мая родная, спі, як ў калысцы,
Ў гэтай сасновай труне.

*25 кастрычніка 1926 г., Рыга*

# НАДЗЕЯ МІКАЛАЕВА

*1907–1993*



Надзея Андрэеўна Мікалаева (у замужжы Комісар) нарадзілася 17 верасня 1907 г. у Дзвінску ў сям'і праваслаўнага святара. Вучылася ў Люцынскай беларускай дзяржаўнай гімназіі (г. Лудза), дзе выявіла сябе як здольная спявачка і артыстка, брала ўдзел у гімназічным драмгуртку. Перавёўшыся ў Дзвінскую беларускую гімназію, у 1922–1925 гг. удзельнічала ў пастаноўках Драматычнай дружыны пры гімназіі пад кіраўніцтвам Паўліны Мядзёлкі, у 1922 г. упершыню выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы. За выкананне ў гэтай ролі песні «Ды й не кукуй жа, зязюленька, рана…» атрымала ад П. Мядзёлкі мянушку Зязюлька. Была прызнана найлепшай вучаніцай 5-га выпуску гімназіі (1927); за добрыя поспехі і мастацкую дзейнасць Педагагічная Рада ўзнагародзіла яе кнігай «Гісторыя Беларускай кнігі» В. Ластоўскага.

Вучылася на Беларускіх настаўніцкіх курсах (г. Рыга). З'яўлялася актрысай Беларускага народнага тэатру ў Рызе, на сцэне якога таксама выступала ў ролі Паўлінкі (1928, рэжысёр Яніс Шабэртс). Закончыла навучанне ў Латвійскай кансерваторыі па класе вакалу (1932). Працавала салісткай радыё і Ліепайскага тэатра оперы і драмы (каларатурнае сапрана).

Памерла 6 кастрычніка 1993 г. у Рызе, дзе і пахаваная.

З вершамі выступала ў друку з 1925 г. Публікавалася ў рыжскай газеце «Голас беларуса», калектыўным зборніку «Першы крок» (1926). Перакладала з латышскай мовы творы Яна Райніса.

**Літаратура**


Абола М. А. С «Паўлінкай» в Латвии знакомы // Рэспубліка. 1997. 5 ліпеня. С. 7.

Панізьнік С. С. Мікалаева-Комісар Надзея Андрэеўна // Янка Купала: Энц. даведнік. Мінск: БелСЭ ім. П. Броўкі, 1986. С. 394.

Сахараў С. У 10-я ўгодкі Дзьвінск. Дзярж. Беларускае гімназіі // Беларуская школа ў Латвіі. 1932. № 7 (17). С. 249, 251.

## Ноч

Сонейка схавалась за высокім борам —
Уступіла мейсца залацістым зорам.
Месячык паціху выплыў з па-за хмары,
Разліліс па Свету сны і шчасця мары.

*

Ціха ўсё… Ўсё ціха… Не калышуць дрэвы.
Не гудзяць, не чутны — змоўклі птушак спевы.
Толькі зрэдка ўскрыкне дзе сава начная,
Ці праз сон галінка уздрыгне якая…

*

Рэчка, й тая сціхла, не цячэ так жвава,
Прытулілась шчыльна к беражочку ўправа;
А над ёй галіны нахіліла іва,
Шэпчучы ёй нешта ціха-жаласліва…

*Жнівень 1925 г., Дзвінск*

## Восень ідзе

Цёмныя навіслі
Хмары над зямлёю.
Штодня плача неба
Горкаю слязою.

Вецер разгуляўся,
Лісцё з дрэў зрывае
І ў паветры доўга,
Злосна іх ганяе.

Шэра ўсё наўкола,
Сумна ўсім бясконца.
Кроплі дождж нудна
Стукаюць ў ваконца…

Разыдзіцесь, хмары! —
Сонца хай заззяе!
Яно скіне чары,
Што восень напушчае!

*Жнівень 1925 г., Дзвінск*

## Вясне

Вясна! Вясна!
Ўсё адбудзілася ад сна,
Ад сна даўгой і злой зімы!
Ўжо — вестка першая вясны —
Пралеска ў лесе распусцілась.
Праменні сонца залатыя
Лісточкі песцюць маладыя.
У небе жаўранак спявае —
Вясну прыгожую вітае.
Вятрочак цёплы ўсюль жартуе
І зыб'ю дробнай ледзь хвалюе
Ваду ў рацэ, што гэтак вольна
Па берагох цяпер разлілась.

*Красавік 1926 г., Дзвінск*

## Прытуліся

Прытуліся хутчэй
Да грудзі ты маей!
Ты змарыўся ў змаганні з няволяй!
Табе песню спяю,
Новых сіл надаю,
Каб лягчэй дасягнуць шчасця-долі.
Прытулісь жа мацней
Да грудзі ты маей!

Раскажу табе дзіўную казку —
        Пра няведамы край,
        Што цвіце, быццам рай.
Агарну цябе ціхаю ласкай.

*11 ліпеня 1926 г., Дзвінск*

* * *

Вам, што наш розум ўзгадавалі,
Што нам ўлажылі знання свет,
Што нас да праўды заклікалі, —
Сардэчны, ўдзячны наш прывет!

Агню тэй праўды, ўсведамлення,
Жадання добрае тварыць,
Імкнення нас да адраджэння —
Не зможа ўжо ніхто згасіць!

І з моцнай вераю мы будзем
Ў народзе сеяць знання свет,
Ад сну цяжкога ўсіх абудзім,
А вам — ад сэрца наш прывет!

*[1927]*

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

*1910–1983*



Ларыса Антонаўна Геніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч) нарадзілася 27 ліпеня (9 жніўня) 1910 г. у маёнтку Жлобаўцы Ваўпянскай воласці Гарадзенскага павета (цяпер Ваўкавыскі раён Гарадзенскай вобласці) у сялянскай сям'і. У час Першай сусветнай вайны сям'я выехала ў эвакуацыю, вярнулася дадому ў 1919 г.

Скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію (1928), у 1937 г. выехала ў Прагу, дзе жыў і вучыўся ва ўніверсітэце яе муж Янка Геніюш. Тым часам пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР (1939) быў арыштаваны і неўзабаве расстраляны бацька Ларысы Геніюш; маці і дзвюх яе сясцёр выслалі ў Казахстан.

Уключылася ў жыццё беларускай эміграцыі і ў дзейнасць урада БНР (нейкі час была яго сакратаром). У сакавіку 1943 г. стала Генеральным сакратаром урада і займалася захаваннем і ўпарадкаваннем архіва БНР, апекавала беларускіх эмігрантаў, палітычных уцекачоў, беларускіх работнікаў і ваеннапалонных у Германіі.

У 1948 г. Ларыса Геніюш была арыштавана і перавезена ў Мінск. Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР асуджана на 25 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. Камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30.05.1956 г. часткова рэабілітавала яе, тэрмін пакарання быў зменшаны да 8 гадоў. Пераехала ў пасёлак Зэльву, што на Гарадзеншчыне, дзе жыла, не прыняўшы савецкага грамадзянства. У беларускім савецкім друку выступала з 1963 г.

Памерла 7 красавіка 1983 г., пахаваная ў Зэльве.

Дэбютавала ў 1939 г., вершы друкаваліся ў беларускіх перыядычных выданнях «Раніца», «Беларускі работнік», «Новы шлях» і інш. Першы зборнік паэзіі «Ад родных ніў» апублікаваны ў Празе ў 1942 г. У час нямецкай акупацыі друкавалася ў газетах «Раніца», «Беларускі работнік», у часопісе «Новы шлях» і інш. Выйшлі зборнікі паэзіі «Невадам з Нёмана» (вершы і паэма, 1967), «На чабары настоена» (1982), «Dzieviać vieršaū» (Беласток, 1987), «Белы сон» (1990), «Вершы: рукапісны зборнік з 1945–47 гг.» (Лондан, 1992), «Споведзь» (1993), «Выбраныя

вершы» (1997), «Гасціна: выбранае» (2000), «Выбраныя творы» (2000), «Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945–1983)» (2005), «Лісты з Зэльвы: з эпісталярнай спадчыны (1964–1983)» (2012), паэтычныя кніжкі для дзяцей «Казкі для Міхаські» (1972), «Добрай раніцы, Алесь!» (1976), «Ластаўка» (2000). У 2010 г. выйшаў Збор твораў у 2 т.

**Літаратура**

Бічэль-Загнетава Д. З прынямонскіх вярбін // Полымя. 1988. № 4.

Духу магутныя чары...: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах / уклад., прадм., камент. М. Скоблы. — Мінск: Лімарыус, 2015.

Кісялёва Я. М. Аповед спакутаванай, але не зламанай душы. З архіўнай справы Ларысы Геніюш // Путь длиною в полстолетия: к 50-летию образования отдела редких книг и рукописей Центральной научной библиотеки им. Я. Коласа Национальной академии наук Беларуси. Минск: Беларуская навука, 2015. С. 111–124.

Сачанка Б. Ларыса Геніюш // Маладосць. 1988. № 10.

## Млын

Меле млын высокі.
На сівым вяку
меле нашу долю,
меле на муку.

Засыпаюць ў жорны
жыта-Беларусь,
перамелюць з горам,
з болем перамруць.

Млынары чужыя,
варажосць наўкруг,
адсяваюць сіты
беларускі дух.

Меле млын высокі
ўдзень і уначы,
некаму прыйдзецца
горкі хлеб пячы.

*1939*

## Над празорай крыніцай

Над празорай крыніцай
на палі, на лугі,
ой, не шлі, маладзіца,
сваіх песняў тугі.
Яны стогнуць так глуха…
Сум звіў сэрца, як вуж…
Ці ліхая свякруха,
ці няветлівы муж?
А мо ён ды не любы,
а мо гэта не той,
што салодка галубіць
у буйны цветабой?
Знаю — доля не гладзіць!..
Ўсё ж тужыць перастань,
як юргіню ў прысадзе,
зломіць сівер твой стан.
Быццам колас падцяты,
бадылёк на вятры,
куст сарванае мяты —
адцвіцеш без пары.
Сініх слёзаў, што ўпалі,
шчокаў макавы цвет
ўжо не вылавіш з хваляў,
бо вада адплыве…
Над празорай крыніцай
не спускай жа касы,

не губляй, маладзіца,
беларускай красы.

*1939*

## На струнах Вэлтавы

На струнах хваль іграе вецер
сімфонію ночы зорнае.
Над глыбінёю дуб развесіў
свой цень, бы крыллі ворана.
Ў сетку з ясных зор
прыбралася ноч,
ў казачны убор,
залацісты дождж.

Брыльянтамі на дно апалі,
апалі зоры семенем.
Калышуць іх на грыве хвалі,
а ноч іх сыпле жменямі.
Нават не маглі б
вочы распазнаць —
ці прад намі глыб,
ці нябёсаў гладзь.

Пад намі неба ўсхваляванае,
пад намі неба зорнае,
сінь золатам размаляваная,
і тут, і там узорная.
Верыць бы кожны мог,
быццам стаўся цуд,
быццам неба тут
сцелецца ля ног.

*1939*

## Беларуска

Калі цябе, мілы, Краіна пакліча
за родны змагацца парог,
то суму не будзе ў мяне на abліччы
і страху не будзе ў грудзёх.

Дзявочае сэрца ў хвіліне так важнай
ад жаху мацней не заб'е,
а буду не менш за цябе я адважнай,
каб сілы дадаці табе.

Бо сэрца дзяўчыны пад кужалем тонкім,
як сэрца найлепшых сыноў,
гарыць то ж каханнем да роднай старонкі
і спадчыны нашых дзядоў.

Ты пойдзеш у бой, а я плуг пакірую,
каня накармлю, напаю, —
і так абаронім, засеем, збудуем
Беларусь дарагую сваю.

Бо гэтак, як стрэльбы і кулі як звонкай,
як сіняе сталі мяча,
заўсёды патрэба для нашай старонкі
адважных хлапцоў і дзяўчат.

*1940*

## Захад

Кацілася ў полымі сонца на захад,
на стрыжанай ржышча лягло галаве…
Вось быццам хто смелым мастацкім размахам
чырвань распырскаў на палатне.
Быццам вайна удалі загрымела…
Можа, ўстае паднявольны народ,
крывёю разлітай сыноў сваіх смелых

купляе вызвольны Краіне усход.
Не гіне ўсё чырвань… Палае прыгожа…
Але не кроў там ужо, не агні, —
гэта шырока раскінулі рожы
недзе дзяўчаты героям вайны.
Паволі ўсё гіне. Ноч наступае.
За ценем без шолаху сунецца цень…
Ды ноч міне скора. Па ёй рассвітае
ясны, скупаны у чырвані дзень.

*1940*

## Вячэрняя містэрыя

Золатам тканаю рызаю
пакрылася неба без хмар.
Пацеркі зораў нанізаных
вечар кладзе на алтар.
Месяц над возерам кадзіць
струменямі дымнымі зор.
Сыплюцца зоры ў прысадзе
на белы дзяўчыны прыпол.
Б’юць цені паклоны набожныя,
а лятучыя косы бяроз
атулілі крыжы прыдарожныя,
дзе плача драўляны Хрыстос.

*1940*

## Ноч

Ноч трапечацца, і зоры ярка свецяць,
вецер песню запяяў цішэй…
Душу ў блядых руках калыша месяц,
хістаецца сярод заснулых дрэў.
Снуюцца цені па пустой дарозе,
адкінуў дышаль Воз на небе ў бок

і хмараў сініх болей не развозіць;
туман запутаўся над рэчкай у кустох.
То тонкі вэлюм свой развесілі русалкі,
каб вольна рытмам лебядзіных цел
прыйсці, кружыцца, праляцець маланкай,
аж пакуль птушкі не празвоняць дзень.
Пакуль аж вецер зораў не патушыць,
расою не зазвоніць лісце лебяды,
з рук месяц пусціць распяяну душу,
ноч ногі мокрыя не выцягне з вады.

*1940*

## Танцуе дождж

Танцуе дождж па дахах камяніцаў,
танцуе дождж па лысіне брукоў;
з дамоў замурзаных вада слязьмі струіцца,
ў рыштоках пеніцца каскадай брудных слоў.
Па вуліцах снуюцца парасоны,
і людзі корчацца, змалелыя і так,
а у вачох, заплесненых і сонных,
блішчыць аднолькавы, слізкі каменны шлях.
Ніколі, быццам, тут не ззяла сонца,
вясною нат не лашчыла вачэй,
і быццам хмары зрэбныя бясконца
ўсё гасяць радасць, тушаць бляск надзей.
Танцуе дождж па дахах камяніцаў,
задорна-звонкі выбівае рытм…
Вачыма хочацца праз цяжасць хмар прабіцца,
дарогу сонцу яснаму раскрыць.

*[1940]*

## О, краіна

О, Краіна шчасця, родная матулька,
о, Краіна ясных, незабытых дзён!
На шырокім свеце не найду прытулку,
не прывыкну сэрцам да чужых старон!
Тэхніка, культура ды чыёсь багацце
не ўзварушаць сэрца маяго мацней —
ў ім цвітуць, красуюць нашы сенажаці,
ды калыша вецер клёнам весялей.
Вышынёю вежы быццам хмарам грозяць,
з каменю палацы задзіўляюць свет…
Мне ж мілей наш шэры камень пры дарозе,
дзе адпачывае пасівелы дзед.
Цудоўныя паркі, сеяныя травы
ды шнуры даўгія стрыжаных алей…
Даражэйшы сэрцу лес наш кучаравы,
сцежачкі у полі цягнуцца мілей.
Летам сонца збожжа цудна пазалоціць,
закалыша вецер каласамі ніў,
засумуе бусел на пустым балоце,
быццам сваё шчасце, летучы, згубіў.
Ды чуваць, як песня серабраным раннем
паплыве па рэчцы з хвалямі вады…
Часам разальецца збуджаным каханнем,
або замяцеліць ўздымам маладым.
Кажуць, што Ты зрэб’е носіш у нядзелю,
кажуць, што Ты носіш лапці на нагах…
Для мяне Ты грудзі палатном усцелеш —
расцвіцеш калінай на буйных кустах.
Прыбярэшся ў зелень, краскамі заманіш,
ўвосень ніжаш гусі ў тоненькі ланцуг,
то атуліш вочы вэлюмам туманаў,
быццам бы дзяўчына, едучы к вянцу.
Заварожыш Нёмнам, рэкамі сваімі,
засмяешся ў сонцы збожжам залатым…

Закалыша сэрцам верным Тваё імя,
ціхаю малітвай, водгуллем святым.
О, Краіна шчасця, родная матулька,
о, Краіна ясных, незабытых дзён!
На шырокім свеце не найду прытулку,
не прывыкну сэрцам да чужых старон!

*1940*

# ГАННА НОВІК

*1914–1997*



Ганна Аляксееўна Новік нарадзілася 12 (25) сакавіка 1914 г. у г. Аўгустове былой Сувалкаўскай губерні (цяпер Польшча) у сям'і каваля.

У час Першай сусветнай вайны бацькі вярнуліся ў родную вёску Варонічы каля Вілейкі, дзе і прайшло дзяцінства будучай паэткі. З 9 гадоў Ганна працавала наймічкай. Закончыла сем класаў Куранецкай школы (1932); працягнуць адукацыю не змагла з-за недахопу сродкаў. У 1935 г. была ў жаночым лагеры для беспрацоўнай моладзі ў Рашыне пад Варшавай. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху неаднаразова арыштоўвалася. У чэрвені 1936 г. за спробу ўцячы ў Савецкі Саюз трапіла ў Вілейскую турму, дзе ўтрымлівалася паўгода, пакуль не была выпушчана пад нагляд паліцыі. Наймалася на падзённыя работы, была вучаніцай краўца. Пасля прыходу Чырвонай Арміі (1939) абрана дэпутатам Народнага Сходу Заходняй Беларусі, працавала намеснікам старшыні Вілейскага райспажыўсаюза, інспектарам Куранецкага раённага аддзела народнай адукацыі. Завочна вучылася ў 47-й сярэдняй школе Мінска. У час Вялікай Айчыннай вайны — партызанская сувязная. У 1948–1954 гг. працавала старшынёй калгаса імя У. І. Леніна в. Варонічы Вілейскага раёна і старшынёй Кузьміцкага сельсавета Вілейскага раёна, памочнікам начальніка палітаддзела Будслаўскай машынна-трактарнай станцыі на Маладзечаншчыне. З-за хваробы не змагла працягнуць працу. У 1960 г. была прынята ў СП БССР. Жыла ў вёсцы Варонічы.

Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны ІІ ступені і медалямі.

Памерла ў Вілейцы 7 студзеня 1997 года, пахаваная на вілейскіх гарадскіх могілках каля вёскі Снежкава.

Першыя вершы надрукавала ў 1937 г. У 1938 г. падрыхтавала зборнік «Жменя асенніх думак», але выдаць яго не атрымалася (рукапіс захоўваецца ў БДАМЛМ). Аўтар кніг паэзіі «Мае вёсны» (1961), «Мая Вілейшчына: Выбранае» (1996), «Сумёты агню»

(2010), аповесці «Другая сустрэча» (фрагменты апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1979).

**Літаратура**

Айзенштадт Г. Вернасць // Чырвоная змена. 1980. 22 ліст.

Новік Г. З перажытага // Новік Г. Мая Вілейшчына: Выбранае. Мінск: Изд. группа «Нэссі», 1996.

Чыгрын С. Ганна Новік // Ніва (г. Беласток). 2003. 16 сак.

## Песнярам

Вы запелі нам пра долю,
долю батрака,
як шапоча з ветрам поле,
як шуміць рака.

Вашы песні ноччу шэрай
рвуцца ўдаль, каб жыць.
Але як мне на паперы
сны свае змясціць?

На загоне, што ару я, —
для сябе пішу;
тут чытаю — голас чуе
толькі ветру шум.

На іржышчы серпам звоне
млявая рука,
разрывае у саломе
кросны павука.

І спадніца мне на гэта,
як ад камароў;
пранасіла блізка лета,
за што купіш зноў?

А яшчэ тут, як на тое,
хочацца пісаць

пра адно ды пра другое…
Дзе ж на ўсё узяць?!

Трэба боты, хлеб і латка,
Дзе ж тут да папер!
Не ўцячэш і ад падаткаў,
ведама, цяпер.

Ну і як паіравацца,
шмат хто ўдаль заве.
Пачынае дзед смяяцца:
— Дур у галаве!..

Што ж казаць я маю дзеду,
ведама — стары,
ды яму пра свет, пра веду
лепш не гавары.

А пры гэтым не хапае
у мяне ўсяго,
ды ці прымуць думы-песні
вырабу майго?..

І пісаць я ледзь умею,
бо не з школ сваіх,
толькі сэрцам разумею
голас ніў вузкіх.

*17 мая 1937 г.*

## Не таму

Не таму я стаў пад горкай,
Што спужаўся вышыні;
Не таму у роце горка,
Што праходзяць сумна дні.

Я прыстаў прыгатавацца
Да магчымых няудач;

Жаль, што марна гіне праца —
Я ж яе каваль і ткач.

Сумны дзень далей прагонім
І забудзем, што ён быў!
Хай звініць у думах-тонях
Жыцця новага парыў!

Хай ліецца ў жылах з кроўю
Песня-думка на абшар,
А пачуўшы — кажды ўспомніць,
Што ёсць шчасце і пясняр.

*9 жніўня 1937 г.*

## Ткала восень…

Ткала восень баб'е лета
На іржышчах, дзірванах —
Ты прыйшоў тады з рассветам,
Як у басні, як у снах…

Раз яшчэ прыдзі, чакаю!
Сонца ўсходам перайму
І скажу, што адчуваю,
Табе толькі аднаму.

Ты прыйдзі сваім навыкам,
Не паўднём, а чуць святок…
Праз акно мяне паклікай,
Ля вугла пастаў кіёк…

Не пытай, ці ё я дома,
Дзе ідзеш ты — не кажы;
Як віхры нясуць салому —
Разнясуць, што ёсь чужы.

Час мінае як пагода
Альбо сон, маланкі міг.

Маладосці гэдак шкода!..
Хоць паплакаць бы ўдваіх…

*15 верасня 1937 г.*

## Жаўцее лес…

Жаўцее лес, завяла поле,
Ужо сцюдзёная зямля…
Адны віхры маюць раздолля —
Паміж пажоўклага галля.

Варона толькі крыллем свішча
З бядой ў паветры ўжо густым —
На зааранае іржышча —
Ляціць ў захопе маладым.

І адусюль, дзе куст лазовы,
Ці пад'яленец, ці нат пень,
Хоць неахвотна тлеюць дровы
Праз цэлы шэры, сумны дзень.

А дым-гультай паўзе па полі,
Як чуць жывы — хоць падбяры…
Цямнее неба штораз болей,
Не бачу сонца, ні зары…

Каля агню там дзетак гурба
Абдзёртых, босых і худых,
А у агні пячэцца бульба,
Абед без грошай, без бяды.

*12 кастрычніка 1937 г.*

## Снег

Снег прысыпаў лета зелень,
Атуліў сабой кусты.
Толькі зрэдзь па чыстай белі
Сухі ліст к суку прыстыў.

Прыцямнелі успаміны…
Травень даўна ўжо храпе,
Толькі шэраю гадзінай
Чутны нам віхроў напеў.

Прымінула касьба, жніва
Проста, як бы не было,
Памярла уся крапіва,
Даўна снегам замяло.

Дзе ні глянеш — чыста, бела,
Ліш дарог вузкі шнурок…
Толькі сцежка парудзела
Праз дарогу папярок.

Пратапталі яе дзеці —
Ім у школу тут бліжэй…
А мо хтось яшчэ прымеціў?..
Мо — хто вушкамі стрыжэ?..

Між слядоў драбных дзяціных
Ботаў, лапцяў і калёш
Хтось вялікі след пакінуў —
Не змёў вецер, не змыў дождж.

*29 лістапада 1937 г.*

## У дарозе

Спаткаў я вёску сумную,
знаёмую сваю.
Ці ёсць тут шчасце, думаю,
ці часта тут пяюць?..

Спаткаў яе я шэраю
васенняю парой
і з жаласцю бязмернаю
прыстаў я пад гарой.

Калі к табе не еду я,
калі я не іду —
ты сумная і бедная,
ўрасла у лебяду.

Хацеў бы думкай смелаю
прыйсці і паглядзець —
ну ўся зямелька белая:
пазнаюць, хто ідзе.

А гэтак мне не хочацца,
каб відзелі усе, —
цяжэй тады варочацца
па снегавой расе.

*[1937]*

## Ці гэта пух?..

Ці хто ўгарэ рассыпаў пух гусіны?
І ім закрыў паветра, неба, лес…
Замаляваў на бела з хварбы сіняй,
А у паветры — проста як замерз.

З гары ляціць, спускаецца памалу,
На валаску, здаецца б, ён прысеў…

А на зямлі лажыцца белым валам,
Вянкамі на танюткіх сучках дрэў…

Душа сама задуме паддаецца,
Бязведна хваліць пекную пару…
А пух ляціць так лёгка, і здаецца,
Што ён з зямлі падоймецца ўгару…

Брытаюцца асобныя абрэзкі
З такой жа самай белай вышыні,
А гэна бель у вочы лезе рэзка,
Хоць ты вазьмі у бок іх адвярні.

Як камары у вечары маёвым
Раямі цэлымі таўкуць, як кажуць, мак —
Не знаць, дзе у іх крылле, дзе галовы —
Такая таўканіна — белі ў смак.

*8 студзеня 1938 г.*

## Дзяўчыне

Што сукенкі, скажы, варты
        І нашто шмат шыць?
Здабыла б ты трохі гарту
        Для сваёй душы.

Толькі шоўкі ды батысты
        Й нешта там яшчэ…
А на свет пагляд імглісты
        Й ледзьве ён цячэ.

Не шукай бяды прычыны
        У вайне, жыдох —
Беражы імя дзяўчыны.
        Не зваліся з ног.

Абы чэсна, ды і годзе!
        Што там вымагаць…

І ў сукенцы не па модзе
        Можна працаваць…

І працуеш… на сукенкі
        Ды на бліскуны,
Хочаш выглядаў «паненкі»,
        А нашто яны?

*[1938]*

## Мае жаданні

Хацела б песні ўсяго свету
І росы раннія, калі
Раскінецца спякота лета,
На луг засмяглы пераліць.

Яшчэ хацела б зораў ззянне
Замкнуць у думцы маладой,
Дарогу к мэце шлях змагання
Апырскаць, як жывой вадой.

Улетку з вечара ціхога
Сабраць хацела б супакой,
На камяністую дарогу
Пасыпаць цвёрдаю рукой.

А з хмар, што прыйдуць па спякоце,
З сабой узяўшы перуны,
Звяла б маланкі ўсе па дроце
На бель турэмнае сцяны.

*1938*

## Жаноцкая доля

Мы прадзём і тчом і белім,
шыем, мыем, страву варым;
на плячох і на пасцелі
нашай працы ёсць тавары.

Нам і печ, гаршчок і міска,
свінні, куры і карова;
і гароды, і калыска,
і на ўсё ты будзь гатова.

Нас не вучаць. Як сіроты
мы закінуты бацькамі
і пільнуем свайго плоту,
пакуль хочуць яны самі.

Столькі часу ўжо мінула,
як пануе гэта мода;
боль у сэрцы прызаснула,
але часам — жыцця шкода!

*[1939]*

## РАСА

*1916–2003*



Раса (Ніна Ляўковіч, у замужжы Абрамчык) нарадзілася 20 сакавіка 1916 г. у в. Шані (цяпер Пружанскі раён Брэсцкай вобласці).

Закончыла Віленскую беларускую гімназію, вучылася ў Віленскім універсітэце, была сябрам Беларускага студэнцкага саюза. З восені 1939 г. настаўнічала на Пружаншчыне. Ад 1941 г. жыла ў Берліне, дзе пабралася шлюбам з грамадскім і палітычным дзеячам беларускай эміграцыі Міколам Абрамчыкам (1903–1970), будучым прэзідэнтам Рады БНР (1943; 1947–1970). Працавала ў газеце «Раніца» і Беларускім камітэце самапомачы.

З канца 1943 г. разам з мужам жыла ў прыгарадзе Парыжа Вільпэнт. Пасля смерці М. Абрамчыка з 1970-х гг. доўгі час працавала ў парыжскім Музеі чалавека. Арганізоўвала навучанне сына Альгерда (нар. у 1955 г.), які стаў інжынерам медыцынскага абсталявання ў буйной кампаніі.

Памерла 27 студзеня 2003 г., пахаваная ў Парыжы на могілках Пэр-Лашэз.

У 1936–1939 гг. друкавалася з вершамі ў газеце «Наша воля», часопісах «Praleski», «Шлях моладзі», «Šlach biełaruskaha studenta», пазней — у эмігранцкіх выданнях.

Стараннямі Міколы і Ніны Абрамчыкаў у 1942 г. выйшлі кнігі «Гісторыя Беларусі ў картах» і «25 сакавіка»; Н. Абрамчык уклала некалькі зборнікаў песняў: «Беларусь у песнях», «Калядныя песні» (абодва 1942), «Пад гоман вясёлы» (1943). У Францыі выдала першы і адзіны выпуск газеты «Беларуска» (1947).

### Літаратура


Гардзіенка Н. Быць жанчынай: Лісты Ніны Абрамчык да Вольгі Запруднік (1956) // Запісы БІНіМ. № 37. New York; Miensk, 2014. С. 330–338.

Туронак Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944). Мінск, 2002.

Юрэвіч Л. Ніна, Алік і архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. № 37. New York; Miensk, 2014. С. 339–350.

## Зімой у лесе

Гнуцца пад снегам галіны,
Гнуцца пад снегам карчы,
Гнуцца бярозы, яліны,
Гнуцца і ўдзень, і ўначы.

Ціха, спакойна у лесе,
Нішто не шалохне нідзе;
Ціша вісіць ў паднябессі,
Ціша таксама ў нізе.

Зорачкі з неба спадаюць,
Круцяцца, ўюцца, як рой;
Нізам іх сёстры вітаюць,
Ўпаўшыя ранняй парой.

Сцелюць дыван яны дрэвам
Белы і мяккі, як пух…
Падаюць з ветру павевам
Стадамі беленькіх мух.

Зліпліся белы сняжынкі,
Шчыльна акрылі зямлю;
Ў лесе не знойдзеш сцяжынкі,
Цёпла пад снегам галлю.

Ёлкі стаяць, як дзяўчыны,
Хоць да аўтара вядзі;
Вэлянам сланы галіны,
Пацеркі — лёд на грудзі.

Вісяць шнуры з дыяментаў,
Вісяць із перлаў на іх…
Хто ж не чакае маментаў
Зімніх із ёлачак тых.

Ўсе яны белай зімою
Лес аздабляюць сабой,

Цешацца гэтай парою,
Што адарыла красой.

Ночкаю зорак вітаюць,
Песенькі з імі пяюць;
Ў вочы сабе заглядаюць,
Ў шчасці і марах жывуць.

Месяц із неба ім свеціць,
Казачкі бае аб сне,
Слухаюць ўсе, нібы дзеці…
Думак няма аб вясне.

*[1936]*

## Прадвесне

На парозе вясна ўжо стаіць,
Зіма мейсца сваё уступае.
Мутнай стужкай вадзіца бяжыць,
Снег і лёд, дзе ні глянь, усё тае.

Плача горка царыца зіма,
Шлях-дарога за горы заходзіць,
На зямлі ёй ўжо мейсца няма,
Яе сонца праменнямі гоніць.

Каралевіч мароз аслабеў,
Ковы-сталь цяпло сонца стапіла.
Дзе, куды ён цяпер адляцеў?
Як апала магучая сіла.

А ці хто спадзяваўся таго,
Што магучы так волат загіне
І сляду не пакіне свайго,
Абсалютная ўлада праміне.

Дзе ж падзеўся той лёд, што каваў
Сіня-бурыя водаў глыбіні?

Дзе ж брыльянт-галалёд, — ўпрыгажаў
Ён у лесе бярозы, яліны?

Дзе ж падзелася бель-абрусы
Параскіданых поляў, далінаў,
Вузкіх сцежак, дарог паясы
І чароўных, ясных пуцявінаў.

А зямля — хоць і чорна ляжыць —
Аднак нейк весялей паглядае,
Вось там люстра вадзіцы блішчыць,
Ручаёк з сумам ўдаль праплывае.

Век свой кончыла злая зіма,
Просіць літасці, слёзы раняе,
Для яе спачуцця тут няма,
І забытая ўсім прападае.

*[1936]*

* * *

Зямлю абкружым шчасця чарам,
Абнімем моцнаю рукой,
Усціснем праўдаю і жарам
Душы гарачай маладой.

А на праменнях ясных сонца
Усе сцяг вольнасці ўзнясуць.
І добра стане тут бясконца
Для тых, што сеюць і гаруць.

*[1936]*

## За Беларусь

Беларусь кахаю моцна,
Бо яна мне маці.
Ўсё, што мела, дык аддала
Для свайго дзіцяці.

Яна вочкі мне раскрыла,
Песенькі пяяла;
Байкі баяла, люляла,
Малой забаўляла.

Яна слала луг зялёны
І кветкі садзіла,
Каб я мела дзе гуляці
І каб не тужыла.

Ператкала васількамі
Залатое жыта,
А зялёна мяжа вузка
Рамашкай спавіта.

Для мяне і рэчкі хвалі
Шумяць пад гарою.
Я заўсёды там гуляю
З серабром-вадою.

Беларусь і лес шумячы
Для мяне садзіла,
Каб я змучана у цені
Яго адпачыла.

На сіні нябёс высокіх
Рассеяла зоры,
Каб свяцілі пуцяводна
У шчасці і горы.

Навявала сон мне ціхі
У цёмныя ночы,
Калі зморaная працай
Закрыю я вочы.

Ранкам будзіць мяне промень
Залатога сонца,
Ён з блакітаў прылятае
У маё ваконца.

І ці ж гэтыя ўсе ласкі
Я магу забыцца?
Ці ж магу я, рук злажыўшы,
Богу не маліцца?

*[1936]*

## Гімн

Палі, вёскі, лясы, гарады —
Краса нашай святой Беларусі;
Сэрц мільёны народ малады
На аўтар ёй складае магучы.

Наш край вольны паслаўся ушыр.
Ад усходу да захаду сонца,
Дзе калісь быў амшар і пустыр,
Грыміць гімн адроджанай старонцы.

Мы арлы маладое сям’і —
Нашы душы агнямі заліты;
Бурай хваляй наперад ідзём,
Рассяваем укруг агняцветы.

Покліч-гром абудзіў ўвесь народ
Пасля чорнага сну векавога.
Сабраліся усе у паход
Сцяг спаткаці жыцця маладога.

Мы не спусцім ў бязмежнасці рук,
Мурам стане на роднай граніцы,
Сакаліны падымем узрок
На парозе гарачай зарніцы.

*[1936]*

# НІНА ТАРАС

*1916–2006*



Ніна Міхайлаўна Тарас (Жданук) нарадзілася 2 (15) траўня 1916 г. у вёсцы Заполле Навагрудскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучылася ў мястэчковай польскай школе, потым у Навагрудскай беларускай гімназіі (1930–1934), пасля — у Віленскай (закончыла ў 1936 г.). Жыла ў Вільні, рыхтавалася да паступлення ва ўніверсітэт, спрычынілася да рэвалюцыйнага руху. У 1937 г., пасля масавых арыштаў удзельнікаў падполля, вярнулася ў родную вёску, у 1938 г., выйшаўшы замуж, пераехала ў Ліду.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР працавала ў лідскай раённай газеце «Уперад». Выбіралася дэпутатам Лідскага гарадскога савета. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны жыла ў бацькі ў вёсцы Заполле. У 1943–1944 гг. — сувязная лідскай спецгрупы партызанскай брыгады імя С. М. Кірава і партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага Баранавіцкай вобласці. Хата Ніны Тарас выкарыстоўвалася для явак партызан, але неўзабаве згарэла разам з усімі рукапісамі, кнігамі і іншымі каштоўнымі матэрыяламі.

У пасляваенны час зноў працавала ў райгазеце «Уперад» (1944–1945), была стыльрэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1945–1946), літработнікам рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» (1951–1953), літкансультантам пры рэдакцыі газеты «Звязда» ў Мінску (1953–1954). У 1957 г. закончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Жыла ў Мінску. Сябра СП СССР з 1940 г. Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны II ступені, ганаровымі граматамі, медалямі.

Памерла 12 снежня 2006 года, пахаваная на могілках Калодзішчы пад Мінскам.

Свой першы верш «Пастушка» Ніна Тарас напісала па-польску, калі вучылася ў трэцім класе. Праз нейкі час перайшла на беларускую мову. Публікавацца пачала ў 1936 г. у віленскай газеце «Наша воля». Аўтар зборнікаў вершаў «На ўсход ідучы...» (1940), «Суніцы» (1946), «Вершы» (1952), «Кветка шчасця» (выбранае, 1958), «Пад белым яварам» (выбранае, 1966), «У тапаліную

замецъ» (вершы і паэма, 1976), «Праметэю прыйду пакланіцца» (1981), «Праз вятры-завеі» (выбранае, 1986). Напісала кніжкі паэзіі для дзяцей «Казкі пра абавязкі» (1955), «Наш бор» (1968). Перакладала з польскай, рускай, украінскай моваў.

**Літаратура**

Барсток М. «І зноў я павандрую праз гады…» // Літаратура і мастацтва. 1976. 14 мая.

Лойка А. «Тут рука дрыжэла ў хваляванні…» // Лойка А. Паэзія і час. Мінск, 1981.

Коўтун В. Паэзія подзвігу // Полымя. 1983. № 1.

Тарас Н. Зірнуўшы на пройдзены шлях // Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск: Беларусь, 1966. С. 333–345.

* * *

І расцвітала па вёсках і сёлах
Лёгкатуманная жоўтая восень.
Чула я песню — была невясёла —
Раз толькі, болей пачуць не прышлося.

Эх жа, вярніся, вярніся з дарогі,
Ночкаю цёмнай з дарогі далёкай!
Ці не шкадуеш няволі вастрогу,
Роднае вёскі… сваёй сінявокай…

Лісце, бы слёзы, з дрэў ападала,
Гэткае жоўтае лісце увечар,
Вецер начамі таптаў іх нямала
З песняй тужліваю і недапетай.

Эх жа, вярніся, вярніся з дарогі,
Ці не шкадуеш сваёй сінявокай…
І абарвалася песня ў прасторы,
Быццам з зламанымі крыллямі сокал.

Плакала неба дажджом каласістым,
Сонныя хмары блудзілі ў прасторы,

Толькі іначай шумячыя лістам
Кідалі вербе свае разгаворы.

Прыйдзе, казалі, зялёнай вясною
Песняй вясёлай, бы звонам, ударыць —
І не адзін ён, прыдуць грамадою,
Чорныя хмары пажарам распаляць.

Ды не сумуй ты, дзяўчына, у горы —
Прыйдзе ён пэўна к сваёй сінявокай…
А там дарогі, палі і разоры
Беглі за лесам далёка, далёка…

*[1936]*

## Ночкаю зоры…

Ночкаю зоры у небе тапіліся,
Ў небе балоцістым, мокрым і гразкім,
А у апаўшым і стоптаным лісці
Восень складала балады і казкі.

Хочаш прыслухацца ветру шалёнаму?
Сёння не тое табе ён навее…
Плакала маці ноччу, стамлёная,
Сястра сухотная не здаравее…

Сціхні! Там, пэўна, ўзаранае поле
Тчэ дываны з аксаміту ў туманах…
Выраем познім у сінім прыволлі
Рвецца гусіны ланцуг схваляваны.

Прыйдзе вясна малалая на нівы,
Сонечнай зеленню май разальецца,
Гай наш заспаны і сіратлівы
Новаю песняй ускалыхнецца.

Толькі там, пэўна, цяпер, як калісьці,
Зоры у небе купаюцца гразкім,

І, пэўна, сумныя ў стоптаным лісці
Восень складае балады і казкі.

*1936*

## Пры кудзелі

Эх, мая доля, доля дзяўчыны,
Цяжка застацца адной…
Помню, любіла… Казаў — не пакіне…
Скулі, забралі вясной…

Слёзы, слёзы… Ныюць грудзі,
Стогне вецер уначы…
Хай жа ўецца тонка кужаль,
Вераценца, гэй, скачы!

Жала я жыта летам у полі,
(Гнулася рваць каласоў),
Блутаўся вецер у сінім прыволлі —
Мілы да нас не прыйшоў…

А я жала, жыта жала,
Сэрца плакала ўначы…
Маці скажа — не напрала,
Вераценца, гэй, скачы!

Жоўтымі лісцямі сеяла восень,
Хмара за хмарай плылі,
Гойдаўся вецер на соннай бярозе,
Часам канаў у галлі.

Можа, вернецца з астрога
Мілы рана ці ўначы,
Пацалую я мілога,
Вераценца, гэй, скачы!

Зноў і зіма прыблукала знекуль,
Пухам заткала прастор,

Свечкай мароз учапіўся за стрэхі
Клеіць на шыбах узор.

Ты не плач у полі, вецер,
Гэтак жаласна ўначы:
Можа, міленькі ўжо едзе —
Верацёнца, гэй, скачы!

*[1936]*

## На Новы год

*Наталлі Арсенневай*

Заігралі, заігралі
Ветры звонам, пералівам,
А сняжынкі танцавалі
Галасіста, аж на дзіва.

Свечка ў хаце дагарае,
Рукі скрэплі ад марозу.
Не бядуй, маці старая,
Сёння сорамна ліць слёзы.

Спатыкаем, знай, Год Новы
Не такі, як быў учора, —
Узаром загон дзірновы,
Ускалышам песняй гора.

Сілы шмат ў руках я маю,
А дастану мо работу,
Узмахнуся — паканаю.
Скажаш: жыць яшчэ ахвота.

За кусок з мякінай хлеба
Ласкі іх прасіць не будзем.
Маці, плачам больш не трэба
надрываць старыя грудзі!

Вось паслухай: пералівам
Ветры долю напявалі,
А сняжынкі, аж на дзіва…
Танцавалі, танцавалі.

*1937*

## На бруку

Хутка дзень заплюшчыў вочы галубыя
І над местам ночка косы разгарнула.
З песняй чэша вецер валасы сівыя,
Вецер вольнакрылы, вецер-валацуга.

Блеск лятарняў вее шоўкаваю стужкай,
Сцеле на каменні чорных ценяў латы.
І людзей нямала сярод шумных вуліц,
Паплылі вясёла ў кіны, у тэатры.

Безработна з дзецем, быццам ліст сарваны.
Жоўтая ў лахмоцці пад сцяной сядзела,
Галаву схіліла ніжэй, як прад панам,
Хіба можа болей есці не хацела?

І ніхто не бачыў, як цішком сканала,
Ды нашто галодным заглядаць у вочы!
Толькі потым вецер скавытаў нямала
Сярод неспакойнай і васенняй ночы.

*1937*

* * *

Хоць, адарваўшыся, песня з грудзей
Можа і сумна чагось зазвініць —
Я ж бы хацела душу распаліць,
Песняй гартоўнаю біць весялей.

Толькі не знаю, чаму за вакном
Плакалі ветры у полі ўсю ноч,
Хтось праз завею паплёўся упроч —
Пэўна ад голаду з дому уцёк.

Эх, за работай, за хлебам у свет,
А сілы шмат у руках маладых!
Ды невясёла праходзяць гады…
Зноў сыпле снегам у вочы мяцель.

Многа, ах, многа без хлеба людзей!
Голад адважна у вочы глядзіць.
І адарваўшыся, песня з грудзей
Часам і сумна чагось зазвініць.

*1937*

## Ой у полі, ой у полі…
*(Урывак)*

Ой у полі, ой у полі
травы зелянелі,
аб цяжкой дзявочай долі
ветры песню пелі.

Ой згіналі, ой згіналі
сосны стан свой тонкі,
асыпаўся жаль слязамі
каласіста, звонка.

Там далёка над магілай
за сялом, за вёскай,

пахілілась сіратліва
ды на крыж бярозка.

Доўга думала Марыся,
галаву схіліла,
горка слёзы паліліся
на пясок, магілу.

Асыпаўся жаль слязамі,
вецер плакаў звонка.
Ой згіналі, ой згіналі
сосны стан свой тонкі.

*1937*

* * *

Лёгка ўздыхнулі ў полі вятры,
Сонца ясней узышло, як учора.
Жаўранак недзе ў хмарах разліў
Звонкае гора.

За баразною ішоў аратай,
Ціха на коніка нукаў;
Можа, й не цяжка, а неяк спіна
Гнулася крукам.

Думаў пра хату, што хлеба няма,
Хоць за стол дзеткі паселі;
Маці на пальцах худых да жніва
Лічыць нядзелі.

Менш сумавалі, здаецца, цяпер
За пустой міскай чацвёра.
Мо грэла сонца ў вокны ясней,
Лепш, як учора.

*1937, Вільня*

* * *

Хоць позна ўжо, і ветрам гнаныя
Далёка хмары адплылі,
Мне сніцца зноў дарога знаная,
Прастор і шэрыя палі.

Іду няраз, бывала, восенню,
Кусты, імшары між дубраў,
А вецер з соннымі бярозамі
Аб нечым ведамым шаптаў.

Яшчэ, яшчэ раз аглянулася,
Хавалась роднае сяло,
І толькі песня ўскалыхнулася
У сэрцы звонкая без слоў.

Пастух у полі за авечкамі
Жалейку новую круціў,
Ды потым седзячы над рэчкаю
Граў сумны восені адплыў.

Цяпер зіма, і можа вечарам,
І мо' да позняе начы
Сумуе маці доўга нечага,
Кудзелю тонка прадучы.

А я… ды мне, казаць ня варта мо'.
Штось вецер спеў і словы рве,
Другі мо' раз калісь прыпомню зноў
Пра гэты збуджаны напеў.

Бо сніцца зноў дарога знаная,
Прастор і шэрыя палі,
Хоць позна ўжо, і ветрам гнаныя
Далёка хмары адплылі.

*Студзень 1937 г., Вільня*

* * *

Шумелі, шумелі бярозы у гаю
удзень і ўначы.
Цябе я пра шчасце сваё запытаю,
дамоў ідучы.

Глянь, сонца заходзіць і цені сплятае
Над рэчкаю ноч.
З-за цёмнага лесу, дзяўчына любая,
к табе я прышоў.

Калышуцца нівы спакойна у полі
і гнецца трава.
Хадзілі дзяўчаты, хадзілі мяжою
калоссе зрываць.

Так часта, бывала, дарогай нязнанай
блуджу паміж ніў,
ды раз замігцела паміж васількамі
вачэй тваіх сінь.

Скажы, ці кахаеш, дзяўчына любая,
Ўжо блізка дамоў.
Шумелі, шумелі бярозы у гаю
ды змоўклі ізноў.

*7 красавіка 1937 г., Вільня*

## Асенні вечар

Выйду на вуліцу — ціха ўдалі
Месяц плыве за ракою…
Толькі на сэрцы штось ные, баліць,
Штось не дае мне спакою.

Вечар праходзіць… Да позніх гадзін
З ветрам праносяцца хмары…

Можа, і ты дзесь далёка, адзін,
Блудзіш цяпер па бульвары?

І шалясціць пад нагамі лісцё
Восені шумным прыбоем…
Думаеш, ад успамінаў уцёк,
А яны — ўслед за табою.

Здасца, пачуеш знаёмы крок,
Слухаеш, зачараваны…
Не, гэта падаюць проста у змрок
Спелыя з дрэва каштаны.

Стукне, пакоціцца… Ціха ізноў,
Зноў ты ідзеш асцярожна…
А можа, недзе пад звон кайданоў
Крочыш да брамы астрожнай?

Мо пачынае цябе катаваць
Дзесь паліцэйская зграя?
Як жа тады мне цябе ратаваць?
Дзе ты — не знаю, не знаю…

Так і не знаю. А сэрца баліць
І не дае спакою…
Месяц спакойна адзін удалі
Ціха плыве за ракою.

То серабро на ваду разалье,
То за хмурынку знікае…
Выскачыць раптам і мчыцца далей,
Мчыцца, бяжыць, адплывае.

*1937*

## У вагоне

Гляджу і гляджу, як шырэюць прасторы,
Направа, налева граніцы няма,
А колы вагона мне песню уторань,
Што шлях мы прайшлі недарма.

Шырокае поле — не панскае поле.
Калгасныя вёскі, палеткі, сады…
На думку ўсплываюць загоны Заполля.
І межы, і хаты, і ты.

Пасля наступіла гарачае лета,
А моладзь у двор не пайшла працаваць,
І зазімавала на панскіх палетках
Пшаніца, згніла сенажаць.

І ты мне, Марыся, тады гаварыла,
Што будзем калгасам яшчэ кіраваць.
І не дачакала… Ля сосен пахілых
Абстругань крыж, касачы і трава.

А сёння, Марыся, душою сагрэтай
Лаўлю я і новы, і прошласці шум
(Мяне ахрысцілі нібыта паэтам,
І я нібы вершы пішу).

І цешуся ціха шырокім прасторам
І тым, што не бачу ні меж, ні граніц.
А толькі цябе не спаткаю ля бору,
Каб шчасце сваё падзяліць.

*1940*

## Дождж

Прачнуўся вецер
І па свеце
Памчаў сарваныя лісты.
Зашалясцелі,
Зашумелі
Галлём лазовыя кусты.

І раптам з хмары
Гром ударыў,
Прагрукатаў па ўсёй зямлі —
І па дарожках
Дождж заплёскаў,
Забулькаталі ручаі.

Па ручаінах,
Каляінах
Лісты сарваныя плылі…
А мы пад хусткай
Мяжою вузкай
Дамоў, абняўшыся, ішлі.

*1940*

## Г. АКУШЧАНКА

*?–?*

Аўтарка паходзіла з беларускага шляхецкага роду Акушкаў. Закончыла Віленскую гімназію ў 1922 г. Магчыма, сястра Вольгі Акушчанкі, таксама выпускніцы гэтай навучальнай установы (1921).

Друкавалася ў часопісе «Маладое жыццё», на старонках якога выступіла таксама з публіцыстычнай нататкай «На парозе жыцця» (1922, № 2).

### Досыць…

Што зажурылася, зоранька ясная,
Што зажурылася йзноў?
Думка галоўку скавала нянасная,
Сэрцайка, можа любоў?

Можа душу крыўда, сум безадходныя,
Моцна скавалі тваю?
Жыццё нямілае, жыццё халоднае
Песню спяяла сваю?

Досыць, галубка мая белакрылая,
Досыць праз слёзы тужыць?
Хочаш ці не, мая дзеўчынка мілая,
Трэба, хоць цяжка, а жыць!

Ведаю, вабіць ўсіх праўда высокая
Роем прыгожых спадзей,
Толькі, дзяўчынка мая сінявокая,
Трудна між гэтых людзей…

Хай не гняце цябе думка няшчасная,
Светлыя слёзы змахні…
Плакаць не варта. Ах, зоранька ясная,
Досыць! Маліся й жыві!

*[1921]*

## МАР’Я ПАРАШКЕВІЧАНКА

*?–?*

Мар’я Парашкевічанка (Парашкевіч) вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі ў першай палове 1920-х гг. Друкавала вершы, прозу («Вяселле і сон»; пад крыпт. М. П.) і публіцыстыку («Чаму мы павінны шанаваць сваю мову і Бацькаўшчыну?») у часопісе «Маладое жыццё», газеце «Вольны сцяг».

Аўтографы некаторых вершаў М. Парашкевічанкі захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук (Ф. 21, адз. зах. 453).

### Малітва

Божа! Праведны, прадвечны,
Ты на ўсіх з нябес глядзіш:
На людзей тых, што з цярпеннем
Зносяць беды ад усіх,
І на родную старонку,
Што пад пылам там ляжыць,
На сыноў, што сваёй працай
Хочуць бруд з зямелькі змыць.
Дай ім, Божа, сілы моцнай
Зямлю-матку ўваскрасіць,
Каб чужыя не смяяліся,
Што яна ў пылу ляжыць.

*[1921]*

### Наша Бацькаўшчына

Калісь Беларусь, наша матка,
Была незалежнай зямлёй,
Цвіла, красавалась, як кветка,
Расла, пацяшалась сабой.
Ўсім добра было на зямліцы…
Жыў кожны сабе ў сваёй хаце,

Араў, ды касіў сваё збожжа,
Да ладу збіраў ўсё багацце,
У вочы ўсё міла глядзела…
Прырода як бы весялілась,
А сэрца ў грудзёх з кожнай хвіляй
Смялей, весялей усё білась.
Але ворагам стала завідна,
Пачалі яе крыўдзіць з бакоў,
Цяжка народу жыць стала…
І плакаць быў кожны гатоў.
Любая бацькаўшчына, наша!
Шмат вынесла здзеку яна,
Але, ўзмацаваўшы карэнне,
Загінуць усё ж не магла.
Выбіўшысь з сілы нарэшце,
Звалілась яна, знемагла,
І доўга ў забыцці ляжала…
Патроху ўставаць пачала,
І верма мы — прыйдзе часіна,
Калі паўстане на ногі мацней,
Паўстане яна як з магілы
І жыць распачне як раней.

*[1922]*

## Сон-няволя

Доўга спіць у паняверцы
Наша родна старана,
Гора мучыць людзей сэрцы,
Стогне, плача найт й зямля.
Гнецца пад ліхой няволяй —
Брат, і бацька, і сваяк,
Рвецца к волі, хоча свету,
Й не дажджэцца жа ніяк.
Плачуць дзеці ў роднай хаце,

Гібнуць, ад свайго бягуць,
Слова роднага і з кнігі
Нельга, недзе ім пачуць.
Бо бацькі іх не свядомы —
Былі з гэтым у той час,
Калі толькі йшчэ аковы —
Не пачнуць спадаці з нас.
Як мы гэтага даб'емся —
Не скаваць нікому нас.
Будзем дружны, выйдзем смела —
На работу ў цяжкі час.

*[1922]*

## В. ПРЫТУЛКОВАЯ

*?–?*

Прыналежнасць псеўданіма не ўстаноўлена. Верш друкаваўся ў газеце «Беларускія ведамасці».

### Голас сіраты з прытулка

Рэдактар, брат наш родны!
Мо ёсць куток свабодны —
Сіроткі пашкадуйце,
Мой вершык надрукуйце!

Цяжка, цяжка сіраціне
Між чужых людзёў.
Горка, горка мне, дзяціне,
Без сваіх бацькоў.

Матка родная памерла,
Татку цар забіў.
Цётка жыццё маё сцёрла,
Брат мяне забыў;

Я хацела б на магілку
Матанькі схадзіць,
Выліць горкую слязіну
Краску арасіць.

Я жадала бы ад таткі
Лісцік атрымаць,
Што прыехаў ён да хаткі
Брата пакараць.

Толькі гэтага не будзе,
Бо няшчасна я.
Хай сіротка не забудзе,
Што нявольная.

Той садочак і дварочак
Зеллем зараслі,
Дзе гуляла, паглядала,
Рожы як цвілі.

Гэтта мушу я бясконца
Вельмі гараваць,
Можа ўбачу калі сонца,
Трэба пачакаць.

*[1921]*

## НАДЗЕЯ МАКСІМЧЫК

*?–?*

Разам з Валянцінай Казлоўскай вучылася спачатку ў Люцынскай, а пазней у Дзвінскай беларускіх гімназіях (апошнюю закончыла ў 1926 г.). У сярэдзіне 1930-х гг. рыхтавалася паступаць на Беларускія 2-гадовыя настаўніцкія курсы ў Рызе.

**Літаратура**


Сахарава В., Сахараў С. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2015. С. 131, 205.

У Радзе Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы // Беларуская школа ў Латвіі. 1933. № 4 (21). С. 329.


## Адна

Дождж ідзе… На сэрцы сумна…
Змучыла нуда…
Па шчацэ паўзе марудна
Горкая сляза!

Што здарылася? Скуль ўзялась
Мора суматы?
Сэрца ціха адазвалась:
«Не прыдзе сюды!»

Ён — ад’ехаў!.. Назаўсёды…
А як дораг быў!
Ці успомне?.. Мо вярнецца!..
Ці зусім забыў?

Дождж ідзе… На сэрцы сумна…
Змучыла нуда…
Па шчацэ паўзе марудна
Горкая сляза!

*Ліпень 1925 г., Люцын*

## ВАЛЯНЦІНА ЭПЛЕ-ПАЛУБЕЙКА

*?–1926*

Закончыла Рыжскія дзяржаўныя беларускія 2-гадовыя настаўніцкія курсы (1925). Па словах Кастуся Езавітава, 27 лютага 1926 г. паэтка скончыла сваё жыццё «ў трагічных абставінах разбітага маладога кахання».

Друкавалася ў газеце «Голас беларуса» (г. Рыга), зборніку «Першы крок».

**Літаратура**

Езавітаў К. Прадмова да кнігі В. Вальтара «Лесьнікова сена» // Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі / укл. і прадм. С. Панізьніка. Мінск: Бел. кнігазбор, 2003. С. 100.

### Да моладзі

Пойдзем, братка, да навукі,
Пойдзем веду здабываць!
Не сядзі злажыўшы рукі —
Збоем трэба долю ўзяць!

Трэба шмат нам ўсім вучыцца,
Каб Айчыне лепш служыць,
З цемнатой, з галотай біцца,
Волю светлую здабыць!

У краі чужыя пойдзем,
Веду там сабе знайдзём,
А калі да веды дойдзем —
Ў родны край перанясём!

*1925, Рыга*

## Я веру

Я — пташка-зязюлька, але у няволі
Павінна свае я дзянькі каратаць!
Эх, каб хутчэй ланцугі мне парваць
І выйсці у светласць з цемры-нядолі!

*

Злавілі мяне, пташку вольну, лясную,
Падрэзалі крылля, ў турму пасадзілі,
Аднак ўсе няшчасці мяне не зламілі, —
Не людзям стрымаць маю думку святую!

*

Няхай яны цела без жалю катуюць,
Трымаюць няхай у магутнай турме —
Ўсё ж думка аб волі не згіне ва мне:
Ў нядолі і ў горы я ўсё ж не сумую!

*

Мне золак багряны ў вакно заглядае,
Нясе ён мне шчасце, нясе ён мне волю…
Я веру, — парвуцца ланцугі нядолі!
Я веру, — настане пара залатая!

*Снежань 1925 г., Рыга*

## АЎГЕНЯ КАРШУНЯНКА

*?–?*

Друкавалася ў часопісе «Родныя гоні».

### Ночы

Дзіўныя ціхія ночы:
Месячык ясна глядзіць,
Зоркамі ўсеяна неба,
Срэбрам іх свет мігаціць.

Дзіўныя красныя ночы,
Будзіце дух мой к жыццю,
К светлым надзеям у марах,
Гора і бед забыццю.

У гэткія ночы хацела б
Нешта святое кахаць,
Гэткімі ночмі люблю я
Ў выш летуценні снаваць.

Мілыя красныя ночы,
Ўцеху вы мне нясіцё —
Гледзячы ў вашу прыгожасць
Радасным бачу жыццё.

*[1927]*

## ВЕРА БЫЛІНКА

*?–?*

Друкавалася ў часопісе «Шлях моладзі».

### На родны палетак!

*(У 1-я ўгодкі «Шляху Моладзі»)*

Мінулі марозныя зімовыя ночкі
І поўныя сонца — смяюцца дзянёчкі,
 З сну зімняга будзіцца свет.

І жаўранкі трэль, што ў небе пяе,
І рэчка, што путы парвала свае,
 Нясуць нам васенні прывет…

І нівы нядоўга ў снежняй пасцелі
Ляжаці так будуць — шпакі прыляцелі,
 Абселі рад родненькіх ліп…

Заззяў ў панадворку пад сонейкам плуг:
Мы хутка да працы — на поле — на рух
 Выходзім з вясковых сяліб.

Вясна, хоць і ране нам сэрца да болі,
Няхай жа прыцішыць ўжо песні няволі.
 Гэй, выйдзем араць, баранаваць!

Успахаці дзірванне нам труду не страх,
Сеялку на шыю — па родных палях
 Жывое зярнё засяваць!

Хоць бура палетак затопіць у цені
І босыя ногі скрываваць каменні —
 Для роднае хаты знясём!

Хай кожны з нас будзе на жніва гатоў:
Як ўзойдзе на ўсходзе зарніца як кроў —
        Мы з песняй у поле пайдзём!

*[1930]*

* * *

Ўсю ночку зімову не спала б, здаецца.
Глянь: месячык міла так ветла смяецца,
Ўсё срэбрам заліта, не сон то, о — не!
Вунь зорачкі-краскі гараць ў вышыне.

Вось гэтакай ночкай жадала б душа,
Дарожка мая каб далёка ішла:
Праз бор, праз палі, там дзе рэчка бяжыць.
Старонка, табой любавацца і жыць…
На вербы, бярозкі, што ў полі растуць.
На родныя вёскі, дзе брацця жывуць.

О край, дарагі мой, нейк сэрца баліць —
Табе прыгажэйшых няма на зямлі,
Чаму ж гэтак цёмна у хатках тваіх,
Чаму у правох ты няроўны людскіх…
Бяленькія хмаркі па небе плывуць,
А думкі бунтарна бягуць, дзесь бягуць…

*[1935]*

## Восень

Моцна сонца цалавала
Дрэўкі, кусцікі язміну,
Ўсё з пяшчотаю ўвабрала
Ў залацістую тканіну.

Прызадумалася восень,
Ткучы павуціначкі,

Па палёх кладзе-разносіць,
Ўплётвае галіначкі.

Ціха ў небе, хмаркі шэры
Тонуць і хаваюцца,
Неба сіняе без меры
Моўчкі усміхаецца.

Ў лесе гожа так, бясконца,
Вакол чырвань — золата,
Ўсё заліта ясным сонцам.
Б’ецца сэрца молатам.

Ах, як лёгка, ціхнуць болі,
Пяяць песні хочацца,
І здаецца, што ўжо болей
Гора не узможацца.

*[1937]*

## СЯСТРА

*?–?*

Прыналежнасць псеўданіма не ўстаноўленая.

### Да працы!

Да працы, брацца, стань, хто жыў,
Айчына кліча нас да жніў,
І жаць нам кажа збожжа-плён,
Жанцоў заве са ўсіх старон.
Дык нам пара да працы ўстаць,
Калосся праўды сабіраць.
І хоць так цяжка ў працы той, —
Няхай жанцоў жне цэлы рой!
У працы не баліць далонь,
Хоць смага смаліць, як агонь,
І хоць грыміць і віхар дзьме,
Не кінем поля працы, — не!
Трымайма ж сцяг, каб дух не ўпаў,
Да працы той сам Бог прызваў.

*[1931]*

## СЯСТРА ТАРЭСА

*?–1932?*

Аўтарка друкавалася ў рэлігійным часопісе «Да Злучэньня!», прысвечаным справам Уніі і выдаваным у 1932–1937 гг. беларускімі айцамі-езуітамі з Усходняй місіі ў Альбертыне пад Слонімам (з 1934 г. у Вільні). Біяграфічныя звесткі не выяўлены. На думку Юрася Пацюпы, паэтка-манашка, верагодна, памерла ў 1932 г., пра што сведчыць пасмяротны верш «Сястрыца Тарэса!» з подпісам «Janka K-k. Lille 19.III.1932 h.», апублікаваны ў часопісе «Хрысьціянская думка» (1932, № 6). Аўтар верша прызнаваўся: «Ў аднэй табе я бачыў шчырасць, / Уцеху цяжкага жыцця. / Я не забуду дабрачыннасць / Твайго святога пачуцця».

**Літаратура**

Пацюпа Ю. Паэткі Заходняй Беларусі // Саламея. 2001. № 12. С. I.

* * *

Чаму гэтак цяжка чалавеку жыць?
Чаму яго сэрца так часта дрыжыць?
Чаму яно плача, ад тугі ўздыхае?
Чаму безупынку чагосьці шукае?..

Здаецца, на свеце шмат чаго цяпер,
Чалавеку служаць гром, вада і звер —
Як у казцы, бачыць цудоўныя з’явы,
Паветра іграе да танца, забавы…

А глянь ў яго сэрца у тую хвіліну,
Калі ён глядзіць на сваю пуціну…
Колькі там пужанняў ад цемры, нямочы…
Які клік тугі, як да сонца ўночы!..

Кінь жа ты дзіцятка без маткі у полі,
Дай яму і цацак, і яды даволі —

Крыху пагуляе, а пасля начне
Клікаць сваю родну з плачам да сябе.

А як прыйдзе ночка, вецер запяе
І туман расою зямлю абліе —
Дзіцятка, як кветка, змёрзлае ляжыць…
Не жыць яму без хаты, без маткі не жыць!

А вось перад Богам старац, малады
Заўсёды — дзяціна, не значаць гады,
Заўсёды яму трэба Божае апекі,
Без яе ён гаруе і гібне навекі!

Адбяжыць ад Бога ў чужую старонку,
Пабяжыць за шчасцем на зямлі ўдагонку —
Зморыцца нябожа, шчасця не найдзе,
Пакуль не пакліча Бога да сябе.

*[1932]*

## Е. РАМАНЕЙКА

*?–?*

У першай палове 1930-х гг. вучылася ва Універсітэце Вітаўта Вялікага ў Коўне, брала актыўны ўдзел у працы Аб’яднання студэнтаў-беларусаў пры гэтай навучальнай установе. Друкавалася ў часопісе «Беларуская школа ў Латвіі».

### Лістападаўскае

Эх, замучыла сёння мяне
Гэта шэрае, нізкае неба!
Я імкнуся к блакітнай вясне,
А на вуліцах просяць ўсё хлеба.

Я не ведаю, хто ты, жабрак!
Я цяпер ўжо нікому не веру —
Мне здаецца, ты пойдзеш ў кабак
Ці чужую зрабуеш кватэру.

Чаго ходзіш са мной, стары сум,
Не даеш распяяцца мне звонка?
Ты ж не брат мне, не сват і не кум,
І табе не сястра я, не жонка!

І чаго так кахаюць мяне
Гэты чорныя думы без меры?
Я імкнуся к блакітнай вясне,
Да людзей жа не маю больш веры!

*[1933], Коўна*

## ЗІНА КЕНЧАНКА

*?–?*

Жыла ў Вілейскім павеце. У другой палове 1930-х гг. была актыўнай падпісчыцай часопісаў «Chryścijanskaja Dumka» і «Шлях моладзі». У апошнім з іх двойчы друкавалася з вершамі. Рэдакцыя часопіса ў рубрыцы «Паштовая скрынка» раіла аўтарцы звярнуць увагу на папраўкі і больш чытаць беларускіх кніжак, «асабліва ж вершаў нашых класікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча».

**Літаратура**

Пацюпа Ю. Паэткі Заходняй Беларусі // Саламея. 2001. № 12. С. І.

### Вясной

Як міла ранняю вясною
Пайсці у лес і пастаяць,
Паслухаць ціхай песні хвояў,
Што аб вякох даўных шумяць.

І ціха шэпчуць, як вялося,
У дні мінуўшчыны глухой,
Як нашым прадзедам жылося
Ў краіне родненькай сваёй.

Шуміць бор, што зноў будзе гэтак,
Шуміць, што вольна будзем жыць,
Шуміць пра крыўду сваіх дзетак,
Пра волю краю ён шуміць.

З бакоў кусты старожай сталі
І шэпчуць-гутараць з вадой,
Бруяць у іх рачныя хвалі,
Нясуць ім вестачкі з сабой.

А там за рэчкай, там ля лугу,
Дзе пачынаецца садок,
Стаіць прыбраны, як да шлюбу,
Дрэў зелянеючых радок.

*[1936]*

* * *

Шляхам простым, гэй, наперад!
Праз нядолю, праз цямру!
З моцнай сілай, цвёрдай верай
Пойдзем смела пад гару!

Хай бушуюць ветры, буры,
Безупынна грыміць гром!
Гэй, наперад, смела ў гору, —
Шчасця праўды там знайдзём!

І ніштo нас не стрымае
Шляхам тым ісці ўгару,
Там, дзе сонца сустракае
Агняцветную зару.

*[1939]*

## ТАЦЯНКА

*?–?*

Друкавалася ў часопісе «Шлях моладзі». Пад рубрыкай «Паштовая скрынка» рэдакцыя звярнулася да яе з наступнымі словамі: «Тацянцы: Верш Ваш, крыху паправіўшы, з прыемнасцю змяшчаем. Бачым у ім задаткі сапраўднага паэтыцкага таленту і даволі выпрацаваную форму. Радзім Вам пісаць як найбольш і звярнуць асаблівую ўвагу на тварэнне паэтыцкіх абразоў, высцерагаючыся абстракцыйнага зместу» («Шлях моладзі», 1937, № 6).

Пісала таксама прозу, задумвала цыкл «Беларускія жанчыны сучаснасці», апавяданне з якога — «Вольчыны думкі» — друкавалася ва ўжо згаданым часопісе (1939, № 8).

## Думы ў полі

Ой, каротка ночанька на святога Яна;
Думала Ганулька, ў полі як стаяла,
Ой, стаяла ў полі, ды на раздарожжы,
Абапёршысь сумна ля старой бярозы:

«Тры дарожкі ў полі, тры жыцця дарожкі,
Куды ж, сірацінка, пушчу свае ножкі? —
Дзве дарожкі гладкі ды зайшліся імглою,
Трэця ў каляінах зарасла травою…

Ой, пайду па першай імглістай сцяжыне,
Там мілы кахае, ніколі не кіне.
На другой сцяжыне панскія палацы
Прыгорнуць, сіротку, буду жыць без працы…

Ой, чаму ж мілейша трэцяя сцяжына,
Што пайшлі ўсе нашы?..» — думае дзяўчына, —
«Там крывавяць ногі, ў твар пяскамі рэжа —
Але там ў далі зоры ззяюць безбярэжна…

Не хачу кахання, ні панскае ласкі,
Ой пайду дарогай, каляінай цяжкай.
Там зара зайграе ў перашуме сосен,
Там зазвоняць песні залатым калоссем».

*[1937]*

## «БЛІСКАВІЦЫ» ЯК СПРОБА СІНХРАНІЧНАГА ПРАЧЫТАННЯ

Ідэя стварэння анталогіі жаночай паэзіі міжваеннага перыяду ўзнікла дзякуючы падрыхтоўцы да Узвышаўскіх чытанняў, якія праводзяцца штогод у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), дзякуючы размовам аб архіўных знаходках і абмеркаванням лёсаў тых аўтараў, чыё літаратурнае жыццё было спынена на самым пачатку. Ужо тады выклікаў здзіўленне і шчырае захапленне літаратурны рух, прага маладых у пераважнай большасці людзей раскрыць свае паэтычныя здольнасці, пакінуць след у беларускім пісьменстве. Імкненне падзяліцца сваімі ведамі і адкрыццямі, а таксама абагульніць раскіданы па розных крыніцах матэрыял штурхала ўкладальнікаў анталогіі, праца над якой заняла некалькі гадоў.

Выданне атрымалася па-свойму ўнікальнае. Упершыню пад адной вокладкай змешчаны творы 61 беларускай паэткі, створаныя ў «міжваенны» перыяд — з 1918 па 1941 г., што дапамагае стварыць панараму літаратурнага жыцця эпохі. Пры ўкладанні анталогіі нам было важна паказаць жаночую паэзію згаданага часу як ува ўсёй яе мастацкай шматстайнасці, так і ва ўсёй мастацкай шматузроўневасці. Менавіта таму ў нашай анталогіі знайшлі месца вершы як дарослыя, так і дзіцячыя, напісаныя як на вечныя тэмы, так і творы-аднадзёнкі, а высокамастацкая, вытанчаная паэзія Наталлі Арсенневай можа суседнічаць з далёкімі ад дасканаласці вершаванымі практыкаваннямі Аўдакеі Бык. Адпаведна, у кнігу ўвайшлі творы і хрэстаматыйныя, і малавядомыя, і нават ніколі не публікаваныя раней. Тут прадстаўлены і паэткі, чыя творчасць даўно ўвайшла ў скарбонку айчыннай літаратуры, і напаўзабытыя, і забытыя зусім літаратаркі, а таксама тыя аўтаркі, чыя прысутнасць у літаратуры мела спарадычны або выпадковы характар і чые творы — скажам адразу — маюць

не эстэтычную, а перадусім гістарычную каштоўнасць і, магчыма, будуць цікавыя гісторыкам, сацыёлагам і даследчыкам гендарнай праблематыкі.

Дагэтуль грунтоўную спробу стварэння анталогіі беларускай жаночай паэзіі зрабіў у 2001 г. Юры Пацюпа на старонках незалежнага выдання «Саламея». У пяці нумарах друкаваліся вершы паэтак рознага часу: «Беларускія паэткі XIX стагоддзя і нашаніўскае пары» (№ 10), «Першыя паэткі Савецкае Беларусі» (№ 11), «Паэткі Заходняе Беларусі» (№ 12), «Мужчыны» (творы паэтаў-мужчынаў, якія пісалі ад жаночага імя; № 13), «Ластаўкі новае вясны» (творы паэтак 1950–1980-х гг.; № 14). Цыкл публікацый, прысвечаных паэткам 1920-х гг. (Н. Вішнеўская, Г. Брэская, Н. Маркава), зрабіў у газеце «Голас Радзімы» (1999–2000) Леанід Маракоў. Укладальнікі гэтай анталогіі апублікавалі ў інтэрнэт-часопісе «Прайдзісвет», № 16 падборку твораў шасці паэтак міжваеннага перыяду разам з артыкулам Аксаны Данільчык «Беларуская жаночая паэзія міжваеннага перыяду і фармаванне “новай” жанчыны».

Колькасць прадстаўленых у нашай анталогіі паэтак можа здзівіць чытача — гэтаксама, як і якасць некаторых твораў. Але насамрэч лік у 61 аўтарку выглядае невялікім, калі ўлічыць, што мы пастараліся максімальна ўключыць у анталогію творы амаль усіх паэтак-жанчын, якіх удалося выявіць у тагачасным друку, дакладней — у выданнях, што былі ў нашым распараджэнні[1]. Нягледзячы на ўсё багацце перыядычных выданняў, у многіх з іх сустра-

---

[1] У анталогію не ўвайшлі, напрыклад, творы Марыі Барсток, Алены Нячай (Вольскай) і Вікторыі Доўгай, бо ўкладальнікі не мелі доступу да адпаведных нумароў выданняў з іх паэтычнымі публікацыямі таго часу. Не ўключаны і творы аўтарак, якія на момант публікацый былі яшчэ ў дзіцячым узросце, хоць асобныя з іх — такія, як, скажам, Ларыса Кароткая (нар. 1919), працягнулі пазней літаратурную працу і нават час ад часу выступалі з вершамі. З аўтарак «масавай паэзіі» таксама ўвайшлі не ўсе, а найбольш тыповыя прадстаўніцы гэтай плыні. Натуральна, што пры далей-

каюцца ўсяго 1–2 аўтары з жаночымі імёнамі (незалежна ад якасці твораў) альбо не сустракаюцца зусім. І нават з сабранай намі 61-й стала займаўся літаратурнай працай цягам усяго жыцця толькі невялікі адсотак.

Яскравая рэпрэзентатыўная карціна вымалёўваецца на аснове дакументаў літаратурнага згуртавання «Маладняк» (БДАМЛМ, ф. 225, воп. 1), у якіх адбіўся колькасны склад арганізацыі за розныя гады. У 1925–1926 гг. — у перыяд, калі «Маладняк» дасягнуў асаблівай «масавасці» (каля 500 чалавек — сяброў, кандыдатаў, студыйцаў і гурткоўцаў), у ім налічвалася 36 жанчын — дакладней, маладых дзяўчат 1901–1910 гадоў нараджэння. Пакінулі што-кольвек з паэтычнай спадчыны (незалежна ад мастацкай якасці) і, адпаведна, сталі аўтаркамі нашай анталогіі толькі 12 з іх. І, урэшце, толькі дзве з іх — Зінаіда Бандарына і Яўгенія Пфляўмбаўм — працягнулі звяртацца да паэзіі і пасля «маладняцкага» перыяду, і тое пасля доўгіх творчых «паўзаў». У іншых жа выпадках творчая актыўнасць «маладняцкім» перыядам і абмежавалася. Падобная статыстыка характэрная і для маладнякоўцаў-мужчын — з той толькі розніцай, што іх было прыкладна ў 11 разоў болей. З розных прычын не працягнулі творчую дзейнасць і многія ўдзельнікі заходнебеларускіх («веснаходаўцы») і латгальскіх («першакрокаўцы») літаратурных аб'яднанняў.

Такім чынам, для многіх з прадстаўленых тут аўтарак паэзія не стала асноўным заняткам — яны знайшлі сябе ў іншых галінах дзейнасці, якая магла быць звязана з мастацкай літаратурай, а магла і не быць. Так, напрыклад, Ядвіга Бяганская і Ганна Сапрыка набылі вядомасць ужо як празаікі. Мастацтвазнаўцам і педагогам стала Арына Глінская, таксама час ад часу выступаючы з празаічнымі творамі на рускай мове. Паўліна Мядзёлка, Ганна Ду-

---

шым даследаванні можа выявіцца і яшчэ шэраг аўтарак-жанчын перыяду 1918–1941 гг.

шэўская і Надзея Мікалаева-Комісар прысвяцілі жыццё тэатру і музыцы, Ганна Базыленка — мовазнаўству, Наля Маркава — педагагічнай дзейнасці, Наталля Вішнеўская — бібліятэчнай справе, Марыя Голуб-Бучынская і Валянціна Казлоўская — медыцыне. Некаторыя літаратаркі памерлі ў маладым узросце (Галена Іванова, Валянціна Эпле-Палубейка, Іда Чырвань і згаданая Марыя Голуб-Бучынская) або сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій (Яніна Германовіч, Валянціна Казлоўская). Лёс многіх аўтарак высветліць не ўдалося, аднак відавочна, што яны сышлі з літаратуры гэтак жа хутка, як і ўвайшлі ў яе: іх творчы набытак вымяраецца ўсяго 1–5 публікацыямі.

Асобна трэба сказаць і пра так званую масавую паэзію, прадстаўнікі якой і не ставілі для сябе мэту стала займацца літаратурнай дзейнасцю. Праз вершаваныя радкі свой голас у друку падавалі і дзяўчаты-сіроты з прытулкаў (В. Прытулковая), і манашкі або сёстры міласэрнасці (Сястра Тарэса), і сялянкі-калгасніцы (К. Драбышэўская), і працаўніцы фабрык і заводаў[1] (Работніца Клімава, Антаніна Шунэйка, Зоя Фярко). Псеўданімы некаторых з іх сведчаць пра імкненне аўтарак найперш падкрэсліць сваё паходжанне ці прафесійна-сацыяльны статус. У выпадку Валянціны Жураўлёвай і Сашы Янковай паэзія мела чыста публіцыстычны характар і з’яўлялася дадаткам да іх журналісцкай і агітатарскай дзейнасці. Зрэшты, мяжа паміж «прафесійнымі» і «непрафесійнымі» літаратаркамі даволі размытая. З аднаго боку, статус сябра «Маладняка» азначаў пэўную далучанасць да прафесіяналаў, з іншага — вершы асобных «маладняковак» паводле свайго мастацкага ўзроўню саступаюць некаторым «непрафесіяналкам».

---

[1] Асабліва на пачатку 1930-х гг. на хвалі абвешчанага тады «закліку ўдарнікаў у літаратуру», які праводзіўся на прадпрыемствах БССР Беларускай Асацыяцыяй Пралетарскіх Пісьменнікаў разам з ЦСПСБ.

Анталогія складаецца з раздзелаў «Паэткі Усходняй Беларусі і Расіі» і «Паэткі Заходняй Беларусі і Латгаліі». Такі падзел абумоўлены тагачаснай геапалітычнай сітуацыяй, якая, безумоўна, уплывала і на сітуацыю культурную, у тым ліку на эстэтычна-светапоглядныя арыенціры аўтарак. Гэты сацыяльна-культуралагічны аспект даволі грунтоўна акрэслены ў прадмове да выдання.

Паэтычныя падборкі змешчаны ў парадку датаў нараджэння аўтарак — ад найстарэйшых да наймаладзейшых. Творы паэтак, гады нараджэння якіх высветліць не ўдалося, змешчаны ў канцы кожнага з раздзелаў у парадку з'яўлення ў друку прадстаўленых публікацый. Творы ў межах падборак змешчаны ў храналагічным парадку паводле аўтарскага пазначэння даты. Пры адсутнасці аўтарскага датавання дата прастаўлена паводле першай публікацыі (альбо паводле задакументаваных ускосных сведчанняў) — у гэтым выпадку яна даецца ў квадратных дужках, якія азначаюць, што твор напісаны не пазней за ўказаны тэрмін.

Пры падрыхтоўцы анталогіі ўлічаны асобныя выданні некаторых паэтак, якія выходзілі цягам апошніх дзесяцігоддзяў, у тым ліку навукова адкаментаваныя (Н. Арсеннева, Г. Брэскай, К. Буйло, З. Верас, Л. Геніюш, В. Казлоўскай, В. Сахаравай). Аднак большасць аўтарак ні пры жыцці, ні пасля смерці ўласных кніг не прычакала: друкаваліся яны пераважна ў газетах і часопісах, і часта — на працягу даволі кароткага перыяду жыцця. Таму асноўнымі тэксталагічнымі крыніцамі анталогіі сталі перыядычныя выданні 1918–1941 гг. Яшчэ адной важнай крыніцай для публікацый тэкстаў некаторых аўтарак (К. Буйло, А. Бык, Я. Бяганская, З. Верас, В. Мурашка, П. Мядзёлка, Г. Новік, Хмарка, Я. Пфляўмбаўм) сталі фонды Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Крыніцы тэкстаў пазначаны ў каментарах, які даецца напрыканцы выдання.

Тэксты публікуюцца паводле правілаў сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі, але з захаваннем фанетычных асаблівасцяў і абласных дыялектных формаў там, дзе яны маюць сэнсавае ці стылістычнае значэнне або ўплываюць на рытм і рыфму вершаванага твора.

Падборцы кожнай аўтаркі папярэднічае біяграфічная інфармацыя з кароткім спісам літаратуры і/або архіўных крыніц. Звесткі пра найбольш вядомых паэтак запазычаны ў тым ліку і з энцыклапедычных артыкулаў. Аднак пра многіх аўтарак артыкулы ў наяўных на сённяшні дзень беларускіх энцыклапедыях і даведніках адсутнічаюць: імёны і творчасць некаторых паэтак былі вернутыя чытачу літаральна цягам двух апошніх дзесяцігоддзяў, а некаторыя біяграфічныя даведкі і ўвогуле напісаны ўкладальнікамі адмыслова для гэтага выдання. Інфармацыя пра некаторых аўтарак (А. Бык, А. Глінская, Э. Зялёнка, А. Мялешкіна, А. Новік, І. Чырвань) узята, напрыклад, з фонду «Маладняка» ў БДАМЛМ.

Пра цэлы шэраг паэтак біяграфічныя звесткі адшукаць пакуль не ўдалося, альбо яны мінімальныя. Цяжкасці пошукаў абумоўлены зменай прозвішча на мужава, хаваннем за псеўданім (Зося Палын, Зося Думка, В. Прытулковая, Вера Былінка, Сястра, Тацянка і г. д.) ці ўвогуле эпізадычным характарам выступу ў літаратуры. Асабліва шмат загадак ствараюць аўтары, якія хаваюцца за шматлікімі крыптанімамі, а таксама псеўданімамі, па якіх цяжка вызначыць гендарную прыналежнасць аўтара. Так, напрыклад, у заходнебеларускіх выданнях 1927–1929 гг. друкаваўся відавочна здольны паэт, які падпісваўся як *Алеся Ц.* Аднак усе вершы, пазначаныя гэтым псеўданімам, напісаныя ад мужчынскага імя, прычым у некаторых выпадках подпіс аўтара мае варыянт *Алесь Ц.*, што сведчыць на карысць прыналежнасці псеўдаціма аўтару-мужчыну, аднак канчатковае слова ў гэтым даследаванні яшчэ наперадзе.

Будзем таксама спадзявацца, што іншыя, пакуль неразгаданыя ўкладальнікамі, загадкі, звязаныя з жыццёвым шляхам і творчасцю некаторых аўтарак, з цягам часу будуць разгаданыя і стануць вядомымі шаноўнаму грамадству.

Хочацца таксама верыць, што наша анталогія паспрыяе з’яўленню новых даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры, дапаможа паглядзець на яе іншымі вачыма, а чытачы атрымаюць задавальненне і карысць ад знаёмства з анталогіяй. У такім разе можна будзе лічыць, што першасная задача ўкладальнікаў выканана, бо пошук і асэнсаванне працягваюцца.

*Віктар Жыбуль,*
*кандыдат філалагічных навук*

# КАМЕНТАРЫ

## Паэткі Усходняй Беларусі і Расіі

### *Канстанцыя Буйло*

*Не кукуй, зязюля! (с. 48)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. …Коціцца рэха: Вершы, паэма, лісты / укл. і прадм. Дз. Чаркасавай. Мінск: Маст. літ., 1993.

Упершыню: Буйло К. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск: Маст. літ, 1981. Т. 1.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (Ф. 263, воп. 1, адз. зах. 36, арк. 15) захоўваецца машынапіс верша з варыянтам загалоўка «Звярніся!».

*«Сэрца, сэрца — ты можа заснула?..» (с. 48)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. …Коціцца рэха, дзе апублікавана ўпершыню.

У БДАМЛМ (Ф. 263, воп. 1, адз. зах. 36, арк. 19) захоўваецца машынапіс верша.

*Адчай (с. 49)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. …Коціцца рэха, дзе апублікавана ўпершыню.

У БДАМЛМ (Ф. 263, воп. 1, адз. зах. 36, арк. 16, 18) захоўваюцца машынапісныя варыянты верша з загалоўкам «А можа жывы?» («Так было…»).

*Мяцеліца (с. 50)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. …Коціцца рэха.

Упершыню: Буйло К. Выбраныя творы. Т. 1.

У БДАМЛМ (Ф. 263, воп. 1, адз. зах. 36, арк. 17) захоўваецца машынапіс верша з варыянтамі загалоўка «Дома!», «На чужыне».

*Ці то прыснілася мне? (с. 50)*

Друкуецца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым фондзе К. Буйло (БДАМЛМ, ф. 263, воп. 1, адз. зах. 36, арк. 20).

*«Таму мне сумна жыць на свеце...» (с. 51)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. ...Коціцца рэха.
Упершыню: Буйло К. Выбраныя творы. Т. 1.

*Вербы (с. 52)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. ...Коціцца рэха, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Восень (с. 52)*

Друкуецца паводле выд.: Буйло К. ...Коціцца рэха.
Упершыню: Буйло К. Выбраныя творы. Т. 1.

## *Антаніна Шунэйка*

*Вясна на заводзе (с. 53)*

Друкуецца паводле час. «Работніца і калгасніца Беларусі», 1934, № 7, дзе апублікаваны ўпершыню.

## *Хмарка*

*Зоркі (с. 56)*

Друкуецца паводле час. «Вольны сцяг», 1921, № 2, 15 ліп., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Н. П.*

*Каб магла (с. 57)*

Друкуецца паводле час. «Вольны сцяг», 1921, № 2, 15 ліп., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Н. П.*

*Восень (с. 57)*

Друкуецца паводле час. «Зоркі», 1921, № 5, 1 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Н. П.*

*Старая хатка (с. 58)*

Друкуецца паводле час. «Зоркі», 1921, № 5, 1 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Н. П.*

*Зімовы лес (с. 60)*

Друкуецца паводле час. «Зоркі», 1921, № 6, 25 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Н. П.*

*На могілках (с. 61)*

Друкуецца паводле час. «Вольны сцяг», 1921, № 6, 25 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Хмарка.*

*Ты ўзбудзіў (с. 61)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1923, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Хмарка*. Машынапісны арыгінал захоўваецца ў БДАМЛМ (Ф. 407, воп. 1, адз. зах. 307, арк. 1). Як сведчыла Алеся Бабарэка, верш прысвечаны Уладзіміру Дубоўку (1900–1976) — паэту, перакладчыку, празаіку, крытыку, мовазнаўцу.

*«Калі пад нядоляй, пад гора цяжарам…» (с. 62)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1924, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Хмарка*.

*Каб я мела… (с. 63)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1924, № 3, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Хмарка*.

*Сакавіку (с. 64)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1925, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Хмарка*.

Крытык і літаратуразнаўца Антон Адамовіч быў схільны бачыць у гэтым вершы прыхаванае прысвячэнне Дню Волі 25 сакавіка — дню абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі: «Маладая паэтэса Хмарка… да таго “асмялела”, што, прыкрыўшыся лёгкім вэлюмам алегорыі, пачала ўсхваляць і вітаць “усевызваляючы” месяц сакавік» (Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 853). На думку А. Адамовіча, менавіта гэты верш стаў прычынай таго, што паэтка неўзабаве была вымушана спыніць літаратурную дзейнасць.

## ***Ганна Брэская***

*Сава (с. 67)*

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная Полаччына», 1926, 1 мая, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Зімовае (с. 67)*

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная Полаччына», 1926, 23 сак., дзе апублікаваны ўпершыню.

*З каўказскіх напеваў (с. 68)*

Друкуецца паводле выд.: Наддзвінне: Літ.-маст. альманах Полацкай філіі Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Полацк, 1926, дзе апублікаваны ўпершыню.

*«Не — восень на мяне не веяла журбой...» (с. 69)*

Друкуецца паводле выд.: Росквіт: Літ.-маст. альманах Полацкай філіі Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Полацк, 1927, дзе апублікаваны ўпершыню.

*«Зялёны свет...» (с. 70)*

Упершыню: газ. «Чырвоная Полаччына», 1927, 16 крас.

Друкуецца паводле выд.: Росквіт...

*Над вазёрамі (с. 70)*

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1927, № 6, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Настурцыі (с. 71)*

Друкуецца паводле выд.: Росквіт..., дзе апублікаваны ўпершыню.

*«Шчасце горн...» (с. 72)*

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная Полаччына», 1927, 14 вер., дзе апублікаваны ўпершыню.

*Броўка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч; 1905–1980) — паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1962). У 1926–1928 гг. — сябра Полацкай філіі «Маладняка»; працаваў адказным сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына».

*Чырвоны мак (с. 73)*

Друкуецца паводле выд.: Зарніцы: Трэці літ.-маст. альманах Полацкай філіі Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Полацк, 1928, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Ліпнёвае (с. 73)*

Друкуецца паводле выд.: Зарніцы..., дзе апублікаваны ўпершыню.

*Хочацца жыць (с. 74)*

Друкуецца паводле час. «Беларуская работніца і сялянка», 1931, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

## ***Аўдакея Бык***

*Лютаўская рэвалюцыя (с. 76)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛІМ (Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 33–33 адв.).

*Прывітанне (с. 77)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛІМ (Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 34–35).

*Першае Мая (с. 78)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛІМ (Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 35 адв. — 36 адв.).

*Верш, ахвяраваны Янку Купалу ў дзень юбілею дваццацёх-гадовай яго працы (с. 80)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛІМ (Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 37–37 адв.).

## ***Акіліна Мялешкіна***

*Думкі (с. 82)*

Друкуецца паводле выд.: Пачатак: Зборнік Віцебскай філіі «Маладняка». Віцебск: Зара Захаду, 1926, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Вясна (с. 83)*

Друкуецца паводле выд.: Ранне: Альманах Магілёўскае акруговае філіі Беларускае асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП'а). Магілёў: Выд. акруговае філіі БелАПП'а, 1929.

Упершыню — Пачатак…

Першая рэдакцыя мае пэўныя адрозненні:

*ВЯСНА*

*Выплывае вясна на паветраных вёслах,*
*І душа не баліць ні аб чым.*
*Вецер вясновы чароўны боль мне расплёскаў*
*На полі раскудлачаных ніў.*

*Сёння даль мне і тая здавалася іншай —*
*Нібы з сонца звіты вянок,*
*Нібы з шоўку паветра хто бісерам вышыў,*
*Нібы тчэ хто эфірны чаўнок…*
*Палі разадзеліся коўдраю пышнаю…*
*У грудзёх ані капелькі болю.*
*Песні траў, смех калоссяў, абшараў імшыстых*
*Разліваюцца болей і болей.*
*Сэрца бадзёрыць юнацкі мой май*
*І вабіць п’яняючай ласкай.*
*Колькі не смейся, о, поле! выбачай —*
*Больш горад заве сваёй казкай.*

## *Наля Маркава*

*«Сінь васільковая…» (с. 86)*

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 10, дзе апублікаваны ўпершыню.

*«Сіні зялёнай вясны…» (с. 88)*

Друкуецца паводле час. «Чырвоны Сейбіт», 1926, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Ціха… (с. 89)*

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1927, № 1, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Адна (с. 91)*

Друкуецца паводле выд.: Дняпроўскія ўсплёскі: Літ. зб. Магілёўскай філіі «Маладняк». Магілёў: Беларусь, 1927, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Аб кучаравай Беларусі (с. 92)*

Друкуецца паводле выд.: Ранне…
Упершыню — газ. «Магілёўскі селянін», 1927, 5 мая.

*Усё новыя, новыя дні… (с. 93)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1927, № 8, дзе апублікаваны ўпершыню.

